# ЗМЕСТ Крыніца

Я

Іпацій ПАЦЕЙ 2

У НАС

Кастусь ТАРАСАЎ. 20
АПОШНЯЕ КАХАННЕ КНЯЗЯ МІНДОЎГА

ЁН

Уільям Батлер ЕЙТС 63

НАШ

Адам СТАНКЕВІЧ 86

ЯНЫ

Дзіна БУЦЦАЦІ. 97
АПАВЯДАННІ

# Я | Іпацій ПАЦЕЙ



*Не спадзяваліся мы,*
*што справа*
*згоды і міласці хрысціянскай,*
*якая нядаўна зусім паміж*
*Рымскай Царквою*
*І Грэцкай Царквою ў нашым*
*спадарстве злагодзілася,*
*займее*
*ужо неўзабаве патрэбу*
*у абароне ды ў апраўданні. .*

**СПРАВЕДЛИВОЕ ОПИСАНИЕ ПОСТУПКУ И СПРАВЫ СЫНОДОВОЕ, И ОБОРОНА ЗГОДЫ И ЕДНОСТИ СЪВЕРШЕННОЕ, КОТОРАЯ СЕ СТАЛА НА СЫНОДЕ БЕРЕСТЕЙСКОМ, В РОКУ 1596, НАПРОТИВ ЯВНОГО ФАЛЬШУ И ПОТВАРЫ СЫНОДУ ЯКОГОСЬ ЗМЫШЛЕНОГО А РАДШЕЙ, СЪБОРИЩА ПОКУТНОГО ГЕРЕТЫЧЕСКОГО В ДОМУ ПРЫВАТЪНОМ ГЕРЕТЫЧЕСКОМ ОТПРАВОВАНОГО. ЧЕРЕЗ ОДНОГО ЗЪ ПРЕЛОЖОНЫХ ДУХОВНЫХ ЦЕРКВИ РУСКОЕ**

*НА СВЕЦЕ ТАК ВОДЗІЦЦА*

АПАЛАГЕТ ЦАРКОЎНАГА АДЗІНСТВА
ПАЭТЫКА ІПАТА ПАЦЕЯ





## СПРАВЕДЛИВОЕ ОПИСАНИЕ ПОСТУПКУ И СПРАВЫ СЫНОДОВОЕ, И ОБОРОНА ЗГОДЫ И ЕДНОСТИ СЪВЕРШЕННОЕ, КОТОРАЯ СЕ СТАЛА НА СЫНОДЕ БЕРЕСТЕЙСКОМ, В РОКУ 1596, НАПРОТИВ ЯВНОГО ФАЛЬШУ И ПОТВАРЫ СЫНОДУ ЯКОГОСЬ ЗМЫШЛЕНОГО А РАДШЕЙ, СЪБОРИЩА ПОКУТНОГО ГЕРЕТЫЧЕСКОГО В ДОМУ ПРЫВАТЪНОМ ГЕРЕТЫЧЕСКОМ ОТПРАВОВАНОГО. ЧЕРЕЗ ОДНОГО ЗЪ ПРЕЛОЖОНЫХ ДУХОВНЫХ ЦЕРКВИ РУСКОЕ*

*Урывак*

Ведаем теж добре, яко некоторые незбожные вестоношъкове, особы легъкие будучи, з Берестья новины якиесь дивные розъсевали, и карътелюши полные неправды по местах и местечъках межи людей хрестиянъских на огиду тое единости скидали, змысливши явъные потвары на их милости панов сенаторов, послов его королевъскои милости, якобы приводечи сторону противную до тое единости, первей обетницами, упоминьками, а потом кгды их тым не могли уловити, ино лаяньем, фуканьем и збияньем грозечи.

А митрополит, якобы в росьпач упавши з владыкою полоцъким, сыноду своего

* Друкуецца паводле арыгінала, які захоўваецца ў бібліятэцы Расійскай Акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу (Шыфр: *1021 сп.*). На адвароце тытульнага аркуша былі, напэўна, біблійныя афарызмы. На жаль, у вядомым паасобніку іх няма. Не выключана таксама, што твор уключаў прысвячэнне або зварот аўтара да чытача (на гэта ўказвае характар першага калонтытула), які, зноў жа, не захаваўся ў арыгінале. У старажытным выданні не было скразной пагінацыі; унізе старонкі пазначаліся толькі нумары сшыткаў. Таму ў гэтай публікацыі на падставе фотакопіі з вядомага экземпляра ўпершыню ўводзіцца паркушная нумарацыя. У квадратных дужках пазначаецца нумар аркуша.

## АПАЛАГЕТ ЦАРКОЎНАГА АДЗІНСТВА

**Імпазантны шляхціц, валявы, мэтанакіраваны, рашучы, працавіты і вельмі набожны чалавек, дбайны пастыр – вось далёка не поўныя характарыстыкі класіка Уніі, які сваёю апантанаю працаю змагаўся за ўкараненне ідэі злучнасці Цэркваў у свядомасці вернікаў, арганізоўваў і забяспечваў жыццядзейнасць Уніяцкай Царквы ў яе пачатковы перыяд.**

**Нарадзіўся Іпацій 12 красавіка 1544 г. у праваслаўнай сям'і на поўначы Берасцейшчыны – у маёнтку Каралёва Камянецкага павета. Быў хрышчаны ў праваслаўнай царкве пад імем Адама. (Імя Іпацій атрымаў пазней пры манаскім пострыгу.)**

**Прозвішча Пацей паходзіць ад імя яго дзеда. Бацька Адама, Леў, быў прыдворным каралевы Боны і пісарам літоўскім. Маці – Ганна Слушчанка – дачка берасцейскага войскага, намесніка кашталяна Андрэя Лозкі.**

**Пасля смерці бацькі ў 1550 г. маці ўзяла шлюб з смаленскім кашталянам Д. Пацам. Малалетні Адам быў уладкаваны пажам пры каралеўскім двары.**

**Апекуном Іпація пазней стаў князь Мікалай Радзівіл Чорны, пры двары якога юнак скончыў кальвінскую школу, а затым працаваў сакратаром.**

отбегы и до [39 адв.] противное стороны пойти мел, которых якобы владыка володымеръский аж угонити и погамовати мел, и много иньших плеток, которые и ушъю людъских благочестивых негодны

Толко на одну баламутъню, которую поведають, здало ми ся отповедеть Не их потвары явнои справуючися, але людей хрестиянъских з мниманья вывести, абы правду истинную ведаючы, кламству не верили. Дають снать прычину для чого до церъкви соборное не збиралися, якобы владыка володимерский мел уберы и охеньдозъства ольтаровые вси на папеский строй отменити; антимис с престола скинути и камень на престоле положити, а потом езуитов напущати до церкви, одному езуите службу Божию допустити служить. Которыи кгды служил, заразом Бог чудо показал, же в келиху вино у воду претворилося, и якобы езуита злякъши [40]ся отскочил от престола, а потом и вси якобы се полекати и потрывожити мели. А правда знаете, вже тепер же есте не на местьцу власном, пристойном соборовали. О тож ради бы есте тот явный блуд свой, же есте в дому геретическом советовали, чым кольвек покрыли а иж правды не стало, фальшом наробляють.

Але же бых чительника не бавил дольжей, слухай повельти о тых чудах, и хто был который службу Божью служил

Такъ маеш ведати межы инъшыми добродействы своими, которые показовал владыкам в Риме папеж на вечную паметку хути своее против народови рускому умыслил в тых краех панъства его королевское милости, коштом своим колеим, альбо семинариум, и колькодесять особ фунъдовати, в котором бы младенъцове руские училися языка словеньского и гре[40 адв.]ческого, а звлаща у Писме Светом, около порадку и справ церьковных, которых абы потом на стан духовный годные и учоные люди въступовати могли

А такъ для заложенья того семинарыум, а потом и для справованья енем за прозбою тых же владыков послал туть взявьши з греческого семинарыум, што ест в Рыме, презвитера одного греческого, неякого Петра Аркудына, который ест урожоным греком с Каньдыи, всим греком такъ у Венецыи, яко и в Цыпре добре знаемый. Который в Рыме будучи пры том семинарыум Церъкви Греческое светого Офанасия, через колконадцать лет службу Божию по греческу, то ест Литоргию светую уставичъне служивал, што всим, которые тамъ бывали добре ведомо ест. Тотъ же то грек презвитер, яко вже не раз в тых краях службу Божью приехавъши служивал. Ко[41]ли мел Литургию светую, на початку закладаючи агнеца и оправоючи просьфуръмедию, коли наливал в келих товариш его, што ему послуговал, омылившисе и некоштовавши подает ему коновку сребръную, которых было две однаких, и довнимаючи вино подал з водою. Сей теж не смотречи што было, налил в келих первей воды достаток, а потом творечи вода, взял другую коновочьку з вином и въпустил еи на место воды ледве за тры кропочки, яко посполите бываеть у бацьных свещенников: немъного наливають воды, абы вино не стратило смаку. А звлаща и повторе еще укропъцу наливати потреба, и также отправивши проскур и един порадъком своим службу Божью отправовал. И коли пришло до причащенья, принесеть до уст, скошътуеть, аж ти щирая вода. Такъ иж ани паху, ани смаку винного не было, бо не мело то [41 адв ]го быти· килька кропок, а воды по два кроть наливано – и пры просьфуръмеди и коли укропец вливал Заразом обачивши то, же ся помылою стало и ку тому не была бы то совершенная жертва водою голою без вина служити, казал собе подати оную коновочьку з вином. И показалася помылка, бо коновочъка польненька еще была вина, якож сперву наготована. И заразом другий келих взявши, налилтамъ вина, и посветивши словами Христовыми, которые надъ келихом мовятся, влил оное у першую воду, и служъбу своим порадьком отправовал. И такъже тот чуд доконьчилъся, же вода водою была, а коли вина в нее влито, тепер же вином сталося.

А што поведають, якобы мел быти аньтимис скинен, то щирая неправда и потвар на владыку володимеръского. Толко то правда, же ольтар был покрытый но [42]вым покровом, которое папеж даровал церъкви Володымеръское, и з убером арьхиепископьским, *саком* названым на [альтамъбасе бурънатном], на што и лист свой дал, абы на паметьку того, же в Рыме были тые два владыкове – володымеръский и луцький. Такъже и наследъники их одь того часу вже не у фелонеях, але в саках служили. Бо если патрыярсе вольно было на Москъве патрыярьху постановить, што неслыхана, а што ж сему не мело быти волно не вряд, але убер епископьский на арьхиепископьский пременити.

Смотры ж туть, брате милый, того их чуда, если то ест што чудом назвати, же вода у воду пременилася, альбо по старому водою зостала, яко была налита А за мало розмаитых прыпадъков трафляеться в Церкъви, яко се раз было трафило, же поп у переносу ступаючы, через [42 адв.]людей повалилься з дары, и все пролил

Але пытаю, где бы се таковый прыпадок, яко тому грекови трафился попови рускому, который бы не ведал, яко в таковых прыпадках поступовати, бо о том науки в требъниках не знайдеш, што бы то чинил Певне бы тамъ было чудо большае, бо вместо Крови Панское, которая з вина претваряеться, напил бы ся воды голое. А за мало трафляетъся, же часом келих переверънет з необачки, часом оцету въместо вина нальет, або елею, яко се одному великому и зацъному карьдыналови, чоловеку светому притрафило ижь вместо вина клерик налил оливы, што для какганъцов ховано. Альбо робак якій плюгавый, албо паук ядовитый влезет у келих, албо мыш агнец украдеть з дыскоса.

А если же еще прежесвещеньныи, коли не годитъся просфурмидии отправовати. А борьзей то у нас мо [43] жеть се трафить, анижли у них. Бо у них перед очима спочатку аж до коньца, а у нас стоит часом добрую филю на жерътовьнику, што бы тут чинил в таковых прыпадьках поп руский, который того не ведаеть. О тож, коли того не ведаете, вестоношове, яко таковым припадком забегати, не называй же того чудом, што се помылою стало – воды было налито, вода теж и показалася

Але большыя чуда бывают инъдей мало неуставичне у церъквах руских посель-

**Вышэйшую адукацыю Пацей атрымаў, напэўна, у Кракаве.**

**У 1561 г. быў павянчаны з дачкою князя Ф. Галоўкі-Астрожацкага Ганнай. З гэтага шлюбу нарадзілася шасцёра дзяцей – тры дачкі і тры сыны. У 1566 г. – прызначаны пісарам земскім, а ў 1569 г. рэпрэзентаваў Берасцейскае ваяводства на Люблінскім сойме, браў удзел у падпісанні міждзяржаўнай уніі. Займаў пасады берасцейскага земскага суддзі (з 1577 г.), члена каптуровага суда Берасцейскага ваяводства (з 1586 г.), кашталяна берасцейскага і сенатара (з 1588г.). У 1578–1579 гг. ваяваў з маскоўскім войскам за вызваленне Полацка.**

**На пачатку 1570-х гадоў Іпацій адрокся ад пратэстантызму і вярнуўся ў праваслаўе. Прымаў актыўны ўдзел у жыцці Праваслаўнай Царквы – прысутнічаў на Берасцейскіх саборах, садзейнічаў дзейнасці брацтваў.**

**Першую думку пра Унію пачуў Пацей ад папскага нунцыя. Затым гэтая думка развівалася ў размовах з каталіцкімі біскупамі і тэолагам Пятром Аркудыюсам. Але да актыўнага ўдзелу па падрыхтоўцы Уніі Іпацій далучыўся толькі пасля з'езда епіскапаў у Сакалі, у канцы 1594 г.**

**Крыху раней, у 1593 г. князь Васіль Канстанцін Астрожскі схіліў аўдавелага Пацея да духоўнай кар'еры. У красавіку 1593 г. ён прыняў манаскі пострыг, а 27 мая быў узведзены ў сан епіскапа Уладзімірскага і Берасцейскага.**

**Разам з Кірылам Тарлецкім, епіскапам Луцкім, Іпацій Пацей ездзіў у Рым, дзе яны аднымі з першых прынялі царкоўную Унію.**

**"Унійнае" пытанне было і застаецца праблемным. Яно выклікала і выклікае вострыя спрэчкі па тэалагічных, палітычных, культуралагічных, ідэалагічных аспектах. У тэалагічным аспекце унійная праблема ўпіраецца ў нязначныя, але спрэчныя адрозненні, што існуюць у дагматыцы Усходняй і Заходняй Цэркваў, а асабліва – у каталіцкую аксіёму вяршэнства Папы Рымскага ў зямной Хрысціянскай Царкве.**

**Берасцейская унія 1596 г. была заключана на ўмове прызнання вяршэнства Папы, а таксама некаторых каталіцкіх догматаў пры захаванні традыцыйнага ўсходняга абраду. Новаўтвораная Царква набыла статус каталіцтва ўсходняга абраду.**

**Асаблівасці уніяцкага веравучэння даведзены ў асноўных, найбольш вядомых творах Іпація Пацея "Унія греков с костелом римским" (Вільня, 1595), "Антиризис, или апологія против Христафора Филалета" (Вільня, 1599), "Гармонія восточной церкви с костелом римским" (Вільня, 1608) і ў іншых яго працах.**

**Творы "Унія..." і "Гармонія..." Пацей прысвяціў раскрыццю важнай багаслоўскай праблематыкі – доказу раўназначнасці веравучэння Усходняй і Заходняй Цэркваў. Так, "Унія..." была задумана з мэтаю навярнуць да царкоўнай еднасці вернікаў усходняга абраду праз азнаямленне з адрозненнямі, якія гістарычна склаліся ў праваслаўнай і каталіцкай дагматыцы. У гэтым творы аўтар праз дыскрэтны разгляд пяці артыкулаў імкнецца зніveліраваць кантраверзы каталіцкага і праваслаўнага веравучэнняў, паказаць іх артадаксальную блізкасць. Разам з гэтым ён абгрунтоўвае права Папы Рымскага на зверхнасць ва Усходняй Царкве, а таксама прэрагатыву епіскапаў у абмеркаванні і**

ских, альбо где в местечках малых, где далеко по вино посылати, о чом мы добре ведаем. Иж поп часом купивъши вина зъ якую кварту, ховает через цалый рок, с которого потом щирый оцот учиниться, альбо сплеснеет, альбо такъ выветреет, же ани смаку, ани паху винного в нем не будет, и до уст брыдъко прынести А предъсе тым служать водою намагаючи, абы [43 адв.] оцъсту [неготь, а подчас] колы оцту не станет и дрожьчи на дьне водою пополоскавши служать. Не въспоминаю ового, же снать многие мовять, гдебы вина не было, тогды з яблыка квасъного соку вытиснувши, служити кажут. И тому я веру, же то бываеть у поселъских попов, которые владык своих ани знають, бо волить тот грош на горельце пропить, анижли вина купить. А если еще от места где вина шукать далеко. А еслиж еще и горелькою, которою тежь виньцом называють, служать, то пак вже над чудами чудо!

А такъ, православные хрестияне, для Бога не верьте таковым явным баламутом, которые рады бы и с пекла потвары выдрали, чим бы одно тую згоду и единость людям огидити могли.

А што мовять, иж езовитов в церьков напущали. Дал бы то Пан Бог, жебы частей до церьквей ваших езоитове [44] ходили и вашых блудов догледали. А зали бысьте ся рыхлей обачили, а о них порадку лепшого, яко се в церьквах справовати научили А што им за пригану даеш! А зали не суть хрестияне и ученьшие далеко, нижли вси попы греческие и з владыками! И зали не того ж Бога во Тройцы единого, што и вы вызнаваюъ! И зали не лепей, анижли вы сами церемонии Церькви Греческое с писма светых отец греческих ведають! Бо их частей читають, анижьли вы И зали веры вашое и церемонии Церькви светое Кафтолическое не лепей боронеть от геретиков – кажучи, пишучи, заставляючися за православную веру! А пред се того слепи есте! Але то упатруете, што у вас и геретыком вольно до церькви прыйсти и припатроватисе церемониям вашим [44 адв.]

Горьшая то, панове милые, ест, жесте вы в божьницы геретыческое соборища свое чинили, Литорьгию светую тамъ отправовати смели есте, опустивьши такъ много церьквей, которых туж под боком мели есте. Если те то о мурованой розумели, жебы посквервнена была, што ест неправъда щирая, ино другие церкви были; тамъ было служьбы Божое слухати альбо своим казать отправовать Не боронил бы вам того нихто, коли бы сте о то просили Але сте взгоръдивьшы домом Божым, домом молитвеньным, волели есте влезъти до верътепа разъбойническо-го. А тамъ з арияними, з новокрьщенъцами набоженъства свое отправовати, запомневьшы срокгого заказу церьковного, иж до таковых домов людем кафъто-лическим и входити негодилосе, не только службу Божую в нем служити

Але прави есте, бо сте при со[45]бе протосигела и двох владык, волно там было и до жыдовьское школы влести, а водою покропивьши тамъ служити Але и по вашом отъезьде верьтеп верьтепом, ничого вода не помогла.

Поведте ж ми, мел ли тот ваш протосинькгел, зрадьца хрестянъский, яким его господар менует, такъже и тые владыкове вашы, такую моц, ламати правила

---

вырашэнні царкоўных спраў, у прыватнасці пытання аб прыняцці Уніі. Аўтар катэгарычна асуджае факты абмеркавання пытанняў Царквы і веры простымі людзьмі-рамеснікамі, што складалі аснову апазіцыі ў час падрыхтоўкі Уніі.

У творы "Гармонія..." Пацей адзначае артадаксальнасць канстантных багаслоўскіх універсалій абедзвюх Цэркваў. Яны вызнаюць адзінага ў трох іпастасях Бога (Айца, Сына і Святога Духа), адны і тыя ж догматы адзінасутнасці Бога Айца і Бога Сына, догмат Богаўвасаблення, догмат пра Боскую і чалавечую прыроду Хрыста (вызнанне ў асобе Хрыста дзвюх нязлітных, нязмешаных "натур" – Боскай з усімі асаблівасцямі Боскімі і чалавечай з усімі асаблівасцямі чалавечымі, апроч граху), догмат выкуплення грахоў і злучэння чалавека з Богам і інш. Як усходнія, так і заходнія хрысціяне вераць у адзіную святую саборную і апостальскую Царкву, у другое прышэсце Хрыста, ва ўсеагульнае ўваскрэсенне і Страшны суд, ушаноўваюць абразы і мошчы святых, вызнаюць аднолькавыя сем таемстваў (хрост, еўхарыстыя, святарства, пакаянне, мірапамазанне, алеяпамазанне, жанімства), абрады, выкананне якіх, як і літургія, мала чым адрозніваюцца між сабою. А таксама ўсходнія і заходнія хрысціяне захоўваюць пасты як сродак абнаўлення і ачышчэння чалавека.

Далей аўтар закранае спрэчныя пытанні пра філіёкве (каталіцкі дадатак да Сімвала Веры аб паходжанні Святога Духа "і ад Сына"); пра каляндар, чысцец, апрэснакі (абгрунтоўвае раўназначнасць таемства прычасця па звычаях Усходняй і Заходняй Царквы пад адным і двума відамі), падрабязна рас-





апостольские и светых богоносных отец постановенья, которые въ своих власных привилях маете.

А засте запаметали, што мовять правила апостольские – 45 и 63: "Хто бы вшол до соборыща жидовъского альбо поганъского и геретыческого и помолильсе с ними, если мирьскии, да отлучиться, а если причетьник, да изъверьжеться". И далей мовить: "Аще ли же в дому токмо помолиться со еретыки, епископ или презвитер, или дъякон – да отлучиться". [45 адв ] Тое ж мовить и Лаодикейского собора правило 33.

Слухай же, яко таковые домы называет правило 71 собору Карьфагеньского четверътого: "Геретические соборища не сут Церъковью, але соборища дъявольские". Того ж и правила 72 заказует. Ку тому и Гаъкгреньского собору правило 6 мовить: "Если хто опроч соборное церкви соборыща якие чинить и тамъ справы церъковьные отьправует, таковый нехай будет проклятый". Чытай же еще собе правило 35 собора Ляодыкейского, што о таковых пишеть, которые мимо Церъков Божию, где инъде собираются на молитвы и пения, а если же в домах хрестиянъских непоскверъненых без воли епископа оное страны не повелевает жерътвы приносити, большей в соборыщу геретическом заказано и въходить, не толко справы церковь[46]ные отправовати, [посве]цоною то водою скропить, яко сте вы учинили.

Ведаете, яко великие церемонеи бывають над храмом ку чьти и хвале Божой, умысльне на то збудованом!

А што ж надъ таковым домом, где соборыща геретыческие бывають? Не водою тамъ было потреба отбыть, власне яко бы сте теж хлев свинии покропили, а по отшествию вашом опять свиньи до хлева вълезьли.

О тож не див то, же вода водою сталася. Але большый то див, же и протосенькгелове, и епископове, и вьсе духовенъство ваше, иле вас тамъ было, вси есте послепъли, же сте правил тых не видели

А праве яко Еванъгелие пишет: *"Коморы толко цедите, а вельблюд полыкаете"* (Матфея 23). *"В чужом оку порох видите, а въ своем окрутного и великого траму не бачите"* (Матфея 17).

Але не треба се диковати, певне учтивый чоловек статечни не розсевал бы таковых новин плонънных, але якись витаноша и попужница благая, которому теж и верити не годится.

*Друковано в Вильни. Року Божего 1597.*

---

крывае семантыку хлеба, што выкарыстоўваецца для гатавання Святых Дароў: кваснога (Усходняя Царква), прэснага (Заходняя Царква).

Паводле слоў Пацея, "о веры своей, о сакраментах, о церемоніях и о всих порядках церкви своее, о набоженстве службы Божой в чом мало не во всем згажается церков наша Восточная и з Заходними, и мало што розьного, коли в самую реч пилно взглянеш, найдеш..."

Але, прызнаючы раўназначнасць большасці догматаў, таемстваў і абрадаў Усходняй і Заходняй Цэркваў, Пацей, аднак, лічыць праўдзівую толькі Каталіцкую Царкву і тую Грэцкую, што знаходзілася ў еднасці з Рымам. Уніяцкі іерарх прыводзіць апагагічны доказ праўдзівасці Каталіцкай Царквы шляхам абвяржэння праўдзівасці Грэцкай Праваслаўнай, якая, на яго думку, не можа прэтэндаваць на паўнату яднання з Богам праз залежнасць ад свецкай улады – мусульманскага правіцеля – і праз наяўнасць у Царкве ерэтыцтва.

У лісце да Клірыка Астрожскага уніяцкі іерарх катэгарычна адмаўляе Праваслаўнай Царкве нават у праўдзівасці хрысціянскіх таемстваў, бо гэтая Царква, на яго думку, ерэтычная і адлучана ад праўдзівага цела – адзіна праўдзівай Каталіцкай Царквы.

Схізма і ерэтыцтва праваслаўных, піша Пацей, праяўляюцца ў непрызнанні каталіцкіх аксіём зверхнасці Папы Рымскага, філіёкве, чыстца, а таксама раўназначнасці сакрамэнтаў кваснога і прэснага хлеба, веравання ў адплату душ праведных адразу пасля смерці, а гэтыя аксіёмы былі прыняты Усходняй Царквою на Фларэнтыйскім саборы.

## *НА СВЕЦЕ ТАК ВОДЗІЦЦА*

**Не спадзяваліся мы,
што справа
згоды і міласці хрысціянскай,
якая нядаўна зусім паміж
Рымскай Царквою
І Грэцкай Царквою ў нашым
спадарстве злагодзілася,
займее
ужо неўзабаве патрэбу
у абароне ды ў апраўданні,
бо, пэўна,
ведае кожны набожны
жывы чалавек хрысціянскі,
што кажа Ісус Хрыстос,
наш Збаўца, ў сваім святым
Евангеллі; а ён кажа
пра згоду і міласць
і ўсім
наказвае іх трымацца.**

**За знак асаблівы — па чым
ягоныя вернікі пазнавалі б
адно аднаго — ён ім
не што-небудзь іншае, а якраз
згоду і міласць зычыць.
Так і выходзіць: хто прагне
згоды і міласці хрысціянскай
і хто ў іх жыве —
той з Богам
і можа праўдзівым вучнем
Ісуса Хрыста назвацца.
Хто ж адварочваецца ад іх,
ды іх парушае,
ды ім пярэчыць,
аказваецца насамсправе
ерэтыком,
альбо д'яблавым сынам.**

**Аднак жа на свеце
так водзіцца: калі недзе
зладзіцца добрая справа —
дык д'ябал
спакою не мае і лезе
у кожную шчыліну,
пхнецца
у кожную дзірку,
каб абы толькі
яе спаганіць
ды напаскудзіць людзям.**

**Пэўна, і справу святой
згоды і еднасці паміж Рымскай
і Грэцкай Царквой,
што нядаўна
зладзілася на сінодзе
у Берасці, без увагі
не можа пакінуць вораг
і як мага
пасродкам сваіх прыладаў —
зласлівых людзей —
імкнецца
усё, што рабілася там,
зняважыць,
сказіць,**

**Уніяцкія навацыі Іпацій не лічыць парушэннем вучэння Усходняй Царквы, а, наадварот, бачыць у іх аднаўленне чысціні хрысціянскага веравучэння, якая, у сваю чаргу, на яго думку, забяспечваецца зверхнасцю рымскага пантыфіка ў хрысціянскім свеце.**

**У "Антырызісе" Пацей аб'ектыўна апісвае падрыхтоўчы этап Уніі, падзеі Берасцейскага сабору, палемізуе з Філалетам па спрэчных пытаннях, што тычацца падрыхтоўкі Уніі, законнасці праваслаўнага і уніяцкага сабораў, іх пастановаў і спрэчных тэалагічных пытанняў.**

**У пацвярджэнне праўдзівасці і законнасці Берасцейскай царкоўнай уніі Іпацій імкнецца запэўніць, што да царкоўнага падзелу 1054 г. усе Усходнія Цэрквы падпарадкоўваліся Рыму. Але гэтая парадыгма таксама з'яўляецца спрэчнай і праблемнай у гістарычным і тэалагічным аспектах.**

**Асноўнай адметнасцю Уніяцкай Царквы Іпацій лічыць захаванне ў ёй усходняга абраду адпраўлення набажэнстваў і таемстваў ("цырымоній"), якім вызначаецца вера і забяспечваецца патрыярхальнасць канфесіі. Зыходзячы з наяўнасці ўсходняга абраду і адзінства з Рымам, Пацей заяўляе, што уніяты з'яўляюцца законнымі спадкаемцамі той праўдзівай Грэцкай Царквы, якая існавала да царкоўнага падзелу 1054 г. Уніяцкая вера ідэнтыфікуецца ім таксама з верай нацыянальнай ("рускай"). Ідэолаг Уніі рашуча адмаўляе Праваслаўнай Царкве ў праве на існаванне ў Вялікім Княстве Літоўскім, асуджае праваслаўны Берасцейскі сабор 1596 г., называе яго "сборищем проклятым".**

**Прытрымліваючыся прынцыпу сканцэнтравання царкоўных спраў у руках духоўных іерар-**





**забрудзіць
выдумкай недарэчнай.
Ужо нямала
хлусні сваёй ён пасеяў
між хрысціянскіх людзей
і паклёпу
узвёў нямала, каб людзям
згідзела тое, што імі
мусіла б шанавацца.**

**Першая з-паміж хлусняў
хлусня, што гэта
новая справа і што яна
нясе нечуванае нешта
з сабою ў наша спадарства.
Другая — што ёй
будуць крышыцца правы
і ламацца
вольнасці вернікаў.
Трэцяя — што нібыта
ўчыніўся над русамі гвалт
і да іншай веры
іх далучаюць, на тое
не папытаўшыся ў іх дазволу.
Чацвёртая — што нібыта
усе абрады
Усходняй Царквы дагары нагамі
мусяць перакуліцца
ды замяніцца
на Рымскі звычай.
Нарэшце, яшчэ адна кажа
пра нейкі, яшчэ адзін,
іншы зусім сінод,
чые пастановы належыць слухаць.
І пасланцы патрыяршыя
ўсцяж разносяць
гэтыя, нейчай рукою
складзеныя, пастановы
і ўводзяць людзей хрысціянскіх
у блытаніну, і ад сваіх
пастыраў,
ад караля-спадара
і ад Госпада Бога
адводзяць.**

**Самі ж наўмыснікі,
што трывожаць
усіх сваім нагаворам,
што рушаць
спакой паспаліты,
што памнажаюць
сумяціцу,
што раздзімаюць нязгоду,
сябе паводзяць —
нібы ў іх ні сораму,
ні душы,
ні боязі Божай не засталося.**

**Здалося
мне слушным і неабходным
пра тую справу,
якую ведаю добра
і на якую зблізку
глядзеў сваімі вачамі,
усім распавесці
і свой расповед
выкласці на паперы —
каб людзі таксама**

**хаў, Іпацій крытыкуе Праваслаўную Царкву за яе залежнасць ад свецкіх уладаў. На довад Філалета, які піша, што не толькі пастыры, але і свецкія людзі могуць разважаць аб веры, Пацей прыводзіць словы езуіта Пятра Скаргі: "свецкія люди до розсудку науки о вере права жадного не мают, одно преложоные духовные". Ён аспрэчвае прынцып саборнасці Праваслаўнай Царквы, права ўдзелу свецкіх асоб у абмеркаванні спраў Царквы, у выбары епіскапаў, на які спасылаецца Філалет, і перанясенне гэтага прынцыпу на царкоўны суд. Паводле Пацея, "навет хотя бы свецкіе и мели моц до обиранья, тогды бы не могли мети моцы до изверженія: бо не обиранье епископа чынит, але посвещеніе і становенье".**

**Праваслаўны Берасцейскі сабор, на думку апалагета Уніяцкай Царквы, выступіў не толькі супраць духоўнай улады, але і супраць улады свецкай.**

**Пацей адстойвае законнасць уніяцкага Берасцейскага сабору 1596 г. і ў палеміцы з Філалетам раскрывае планы духоўных іерархаў, якія праз Унію імкнуліся вывесці "рускую" Царкву з крызісу, умацаваць яе маёмасныя і юрыдычныя правы, адмежаваць ад уплыву свецкіх уладаў і ад уплыву ерэтычных рухаў, падняць прэстыж Царквы ў дзяржаве, падняць на належны ўзровень заняпалую багаслоўскую навуку.**

**Апалогія Каталіцкай Царквы мела вынікам і асуджэнне Іпаціем Пацеем дзяржаўнага закона аб свабодзе веравызнання, Варшаўскай генеральнай канфедэрацыі (1573 г.), бо яна, паводле слоў пастыра, "...овщем противная церкви Божой, которая всим ересям двери отворила".**

уведалі пра яе,
што ведаю я, і ўзялі
уведанае ў перасцярогу;
і, каб угледзеўшы адзін раз
шчырую праўду, хлусні
болей не верылі,
плётак не слухалі,
у выдумкі не ўпадалі
і анікому
не дазвалялі рассейваць
у асяродках сваіх
пустазелле змany...

А вас, людзей простых,
што, занядбаўшы
шыла і дратву —
сваё рамяство, да якога
паклікаў вас Бог,
пачалі
умешвацца раптам у справы
вяльможнага стану
і стану шляхецкага
і захацелі
радзіць таксама
святарствам і цэрквамі,
я адсылаю
да вашых варштатаў.

Няхай пільнуецца кожны
свайго паклікання,
каб не забыўся
свайго рамяства; калі ж
ідзе пра збавенне гаворка,
слухайся лепей
старэйшых сваіх,
ачмурэла
не бегаючы па свеце
і не бунтуючы згубна
людзей хрысціянскіх,
аднак
седзячы дома.
Бо пастыр
ведае лепш за авечку,
што добра ёй,
што нядобра.
Не адступайся, глядзі,
самапасам
ад пастыра, бо апынешся
у воўчай пашчы...
Але між вас
аказваюцца, як бачым,
бязбожнікі і шаленцы,
што, вось жа, смеюць
уголас блюзнерыць і просяць
сабе ў Пана Бога згубы;
бо што, як не згуба,
на галаву сабе клікаць
турэцкую моц
і хацець
не папы, а патрыярхаў?!.

О неразумнае і сляпое
праклятае сэрца!
О прагавітая і
разбэшчаная губа — папраўдзе
не ведаеш, чаго просіш!..
У гневе на блохаў

Будучы апалагетам еднасці Цэркваў на ўмовах поўнага падпарадкавання Рыму, Пацей прызнаваў праўдзіваю адно толькі Каталіцкую Царкву і тую Усходнюю, якая ўваходзіць у склад Каталіцкай. Іпацій прапаведаваў некаторыя догматы і палажэнні веравучэння Заходняй Царквы, прынятыя Грэцкай Царквою на Фларэнтыйскім саборы, што не замінала яму быць абаронцам асноўнай адметнасці Уніяцкай Царквы – усходняга абраду, якім Іпацій і вызначае грэцкую веру.

У 1599 годзе, пасля смерці Міхаіла Рагозы, Іпацію Пацею была перададзена кафедра мітрапаліта.

Іпацій энергічна ўзяўся за выкананне сваіх пастырскіх абавязкаў. Ён здымаў архімандрытаў і прэсвітэраў, якія злоўжывалі сваімі пасадамі, шмат сіл укладваў у працу па наведзенні парадку ўнутры Царквы.

Задаючыся мэтаю ўмацаваць пазіцыі Уніяцкай Царквы, мітрапаліт, пры падтрымцы дзяржаўнай улады, вёў барацьбу з апорай праваслаўных – Віленскім брацтвам. У 1599 г. ён загадаў нававыбранаму віленскаму мітрапалічаму намесніку, саборнаму пратапопу Івану Парфяновічу апячатаць царкву ў Траецкім манастыры ў сувязі са знаходжаннем у ім Стафана Зізанія, асуджанага яшчэ раней за ерась. Пацей забраў у братчыкаў упрывілеяваны алтар. Пры садзеянні гарадскіх уладаў брацтва было выцеснена з Траецкага манастыра і ўсталявалася ў новай Святадухавай царкве, пабудаванай на сродкі праваслаўных сёстраў з дому Валовічаў у 1598 годзе.

Праваслаўныя выступалі супраць Уніяцкай царквы і ўлады мітрапаліта. Тады 20 ліпеня 1601 г. Пацей выклікаў на цар-





хочаш
спаліць кажух!

Ці ўжо так
спакой надакучыў,
ці ўжо апрыкла
так хрысціянская вольнасць,
што ўжо —
з вялікай раскошы і самаволі —
не ведаеш сам, што робіш
і што пляцеш!..

Затулі
свае хлуслівыя вусны!
Утні
сваімі зубамі зласлівы
язык свой, калі пасмеў
ён вырыгнуць
слова брыдоты.

Бачым,
вы ўжо даўно
сабе зарабляеце ў Бога
бязбожнымі справамі
узнагароду.
О лепей было б для вас,
каб вас
цярплівы і міласцівы
Пан Бог не пачуў:
не дасць
ён злым і зацятым
свайго набытку
на языкатае ганьбаванне.
І калі вы
не прыйдзіце да пакаяння
і розуму,
вас пакіне,
а вораг вас забярэ.

Адно тое,
што спраўджвае і абяцае
спраўдзіць Пан Бог для святой
ушаны і памнажэння
Царквы Каталіцкай, —
адно яно
у вечнасці застанецца.
Не пераможа
зман праўды!
Не перамогуць
д'ябальскія напады
ды ростыркі Божай справы
і хрысціянскай згоды:
у ёй
з малога вялікае вырастае.
А хто слугуе
ростыркам і нязгодзе,
свой заняпад —
да самае бездані —
паглыбляе.

Няхай
навернецца ваша хвароба
вам на галовы
і ваша няпраўда
зваліцца вам на плечы!..

*Са старабеларускай мовы ўзнавіў*
*Алесь РАЗАНАЎ.*

коўны суд свяшчэннаслужыцеляў Святадухавай царквы Карпа Лазаровіча і Рыгора Ждановіча, якія былі высвячаны адступнікам ад Уніі і яе праціўнікам Гедэонам Балабанам, епіскапам Львоўскім, і запатрабаваў тлумачэння – чаму яны без дазволу мітрапаліта прынялі святарства і свяшчэннадзейнічаюць у ягонай епархіі. Святары пісьмова заявілі, што яны, як праваслаўныя, падпарадкоўваюцца Патрыярху Канстанцінопальскаму, не прызнаюць Пацея сваім мітрапалітам і не абавязаны яго слухацца. Мітрапаліт паслаў яшчэ дзве позвы гэтым пастырам, затым завочна пазбавіў сану, а кароль асудзіў іх як непакорных і бунтаўнікоў на выгнанне з дзяржавы. Каралеўскім указам былі асуджаны як бунтаўнікі яшчэ два праваслаўныя святары Святадухавай царквы – Іосіф Яцкевіч і Іван Семяновіч, якія самі распачалі недарэчную судовую справу з вучоным архідыяканам Антоніем Грэковічам, што перайшоў у Унію (дамагаліся смяротнай кары за нібыта ўчынены ім блуд з манашкай).

У канфлікты з праваслаўнымі епіскапамі Гедэонам Балабанам і Міхаілам Капысценскім, якія трымалі прыходы ва ўладаннях В.К. Астрожскага, Пацей не ўцягваўся, толькі аднойчы паскардзіўся вялікаму князю на Балабана, што той умешваецца ў яго епархію. З Балабанам вёў цяжбу пры падтрымцы манарха праз Жыдзічынскі манастыр епіскап Кірыла Тарлецкі, у якога В.К. Астрожскі забраў большую частку маёмасці, даранай ім і яго продкамі праваслаўным іерархам.

Як паказваюць дакументы, Пацей ніколі не распачынаў канфліктаў першы. Ён рашуча рэагаваў на выступленні супраць

Уніяцкай Царквы і ўлады мітрапаліта. Пры гэтым дзейнічаў ён у рамках існуючага закона, паводле якога ўсе прыходы ўсходняга абраду падлягалі ўпраўленню уніяцкага мітрапаліта, а святары – яго юрысдыкцыі. Юрысдыкцыя Пацея над усімі духоўнымі асобамі Грэка-Рускай Царквы была двойчы пацверджана каралеўскімі прывілеямі – у 1599 і ў 1605 гг.

Многія гісторыкі папракаюць Іпація за такія гвалтоўныя меры, як разбой у цэрквах, фізічныя здзекі з праваслаўных святароў, спасылаючыся на неабгрунтаваныя паведамленні іншых даследчыкаў або на адзінкавыя тэндэнцыйна апісаныя выпадкі. На гэтае абвінавачванне Пацей адказаў у сваім "Антырызісе": гвалту ў цэрквах ён ніколі не ўчыняў, забіраў адно толькі антымінсы, без якіх нельга адпраўляць набажэнствы, у святароў, што не падпарадкоўваліся свайму епіскапу.

Іпацій Пацей шмат працаваў на карысць Уніі. У 64-гадовым узросце ён занядужаў, а паколькі пасада кіраўніка Царквы патрабавала шмат энергіі, Іпацій увёў 21 чэрвеня 1608 г. пасаду епархіяльнага намесніка, якой раней не было ў "рускай" Царкве, і прызначыў на гэтую пасаду маладога і энергічнага Іосіфа Руцкага. Іосіфу, які прыняў манаскі пострыг толькі 16 верасня 1607 г., а затым быў хіратанісаны ў дыякана і ў прэсвітэра, былі нададзены вялікія паўнамоцтвы ў духоўным судзе – усе духоўныя асобы былі аддадзены пад яго юрысдыкцыю. Гэтым прызначэннем было незадаволена ў першую чаргу віленскае духавенства, якое мела прывілей выбару віленскага мітрапалічага намесніка з свайго асяроддзя, і гарадскі мітрапалітаў намеснік пратапоп Варфаламей Ражкоўскі. Белае духавенства не хацела падпарадкоўвацца манаху Траецкага манастыра. 1 верасня 1608 г. клірыкі паслалі ліст Пацею, у якім выказалі пратэст супраць прызначэння Руцкага. Незадаволены быў Руцкім і архімандрыт Траецкага манастыра Самуіл Сянчыла, які схіляўся да праваслаўных. У 1609 г. Пацей пісаў: "Сенчыловіч некалькі гадоў сумленна служыў мне, не падмануў мяне ні ў адной якой-кольвечы справе. Але каго не апануе, каго не падкупіць Налівайкаўская арда? Яна на тым і стаіць, каб мучыць, каб чыніць змовы, бунты і забурэнні. Не будзь гэтай арды – даўно быў бы мір". Іосіф Руцкі, у абыход улады архімандрыта з благаслаўлення мітрапаліта за свае ўласныя сродкі і ахвяраванні пачаў перабудову манастыра і заняўся рэарганізацыяй манаскага чыну (пачалася арганізацыя ордэна базыльянаў).

У такіх надзвычайных паўнамоцтвах, нададзеных маладому іераманаху, які атрымаў адукацыю ў Рыме, духавенства ўбачыла імкненне Пацея зусім "сапсаваць" Унію лацінствам, тым болей, што ўсе ведалі пра сяброўства Руцкага з езуітамі і кармелітамі босымі. Духавенства было незадаволена Пацеем, які выступіў у друку як прыхільнік каталіцкіх догматаў пра паходжанне Святога Духа ад Айца і Сына (філіёкве), пра чысцец і некаторых іншых асаблівасцяў каталіцкага веравучэння. Сам Папа дазволіў уніятам вызнаваць праваслаўны Сімвал Веры, а Пацей называў ерассю непрызнанне філіёкве.

Для Праваслаўнай Царквы характэрная была патрыярхальнасць поглядаў, прывязанасць да старых звычаяў і імкненне адгарадзіцца ад каталіцкіх уплываў. А за некалькі гадоў Уніі, кананізаванай на аснове ўсходняга абраду, мысленне "рускіх" святароў не магло перамяніцца. Пратэст супраць прызначэння Руцкага перарос, па сутнасці, у пратэст супраць нававыяўленых поглядаў Пацея, адметных ад традыцыйнага вучэння Усходняй Царквы, і ў імкненне рэстаўрыраваць Праваслаўную Царкву на беларускіх землях.

Пасля Берасцейскага сабору, паводле падліку папскага нунцыя, у Вялікім Княстве Літоўскім налічвалася 2169 уніяцкіх цэркваў і 1089 праваслаўных. Праваслаўныя складалі 1/3 вернікаў усходняга абраду і размяшчаліся ў асноўным на ўкраінскіх землях. У беларускіх землях адзіным асяродкам праваслаўных напачатку было Віленскае брацтва, выцесненае з Траецкага манастыра ў Святадухаву царкву. Пацею не трэба было пераводзіць прыходы ў Унію (апроч некаторых уладанняў Кіева-Пячорскага манастыра), не трэба было пасылаць і паслушных лістоў святарам, бо ўсе цэрквы і духоўныя асобы, паводле дзяржаўнага закона, знаходзіліся ў распараджэнні уніяцкага мітрапаліта. Тых, хто выступаў супраць яго ўлады, пазбаўлялі сану і асуджалі на выгнанне з дзяржавы. Наданне новых пасадаў і маёмасных правоў ажыццяўлялася мітрапалітам і каралём з умоваю захавання вернасці Уніі і падпарадкавання уніяцкай уладзе.

Юрысдыкцыя уніяцкага мітрапаліта над усім "рускім" духавенствам у мітрапалічай епархіі захоўвалася і пасля таго, як Жыгімонт III 18 чэрвеня 1607 года выдаў даравальную грамату праваслаўным насельнікам дзяржавы аб непарушнасці правоў і прывілеяў Праваслаўнай Царквы з абяцаннем падаць ёй духоўных пастыраў і не чыніць над ёю гвалту.

Абнадзееныя каралеўскаю граматаю, якою, па сутнасці, Праваслаўная Царква прызнавалася законнаю, віленскае духавенства разам з Самуілам Сянчылам адмовіліся ад падпарадкавання Пацею і Руцкаму, аб'явіўшы аб гэтым у скарзе, занесенай у кнігі гарадскога суда. Яны пісалі, што "с покорою зносили есмо зверхность его духовную, не видечи еще ничого нового", бо "митрополит, упевнивши нас в том не поеднокрот под верою, сумненем и самою присегою своею, иж ничого нового, противного вере нашое старожитное Греческое, церкви светое Восточное и всем порядком церковным, моцою Духа Светого и канонами светых отец верне органичонными, до церкви нашое вносити не мел... Але иж его милость, над тую присегу свою, погордивши верою нашою старожитною, внес до церкви Божіе речи новые, за предков наших и за нас самих пред тым николи не набоженстве нашом Греческом не бывалые, приводечи, а праве кгвалтом примушаючи до пріймуванья и стверженья присегами нашими речей таковых, которые не толко церкви светой Восточной суть противны, але праве з кгрунту все фундамента старожитной рэліи нашое выворочають..."

Святарства памылкова абвінавачвала Пацея і ў імкненні парушыць увесь усходні абрад і ў імкненні перавесці Царкву ў падпарадкаванне Касцёлу (хоць, дарэчы, апошняя гіпатэтычная засцярога часткова спраўдзілася – сам Руцкі, як стаў мітрапалітам, скардзіўся Папу Рымскаму на тое, што уніяты вымушаны плаціць дзесяціну на карысць Касцёла).

29 снежня 1608 г. віленскае праваслаўнае духавенства падало яшчэ адну скаргу ў гарадскі суд на Іпація Пацея. Істцы пісалі, што Пацей "показуючися властным наследовцою вери римское под зверхностью велебного отца папежа, розными книжками своими з друку выдаными то осветчал..." Яны спасылаюцца на "Гармонию", якая была надрукавана ў тым самым 1608 г. і ў якой Іпацій "хвалит то все, што колвек костел римский держит, а то все ганит, што церковь наша в собе мает...", а таксама на нейкую невядомую кніжку, якая ўтрымлівала 12 артыкулаў веры, быццам падрыхтаваных для прыняцця ва Уніяцкай Царкве. Гісторык Макарый зрабіў выснову, што святары да таго часу не ведалі сутнасці Уніі, прынятай у Рыме. Яны, хутчэй за ўсё, меркавалі, што захаванне ўсходняга абраду забяспечвае таксама патрыярхальнасць усяго веравучэння Усходняй Царквы і, звыклыя да дагматычнасці поглядаў, проста не былі гатовы да ўспрымання уніяцкіх навацыяў, у якіх Пацей не бачыў парушэння чысціні вучэння Усходняй Царквы.

У Вільні рыхтаваўся пераварот. Пратапоп Ражкоўскі, архімандрыт Самуіл Сянчыла і іншыя віленскія святары абвясцілі аб сваёй прыналежнасці да праваслаўнай веры, узялі ў сваё падпарадкаванне з-пад улады Пацея Прачысценскі сабор, мітрапалітаў дом, усе віленскія цэрквы і хацелі адабраць у Руцкага Траецкі манастыр. Навагрудскі і гродзенскі пратапапы з духавенствам, дамовіўшыся з віленскім святарствам і Святадухавым брацтвам, таксама адмовіліся ад падпарадкавання уніяцкаму мітрапаліту. Тое ж часткова паўтарылася ў Жыровіцах, Троках і іншых мясцінах.

Уражаны Пацей 2 студзеня 1609 г. прапанаваў віленскім уладам адабраць у праваслаўных цэрквы. Але незадоўга да гэтага ў Варшаве адбыўся сойм, на якім было вырашана захоўваць пастанову сойма 1607 г., паводле якой парушальнікі спакою прысуджаліся да штрафу ў 10 тыс. залатых.

Распачалася доўгая справа Пацея з віленскім духавенствам. 30 красавіка 1609 г. святарства і некаторыя знатныя свецкія асобы зноў заявілі пісьмова аб тым, што не прызнаюць Іпація сваім законным мітрапалітам. 5 чэрвеня адбыўся трыбунальны суд, які асудзіў уніяцкага мітрапаліта па гэтай справе. Але ў рэшце рэшт каралеўскі суд 8 чэрвеня 1609 г. апраўдаў Пацея як законнага пастыра. У каралеўскім прысудзе ўказана, што Пацей і ўсе наступныя мітрапаліты Кіеўскія будуць мець уладу духоўную над усімі цэрквамі і над усім духавенствам рэлігіі Грэцкай і "рускай" ва ўсе наступныя часы. Віленскія свяшчэннаслужыцелі былі асуджаны каралеўскім судом і 6 жніўня ўсе забраныя цэрквы былі вернутыя Пацею.

Пасля паразы ў Вільні праваслаўны фанатык учыніў замах на жыццё мітрапаліта. Іпація выратаваў залаты ланцуг на шыі, на якім вісеў крыж. Шабляю былі адцятыя толькі два пальцы на левай руцэ ўладыкі і рассечаны некалькі звенняў ланцуга.

Іпацій Пацей быў цвёрда перакананы ў праваце Уніі, у якой ён бачыў сродак выратавання вернікаў, шлях да ўзвышэння прыніжанай Царквы. Апантаны пастыр не шкадаваў сваіх сілаў і здароўя дзеля поспеху распачатай справы.

Іпацій верыў у святасць ідэі Уніі, поспех здзяйснення якой патрабаваў валявых рашэнняў, арганізаваных і рашучых мер і той самай катэгарычнасці поглядаў. Без Пацея Унія, на думку многіх даследчыкаў, не змагла б укараніцца ў дзяржаве. Духоўны пастыр працаваў не дзеля ўласных выгод. Ён, праз самааддданую і натхнёную працу, здзейсніў вялікі подзвіг служэння адзінству Хрысціянскай Царквы.

Ульяна ШАСТАВЕЦ

# Паэтыка Іпата Пацея

*Пісьмовая спадчына Іпата Пацея – унікальная з'ява старабеларускай кніжнай культуры, дагэтуль нераскрыты літаратурны феномен. З-за прыналежнасці да Уніі імя пісьменніка доўгі час не ўключалася ў энцыклапедыі і даведнікі. Гісторыкі літаратуры не адважваліся пісаць манаграфічныя раздзелы пра яго творчасць. У выніку працяглага замоўчвання застаўся належным чынам не асветлены ўклад гэтай універсальнай асобы – пісьменніка, філосафа, багаслова, царкоўнага і дзяржаўнага дзеяча – у развіццё нашай старасвецкай культуры. Дагэтуль праўдзіва не вызначана роля І. Пацея ў фармаванні адметнай эстэтыкі беларускага барока.*

Талент І. Пацея напоўніцу выявіўся ў сферы практычнай паэтыкі, творча-мастацкіх арыенцірах, адмысловай стылёвай палітры. Як творца ён зрабіў свой прыкметны ўнёсак у шэраг жанраў старабеларускага пісьменства. Паводле універсальнай родава-жанравай тыпалогіі ўся творчая спадчына І. Пацея можа быць класіфікавана ў пяць асноўных блокаў.

1. **Публіцыстыка.**

а) *Палемічна-аналітычныя трактаты* ("Унія, або Выклад галоўных артыкулаў лучнасці грэкаў з Касцёлам Рымскім". Вільня, 1595; "Антырызіс, або Апалогія супраць Крыштафа Філялета". Вільня, 1600; "Размова Берасцяніна з Братчыкам". Вільня, 1603 (не захавалася); "Абарона сабору Фларэнтыйскага восьмага". Вільня, 1604; "Правы і прывілеі, нададзеныя ад каралёў польскіх". Вільня, 1605 (перавыд. Вільня, 1632); "Гармонія, або Згода веры, сакраментаў і цырымоній святой Усходняй Царквы з Касцёлам Рымскім". Вільня, 1608; "Ерасі, невуцтва і палітыка папоў ды мяшчан брацтва Віленскага". Вільня, 1608);

б) *Эпісталаграфія* ("Ліст да Крыштафа Радзівіла, віленскага ваяводы". 24 лютага 1594 г.; "Благаславеннае пасланне". 29 чэрвеня 1594 г.; "Ліст да Міхаіла Рагозы". 11 лютага 1595 г.; "Ліст да князя Канстанціна Астрожскага". 25 сакавіка 1595 г.; "Ліст да князя Канстанціна Астрожскага". 16 чэрвеня 1595 г.; "Адказ на ліст нейкага безыменнага Клірыка Астрожскага". Вільня, 1598 г.; "Ліст да князя Канстанціна Астрожскага". 3 чэрвеня 1598 г.; "Ліст да Іаана Парфяновіча". 24 верасня 1599 г.; "Пасланне да слуцкага святарства". 29 мая 1600 г.; "Адказ на ліст Мялеція, александрыйскага патрыярха". 1600 г.; "Ліст да праваслаўных". Кракаў, 1610 г.);

в) *Урачыстыя пропаведзі* (74 казанні і гамілії).

2. **Белетрыстыка.**

"Справядлівае апісанне ўчынку і справы сынодавай і Абарона здзейсненых згоды і лучнасці, якія сталіся на сынодзе Берасцейскім у 1596 годзе". Вільня, 1597; "Раляцыя". Вільня, 1609.

3. **Богаслужбовыя тэксты.**

"Ключ на пасхалію, выпраўлены паводле новага рымскага календара". Рым, 1596.

4. **Юрыдычна-прававыя акты, судовыя дакументы (свецкія і царкоўныя).**

"Саборавы прывілей". 28 студзеня 1594 г.; "Скарга на ўладзімерскіх месцічаў". 5 студзеня 1601 г.; "Фундуш на заснаванне школы пры саборнай царкве Успення Багародзіцы ва Уладзіміры". 19 красавіка 1609 г.; "Духоўны запавет". 19 лістапада 1609 г.; "Пратэстацыя супраць архімандрыта Елісея Плецянецкага і праваслаўнага святарства". 16 кастрычніка 1612 г.

5. **Пераклады.**

*Скарга П.* Апісанне і абарона сабору рускага Берасцейскага. Вільня, 1597 (з польскай на старабеларускую).

Для *творчага метаду* І. Пацея характэрна сінкрэтычнае спалучэнне антычных, заходнераманскіх і грэка-візантыйскіх мастацка-эстэтычных традыцый з глыбіннай арыентацыяй на традыцыйную беларускую культуру, перадусім – гутарковую народную мову з яе лексіка-фразеалагічным багаццем і асаблівым марфалагічна-сінтаксічным каларытам.

Творы І. Пацея ідэйна і тэматычна шматпланавыя. У іх дамінуе царкоўна-рэлігійная ды маральна-філасофская праблематыка – тэалагічныя і хрысталагічныя матывы (непадзельнасць Святой Тройцы, паходжанне Святога Духа, багачалавечая прырода Хрыста), хрысціянская антрапалогія (сэнс чалавечага жыцця, шлях да Бога, маральны імператыў і аналіз чалавечых учынкаў у святле антынамічных катэгорый: "шчырасць – хлуслівасць", "пакорлівасць – пыхлівасць", "вернасць – адступніцтва"), сатэрыялогія (Чысцец і Мытарства, Пекла і Нябеснае Царства), эклесіялогія (сапраўдная вера і ерасі ў Царкве), дэманалогія (вядзьмарства, паганскія багі, панаванне Антыхрыста). Шырока асвятляюцца тэмы Суднага дня, царкоўных службаў (абедня, вячэрня, павячэрніца, паўночніца, ютрань, славаслоўе, першая гадзіна, трэцяя гадзіна, шостая гадзіна, дзевятая гадзіна), Святых Таемстваў (Хрост, Мірапамазанне, Еўхарыстыя, або Цела і Кроў Хрыстовы, Пакаянне, Чыны святарства, Алеяпамазанне, Жанімства), пастоў, абразоў і выяваў Бога, святых мошчаў, каляндарнай рэформы.

Асвятленне многіх тэмаў і развязанне шэрагу найактуальнейшых праблемаў у творах Пацея вельмі часта адметнае, што вызначалася светапоглядам пісьменніка, уласцівай яму іерархіяй духоўных і мастацка-эстэтычных каштоўнасцяў.

У публіцыстыцы І. Пацея развязваецца найвастрэйшая для яго часу праблема *ўзаемадачыненняў паміж свецкай і духоўнай уладамі*. Пісьменнік адкрыта і ў рэзкай форме выказаўся супраць намераў свецкіх паноў, магнатаў непадзельна кіраваць святарамі. Дыктат над духоўнымі асобамі недапушчальны, бо гэта знявага Царквы, невыкананне Божай навукі, здзек з запаветаў Хрыста, што з'яўляецца падмуркам і пачаткам поўнага заняпаду Хрысціянства. "Же, – звяртаўся мысліцель да свецкіх асобаў ВКЛ, – хочете над духовъными своими не только въ речах свецъких, чого вам не забараняют, пановати, але и въ духовъных, до которых ничого не маете, але яко овечъки пастыром своим послушни бы быти мелесте! А вы и въ том рядити, церквами Божыми справовати хочете: яко ж на вас смотречы, не только вы, але и жонъки ваши церъквами справуют" [*Пацей І.* Антырызіс... С. 183—184]. Сутнасць яго дактрыны ў тым, каб духоўныя справы цалкам залежалі ад волі святароў, вырашаліся выключна духоўнымі асобамі, а свецкія людзі ішлі за імі без ваганняў, "бо лепш ведае пастыр, што авечкам карысней".

У крызісны для Праваслаўнай Царквы Беларусі час І. Пацей, бадай, першы ў гісторыі нацыянальнай грамадска-палітычнай думкі сфармуляваў ідэю роўнасці грамадзянскіх і палітычных правоў для людзей свецкага і духоўнага станаў. Ён затрабаваў, каб святарам усходняга абраду быў нарэшце адкрыты прававы шлях у Раду – найвышэйшы орган выканаўчай улады Вялікага Княства Літоўскага, спачатку праз абранне кандыдатаў у сваім коле, а затым прызначэнне іх манархам. І. Пацей публічна, на старонках сваіх твораў заявіў, што атрымаць месца ў Радзе на працягу доўгага часу праваслаўным іерархам перашкаджаюць не каталікі, як меркавалі многія, а праваслаўныя свецкія паны: "То не рымляны того боронят, але вы сами, которые ся Православием хлюбите" [*Пацей І.* Антырызіс... С. 187]. Пазіцыя Пацея найбольш адпавядала гістарычным рэаліям, бо, напэўна ж, магнаты ў сваіх паводзінах і ўчынках кіраваліся перадусім уласнымі матэрыяльнымі інтарэсамі, прагай свайго дабрабыту – прыбытковымі пасадамі, урадлівымі землямі, шчодрымі лясамі і пушчамі, раскошнымі маёнткамі. Канфесійныя пачуцці, інтарэсы Царквы знаходзіліся на дзесятым месцы ці, прынамсі, зусім не дамінавалі ў іхнай дзейнасці.

Беларускі пісьменнік і мысліцель вызначыў асноватворныя прынцыпы міжканфесійнага дыялогу, у першую чаргу паміж вернікамі Каталіцкай і Праваслаўнай Цэркваў. Ідэя блізкасці, адзінства, адсутнасці грунту для нянавісці – лейтматыў усіх твораў гуманіста. Пераадоленне зусім ненатуральнай варожасці, непаразуменняў, нечуваных узаемных абразаў сярод хрысціянаў, паводле перакання пісьменніка, закладзена ў самой прыродзе адзінай Хрыстовай Царквы – святой, апостальскай, сусветнай. Глыбокі аналіз яе шматвяковай гісторыі даваў яму цвёрдыя падставы сцвярджаць: "Бо ничого такового не найдешь в церкви Греческой, чого бы не было въ Рымской. Такъже тежъ и въ Рымском костеле, што бы ся не найдовало и въ Греческой церкви" [*Пацей І.* Антырызіс... С. 191].

Як тэолаг і аўтарытэтны іерарх Царквы І. Пацей усклаў на сябе цяжар усебакова абгрунтаваць шляхі і сродкі пабудовы Уніяцкай Царквы на беларускай зямлі. Усялякія перашкоды на шляху яе ўсталявання і неадназовыя спробы разбурэння ён абвясціў выбрыкамі Д'ябла: "А иж немаш такъ доброе речы на свете, которое бы Дьявол не рад перевернул, стараючисе, яко бы се людем омерзил. Певне и тую справу згоды и едности светое, которая се тепер докончыла межы церъковью Рымъскою и Греческою на сыноде у Берести, через начинья свое люде злостивые иначей, анижли се што деяло, не мнеи до людей хрыстиянъских удавати не занехает, якобы ее закинувши, потварами розмаитыми людем огидил, яко ж вже значне кламъства свое розъсевати почал" [*Пацей І.* Справядлівае... Арк. 1 адв. – 2]. Галоўная мэта царкоўнай лучнасці, абвешчаная на старонках "Антырызіса", – каб хрысціяне нарэшце перасталі "васнь" адзін супраць другога чыніць, а супольна "адзінымі вуснамі і адзіным сэрцам, у згодзе і ў міласці братэрскай, як аднаго Бога дзеці, – хвалілі Айца і Сына і Святога Духа" [С. 410], каб не абвяшчалі аўтарытэтных тэолагаў старажытнасці "крывапрысяжнікамі", не вызнавалі дзве Царквы на радасць ворагам, а баранілі адну Рымскую і Грэцкую кафалічную (сусветную) Хрыстову Царкву.

На старонках твораў пісьменніка знайшла адлюстраванне агульная для ўсёй старажытнай публіцыстыкі тэма дыферэнцыяцыі грамадства. І Пацей выступіў у абарону ідэі грамадскага дыялогу, паразумення станаў. Але ён не прымаў і рэзка асуджаў сацыяльную анархію, хаос. Невыпадкова пісьменнік востра крытыкуе віленскіх рамеснікаў, што, апанаваныя здаровай прагай ведаў, раптам перасталі займацца сваёй непасрэднай справай, "адклалі на бок дратву, ножніцы і шыла" ды пачалі на свой розум, замест тэолагаў, тлумачыць Біблію.

Сацыяльныя супярэчнасці, канфесійныя непаразуменні ды міждзяржаўныя канфлікты, паводле непахіснага пераканання гуманіста, лепш за ўсё, пераадольваць мірным шляхам – праз перамовы і ўзаемныя саступкі. Спрадвечную дылему, што лепей – справядлівая вайна або кепскі мір – ён без ваганняў развязвае на карысць апошняга: "Поготову межы самыми хрестияны покой, хотя бы теж съ кривдою которое стороны учинен был, далеко ест лепъшый, аниж незгода и война справедливая. Бо война завжды не бывает без пролитья крови хрестиянское. А хто ж так безумный будет, жебы мел так злую и непожиточную реч хвалити!? Але покой хотя подчас и съ кривдою альбо зъ ущирбъком маетности и не по воли другого бывает, предся лепшый ест, а ниж война крывавая, несправедливая, а што еще болшого – внутрняя, межи домовниками и въ едином панстве, которое жаден на свете, не только хрестиянин, але и поганин бачный, не хвалит [*Пацей І.* Отпіс... Стб. 1055]. Вайна "выварочвае грунт" пад нагамі народа і дзяржавы. І. Пацей, аднак, зусім не пацыфіст. У сваіх сцвярджаннях ён кіруецца логікай здаровага сэнсу, які падказвае аптымальную мадэль грамадскага суіснавання.

І. Пацей дэталёва раскрывае падзеі падрыхтоўкі і падпісання Берасцейскай Уніі 1596 г. Аўтар акцэнтуе ўвагу на тым, што гэтая справа не была вынікам таемнай змовы вузкай купкі святароў, а мела шырокае кола ўдзельнікаў і прыхільнікаў сярод духоўных і свецкіх асобаў. Як і належала паводле царкоўнага права, найвышэйшыя іерархі Царквы – епіскапы ды мітрапаліт – узгаднялі ўсе найважнейшыя рашэнні, супольна рыхтавалі ўказы ды агаворвалі ўсе дэталі: "Поневаж пастыры церкви Божое, на которых то наболей належало, яко митрополит и владыкове вси, которые тыя привилья в руках своих мели, добре о том ведали и зезволялися на то" [*Пацей І.* Справядлівае... Арк. 8]. Тое ж, што простыя святары не заўсёды мелі вычарпальную інфармацыю, на думку Пацея, зусім лагічна і нармальна. Усялякія пратэсты і абурэнні з гэтае нагоды – недарэчныя і беспадстаўныя, бо адказныя рашэнні ў Хрыстовай Царкве згодна з кананічным правам належыць прымаць акурат епіскапам, а святары мусяць неадмоўна выконваць пастановы: "А о других, молодъших, если бы которые тому противни быти хотели, пытаю: хто ким владает, чы попы владыками, чыли владыкове попами? Которым порадок церкви Божой ест поручоный?" [*Пацей І.* Справядлівае... Арк. 8].

Творчая заслуга І. Пацея як бліскучага літаратара-белетрыста і адначасна выдатнага гістарыёграфа ў тым, што ён памайстэрску асвятліў драматычны перыяд 1590—1613 гадоў. Усведамляючы ўласную адказнасць перад нашчадкамі і гісторыяй, ён узнавіў храналогію падзей, падаў шырокую панараму найважнейшых, вузлавых момантаў сацыяльнай, палітычнай і міжканфесійнай барацьбы, раскрыў сутнасць палемікі на царкоўных саборах і Вальных соймах, характар перамоваў паміж

варагуючымі групоўкамі, абставіны прыняцця лёсавызначальных пастановаў, вызначыў ролю канкрэтных гістарычных асобаў (Канстанціна Астрожскага, Льва Сапегі, Міхаіла Рагозы) у тагачасных падзеях, матывы іх дзейнасці (уяўныя і сапраўдныя), уплыў на царкоўнае ды грамадскае жыццё. Шматлікія факты, акалічнасці і падзеі засталіся вядомыя ў гісторыі толькі дзякуючы яго літаратурнай спадчыне.

Для І. Пацея як майстра слова характэрны анталагізм – імкненне да ўсёахопнасці, паўнавартаснага асвятлення найбольш значных грамадскіх праблемаў, гістарычных працэсаў, жыцця сацыяльных станаў, духоўна-інтэлектуальных пошукаў.

Пісьменнік напоўніцу рэалізаваў барокавы мастацкі *прынцып вычарпальнасці, аб'ёмнасці.* Ён, як правіла, усебакова распрацоўвае малавядомыя і традыцыйныя тэмы, узбагачае іх новымі сюжэтнымі лініямі. І. Пацей не стамляўся кожны раз прыгадваць думкі апанентаў, іхныя аргументы, падаваць шматлікія цытаты з твораў антычных філосафаў і сярэднявечных багасловаў, з-за чаго ўскладнялася архітэктоніка тэкстаў, павялічваўся іх памер.

Амаль ва ўсіх творах І. Пацея ёсць *вызначэнне асноўнай тэмы,* акрэсленне задач і мэтаў, абгрунтаванне іх грамадскай значнасці, раскрыццё ўжытай методыкі ды прынцыпаў выкладу матэрыялу. Гэты кампанент паэтыкі структурна і сэнсава разнапланавы: ён вызначаў межы ўсяго семантычнага блоку, акрэсліваў яго стрыжнявыя лініі, выконваў ролю арыенціра для чытача, рыхтаваў да ўспрымання аўтарскіх ідэй. Разгорнутае або агульнае вызначэнне тэмы магло складацца з некалькіх частак, як, напрыклад, пералічэнне асноўных тэзаў, якія аўтар меў на мэце раскрыць у "Справядлівым апісанні ўчынку і справы сынодавай...": "Перадусім, нібыта тая рэч [Унія. – *І.С.*] новая і ніколі ў тым панстве раней нечуваная. Другое, нібыта праз тую лучнасць пачалі ламацца правы і вольнасці хрысціянскія. Трэцяе, нібыта ў дачыненні да русі чыніцца гвалт, прымус да іншае веры без згоды на тое. Чацвёртае, нібыта ўсе цырымоніі Усходняе Царквы адкідваюцца і ўводзяцца рымскія звычаі. Нарэшце, указваюць як на слушны на нейкі іншы сынод і ўчынкі яго... Здалося мне слушным, дзеля поўнае абазнанасці ўсіх, тую справу, што добра ведаю і на якую сваімі вачыма глядзеў, коратка занатаваць і выдрукаваць" [Арк. 2 – 2 адв.]. Найбольш частае ў творах Пацея акрэсленне мікратэмаў. Кожнаму новаму павароту думкі папярэднічае знакавы сігнал, аформлены рознымі граматычнымі і сінтаксічнымі сродкамі: "А цяпер ужо прыступім да ліста і пацвярджэння папскага...", "Толькі пра ліст яго каралеўскай міласці... трохі распавяду"; "А цяпер што датычыць уладыкаў супастатаў" ды інш.

Наватарскай з'яўляецца скіраванасць пісьменніка на пошук свежай інфармацыі, імкненне да *сенсацыйнасці.* Доказ таму – публікацыя ў "Антырызісе" таемных лістоў князя Канстанціна Астрожскага, у якіх абмяркоўваліся сакрэтныя планы, умовы і прынцыпы міжцаркоўнай Уніі. Аўтар усведамляў усю асабістую небяспеку падобнага творчага кроку, аб чым паведамляў чытачам: "Ведаю, ніхто з найвышэйшых праваслаўных іерархаў мне не падзякуе за тое, што выдаю таямніцу" [*Пацей І.* Справядлівае... Арк. 8 адв.].

Адна з найбольш характэрных рысаў творчага метаду І. Пацея – *палемічнасць,* якая ўключала зазвычай тры кампаненты: а) раскрыццё або інтэрпрэтаванне пазіцыі апанента; б) абвяржэнне, адкідванне памылковага тэзіса; в) аргументаванне, або пазітыўны доказ.

Карэктнасць, як істотны прынцып стаўлення да апанента, прымушала пісьменніка барока дэталёва аналізаваць пазіцыю апанента, паслядоўна выкладаць сістэму яго аргументаў, падаваць асноўныя высновы ў форме пераказу або цытавання, нярэдка з дакладным указаннем нумара аркуша, года выдання твора, месца захавання экземпляра кнігадруку або рукапісу. Своеасаблівым уступам, граматычным сігналам гэтай логіка-семантычнай фігуры з'яўляліся наступныя характэрныя выказванні: "А напервей, на карте 50, пытает Филялет...", "Прыпоминает еще Филялет на карте 41, з листу папежъского, иж...", "Зачынаючы Филялет выкладати лист папежский, напервей...", "Поведает затым Филялет, иж...", "На остатку кладет Филялет..." ды інш. Непасрэдныя каментарыі і выклад меркаванняў апанентаў – Крыштафа Філялета, Клірыка Астрожскага, Стафана Зізанія – займалі ў творах Пацея паважнае месца, што ў нейкай ступені абцяжарвала іх, але, разам з тым, забяспечвала дастатковую фундаментальнасць, выклікала чытацкі давер. Характэрным прыкладам інтэрпрэтавання поглядаў апанентаў можа служыць Пацеева вытлумачэнне ў "Гармоніі" стаўлення евангелікаў да Святой Тройцы: "Евангелікове, правда же тое ж веруют, але недавных лет за веку нашого выкинули были тое назвиско *Тройца,* поведаючы, иж чого въ Писме нет, того и мовити не годится. А потом засе обачывшыся, прыняли тое назвиско. Кому къ воли и за чыим усилованьем – пытайте а доведаетеся".

Для абвяржэння тэзісаў апанентаў і сцверджання ўласнай пазіцыі І. Пацей ужываў шэраг творча-мастацкіх прыёмаў, якія выконвалі ў аналітычна-палемічных тэкстах функцыю аргументаў.

Агульная колькасць дыскусійных тэзісаў (папярэдніх і асноўных) у публіцыстычнай спадчыне І. Пацея набліжаецца, паводле зробленых падлікаў, да трох тысячаў. Яны ахопліваюць актуальныя для таго часу сацыяльныя, грамадскія, царкоўна-гістарычныя, тэалагічныя, біблійна-экзэгетычныя, эстэтычна-мастацкія ды іншыя праблемы.

Сістэму доказаў І. Пацей будуе на агульналагічным падмурку, ужываючы ўсе кампаненты і функцыянальныя элементы універсальнай логікі, вядома, з яе адметным выяўленнем у сферы публіцыстыкі і пісьменства таго часу. Паэтыку твораў Пацея наогул нельга аддзяліць ад логікі, яна надзвычай глыбока ўплецена ва ўсе творы пісьменніка, утварае іх галоўны нутраны стрыжань.

З прычыны недастатковай распрацаванасці агульнай тэорыі аргументавання вельмі складана ажыццявіць навукова-карэктную класіфікацыю *тыпаў аргументаў* у тэкстах І. Пацея. Апраўдана, бадай, праводзіць тыпалогію, зыходзячы з двух крытэрыяў – зместавай напоўненасці і структурнай будовы.

Да найбольш пашыраных тыпаў аргументавання і адначасна мастацка-творчых прыёмаў у І. Пацея належаць гэтак званыя *схаластычныя аргументы* – спасылкі на аўтарытэты. Для яго гэта прарокі, Ісус Хрыстос, антычныя мысліцелі (Катон, Піндар), сярэднявечныя тэолагі (Ян Залатавусны, Васіль Вялікі, Кірыла Александрыйскі, Марк Эфескі, Геранім, Амброжы, Тэртуліян, Аўгусцін, Феафілакт), епіскапы, пытрыярхі (Генадзі Схалярый), папы рымскія (Грыгорый Дваяслоў), візантыйскія імператары. Ён цытуе Гамера, нагадваючы апаненту пра неабходнасць стрыманасці, узаемапавагі ў часе дыскусій: "Беметай же на оные слова посты зацного Гомеруса, еслись их коли читал: "Яково слово речеш, таковое ж и услышиш" [*Пацей І.* Отпіс... Стб. 1045]. У спрэчках з Крыштафам Філялетам пра ролю свецкіх асобаў у вырашэнні духоўных справаў, нормаў царкоўнага жыцця І. Пацей сваю ідэю аўтаноміі Царквы, яе высокі грамадскі і прававы статус падмоцаўвае публікацыяй вытрымкі з недвухсэнсоўнай прамовы Канстанціна Вялікага на Нікейскім саборы: "Пан Бог, поведа, вас поставил иереими и дал вам моц над нами и нас судити. А протож вы нас слушней судити маете, але сами од людей не можете быти сужены, одно самого Бога розсудъку межы собою ожыдайте, и вси тые розницы вашы, якие кольвек суть, до оного узнанья Божого заховуйте. Бо кгдыж вас Пан Бог дал нам за боги – непрыстойная реч, абы чоловек боги судил" [*Пацей І.* Антырызіс... С. 273]. Гэтай жа мэце служыць і пададзенае ў "Справядлівым апісанні..." аб'ёмнае "Пасланне імператара Феадосія Меншага да Эфескага сабору". Некаторыя цытаты, што мелі выключную важнасць, як ліст Папы Рымскага Клімента да праваслаўных іерархаў ВКЛ ад 1596 г., аўтар публікуе і на мове арыгінала, і ва ўласным перакладзе.

Вельмі распаўсюджаны ў творах І. Пацея такі тып аргумента, як *прыклад* – у форме сціслай даведкі або разгорнутага белетрызаванага аповеду. Найчасцей аўтар ужывае гістарычны прыклад. Так, каб давесці думку аб тым, што Унія ў Вялікім Княстве Літоўскім мае глыбокія карані, пісьменнік падае ў "Справядлівым апісанні ўчынку і справы сынодавай" панарамны гістарычны нарыс пра паездку мітрапаліта Ісідара на Фларэнтыйскі сабор 1439 г., яго ўрачыстую сустрэчу кардыналам і біскупам Кракаўскім па вяртанні: "Фларэнтыйскі сынод закончыўся ў 1439 годзе. На ім прысутнічаў гэтаксама і мітрапаліт кіеўскі Ісідар, які меў запрашэнне ад антыяхійскага патрыярха Дарафея і ад сталіцы яго, бо быў ён чалавекам у грэцкім пісьме вельмі вучоным і з'яўляўся не толькі мітрапалітам усяе русі, але й сірыйскім, і панства Венгерскага, як вынікае з яго подпісу на тым сынодзе. Па падпісанні згоды і лучнасці на тым сынодзе, едучы з Влох да русі з тым святым супакоем, на мяжы польскай быў ён урачыста сустрэты кардыналам і біскупам Кракаўскім Збігневам і там жа ў Касцёле Рымскім паводле грэцкага звычаю чыніў Літургію святую, аб чым чытай сабе Меховіцы новую кроніку. Узяўшы тую згоду і лучнасць ды доўга ў ёй трываючы, праваслаўныя здабылі сабе прывілей на царкоўныя вольнасці ў караля Уладыслава" [Арк.3 – 3 адв.]. Аўтар неаднаразова ўжывае ў сваіх творах прыклады з старазапаветнай і рымскай гісторыі, палітычных ды грамадскіх падзей краін Заходняй Еўропы (Англіі, Нямеччыны, Італіі), жыцця знакамітых асобаў (Піндара, Марціна Лютэра), Хрысціянскай Царквы. Даволі часта прыклад аказваецца найбольш пераканаўчым аргументам аўтара. Апраўдваючы пераход беларускіх святароў у падпарадкаванне Рыму, даказваючы першынство Папы Рымскага перад астатнімі епіскапамі, І. Пацей прыводзіць у "Антырызісе" прыклад з жыцця легендарных святароў Усходняй Царквы – Афанасія Вялікага і Яна Залатавуснага, якія таксама прызнавалі ўладу Папы над сабой: "Прото ж не див, же митрополит и зъ владыками утеклися до старшое головы, до которое и сами патрыархове въ кривдах своих утекатися были звыкли, яко Офанасей светый и Иоан Златаустый и иные многие" [*Пацей І.* Антырызіс... С. 194].

Пашыраны тып аргумента ў публіцыстыцы І. Пацея – *юрыдычныя акты* свецкага і царкоўнага права: соймавыя канстытуцыі, прывілеі і універсалы вялікіх князёў, пастановы сусветных і мясцовых сабораў. Аўтар нярэдка асабіста перакладае іх на старабеларускую мову з моваў арыгінала – грэцкай, старaславянскай, лацінскай. Кожны з іх падаецца ў адпаведным кантэксце і суправаджаецца разнапланавымі, дастасаванымі да канкрэтнай тэмы каментарыямі, высновамі. Так, апублікаваўшы ў "Антырызісе" вытрымкі з Уладыслававага прывілею 1443 г., якія спатрэбіліся пісьменніку для дыскусіі аб гісторыі міжканфесійных дачыненняў у ВКЛ, ён падсумоўвае: "Съ которых [прывілееў. – *І.С.*] кождый хрестиянский чоловек достаточне зрозумети может, яко давно тая единость въ тых панствах настала, для которое церквам руским и духовенству их наданы суть волности такиеж, яких ужывают церкви и прелатове и духовенство рымское" [С. 414 – 415]. Не забываецца аўтар і на рэквізіты (дакладныя даты і месца выдання) юрыдычных дакументаў. Публікацыя універсала Жыгімонта III Вазы са станоўчай ацэнкай Берасцейскага сабору 1596 г. заканчваецца фразай: "Которого универъсалу дата у Варъшаве месеца декабра 15 дня року 1596" [*Пацей І.* Антырызіс... С. 176].

Нельга не сказаць пра тое, што І. Пацей, каб сцвердзіць уласнае меркаванне, не спыняўся перад падробкай дакументаў, здзяйсняючы значныя гістарычныя містыфікацыі, да якіх варта аднесці і апублікаваны ім "Прывілей цара Канстанціна Вялікага".

Сярод прыёмаў аргументавання І. Пацей, мяркуючы па ўсім, аддаваў перавагу знакамітаму reductio ab absurdum (звядзенне да абсурду). У палемічных тэкстах Пацея ён выкарыстоўваецца надзвычай часта, што зусім нядзіўна: з функцыянальнага гледзішча гэтая лагічная фігура найбольш прыдат-

ная, бо яе выкарыстанне дае бліскучы эфект. Вельмі ўдала І. Пацей ужыў яе ў палеміцы з пратэстантамі пры абароне тэзіса аб неабходнасці царкоўнай іерархіі: "То сут геретические выкруты, которые Писмо Светое на свою волю керуют, не хотечы мети над собою ни кого старшого, опроч Хрыста. Але вси туть на земли хотят рядити въ церкви Божой. Што если бы такъ было, теды и дворничка Филялетова мает волный голос на соборе, бо теж ест члонком тела Хрыстова" [*Пацей І.* Антырызіс... С. 280].

У творах Пацея няцяжка адшукаць і іншыя тыпы аргументаў:

– указанне на бяздоказнасць сцверджанняў і некарэктнасць меркаванняў ды высноваў апанентаў;

– пытанні з адмоўем;

– адсылка да крыніцы, дзе нібыта пададзеныя дэталёвыя доказы на карысць выказанай ім думкі;

– простае абвінавачванне супрацьлеглага боку ў хлусні ды няшчырасці;

– выкрыццё дробных хібаў і памылак апанента з высновай пра адсутнасць у яго глыбокіх ведаў, а то й наагул усялякіх здольнасцяў;

– пацвельванне з апанента, сарказм, з'едлівыя кпіны ды ўзвальванне на яго тых жа "грахоў", якія той асмеліўся прыпісаць Пацею.

Ролю аргументаў у творах Пацея вельмі часта выконваюць, побач з уласна мастацкай функцыяй, устойлівыя выслоўі, прыказкі і прымаўкі.

Характэрная рыса белетрызаваных твораў Пацея – *аўтабіяграфізм,* які ў пісьменніка канца XVI– пачатку XVII ст. меў досыць спецыфічныя праявы і ўласцівасці. На першым месцы знаходзіцца апісанне сваёй публічнай дзейнасці: удзел у падрыхтоўцы Уніі і падзеях Берасцейскага сабору; выкананне абавязкаў берасцейскага суддзі і кашталяна; наведванне соймаў і палітычная барацьба; ліставанне з урадоўцамі, духоўнымі асобамі, паплечнікамі і сябрамі.

Адзін з важных прынцыпаў канструявання тэксту для І. Пацея – *зварот.* Аўтар звяртаецца да апанентаў, чытачоў, свецкіх асобаў, святароў, Пана Бога. Семантыка зваротаў вельмі багатая. У іх просьбы, напаміны, пытанні, заклікі, маленні, ушчуванні, дакоры, папярэджанні, асуджэнні, пакепліванні, абразы і інш.

Герменеўтыка *персанажаў* І. Пацея мае пэўныя асаблівасці. Пісьменнік абмалёўвае толькі рэальных гістарычных асобаў, рэалізуючы лінейную схему: а) асабістыя рысы персанажа (сацыяльны і грамадскі статус, род заняткаў); б) характарыстыка справаў і ўчынкаў; в) грамадскае і гістарычнае значэнне дзейнасці. Кантрастны падзел герояў на станоўчых (Міхаіл Рагоза, Канстанцін Астрожскі) і адмоўных (Ерамія, Нікіфар Тур, Крыштаф Філялет, Клірык Астрожскі, Гедэон Балабан) вызначае тыпалогію мастацкай вобразатворчасці. Так, невядомы маршалак Берасцейскага праваслаўнага сабору 1596 г. атрымаў наступную яскравую характарыстыку: "А ижесте его меновати встыдалися, я повем, хто был – геретик спросный, горшый ниж аръриянин, атеиста, который ничого не верил и по епикурску живот свой проводил" [Антырызіс... С.55].

І. Пацей – непаўторны майстар слова, таленавіты стыліст. Паводле функцыянальна-жанравага крытэрыю ў яго пісьмовай спадчыне вылучаюцца наступныя *тыпы стыляў:* аналітычна-публіцыстычны, катэхітычны, прапаведніцкі, мемуарна-белетрыстычны і панегірычны. І. Пацей належыць да ліку тых творцаў, хто адным з першых у гісторыі беларускага прыгожага пісьменства зрабіў (вядома, у практычнай сферы) надзвычай важнае мастацка-эстэтычнае адкрыццё, сутнасць якога ў тым, што ўвесь свет – гэта бязліч знакаў, невычэрпная крыніца для сімвалатворчасці, утварэння шматлікіх *тропаў.* Гэтым закладваўся "код" барокавага мастацтва, які прадвызначыў магістральны шлях развіцця літаратуры наогул.

У творах І. Пацея ўжываюцца самыя розныя тыпы тропаў – метафары, метанімія, параўнанні, эпітэты, сінекдаха, літота, гіпербалы, перыфразіс, антанамасія, эўфемізмы, алегорыі. У якасці аб'ектаў для ўтварэння пераносных значэнняў выступаюць разнастайныя з'явы і прадметы:

– жывёльны свет (звяры, птушкі, рэптыліі, насякомыя, рыбы): *заяц, змяя, варона, сава, вужкі, шэршань.*

– прадметы ўжытку (побытавыя, канфесійныя) і акаляючыя рэчы: *акуляры, камень, фундамент, ярмо.*

– ежа: *піва, мёд, пірагі.*

– касмічныя целы і з'явы прыроды: *сонца, вецер.*

– вайсковы рыштунак: *тарча, кулі.*

– біблійныя і гістарычныя персанажы: *Аўрам, Лазар, Цыцэрон, Канстанцін Вялікі.*

– міфалагічныя істоты і паганскія багі: *Цмок, Атропа.*

– рэлігійныя святы: *татарскі мясапуст.*

– тэрміны, што абазначаюць сацыяльныя і сваяцкія адносіны: *пан, дзедзіч, матка.*

Побач з прадметна-рэчавым светам асновай для вобразатворчасці служаць дзеянні, працэсы, учынкі, пачуцці: *паліць, мыць, прарастаць, садзіцца, замыкаць, шчыпаць, вылятаць, кахаць, штрафаваць, грызці, красці, каркаць, смажыць, лямантаваць, даходзіць, схаваць, дакляраваць.*

Нарэшце, апошняя група – зборныя, адцягненыя і абстрактныя паняцці: *ежа, зброя, яд, скарб, смецце.*

Семіётыка тропаў разнастайная: яны ахопліваюць шырокі семантычны спектр і выконваюць у тэкстах Пацея шматлікія стылістычна-экспрэсіўныя функцыі. Так, І. Пацей выкарыстоўвае разгорнутую алегорыю, якая ўтрымлівае некалькі сімвалаў-вобразаў – "атрута", "салодкі мёд", "мухі", з мэтай выкрыцця пратэстанцкіх настаўнікаў, якія нібыта маюць ад свайго вучэння толькі асабістую карысць: "Бо где бы ся еще тая *трутизна* тым *медом* не осолодила, певне бы ото тые убогие *мухи* на неи не льнули" [Антырызіс... С. 124]. Каб падкрэсліць няўважлівасць апанента, І. Пацей ужывае сімвал "акуляраў", якіх К. Філялет не меў, калі чытаў ягоную кнігу: "Але ты подобность на он час *окуляров* не мел, колись тые слова мои читал, жесь их недобре зрозумел" [Отпіс... Стб. 1057]. Уласныя вострыя словы, скіраваныя супраць апанента, І. Пацей называе "нясмачнай ежай". Вобразы "саламяных стрэльбаў" і "гарохавых куляў" сімвалізуюць слабасць, неправанальнасць крытыкі з боку пратэстанцкіх і праваслаўных аўтараў на яго адрас. Каб узвысіць ролю, паказаць унікальнае гістарычнае значэнне універсала Жыгімонта III Вазы, што быў выдадзены з нагоды Берасцейскай уніі, І. Пацей праводзіць паралель паміж ім і універсалам Канстанціна Вялікага, падрыхтаваным пасля Нікейскага сабору. Паспяховы вынік выкрыцця фальсіфікацый К. Філялета, які апублікаваў лісты Папы Рымскага з уласнымі купюрамі, І. Пацей параўноўвае з паляваннем на зайца: "А правда, пане Філялете, жем тя тут, яко *заеца* выткнул!" [Антырызіс... С. 227]. Да вобраза зайца, яго здольнасці заблытваць сляды пісьменнік звяртаецца і ў іншым кантэксце, каб абмаляваць творчую манеру апанента, сумбурны выклад ім у "Апокрысісе" вытрымак з яго лістоў: "Бо и въ перъшых листех, *яко заец пред собаками тропил,* след тераючи" [Антырызіс... С. 146].

З мастацкіх *фігур* І. Пацей найчасцей выкарыстоўвае *антытэзу.* Супрацьпастаўленні выкарыстоўваюцца ім з наступнымі мэтамі:

– ухвалення міжцаркоўнай лучнасці: "Хто яе кахае і прагне – той ад Бога і можа звацца сапраўдным вучнем Ісуса Хрыста. А хто бегае ад згоды і міласці хрысціянскае і порыць яе, таго можна называць д'ябальскім сынам і ерэтыкам" *(Сын Божы і вучань Хрыста – д'ябальскі сын і ерэтык)* [Справядлівае... Арк.1 адв.];

– выкрыцця памылак тэалагічнай дактрыны пратэстантаў, якія паразумеліся з праваслаўнымі "турка-грэкамі": "Въ которой болшей упору своего и вымыслов а баламутни теперешъних турко-греков, а ниж властное правды наследовали" *(вымыслы, баламутня – праўда)* [Антырызіс... С. 197–198];

– выразнага акрэслення мэтаў царкоўнага сынода: "Жебы ся тот сынод не на разоръванье якое, але на утверъжение згоды могл беспечъне зложыти" *(разарванне – згода)* [Антырызіс... С. 145].

Дэманструючы бліскучыя здольнасці стыліста, І. Пацей свабодна ўжывае мноства іншых фігур, якія надавалі яго мове каларыт: антыфразіс, гульню слоў (asteia), пералічэнні, аксюмаран, гратэск, анафары, паралелізм, рытарычныя пытанні, сінанімічныя пары і шэрагі назоўнікаў *(баламутня і нябыліца; крыўды і ўціскі; пакой і парадак),* дзеясловаў *(заступіцца і замовіць, ганіць і штрафаваць; згвалціць і парушыць; ведаў і бачыў),* прыметнікаў *(мілы і добрасумленны),* прыслоўяў *(уніжана і слёзна; слушна, прыстойна, праўдзіва).*

Пры выбары лексем І. Пацей пазбягае нейтральных слоў, аддаючы перавагу *стылёва-экспрэсіўным сродкам выражэння.* Вельмі часта пісьменнік ужывае жартаўлівыя, пагардлівыя, асуджальныя, іранічныя, ласкальныя словы. Нярэдкая ў палемічных творах грубая, абразлівая лексіка. Пратэстанцкі малельны дом у яго – "шопа ерэтычная"; удзельнікі Берасцейскага праваслаўнага сабору – "духоўныя супастаты", "чужаземцы", "гаспадарскія зрайцы", "вырадкі", "атэісты", "арыяны"; пастановы і ультыматумы дызунітаў – "вымоўкі", "плёткі" "безыменны картэлюш"; іншыя веравызнанні – "баламутня", "сцызма", "спросныя ерасі".

Непаўторнасць аўтарскаму почырку І. Пацея надавалі народныя *прымаўкі, прыказкі ды ўстойлівыя выслоўі, сентэнцыі,* што ўжываліся пераважна ў палемічных блоках: "Які суддзя, такі і дэкрэт яго", "Рады не рады, а мусіш"; "Апёкшыся на малацэ, на ваду дзьме"; "Сам сябе сваім козікам пілуе"; "Што дзень – то навіна, што чалавек – то вера"; "Што поп, што просты халоп"; "На злодзею шапка гарыць"; "Паказаў, якога цэха рамеснік"; "Не забірайце таго, чаго не давалі".

Тэксты І. Пацея маюць вельмі высокую ступень *рытмічнай* арганізаванасці, што ўтваралася за кошт падобнай метрычнай будовы колнаў, амаль роўных паводле колькасці складоў перыядаў і пераважна дзеяслоўных гамеатэлеўтаў (сугучнасці канчаткаў). Гэта выразна відаць на наступным прыкладзе з "Антырызіса":

"Абы Филялетову неправду обачым,
яко он слова листу папежского выврощает,//
и справы пастыря вселенское церъкви Хрыстовы невстыдливе штрофует,//
и все што ест доброго на злую сторону оборочает и нищует,//
а што потребнейшого опущает и минает [С. 210–211].

Вельмі значны ўклад І. Пацея ў рэфармаванне і развіццё старабеларускай *літаратурнай мовы.* Ён па сутнасці зрабіў рэвалюцыю ў лінгвафілалагічнай сферы на лексіка-марфалагічным, правапісным, сінтаксічным і стылістычным узроўнях. У аснову сваёй літаратурнай мовы пісьменнік паклаў лексічны фонд і граматычныя асаблівасці народнай мовы, дыялектаў усходнеславянскага арэала, пераважна тых, што ўваходзілі ў склад ВКЛ. Назіранні паказваюць на прысутнасць у яго тэкстах царкоўнаславянскага лінгвістычнага пласта. Сапраўды, ён лічыў зусім апраўданым захаванне царкоўнаславянскай мовы ў якасці мовы набажэнства. Казанні і гаміліі І. Пацей пісаў і прамаўляў, аднак, на "простай мове". Зусім выразная тэндэнцыя, характэрная для ўсёй літаратурнай спадчыны І. Пацея – інтэнсіўная замена царкоўнаславянскага сінтаксічнага і асабліва лексіка-марфалагічнага фонду на дыялектна-гутарковыя, народныя формы: назоўнікаў *(разарванне, згода, гвалт, крыўда, пакора, няволя, рада, шаленства, артыкулы, абаронца, плёткі),* прыметнікаў *(малёваныя, уласны, нязвыклы, лепшы, чужы),* дзеясловаў *(жадаюць, злажыць, прыходзілі, прагнулі, дзякаваць, згаджацца, ганіць, прызнаваць),* прыслоўяў *(бяспечна, справядліва, пільна, шчыра, непрыстойна).* Сваім творчым прыкладам І. Пацей адкрываў, такім чынам, грандыёзную мастацка-эстэтычную перспектыву для наступнікаў – стварэння публіцыстычных і белетрызаваных твораў на літаратурнай мове, з густам апрацаванай і ўнармаванай паводле дамінантаў жывой вусна-гутарковай традыцыі.

Іван САВЕРЧАНКА

Кастусь ТАРАСАЎ



*На сцягу ягонага бацькі быў сокал-рарэг,
а сцяг перайшоў да яго ад дзеда, і дзед дзеда быў рарэг.
Іхны род – род сокалаў;
яны цярплівыя, яны мужныя, яны бязлітасныя.
На досвітку ён, Даўмонт, стане для Міндоўга такім рарэгам.
Год давялося чакаць гэтага палявання.
Такога палявання, як гэтае, яшчэ не было на Літве.
Праз вякі будуць пераказваць старыя сваім унукам,
як рарэг Даўмонт забіў ваўка з імем Міндоўг...*

# АПОШНЯЕ КАХАННЕ КНЯЗЯ МІНДОЎГА

*Аповесць*





*Дачцэ Ганне*

1

Напярэдадні купалля ў лясах паблізу ад мазавецкае мяжы прыпыніліся на кароткі начлег перад наездам пятнаццаць тысяч коннай літвы і русі. Каб вецер не прынёс мазурам выратавальны для іх знак, абозныя на загад вялікага князя забаранілі кметам раскладаць вогнішчы. Адзіны на войска агонь цепліўся ля намёту Міндоўга; каля гэтага вогнішча радзіліся ўдзельныя князі, якія прывялі свае палкі і дружыны. Вялікі князь даводзіў ім задуму наезду. Міндоўг казаў, што яны мусяць адпомсціць мазурам за іхны ўдзел у леташнім крыжовым паходзе на прусаў і жмудзь. Палкі павінны прайсці смерчам праз мазурскія вёскі і мястэчкі ў бок Плоцка і недзе ля Віслы сустрэць князя Земавіта, калі той паспее сабраць сваё войска...

Князёў ля агню, у крывавым полымі якога грэлася боства вайны, было разам з Міндоўгам семнаццаць, усе яны, апроч вялікага князя, былі паголеныя, як патрабаваў таго малады ўзрост; сівы, барадаты Міндоўг выглядаў сярод іх дзедам, які склікаў моладзь для навучання поспеху і ўдачы на ўласным досведзе. Аднагодкі і старыя паплечнікі князя даўно пайшлі з жыцця, у крузе з ім, шасцідзесяціпяцігадовым, сядзелі іхныя сыны. За выняткам трох яцвягаў, усе даводзіліся вялікаму князю сваякамі, хоць і яцвяжскія князі, пры жаданні адшукаць з ім роднасць, былі б сваякамі па жонцы. Жмудскі князь Трайнат быў сястрыніч, полацкі князь Таўцівіл і віцебскі князь Едзівід – братанічы, гальшанскі князь Гердзень – стрыечны братаніч, крэўскі князь Даўмонт, самы малады з князёў у гэтым паходзе, таксама пляменнік, але траюрадны. Міндоўг вылічыў, што Даўмонту толькі крыху перайшло за дваццаць. Дзяволтаўскія князі Люмбель, Лугайла і Гаторп сядзелі на такіх малых удзелах, што сваяцтва патрабавала ўспамінаў пра дзядоў трэцяга калена. Са сваякоў не было на гэтай вайсковай радзе толькі зяця, Шварна Данілавіча, але ён вёў свой холмскі полк на мазаўшанаў па Бугу ад Берасця.

Вялікі князь паведаміў цяпер тое, што раней трымалася ў таямніцы: адначасна з імі пойдуць на мазураў з поўначы прускія дружыны Геркуса Мантуса. Іхная першая мэта – Цеханаў. Літва, жмудзь і яцвягі рухаюцца на Візну і па Нарэву – на Пултуск. У сутоку Нарэва з Бугам яны сустрэнуцца з валынскай руссю Шварна, а напрыканцы паходу спаляць галоўнае гнездзішча мазураў – Плоцк. А тады пойдуць дамоў з палонам і лупамі...

Мажліва, нагадаў Міндоўг пра лёс, нехта з іх не вернецца. Таму і трымае літва старадаўні звычай паважнай размовы перад наездам, што хтосьці назаўжды застанецца ў чужой зямлі, а хто – зараз невядома. Нехта адзін ці некалькі з семнаццаці бачыць, слухае ўсіх і сам гаворыць з усімі апошні раз. Магчыма, гэта будзе ён, вялікі князь Міндоўг, ці малады Даўмонт, ці мужны Трайнат, ці зяць вялікага князя Шварн, ці яцвяжскі ўладар Скамонд. Невядомасць лёсу вызначана для чалавека багамі. Пасля іхнага прысуду багіня смерці ставіць на азначанае сэрца пячатку апошняга дня. Ніхто не гіне раней ці пазней часу, акрэсленага багіняй. Сёння яна значыць тэўтонскіх прыхвасняў – мазураў, і наезд пакажа, каго з іх яна меціла магільным знакам...

Паляну, на якой стаяў намёт, гарэў агонь і радзіліся князі, аточвала варта, а навокал днявала пяцітысячнае наваградскае апалчэнне – самае вялікае ў агульным войску і адданае Міндоўгу За плячамі князя сядзелі два верныя яму баярыны: наваградскі ваявода Сірвід Рушковіч і разанскі выгнанец Астап – палявы ваявода ў паходах, найбліжэйшы князеў радца ў мірны час. На гэтай сустрэчы абодва назіралі, каб ніхто з княжатаў раптам не выцягнуў з похваў меч. І сам Міндоўг, і абодва ваяводы ведалі, што з шаснаццаці князёў сама меней трое ненавідзелі яго і пры зручным выпадку не марудзілі б забіць, астатнія прынялі б такі ўчынак без абурэння, а можа і ўхвалілі б. Але зручнага выпадку заўжды насцярожаны Міндоўг не дапускаў. Наезд таіў небяспеку і для княжатаў. Вялікі князь меў шырокія магчымасці падставіць усялякі ўдзельны полк пад знішчальны ўдар мазураў. Міндоўгу і малым князям трэба было затойваць нянавісць і непрыязнасць у сэрцы на будучыню. Але розум не заўсёды адужвае пачуцці...

Вялікі князь нагадаў маладым паплечнікам, што вадзіў сваю літоўскую дружыну на мазураў яшчэ паўвека таму. Пэўна, яму было тады менш гадоў, чым зараз Даўмонту. Іхныя бацькі таксама былі маладыя, і вось гэтаксама ўсе збіраліся ля вогнішча паслухаць старэйшых князёў. Добрыя тады ладзілі наезды, суцішылі мазурскі запал, ад адных толькі словаў «Літва ідзе!», «Яцвягі йдуць!» праймала мазураў жахам. А потым Конрад,бацька іхнага цяперашняга князя Земавіта, бяссільны абараніцца сваімі кметамі, запрасіў у памагатыя крыжакоў, падараваў ім землі, выдзеліў крэпасці, і зноў пайшоў на яцвягаў. Летась разам з немцамі мазавецкія палкі ўпершыню пайшлі вынішчаць жмудзь, прусаў, дайнову. Моцна памыліўся князь Земавіт, братаючыся з белымі плашчамі. Таму і пазначае мазураў у гэты час Мерцва. Мазоўша дапамагала крыжакам, цяпер яму давядзецца паплакаць крывавымі слязьмі і заплаціць сваім дабром...

Напамінак пра лупы ажывіў непраглядныя твары князёў, якія не маглі забыцца на нядаўняе сяброўства вялікага князя з тымі самымі крыжакамі. Немцы падаравалі Земавіту яцвяжскія Судавы, а хто ж падараваў немцам Жмудзь? Ці не Міндоўгава пячатка вісіць на дарчай грамаце? Лепш не згадваць пра мінулыя гады і сканалых князёў – тыя крыжакам такіх дарункаў не рабілі. Яны, іхныя сыны, зараз самі ідуць у наезд, а найпершая мэта наезду – лупы. Што здабудуць – тым узмацняцца. Багатыя лупы – удача князёў, залог адданасці палкоў, дзеля іх і рызыкуюць жыццём простыя кметы. Цяпер князі ўзважвалі і запаміналі, што жадае ўзяць сабе, што пакінуць ім іхны важар. А Міндоўг, бачачы ў вачах князёў хуткую змену ўхвалення на злосную нязгоду ці крыўду, думаў, што зашмат у гэтай княжацкай зграі галодных ратоў. Няўжо ўсе жывыя прыйдуць з наезду? – думаў ён. Хоць бы трацiну з іх пабілі мазуры, абараняючы свае двары. Гэтыя саслабеюць, тыя знядужаюць – меншы клопат на ягоную галаву...

Задуманае пакаранне Мазоўша патрабавала, апроч знішчэння войска і паселішчаў, забраць конскія табуны. Князі абумовілі, што пагоняць табуны стаёўнікі з іхных абозаў, а пасля паходу коні будуць падзеленыя адпаведна сіле прыведзеных палкоў, але чвэртку коней возьмуць Міндоўгавы канюшыя ў табун вялікага князя. Абознікі вывезуць збожжа і сена. Рыцарскія даспехі і зброя, узятыя ў бітвах, застануцца пры тых, хто ўзяў; зброя, захопленая ў гарадах, пойдзе палкам, што бралі гарады, але чвэртка трапіць у збраёўню вялікага князя. Таксама і Міндоўг падзеліцца лупамі, якія возьмуць яго літва і навагардская русь. Быдла, калі хто мае патрэбу, пагоніць сам, пры сваіх абозах.

Дамовіўшыся, што палон і абозы з лупамі для дзяльбы трэба сцягваць да Ваўкавыйска, князі раз'ехаліся ў свае палкі і дружыны. Тут кметы ўжо разбіралі з вазоў свае панцыры і дзіды, мацавалі да сёдлаў паходныя торбы з запасамі харчу і пустыя мяхі пад здабычу. Хто вастрыў меч, хто правіў лук, а ўсё падрыхтаваўшы, клаўся спаць, каб досвіткам бадзёра сядзець на кані.

2

Ранкам пятнаццаць тысячаў наезду перайшлі на рысях мазавецкую мяжу. Трапяталі ў паветры чырвоныя палкавыя сцяжкі, калыхаліся пастаўленыя пяткай на стрэмя дзіды, і трывалыя літоўскія коні паскаралі хаду пад рэзкія выгукі кметаў – «Хо!», «Хо!». Неўзабаве пачалі сустракацца на шляхах войска мазурскія вёсачкі, і сотні, што ішлі наперадзе, спяшаліся вычышчаць двары ад мужыкоў, гвалціць дзевак і збіраць убогія лупы – вопратку, посцілкі, зерне, кажухі. Наступныя дружыны рухаліся далей, разыходзіліся развілкамі да такіх жа асуджаных на разбурэнне вёсак.

Удзень ваяры Трайната ўзялі Візна, дзе захоўвалася даніна навакольнага жыхарства плоцкім касцёлам. Не марнуючы часу, кметы спустошылі засекі і клеці, разрабавалі капліцу, вывелі коней, перабілі большыню мужыкоў і, пакінуўшы за плячамі зруйнаваны замак, паімчалі на Пултуск.

Ды ўсіх не заб'еш. У нейкую шчыліну праслізгвае хітры ўдачлівы мазур і нясецца галопам ад месца бойні да бліжэйшага жылля з крыкам «Ратуйся! Наезд!», а адтуль разлятаюцца вестуны да суседзяў. Сярод такіх удачлівых апынуўся візнаўскі кашталян Якуб. За два дні ён дабраўся да Плоцка, і князь Земавіт даведаўся, што прыйшлі навагардская русь і літва, а іншыя ўцекачы паведамілі пра прускую навалу і пра русінскія палкі Шварна Данілавіча. Рабуюць, рэжуць, гвалцяць, паляць, пасля іх – ні коней, ні кузні, ні збожжа, ні стажка жывёле.

Земавіт пачаў збіраць войска, аднак хутка з'ехацца ўладары не маглі – трэба было затоіць у лясах сем'і, быдла, схаваць зерне і нажытак. Паціху падыходзілі дружыны з Завіслення, а ў абыход літоўскіх палкоў падкрадваліся дробныя рыцарскія аддзелы. Толькі праз два тыдні Земавіт здолеў вывесці пад сваім сцягам войска ў пяць тысяч мячоў, з якім і пайшоў насустрач Міндоўгу. Земавітава жонка, княгіня Гертруда, засталася ў Плоцку, прыняўшы на сябе ўмацаванне замка і горада перад магчымай аблогай, калі бітва раптам будзе прайграна і князю давядзецца хавацца за сценамі, пакуль не прыйдуць посілкі з Малапольшчы. Рыцарскага аддзела Земавіт жонцы не пакінуў, і абаронцамі Плоцка засталіся мяшчанцы і навакольныя весняк, што шчыльна набіліся ў горад. Чамусьці ім верылася, што за плоцкімі гароднямі пад крылом княгіні працей уратавацца ад літоўскага ліха, чым дзе-небудзь у пушчанскіх гушчарах, на недаступных выспах сярод дрыгвы. Разлікі, што на абарону польскіх хрысціянаў ад паганскага нашэсця зараз жа рушыць Ордэн, не спраўдзіліся – немцы ці не былі падрыхтаваныя, ці не жадалі ваяваць Міндоўга сіламі ордэнскіх братоў. Можа, яны і цешыліся з бедстваў мазурскіх земляў.

Заступіўшы шлях Міндоўгу пяццю тысячамі войска паблізу Варшавы, Земавіт меркаваў перамагчы: ягоныя рыцары былі апранутыя ў добрую браню, палова рыцарскіх лучнікаў мела дальнабойныя кушы, за іх плячамі засталіся сем'і, яны пакляліся перад Богам не адыходзіць. Князь зразумеў, што пераможаны, калі лава жмудзінаў з баявым клічам «Локіс! Прэнкі!» навалілася на левае крыло, шалёныя яцвягі і полацкая русь Таўцівіла і Едзівіла пачалі адціскаць правае, а з тылу палкі Гердзеня і Даўмонта замкнулі атачэнне і з крыкам «Нальша! Сокал! Бі!» выціснулі мазурскую сярэдзіну пад стрэлы і мячы навагардцаў і літвы. Праз гадзіну мазавецкае войска трацінай палегла на поле сечы, а большынёй здалося. У палон трапілі і князь Земавіт, і ягоны васемнаццацігадовы сын Конрад. З літоўскіх князёў пацярпеў у бітве толькі Міндоўгаў пляменнік, князь Едзівід. Яго, працятага кап'ём, паклалі на калёсы і павезлі ў абоз.

Палонных падзялілі: знакамітых і важных рыцараў, Земавіта і Конрада, узяў Міндоўг, астатніх, хто абяцаў выкупіцца, паразбіралі князі, а шараговы палон адразу атрымаў працу – капаць роў для забітых. Яны і пачалі капаць абломкамі мячоў, назіраючы, як на залітым крывёю полі, на дыване з літоўскіх і мазавецкіх мерцвякоў, распачалася жорсткая бойка сярод пераможцаў за каштоўную здабычу – шчыты, панцыры, шлемы, зброю. Нарэшце, брудная лаянка і мардабойства русі, літвы ды яцвягаў раззлавалі Міндоўга, ён крыкнуў, што загадае павесіць усіх, каму свярбяць рукі. Ведаючы вернасць князя свайму слову, кметы хуценька рассеяліся, а мерцвякоў спрытна аблупіла навагардская дружына.

Вялікі князь разумеў, што другое войска Мазоўша ўжо не збярэ; заставалася папаліць галоўныя асяродкі мазураў і даць Земавіту дзеля змацавання подпісам і пячаткай мірную дамову. Апошняе Міндоўг вырашыў выканаць пасля захопу Плоцка, адкуль меркаваў прывезці Земавітаву жонку і ягонага другога сына. Ваяводу Рушковіча з літвой і нальшанцаў князь выправіў на Вышаград, палку Шварна Данілавіча загадаў ісці на Чэрвіньск; сам жа Міндоўг, даручыўшы Астапу ахову свайго палону, узяў маладога Конрада закладнікам і павёў літоўскую русь і яцвягаў да Плоцка.

Атачаць горад, страшыць княгіню Гертруду забойствам яе сына перад замкавай брамай Міндоўгу не давялося. Княгіня, ратуючы жыццё малодшага сына, палічыла за лепшае не злаваць літву абаронай гарадскіх сценаў. Пакінуўшы замак, яна разам з княжычам Баляславам паімчала ў Кракаў прасіць дапамогі. Уцёкі княгіні Гертруды пазбавілі плоцкіх абаронцаў волі, і горад скорана расчыніў браму. Ціхмянасць мяшканцаў не ўратавала іх ад лютасці пераможцаў. Яцвягі Скамонда прагнулі помсты: мазуры мусілі зведаць на сабе тое, што зведалі яцвягі ад мазавецкіх наездаў на іхныя лясныя гарадзішчы. Яцвягам было што прыгадаць на вуліцах Плоцка: смерць сваіх сямідзесяці князёў, згвалчаных выданніц і маладзіц, народжаных імі вырадкаў, якіх прыходзілася кідаць у багну, вогнішчы замест вёсак, безліч сваякоў, забраных

мазавецкімі ўладарамі для цяжкай працы ў сваіх гаспадарках...

Плоцкае жыхарства сустракала заваёўнікаў стоячы на каленях, але гэтая пакорнасць абуджала ў яцвягаў замест літасці лютасць: «Во хітрыя морды! Стаяць авечкамі! Пахавалі скарб і дзевак!» І ваярства, што ўвесь паход марыла аблупіць мазавецкую сталіцу і паказаць мазурам дзе ракі зімуюць, кінулася па дварах здзяйсняць свае намеры. Ксёндз касцёла Панны Марыі, які спрабаваў святым крыжам спыніць уварванне паганцаў у асвячоныя сцены, быў узняты кметамі на дзіды і пад рогат таварышаў паляцеў, нібы падбітая варона ў кучу гною. І гэты касцёл, і астатнія тры былі дашчэнту абадраныя. Мужчын, што ратаваліся ў храмах, падзялілі на дужых і нямоглых: першых пагналі ў абоз на працу, нямоглых і старых пазбівалі да паўсмерці. Маладых мазуранак адразу ж згвалцілі; а якая з дзевак надта пужалася і прасіла злітавацца, тую ганьбілі мноствам, прымаўляючы дзеля большай знявагі: «Глядзі, як гэтая полька просіцца! Яшчэ хоча!» Маткам, што малілі аб літасці да іхных дачок, адказам былі кпіны. «Гэта што, не міласць? Вашыя мужыкі нас забівалі, а мы кожнай дзеўцы дзіця стараемся падараваць!» Па ўсіх падпамосцях, скляпах, паддашках і гарышчах пераможцы прайшліся як мятлой. Урэшце абрабаваны, зняважаны горад запалаў; наваградцы і яцвягі доўга цікавалі, як адлюстроўваюцца ў Вісле магутныя агні. Адзінае, аб чым шкадаваў Міндоўг, былі ўцёкі княгіні Гертруды – уся мазавецкая сямейка магла сядзець у ягоным кулаку і падпісала б якія заўгодна ўмовы міру. Але і вызваленне Гертруды, суцяшаўся князь, абяцала карысць – прыйдзецца княгіні выкупляць з палону дарагога сына і мужа.

У тыя ж дні жмудзь Трайната спустошала Уяздаў, князь Даўмонт і Сірвід палілі Вышаград, затое Шварн Данілавіч не ўтрымаўся ад шкоды Міндоўгу, ад дзікунства, якое кідала на вялікага князя ганебны цень і памяншала выкуп за ягоны палон, – Шварн забіў Земавіта. А ранкам, ацверазеўшы, хутка павёў сваіх русінаў на Чэрвіньск, каб не каяцца перад цесцем. Міндоўг зрываў злосць на Астапе – чаму недагледзеў? «Як упільнуеш, – апраўдваўся разанец. – Каму ж гэта ў галаву прыйдзе палоннага князя мячом секчы!»– «Каму! – раз'юшыўся Міндоўг. – Зяцю майму! З чаго звар'яцеў?» – «П'яны быў, – тлумачыў Астап. – Сказаў Земавіту: «Што, мазурскі недабітак, трапіў у сіло?» А той у адказ: «Не ў тваё, недавярак!» І ўсё. Як пачуў пра недавярка – імгненна здзічэў!» Міндоўг злосна ўздыхаў: «Ну і зяцёк! Ну і дапамога!» – «Лёс, відаць, такі быў Земавіту, – вырашыў спаслацца на незямныя сілы Астап. – Лёс ніхто не аспрэчыць!» – «Што ты вярзеш, – уз'юшыўся Міндоўг. – Які лёс? Гэта, што, лёс – Шварн з віном у галаве замест мазгоў? Забіў, а што карысці? Земавіту было выкупляваться, прысягаць, што з немцамі парве. Усё пусціў дымам. Дурань напіўся, а мы ўдачу згубілі!» Другой непрыемнасцю стала смерць Едзівіда ў абозе. Тут князь не злаваўся, крыху засмуціўся і прамовіў Астапу: «Шкада! Я, калі ён быў малы, на руках трымаў, на кані вучыў сядзець. Не склалася ў яго са мной прыяцельства. Я на смерць яго пасылаў, ён на мяне вайной хадзіў. Нядоўга ён у Віцебску пакняжыў. Вось гэта, Астап, сапраўды лёс!» І забыўся на братаніча, разважаючы над вынікамі недарэчнай гібелі Земавіта. Увечары ён абвясціў аб заканчэнні наезду

Палкі заспяшаліся да Ваўкавыйска, дзе іх чакалі абозы з лупамі і палон. Тут, атрымаўшы належныя долі табуна, зерня, жалеза і палонных, усе спехам развіталіся да наступнага наезду і шпарка павезлі набытак у свае двары.

Праз некалькі дзён вялікі князь уязджаў у наваградскі замак. Перад брамай яго сустракалі княгіня Марта і два сыны. Кожнаму з сыноў Міндоўг падараваў нажы, узятыя ў пасечаных асабіста польскіх рыцараў, а жонка атрымала ў падарунак срэбранае люстэрка з разрабаванай скарбніцы плоцкага касцёла Панны Марыі. Даўшы жыхарству пагладзець на мазавецкага княжыча, багатых мазураў і мазуранак, варта замкнула палон у замкавых каморах. Яшчэ гадзіну чэлядзь зносіла ў клеці княжацкую долю здабычы. Міндоўг у гэты час парыўся ў лазні, здымаў з сябе стомленасць ад паходу. Увечары за святочным сталом ён апавядаў жонцы і дзецям пра ўдачы наезду, пра карысць, якую атрымае Наваградак ад разгрому мазураў, пра п'янае шаленства Шварна, помсту яцвягаў за бацьку Марты, пра выкуп, які дашле за сына княгіня Гертруда, пра мазурскія азёры і прыгажосць Віслы каля горада Плоцка. Потым дзяцей адправілі спаць. Міндоўг застаўся з жонкай і пачаў лашчыць яе, і прызнаваўся, як моцна сумаваў па ёй у паходзе, а зараз шчаслівы і кахае яе.

3

Ноч апускалася на Наваградак, і густы змрок ахутваў заслонай сну замак на ўзгорку, мураваную вежу, вадзяны роў, святыя дубы на паляне за ровам, царкву Барыса і Глеба, гарадскія двары, глушыў зыкі, і ў гэты таямнічы час прайшла скрозь замкавую сцяну і нячутна пракрочыла па двары суровая пасланка багоў – смерць. Коні, адчуўшы яе, спужана заржалі, але яна не спынілася каля іх, і тыя, супакоеныя, сціхлі ля сваіх ясляў. Смерць увайшла ў княжы дом, дзе гарэла свечка, і на шырокім ложы ляжаў князь Міндоўг, чакаючы жонку, а Марта, стоячы ля сцяны насупроць мужа, глядзелася ў срэбнае люстэрка і расчэсвала косы.

На імгненне ў пакоі дыхнула холадам, замігцеў агеньчык свечкі і варухнуліся цені. Княгіня Марта здзіўлена зірнула на дзверы і раптам здрыганулася, упусціла грабеньчык, адчайна ўскрыкнула «Рэпік!» і на вачах ашаломленага князя павалілася на падлогу.

Марту паклалі на ложа, намаганні скліканых знахарак нічога не змянілі, на твары княгіні ўжо праступілі знакі тагасветнасці, і ўрэшце бабка, здольная чытаць такія знакі, сказала Міндоўгу, што ягоная жонка памрэ да світання.

На скроні ў Марты ўздрыгвала блакітная жылка – адзіная прыкмета жыцця. Міндоўг прытуліўся спінай да сцяны, паклаў рукі на калені і аддаўся смутку.

Горасць блізкай разлукі з жонкай перанесла яго на дванаццаць гадоў назад, у зімовы дзень, калі ён прыехаў да Вішымунта Булевіча. Лютыя маразы трымаліся ў тую зіму, груганнё наскрозь прамерзла ў сваіх гнездзішчах, снег зацвярдзеў, як масніцы, ноччу і ўдзень рэзала вушы адчайнае выццё згаладалых ваўкоў. Вось у такі дзень яны скакалі да Булевіча, і лёс узнагародзіў яго Мартай. Толькі ўвайшла яна ў пакой, дзе яны грэліся з дарогі, толькі ветлівая ўсмешка асвятліла ейны твар, толькі пачуў яе імя – Веда, і ў імгненне адчуў, што перад ім – ягоная жанчына, што з ёю будзе шчаслівы.Праз месяц ён наехаў на Булевічаў, забіў у баі Вішымунта, забіў ягоных братоў Ердзівіла і Спрудзейку і забраў Марту да сябе, у Наваградак. І яна нарадзіла яму двух сыноў.

Згадаўшы пра дзяцей, Міндоўг сказаў каморніку прывесці Рэпіка і Руклю.

Так склалася, што Марта была Вішымунтавай жонкай. Дый калі б ягонаю жонкай была гарбатая і крывая старая, ці калі б наогул не меў жонкі, Вішымунт усё роўна быў на гэтым свеце непатрэбны. Булевічы былі асуджаны на смерць у той дзень, калі наваградцы запрасілі яго, Міндоўга, баявым князем. У тым 1246 годзе Вішымунта, пэўна, толькі пачалі лічыць дарослым хлопцам і ўпершыню ўзялі ў наезд. Ён нічога не ведаў пра Марту, яна – пра яго, а ён, Міндоўг, ужо ведаў, што Булевічаў прыйдзецца знішчыць. Булевічы княжылі ў Дайнове, а землі Дайновы былі патрэбныя яму. Межавыя камяні, якія паставіў іхны дзед ці прадзед, апынуліся на яго, Міндоўгавым, шляху. Згінулі Булевічы – яго сіла памножылася, і Веда перайшла ў ягоны дом.

Дванаццаць гадоў ён адчуваў яе плячо, верыў ёй, радаваўся яе пахвалам, слухаў ейнае дыханне, яно супакойвала яго, яе любоў сцвярджала праўду ягоных учынкаў. Яна была яцвяжка і не баялася смерці. Але памерці, як ад удару нажом, за два крокі ад ложа, у трыццаць гадоў! Вось на яе скронях б'ецца жылка, але гэта ўжо не жыццё і не сон. Смерць абакрала яго, забірае жанчыну, без якой ён будзе пакутаваць. На свеце шмат жанчын – прыгожых, лагодных, клапатлівых, гатовых кахаць. Але надта мала такіх, каго багі надзялілі душою княгіні. Яго першая жонка, прызначаная яму бацькам, была дачкой цверскага князя. Яна пражыла з ім дваццаць гадоў, нарадзіла яму сына Войшалка і дачку, але ніколі не пачувала сябе шчаслівай. І ён сябе з ёю таксама. Яе памяць была скіраваная на Цвер, да бацькоў, да нейкай цверскай царквы, дзе ў дзіцячыя гады яна самазабыўна і шчасліва малілася, а жанчына, якая не можа адхіліцца ад мінулага, не мае быць шчаслівая, адчуваць радасць і радаваць блізкіх. Ён быў ёй родны, але не стаў каханым. Можа, і родным не быў, а быў муж... Потым жонка захварэла і памерла, і чатыры гады ён жыў без княгіні, а жанчыны, якіх ён запрашаў на ложа, не ўмелі закрануць душу. Пакідаючы ўранку дом, яны не заставаліся ў памяці.

Прывялі сыноў. Рэпік і Рукля падышлі да маці. На іхных тварах Міндоўг прачытаў, што ім страшна, – але маці была жывая, яна спала. Спасцігнуць, якая страта іх чакае, зараз яны не маглі: Рэпіку дзевяць гадоў, Руклю – дзесяць. Праз месяц яны пачнуць сумаваць па маці, а ноччу будуць сніць яе і плакаць.

Але хто не бядуе, той не жыве...

Яна марыла ўбачыць сваіх унукаў, а ўжо не можа разняць павекі, каб паглядзець апошні раз на Рэпіка, падобнага на яе, паглядзець на Руклю, падобнага на бацьку. У Рэпіка залацістыя валасы, блакітныя, вясёлыя, крыху хітраватыя вочы. Рукля такі, якім быў ён, Міндоўг, паўвека назад – рухі ў яго імклівыя, у зялёных вачах, калі яго прымушаюць, шугае дзёрзкасць, ён любіць біцца з аднагодкамі, старанна вучыцца царкоўнаму і лацінскаму пісьму, бо прагне пахвалы.

Міндоўг паказаў сынам на лаўку, тыя селі і, на прыклад бацькі, застылі, аддаючыся змрочнай невядомасці.

Для Марты ён быў не толькі князь і муж – ён быў удачай яе лёсу. І яна для яго была ўдачай лёсу – гэтая жанчына з яркімі сінімі вачыма, залацістай касой, не льняной, як ва ўсіх, а залацістай, як паветра ў сонечны дзень. Марта здолела адхіліцца ад мінулага і таму сама стала шчаслівая, і ён адчуваў сябе з ёю шчаслівым. Яна ўгадвала ягоныя думкі, ён ведаў, пра што думае яна. Не кажучы ўголас ані слова, яны чулі адно аднаго. Марціны вусны зараз шчыльна сціснутыя, яна не можа сказаць свой запавет, але ён ведае – яна шкадуе Рэпіка і Руклю, шкадуе сябе, асуджаную пакінуць гэты свет, замак, гэтае ложа, шкадуе яго, свайго мужа, якога аточыць пустэча, горасць страты адзінага сябра.

Было шмат ворагаў, што прагнулі ягонай смерці. Яны злучаліся, прыводзілі свае войскі, ён біўся з імі, уцякаў ад іх, вытрымліваў аблогі ў літоўскіх цвердзях, яму здраджвалі, супроць яго малілі сваіх багоў валыняне і немцы, татары і жмудзіны, а Марта заўсёды заставалася з ім, падтрымлівала яго ў тым, проці чаго падымаліся злосныя тугадумныя малыя князі. Такая жонка бліжэй за роднага брата, раднейшая за бацьку. Бацька – мінулае жыццё. Як уваходзіць чалавек у дарослыя гады, так і забываецца бацька, застаецца ў сваёй прошласці і тваім дзяцінстве. У маленстве бачыш яго дужага і любіш яго, і марыш стаць гэткім жа дужым, а потым бачыш яго сівога, саслабелага і думаеш: час ужо бацьку адпачываць. І слова старэйшага брата таксама робіцца не ўказ, калі з'яўляецца ў цябе свая дружына. З бацькам, Даўгердам, а пазней са старэйшым братам Даўспрункам ён хадзіў у набегі на валынь і мазураў Тады ён любіў Даўспрунка. Тады і брат любіў яго, як моцны сваяк любіць слабейшага. Але прыходзіць дзень, калі словы «старэйшы», «малодшы» страчваюць сэнс – што аднаму брату з таго, што другі брат раней з'явіўся на белы свет? Малая падстава для таго, каб быць паслухмяным. Перад пачуццём, што ўлада павінна быць тваёй, нічога гэтая розніца ў гадах не азначае і нічым не абавязвае. Толькі маці пра гэта ніколі не забываецца, памятаючы, каго першага, каго астатняга нарадзіла і ўзгадавала. Няма ў старэйшых братоў заслугі ў тым, што іх на год раней зачалі. Ён, Міндоўг, быў малодшы, але атрымаў больш розуму, сілы і волі. Багі так пажадалі! Каб ён нікога не слухаўся – ні старэйшых братоў, ні старэйшых князёў, а слухаўся выключна сябе і сам сабе радзіў. Тых старэйшых князёў даўно няма на свеце, але яны напладзілі сыноў, дружыну дробных князёў, якія адзін аднаму зайздросцяць, адзін аднаго не любяць, і ўсе разам ненавідзяць яго. Гэтае княжае пустазелле ён прарэдзіў, частку яшчэ звядзе, а рэшткі схільныя да пакоры. І Марта згаджалася, што вялікаму князю інакш нельга. Бо інакш не атрымаць Руклю бацькоўскі наваградскі сталец.

Ён зірнуў на дзяцей, яны засыналі. «Пакладзі іх, – сказаў князь каморніку, – і ўсе ідзіце, хачу пабыць адзін». Сыноў павялі, усе бабы і чэлядзь выйшлі. Князь застаўся з жонкай.

Зараз у яе свой балючы клопат: развітваючыся з жывымі, яна непакоіцца: як Рукля і Рэпік, малыя дзеці, застануцца без яе? Хто паклапоціцца пра іх, хто пашкадуе, хто суцешыць? Канюшыя? Бабкі? Ваявода Сірвід? Гаротна ёй, што яны застануцца сіротамі, бо не можа іх бацька замяніць ім маці, як бы ні намагаўся. Ён, князь Міндоўг, вымушаны ад'язджаць, ачольваць войска, ставіць сябе пад ўдар мяча, пад сякеру, колт з нямецкага куша. Ніхто не ведае, калі і дзе прызначана сустрэцца са смерцю. Хто мог падумаць, што Марце наканавана сёння ўначы? Ці магла яна сама днём думаць, што ноччу будзе паміраць. Прыцемкамі, калі ўзыходзіў маладзік, і пазней, калі запалілі свечку, калі яна ўзяла грабеньчык і распусціла косы, яна не дапускала думкі, што ўсміхаецца мужу і бачыць яго астатні раз. Крык болю – і нічога апрача ўспамінаў. Ён ужо ўспамінае, і гэтак будзе кожную ноч. Ён ляжа, дакранецца рукой пасцелі, і там, дзе заўсёды спала яна, – нікога, халодная посцілка. Старая кашчавая Мерцва не ведае літасці, для яе ўсе ворагі. Яна помсціць усім, хто нараджае жывое. Ён быў шчаслівы з Мартай, а Марта была шчаслівая з ім. Старую Мерцву прыслалі забраць у іх радасць.

Раптам Марта адкрыла вочы. Міндоўг нахіліўся да яе, прачытаў у вачах нейкую просьбу, жаль, страх. Ён шаптаў: «Што, Марта, што?», але шчыльна сціснутыя, абяскроўленыя жончыны губы не растульваліся. Гладзячы яе рукі, ён пачуў горасны развітальны ўздых і адчуў сябе адзінокім, асірацелым, і заплакаў, што скончылася іхнае шчасце на гэтым свеце.

Князь выйшаў на двор. Высока над зямлёй мігцелі вераснёўскія зоркі. Прыжмураным вокам звера здаўся князю серп месяца. У гэтую цемру і холад адышла зараз Марта, пакінуўшы Наваградак, замак,дзяцей і свайго мужа. Міндоўг падышоў да карыта каля канавязі, нахіліўся і апусціў галаву ў ваду. Яна была халодная, і ў ёй растварыліся ягоныя слёзы. Міндоўг абцёрся рукавом кашулі і сказаў ціха ўсім, хто быў блізка: «Памерла княгіня. Няма ў мяне жонкі».

У дом заспяшаліся рабіць сваю справу бабкі, пачалі сядлаць коней ганцы да сваякоў нябожчыцы і суседніх князёў з весткай пра бяду, якая напаткала вялікага князя і яго сыноў.

4

Старэйшы князеў сын Войшалк, у манастве – Раман, маліўся ў манастырскай цэркаўцы, калі за парканам аб'явіўся бацькаў вястун. Пачуўшы пра смерць мачахі, Войшалк адгукнуўся звычнымі словамі: «Прымі, Божа, на спачын яе душу!» У тым, як гучалі гэтыя словы, чулася ягоная абыякавасць да бацькавай сям'і. Войшалк адпусціў ганца, да перапыненай малітвы не вярнуўся, а пайшоў у келлю, дзе аддаўся развагам: ці варта ісці за дваццаць вёрст у Наваградак на пахаванне? Нічога з гэтай жанчынай яго не звязвала. Агульным у іх быў князь Міндоўг – яе другі муж, ягоны бацька. Яна лічылася ягонай мачахай, ён – яе пасынкам, што заўжды дзівіла яго недарэчнасцю, бо мачаха была маладзейшая за пасынка гадоў на дзесяць. Хутчэй, паводле ўзросту ён мог быць для яе старэйшым братам ці мужам. Але яна нарадзіла яго зводных братоў, якія падыходзілі яму ў дзеці. І хрысцілася яна ад немцаў разам з мужам, калі князь Міндоўг прымаў каралеўскую карону. А ў рускую не ахрысцілася, хоць і стаіць блізка замка старая мураваная царква святых Барыса і Глеба. Мужава воля: загадаў – ахрысцілася. Але хоць і не праваслаўнай веры, ды ўсё ж хрысціянка, і Госпад не выракацца яе: усё ж мацней за князя яна ў Ісуса Хрыста ўверавала і год таму ўпрошвала мужа не расхрышчвацца і не руйнаваць драўляную лацінскую капліцу ў Наваградку. Не радавалася яна адыходу князя ў старадаўнюю цемру. Зноў павыпаўзалі з розных шчылінаў паганскія старызны – сядзяць на камянях, курам галовы скручваюць, у вантробах адказы пра лёс чалавечы шукаюць. Груган які са страху каркне – для іх вестка ад багоў, так растлумачаць, што ўсю ноч даверлівы прасцяк дрыжыць. Магчыма, гэтая Марта разумнейшая за свайго мужа была, цягнула яго да Бога, ды не здолела – надта ўпарты князь Міндоўг. Цяпер Госпад яе на вечны спачын прымае. Нялёгка ёй было пражыць дванаццаць гадоў з другім сваім мужам, які першага забіў, а яе, удаву забітага, прыняў пад свой дах. Божа, уздыхнуў Войшалк, даруй ім усім, хто блукае ў цемры, падкажы ім шлях да Твайго святла. І мы малой сваёй сілай будзем Твае слова несці да тых, хто здольны зразумець. Ды няшмат здольных, большыня – авечкі бязглуздыя, ідуць туды, куды пастух гоніць. А пастух для іх – князь Міндоўг, сам Хрыста выракся, каб сумленне за грахі не грызла. Дык нашто ісці ад спакойнай малітвы, чыстага свайго скіта ў паганскі замак? Пахаваюць Марту і без яго.

Так вырашыўшы, Войшалк пакінуў келлю дзеля гаспадарчай справы. Манастыр быў малады, пазалетась закладзены ім і архімандрытам Елісеем блізка Нёмана, каб і лесам сюды хадзілі і па вадзе маглі прыплыць. Усё ў манастыры рукамі брацііі зроблена, а брацііі разам з ім, ігуменам, усяго пяцёра. Паміж малітвай, беднай

трапезай ды кароткім сном інакі ўвесь час у працы. Хто працаваць не любіць, таго і Бог не можа палюбіць. Войшалк узяў сякеру і пайшоў за агароджу высякаць кустоўе, каб шырылася навокал манастыра чыстае поле. На стук сякеры прыцягнуліся астатнія інакі і да прыцемкаў церабілі лес. Сабраўшы ў кучу галлё, запаліла брацція агонь, і доўга ў маўчанні ўсе вакол вогнішча стаялі, кожны пра сваё смуткуючы. Ужо дагараў касцёр, калі Войшалк падумаў, што і жонку сваю нябожчыцу князь Міндоўг, саступаючы просьбам куразабойцаў, можа адправіць на неба з дымам, як патрабуе старая вера. А Марта, няхай і лацінскай веры, усё ж была хрысціянка. І палон, які князь прывёў з мазурскага наезду, таксама могуць часткова спаліць на агні дзеля захавання старажытнага звычаю. А палонныя, хоць і палякі, людзі хрышчоныя.

Гэтая асцярога запала ў душу, і ранкам Войшалк, адчуваючы ўскладзеную на яго Богам адказнасць, вырашыў пайсці развітацца з Мартай і ўберагчы нябожчыцу і мазураў ад знявагі, калі князю параяць такое дзікунства ягоныя замкавыя ведзьмары. Войшалк памаліўся, з'еў лустачку хлеба, папіў вады, узяў кій і выйшаў за манастырскую брамку. Накрапваў халодны дождж. Неба зацягнулі цёмныя хмары без адзінага прасвету. Дажджыла ўсю ноч – лясная дарога раскісла і на ёй стаялі лужы. Ісці пайдня да Наваградка дажджом па лужынах не хацелася. Святыя месяцамі так хадзілі, паспрабаваў благаславіць сябе на паход Войшалк, але і запярэчыў сабе, што не крыж веры нясе бацьку, а малое спачуванне і параду не грашыць вогнішчам. Пойдзе пешшу – прыйдзе мокрай варонай. Ён вярнуўся, асядлаў каня, накрыўся апанчой і зарысіў у бок Наваградка.

Вузкая лясная дарога пятляла сярод пагоркаў ці ўзбіралася на іх там, дзе ў нізінах стаялі балоты. Паветра было насычана пахам папараці. Лес нібы вымер: ні голасу птушкі, ні шолаху звера. Усе пахаваліся ў свае гнёзды, дуплы, норы, логавы, чакаючы лепшага надвор'я. Сыдзе вада, зямля будзе трымаць пахі, і тады выйдзе на след зайца лісіца, скочыць на касулю рысь, пачне ўпартае паляванне на дзіка воўчая дружына... Гэтае замірэнне ў лесе, заспакойваючы шолах дажджу выклікалі ў князя хваляванне, ён адчуваў глыбокую пашану да таямніцаў Творцы.

Падымаючыся на верхавіну ўзгорка і бачачы далёкае восеньскае шматквецце пушчы, Войшалк спыняўся і сузіраў прыгажосць свету. Божа, удзячна думаў ён, Ты мяне прасвятліў. Хто я быў раней – ашалелы, крыважэрны звер. Насіўся б увесь свой век дарогамі, ад двара да двара, сек бы галовы, як рабіў у маладыя гады. Злейшага ворага для людзей тут не было, чым я. І горшых ворагаў для мяне не было, чым іншыя людзі, тут народжаныя. Так забойствамі захапляўся, што нават бацьку вусцішна рабілася думаць, каго на свет нарадзіў. Хоць сам і быў за прыклад. А маці плакала аба мне перад старадаўняй цверскай іконкай. Сумавала, што ў пекла траплю і буду там вечна гарэць за такія грахі. Ікона тая, падараваная ёй бацькамі пры ад'ездзе да Міндоўга, вісела на покуці, і гарэла заўжды перад ёй лампадка. Але і бацька, князь Міндоўг, і ён, сын нячулы, глядзелі на воблік Ісуса, на той іконе ўвасоблены, як на рэч жаночай гаспадаркі, накшталт калаўрота, за якім маці сядзела зімовымі вечарамі разам з іншымі жанчынамі. Не мог князь Міндоўг сесці за прасніцу, не мог ягоны сын Войшалк ткаць ручнік за кроснамі. Ужо пазней, калі давялося бацьку ў Наваградку хрысціцца ў рускую веру паводле дамовы з праваслаўным баярствам і здабываць сродкі на мураваную Барысаглебскую бажніцу, дык іншым разам і ён побач жонкі нешта мармытаў перад тым абразом, нахіліўшы галаву. Маці шаптала шчырую малітву, а што было зместам бацькавага мармытання перад вобразам Збавіцеля, і ўяўляць не хочацца. Ніводнай малітвы не ведаў і не вучыў апроч «Божа, дапамажы мне!». Цяпер іконка тая ў сястры, у Холм разам з ёй пераехала, калі бацька аддаў сястру за Шварна Данілавіча дзеля замацавання міру пасля некалькіх гадоў вайны. А цяпер, бывае, так ужо хацелася б памаліцца разам з маці, пастаяць на каленях перад тым старажытным абразом, ды не вяртае Госпад на зямлю тых, каго прыняў у нябесныя Свае грады.

Войшалк глядзеў на хмары, мысленна прасякаў глыбіні неба і дасылаў Госпаду Богу свой шэпт: «Божа міласцівы, даруй мне маю нячуласць да той, каго Ты прызначыў нарадзіць мяне на гэты свет. Каюся перад маці. Супакой яе, Божа, калі яна не чуе раскайныя словы свайго сына. Цяпер усё тое спаўняю, што хацелася ёй пры жыцці ўбачыць: малюся, узгадваю яе, не пачутую, не зразуметую ні мужам, ні сынам...»

Малітвы маці былі пачутыя, і ён, Войшалк, стаў відушчы. Спраўдзіліся тыя нашэптаныя над ім маленні, калі ён засынаў, а маці сядзела над ім і малілася, і напявала яму, і марыла ўголас аб ягоным шчасці, яго славе і дапамозе яму ад сілаў нябесных. Вось і здзейснілася: зрубіў ён манастыр, ходзіць у царкву, шануе Нараджэнне і Уваскрэсенне Хрыстова, ды маці нічога ўжо не бачыць і не можа стаяць побач з ім. Цяпер ён ігумен Раман. Манах. А манах, тлумачыў яму ў Паланецкім манастыры старац Пархомій, азначае па-грэцку адзінокі. Сам сабе гаспадар, толькі Богу слуга. Усе людзі рабы Божыя, ды не ўсе слугі яму. Бо манах служыць духоўна, а людское жыццё адмаўляе. І таму суконны клабук больш моцны, чым шлем, і больш шанаваны. Хто шлем носіць, той далей, чым на палёт стралы, нічога не бачыць. Поспеху сваіх крывавых учынкаў радуецца. Нікчэмная гэта радасць – несціся наперадзе, наставіўшы дзіду, каб іншаму рабу Божаму вастрыё ў грудзі ўсадзіць. А вось у рыззі, з кіем у руцэ, з мірам на сэрцы – так апосталы хадзілі невідушчых у відушчых абарочваць. А сляпыя імчаць на конях, у браню апранутыя, у шлемах з лічынамі, у пальчатках, уцяжараных жалезам. Сам так гойсаў дарогамі, і браню апранаў, і глядзеў на ўсё скрозь шчыліны ў каванай лічыне – надта пыхлівы быў, нічога пра сілу духоўную не разумеючы. Адурвае ўлада мяча, як віно, і цяжка ацверазець ад ап'янення крывёй...

Выехаўшы з лесу, Войшалк убачыў за паўвярсты наперадзе ў полі дзесятка паўтара вершнікаў пры зброі. Усе былі ўкрытыя накідкамі, і разгледзець, што там за людзі, Войшалк не мог. На скрыжаванні дарог конныя спыніліся і пачакалі яго. Зблізку Войшалк пазнаў нальшанцаў і сярод іх жонку крэўскага князя Агну. Самога Даўмонта Войшалк сярод вершнікаў не прыкмеціў. Павіталіся, паехалі ў Наваградак разам. Нальшанцы, прамоклыя да ніткі, ахвоты да размовы не выказвалі, а можа стрымлівала іх ад пытанняў манаская раса. Не свой – чужое веры. Маўчала і княгіня, што ехала развітацца з сястрой. Прыглядаючыся да Агны, перахапіўшы позірк сініх вачэй, Войшалк уразіўся падабенству маладшай сястры з Мартай. Хто не бачыў абедзвюх разам, падумаў ён, не паверыць, што такое магчыма. Хутчэй паверыць, што Марта ажыла. Такія ж самыя вочы, нос, шчокі, выраз твару. Прыгожая маладзіца. Пашанцавала Даўмонту. Ён не утрымаўся сказаць княгіні:

– Ты на сястру надта падобная.

– Так, – згодна кіўнула Агна, – мы з ёй як блізняты. Толькі я на дзесяць гадоў пазней нарадзілася. Бацька жартам дакараў маці, што аднолькавых дзевак родзіць.

Войшалк ведаў, што бацька яе, яцвяжскі князь, загінуў у бітве з палякамі. І маці тады ж забілі пры аблозе іхнага гарадзішча. Відаць, і Агна пра гэта прыгадала, і гутарка абарвалася...

У горадзе Войшалк найперш паехаў да магілкі маці каля царквы. Ён апусціўся на калені і пераказваў свае раскайныя словы, узгадваючы дзень, калі замест капца, цяпер зараслага травой, тут зеўрала яма і шамацелі аб дамавіну развітальныя жменькі зямлі. Тады і князь Міндоўг тут сумаваў. А заўтра будзе стаяць над магілай другой жонкі. Усё праходзіць, падумаў Войшалк, праўда ў Бібліі напісана. Адпакутавала сваё маці. Адпакутавала сваё на гэтым свеце і Марта. Што ў яе на сэрцы рабілася, калі князь Міндоўг яе мужа забіваў? Сам удавой зрабіў, сам жонкай назваў. Цяпер сам пахавае. А ці любіла яго Марта? Ці прыцярпелася? Ці першага мужа цярпела? А можа, ні першага, ні другога не любіла, а толькі дзетак сваіх, Рэпіка і Руклю? Сыноў яна ў сваім улонні вынасіла, у пакутах нарадзіла, а што муж? За першага бацькі аддалі, другі гвалтам узяў. Цяпер ён зноўку удавец, толькі ўжо стары...

Шкада стала Войшалку бацьку і двух сваіх малалетніх братоў, і ён пайшоў у замак сказаць кожнаму словы суцяшэння.

Яму падказалі, што бацька ў каменнай вежы. Па стромкай лесвіцы Войшалк падняўся на другі ярус.

У князевым пакоі панавалі сырасць і змрок. Дзве байніцы ў таўшчэзнай сцяне былі зачыненыя аканіцамі, праз трэцюю цадзілася цьмяным промнем святло шэрага дня, а з чацвёртага боку аддзяляла пакой ад сходаў дубовая сцяна з непраломнымі акаванымі дзвярыма. Князь Міндоўг сядзеў за сталом са сваім радцам, разанцам Астапам. «Спачуваю табе, бацька, – сказаў Войшалк. – Шкада мне тваю

жонку». Князь уздыхнуў і пачаў расказваць, як раптоўна Марта сканала. «Яна і хацела так, – казаў ён. – Заўсёды гаварыла: добра б памерці ходзячы, а лежачы, у доўгіх пакутах, не хачу». – «Ходзячы лепш, – пагадзіўся Войшалк, – ды не час ёй быў паміраць». – «Жыць ды жыць, – кіўнуў Міндоўг, – але ж вось – як у сечы: раз – і няма чалавека. Размаўлялі, смяялася, спаць збіралася, і раптам крыкнула «Рэпік!» – і ўсё, адышла, толькі сэрца адлічвала апошнія хвіліны». – «У смерці не спытаешся, – задуменна адгукнуўся Астап. – На дварэ бабіна лета прамінула, а яна сваё бабіна лета не пражыла. У прыгожых нядоўгі век».

– Сястра яе прыехала, – сказаў Войшалк, пакідаючы без увагі цьмяныя словы разанца.

– Ведаю, – сказаў князь. – Дажджом ехала. Бачыш, і неба плача, шкадуе Марту...

Размова на гэтым вычарпалася. Размаўляць пра нешта іншае было не да месца, ды і не было пра што. Чым заняты і заклапочаны Войшалк у манастыры, Міндоўга не цікавіла, і нашто яму было пытацца. І Войшалк не спытаў пра бацькавы справы. Вярнуўся з наезду жывы, прывёў палон, памножыў табун, набіў каморы лупамі – усё як раней. Калі ёсць што на сэрцы – сам паведае. Абодва спусціліся ўніз і пайшлі ў пакой, дзе ляжала нябожчыца.

5

Пад вечар выпала хвіліна, калі на кухні сышліся разам Міндоўг і тры браты. Рэпік і Рукля тужліва пазіралі на пустое месца побач з бацькам, дзе звычайна сядзела маці. Гэтая незанятая частка лаўкі цяпер азначала разбурэнне іх гнязда, нейкую сілу супроць якой усе былі бяссільныя, пралом, з якога цягнула холадам і смуткам. Войшалку было тужліва, што ягоныя браты – далёкія ад яго дзеці: ён нават не можа памаліцца разам з імі аб вечным спачыне іх маці. З бацькам яго разлучаюць розныя, як змрок і святло, жаданні і справы. І ніколі яны, чацвёра, нават калі скажуць адны і тыя ж словы, не зразумеюць адзін аднаго. Пэўна, і ўбачыцца зноў ім наканавана на чыімсьці чарговым пахаванні. А Міндоўг, пазіраючы на трох сваіх сыноў, пра іх не думаў, а смуткаваў аб жонцы: ці даўно Марта карміла тут яго і дзяцей, а цяпер ляжыць і па ёй галосяць. Князь прыгадаў, што яе сястра ўвесь дзень няетая, і паслаў Рэпіка па цётку. Хутка ўвайшла Агна, і апынуліся яны ўсёй раднёй разам, толькі дачкі князя Міндоўга, роднай сястры Войшалка, не было з імі, але яна і не магла прыехаць на пахаванне з далёкага Холма. Села Агна на краі стала, але неяк адразу паменшала суму, нібы аднавіўся на кароткі час неабходны чын жыцця. Агна прамаўляла: «Ты паеш, Рэпік! Падсілкуйся, Рукля!», і голас яе гучаў падобна да голасу Марты.

Войшалк прыкмеціў, што і бацька падбадзёрыўся.

– Дзе пахаваеце? – падступіўся ён да важнай для сябе справы.

– Ну дзе, каля царквы, – адказаў князь. – Марта хацела бліжэй да царквы. І калі апошнюю волю шаптала, не забылася наказаць.

– А што, – здзівіўся Войшалк, – была апошняя воля?

Міндоўг чамусьці пакрыўджана паглядзеў на яго і кіўнуў

– А пра што казала сястра? – спыталася Агна.

– Яшчэ не час выконваць, – адказаў князь. – Вы не пытайцеся. Сам скажу, калі час надыдзе.

– Калі ж надыдзе? – зацікавіўся Войшалк, адчуваючы ў бацькавых словах затоеную небяспеку.

– Заўтра! – вычарпальна і незадаволена, нібы дакраналіся да ягонай святыні, сказаў князь.

Усе памаўчалі, нібыта не выяўляючы сваёй цікаўнасці да таямніцы.

– Мазураў нікога не вызваліш у памяць Марты? – не забыўся Войшалк на свой абавязак.

– Пры чым яны да яе? – адхіліў такую магчымасць Міндоўг. – Няхай парадуюцца, што накормяць з памінальнага стала.

У Войшалка іншых пытанняў не было, і зноў усе сядзелі моўчкі.

– А ведаеце, – вырашыла парушыць сумнае маўчанне Агна, – мне Веда жыццё аднойчы ўратавала. Мне гадоў пяць ці шэсць было. У маліннiку гадзюка мяне ўкусіла. Веда зубамі кавалак шчыкалаткі з ранкай змяінай, як клешчамі, выдрала, на ўсё жыццё рубец застаўся, напамінак ад яе аб выратаванні. Мне страшна было, ведала, што ад гадзюкі паміраюць. А Веда атручанай крыві набярэ поўны рот і на траву выплюне. Усе яе потым хвалілі, а мяне, калі ачуняла, маці набіла, каб пад ногі глядзела...

– І мяне ратавала, – адгукнуўся Міндоўг. – Чуццё мела на розных злыдняў. Едзем якой дарогай, а на раздарожжы яна кажа: нельга, княжа, направа ехаць, бяда там чакае. Пасылаю кметаў разведаць – сапраўды, засада затаілася. А калі была вайна з Данілам Галіцкім і ганяліся за намі русіны і Едзівіл-нябожчык, дык, ведаеце, як мы цябе, Рэпік, і цябе, Рукля, ратавалі? Я напярэдзе з мечам, яна ззаду, вас абодвух пад пахі, павады ў зубах, яшчэ і моліцца, каб конь нагі не зламаў. Не ўсякі кмет так паскача.. І няма яе. Ужо не паскача. Хоць бы хто мне сказаў, што гэта такое – смерць. Жыве чалавек, кахае, пяе, клапоціцца – і некуды адыходзіць. Куды? Толькі ты не кажы, – спыніў ён Войшалка, прыкмеціўшы жаданне таго нешта сказаць, – ведаю я пра нябёсы вашыя, рай, грахі і святых. Толькі ўсё гэта з чужых словаў пераказваюць, на ўласныя вочы ніхто не бачыў, ніводзін чалавек адтуль назад не прыйшоў. Што ў нашай дзедаўскай веры, што ў вашай, што ў нямецкай – усе роўны век жывуць і аднолькава паміраюць. А куды потым? Ці ўбачымся калі? Марта верыла, што ўсе сустракаюцца там, наверсе. Цяжка гэта мне ўявіць, ды хачу, каб гэтак было. Можа, і мы з ёй там убачымся... Ну добра, – абарваў сябе князь, – на памінках усё прыгадаем. Хлопцам маім трэба хоць крыху адпачыць...

Агна выйшла разам з дзецьмі.

Войшалк і Міндоўг засталіся за сталом. Абодва зноў доўга маўчалі і моўчкі разышліся. Міндоўг пайшоў сядзець пры Марце, а Войшалк у камору – паспаць.

Здавалася Войшалку, што як ляжа на салому, дык адразу праваліцца ў сон, а прылёг – не ідзе сон. Прывідзелася Марта з цягучай невядомасцю сваёй апошняй волі, а ўслед пачалі паўставаць у памяці вобразы людзей, якія даўно сканалі. Чамусьці ён пачаў лічыць іх, загінаючы пальцы, і гэты лік, узрастаючы, пераходзіў з рукі на руку, пакуль ён не збіўся. Ён успамінаў іх і дзівіўся, што некаторых прыгадвае ўпершыню пасля іх смерці, а іх ужо гадоў дзесяць ці больш як няма. Некаторых і згадваць не мелася падставы – некалі прайшлі яны каля яго ці хвіліну скакалі побач, і ніколі ніводнаму з іх ён не сказаў ані слова, але вось зараз іхныя твары выразна паўставалі з мінулага. Нашто яны абудзіліся? Нашто прыйшлі ў гэтую начную пару і стаяць перад вачыма – ні яго сябры, ні яго ахвяры? Узгадаўшы пра сябрую, ён і ўбачыў іх – інакаў Паланецкага манастыра, дзе правёў тры гады. Першы год было цяжка перажыць – няпроста з князёў у манахі навяртацца. А прыйшлося зведаць тую навуку. Закладнікам пакінуў яго ў сябе князь Даніла Раманавіч пасля прайгранай Міндоўгам вайны. Міндоўг саступіў Навагрудак ягонаму сыну Раману, а Ваўкавыйск і Слонім, яго, Войшалка, удзелы, таксама Раман узяў. Лічылася толькі, што над Раманам князь Міндоўг вяршэнствуе, а на справе давялося князю Міндоўгу тры гады ў родных Ашмянах і Вільні сядзець. І сястру тады аддалі за Раманава брата Шварна. Не надта разумны, Раман стаў гэткі ганарлівы, што пашлюбаваўся з аўстрыйскаю герцагіняю і ў нейкі Нойбург да сваёй жонкі пайшоў прымаком. Ды нядоўга яго там цярпелі, і мусіў ён разам са сваёй немкай вярнуцца ў Навагрудак. Ды ўжо тут княгіню з імем Гертруда, з нямецкім крыжам прыняць не маглі. Тут за час ягонай аўстрыйскай вандроўкі князь Міндоўг узмацніўся, Рамана паланіў і трымаў у каморы, пакуль Даніла не выкупіў. Не пайшлі на карысць князю Раману чужыя ўдзелы. А для яго, Войшалка, з Божае волі, ліха дабром абярнулася. Блага было ў манастыры першы год, але прасвятліў яго старац Пархомій. Шырокі свет вачам адкрыўся. І пыха знікла: на досвітку з інакамі ўставаў, і маліўся, і двор мятлой падмятаў, і дровы для печы з лесу на спіне цягаў, а перапісваць з святых кніг за шчасце лічыў. І за тры манастырскія гады адзвычаіўся ад княскае хлусні. У скіце не схлусіш – няма каму. Зірне табе ў вочы Пархомій – скрозь зямлю праваліцца ахвота, калі схлусіў, скура гарыць ад сораму. А тут брыдка ад бацькавых хітрыкаў. З веры ў веру скача, як ліс па купінах за падраненай качкай Чаму, пытаешся, бацька, ты зноў у дзедаўскім звычаі? А таму, што рыцары падманулі, узялі больш супроць дамовы. Добра, ваюй з імі, але нашто Хрыста выракацца? Немцы ж не выракаюцца, і палякі таксама, і русь валынская. Адзін князь Міндоўг. Не, трэба, інакш, маўляў, жмудзь не падтрымае. І яцвягі, і прусы. А куды ж яны падзенуцца, гэтыя жмудзіны, яцвягі, прусы? Надыдзе час – і яны хрост прымуць, не маюць іншага выйсця, усе вакол іх прынялі. Бо ў

крыжы праўда і сіла. Выракся, і што, лепш сталася? Прыйдзе Божае Нараджэнне – зноў мужыкі замест замілавання, замест шчырай малітвы перад крыжам, начэпяць на свае морды ўсялякія там казліныя, мядзведжыя лічыны, кажухі вывернуць – і з торбамі па дварах будуць бадзяцца, рознае глупства пра Каляду спяваць. Вось і ўся дзедаўская вера. Жылі ў цямрэчы, жадаюць жыць у цямрэчы.

Войшалк устаў і выйшаў на двор. Стаяла сырая бязмесячная ноч. У разрывах аблокаў бачыліся рэдкія зоркі. Пасярод двара гарэў агонь. Каля яго ён убачыў Астапа, які зачаравана ўтаропіўся на полымя. Гэты сын разанскага князя-братазабойцы і выгнанніка не падабаўся Войшалку, але Міндоўг быў прыхільны да яго, магчыма, давяраючы яму болей як чужынцу, для якога няма іншага апірышча, апроч князя. Убачыліся і іншыя: ваявода Сірвід блукаў па замкавым двары, то знікаў у цені, то ўзнікаў, як прывід, у чырвоных водблісках агню. Каля брамавай вежы нудзілася варта і каля камораў з мазурскім палонам стаялі вартавыя.

Мала хто спаў гэтай ноччу; чэлядзь, ураднікі хадзілі па двары, не маючы занятку і не маючы правоў на сон і адпачынак. Толькі што стаяў ля агню Астап, але ўжо знік у цемры, а навакол вогнішча сабраліся нальшанцы. Сірвід падышоў да іх і спытаў пустое, але прыязна: «Што, халаднавата, відаць, у каморы?» Даўмонтаў ваявода Скурка адказаў: «Нешта трывожна!»

Пачуўшы пра трывогу, адгукнуўся з цемры гаваркі Астап:

– Так, трывожна на сэрцы. Заўсёды трывожна, калі знаёмы і блізкі чалавек памірае. Вось зараз дзесьці за трыста вёрст таксама нехта памірае, мы пра яго і не думаем: паміраеш, ну памірай, нам што да гэтага. А калі побач з намі ды вядомы нам шмат гадоў – надта трывожымся. Можа, самі смерці баімся. Калі задумацца, што ў тым страшнага – да сваіх жа бацькі і маці ісці. А вось хочацца жыць тут, на грахоўным свеце, у лепшы не спяшаемся. Дзіўна! Нядоўгі ў чалавека век, праўда, ігумен Раман? – звярнуўся ён да Войшалка.

– Чаму ж нядоўгі? – сурова не пагадзіўся Войшалк. – Ты ж, Астап Канстанцінавіч, быццам яшчэ жывы. А хіба мала табе гадоў? – І асудзіў: – Чаго жаліцца! Богу і аднаго дня нашага жыцця хопіць, каб вырашыць, хто атрымае жыццё вечнае.

– Можа, і гэтак, – ухіліўся ад згоды Астап і неакрэсленым кіўком на некага дадаў: – Каму жыццё вечнае, каму пакуты вечныя! Хто што заслужыў! А ўсё адно век наш нядоўгі, ігумен Раман, што ні кажы.

Войшалк і не стаў гаварыць. Скардзіцца гэты разанец, што век нядоўгі. Хто ж вінаваты? Ці не ягоны бацька роднаму брату век скараціў? Усё страцілі ў сваёй Разані, з полаўцамі па стэпе гойсалі, цяпер нанова жыццё пачынае – вось і нядоўгі. Зайздросны ён да чужой удачы, падумаў Войшалк. Ды што Богам прызначана, ад таго ніякі палавецкі конь не ўратуе. Хрыстос трыццаць тры гады пражыў – не скардзіўся, што век нядоўгі. А пусты чалавек сто пражыве – і мала яму, не хапіла.

Ён не прыкмеціў, як каля яго апынуўся бацька. Усе паціху паадсоўваліся, яны засталіся каля агню ўдвух.

– Не магу, Войшалк, прыняць, што яе няма, – сказаў Міндоўг. – Ніколі не думаў, што буду хаваць Марту. Заўсёды быў упэўнены – яна мяне пахавае. Хоць бы з-за розніцы ў гадах раней памру. Ці з вайны прывязуць укрытага рагожай. Ці пляменнікі Таўцівіл і Едзівіл зарэжуць на ловах зімой. Таўцівіл пакуль што не зарэзаў, Едзівіл памёр, ужо не зарэжа. Стаю жывы. А ўсё дагары нагамі. Сэрца баліць. Быццам мне палову сэрца адсеклі. Ведаеш, мы ж без словаў адно аднаго разумелі. Яна мае думкі ўгадвала. Я разважаць пачынаў, а яна ўжо рашэнне называла. За дзесяць гадоў аднойчы толькі пасварыліся. Пэўна, я памыляўся. Эх, як нашае жыццё хутка прамільгнула! З тваёй маці нас бацькі ажанілі. За мяне яе глядзелі, за мяне дзядзькі на заручыны ездзілі. Упершыню на вяселлі жонку і ўбачыў. Ніхто і не пытаўся, ці падабаецца яна мне, ці хачу яе ў жонкі. І ў яе не пыталіся. А Марту я сам знайшоў. Убачыў, сэрца ўскалыхнулася, сціснулася – не магу без яе, смуткаваць буду, калі з Вішымунтам застанецца. А цяпер яна з Богам, а я зноў адзінокі. Сумны гэта занятак – жонак сваіх на той свет праводзіць. Можа, і я неўзабаве пайду за ёй услед. Тады ты, як памру, бяры ўладу і нікому не вер. Бяры ўладу, рыззё гэтае на тырчок у камору, кальчугу паверх кашулі насі, не здымаючы, і ажаніся. Каму можна верыць – дык гэта жонцы і дзецям, пакуль у гады не ўвайшлі. А калі жонка памірае, дык і не застаецца нікога побач. Чужыя ўсе, у кожнага свой клопат наўме, свая хітрасць. Вось стаяць, – бацька кіўнуў у бок ваяводы і варты, – адданыя яны мне, так. А таму адданыя, што іншага няма, каму іхная адданасць патрэбна. Я сыду, ты прыйдзеш, табе будуць адданыя. А калі чужынец тут уладкуецца, ён сваіх прывядзе, а гэтых выставіць ці задушыць. Вось на чым вернасць ураднікаў трымаецца. А з жонкай – як іголка з ніткай. Калі ў Варуце нас яцвягі ды русіны асаджалі, усё мы з Мартай зведалі: і страх, што заб'юць, і брыдкасць, што трэба падкупліваць немцаў, і сваю перамогу. Не магу сябе зараз у адзіноце ўявіць. Адно першым памерці, другое – сірацець і канца свайго веку ў турбоце чакаць. Ніколі яшчэ мне так сумна не было. Ужо ўсіх сваіх братоў і сясцёр пахаваў, і бацьку, і маці, і тваю маці... А кажу праўду: такога смутку на душы не было. Можа, заўтра захопяць мяне справы, і здымецца боль, але гады мае не тыя, каб назад не азірацца. Што ў мяне наперадзе – анічога: ну, яшчэ ў адзін наезд выправіцца, дзяцей падняць. Гады праз тры ў сядло без парабка не сяду. Ты, калі раней памру, братоў дагледзі, а потым можаш зноў у свой манастыр, калі захочацца. Яны без цябе адны моцна не стануць, не дадуць ім братанічы... А ты рашучы, няхай лепш наш род усімі тут уладарыць, чым над намі нехта са сваякоў падымецца...

Войшалк стаяў нямым слухачом, ведаючы, што не чакае бацька ні спачування, ні пытанняў; маўчы і зважай, калі табе сэрца адкрываюць. Рэдка гэта здараецца. У яго з бацькам першы раз за жыццё.

## 6

Ранак перад пахаваннем Войшалк правёў за малітвай у Барысаглебскай царкве. Дамавіну з Мартай прынеслі на могілкі папаўдні. Зноў накрапваў дождж, твары ва ўсіх былі мокрыя, не зразумець – слязьмі ці дажджом абмытыя. Бабы старанна галасілі, а калі дамавіну паставілі на край магілы, пастараліся адзначыць князеў смутак такім галашэннем, нібыта самі былі асуджаныя легчы побач княгіні ў сырую зямлю. Ад хрыплых адчайных распеваў – «Ой, на каго ты нас пакінула...», «Ой, неба плача, дзеткі-сірацінкі адны застаюцца, ніхто іх не пашкадуе...», «Ой, на каго ты мужа свайго пакінула. А як яму жыць без цябе, а хто яму слова скажа, хто яго сустрэне...» у Войшалка калола ў вушах і сэрца ныла ад раздражнення: ні папа, ні адпяванне бацька дзеля нябожчыцы не пажадаў – адны гарластыя старыя, толькі душу рвуць. Дзеці заразіліся нястрымным плачам і кінуліся да труны клікаць маці. Агна ўпала на калені каля сястры. Нават Міндоўг не ўтрымаў слязу пад надрыўнае гараванне навагрудскіх плакальшчыц. Бабы пагаласілі яшчэ з чвэртку гадзіны і ўрэшце заціхлі, як заціхае агонь пад шамаценне дажджу.

Кінуўшы жменьку пяску ў магілу і перахрысціўшы труну, аб якую грукалі камякі зямлі, Войшалк з могілак паехаў у манастыр...

А праз два дні наведаў скіт нечаканы госць – Астап Канстанцінавіч – і ашаламіў Войшалка навінай, што вялікі князь на жончыных памінках трэці раз ажаніўся.

І перадаў падрабязнасці гэтага імклівага, дзіўнага вяселля. Пачыналіся памінкі як заведзена; пад пагрозай шыбеніцы ніхто на свеце не здолеў бы здагадацца, чым яны завершацца. Памінаць князь пачаў таксама па-чалавечы: уціраў слязу, жаліўся, што не стала ў дзяцей маці, у яго – жонкі, ва ўсіх – княгіні. Казаў, што ўсе людзі яе аплакваюць і багі на небе плачуць, гэта іхныя слёзы дажджом праліваюцца – такая цудоўная была душа. Потым сказаў: можа, яна з намі зараз і чуе нас. Няхай ведае, што мы аб ёй смуткуем і заўсёды будзем смуткаваць. Потым прыгадаў, як любіла сыноў і як усіх людзей шкадавала. І папрасіў усіх памянуць нябожчыцу ўдзячным словам. Ну, усе і стараліся, расказвалі, магчыма, хто і выдумляў, каб спадабацца князю. Так услаўлялі і ўзносілі, што вялікаму князю хоць кладзіся ды памірай з гора ад такое страты...

Ён усе пахвалы выслухаў, усім дзякаваў за добрую памяць аб жонцы, а потым сказаў піўнічаму: «Налі! Апошнюю волю княгіні мушу выканаць!» Усе, зразумела, вушы навастрылі – пра што воля? Князь узняў келіх і раптам жорстка, так што ўсе напужаліся, паведаміў народу, што багі дазволілі яму пачуць запавет жонкі, які лепш ён памрэ, чым парушыць. А запавет такі. Пакідаючы гэты свет, княгіня Марта сказала: «Хачу, каб мая любая сястра Агна, якая мне жыццём абавязаная, стала прыёмнай маці маіх сыноў Руклі і

Рэпіка і таваёй, князь, жонкай! Тады будзе мне спакойна на тым свеце, ведацьму, што мае дзеткі пад надзейным даглядам!»...

Скажу табе, ігумен Раман: за памінальным сталом настала такая цішыня, як на могліцах. Усе здранцвелі. Усялякае на гэтым свеце здаралася, усялякае людзі бачылі, але такога, здаецца, яшчэ не было, каб на памінках вяселле гуляць. Калі б наадварот было – дык усім ясна: бывае, пасля вяселля трэба некага хаваць, хто занадта напіўся ці моцна пабіўся. А тут і маладой не было, жывога князя жонку замуж узялі.

– Далей што? – спытаўся Войшалк, адчуваючы, як сціскае яму галаву абручом.

– Ну што, маўчаць усе, як нябожчыкі, гуку не чутно, – сказаў Астап, – а нальшанская княгіня паднялася і ў вочы князю Міндоўгу крыкнула: «Я тых словаў не чула і такую волю не прымаю!» І пайшла на двор клікаць сваю ахову, на каня сядаць, ехаць дамоў. А ваявода Сірвід клікнуў замкавую ахову. Падобна, што трымаў яе напагатове, можа, князь з ім папярэдне дамовіўся, мяркуючы атрымаць такі адказ ад новай жонкі. Сірвід крычыць нальшанцам: «Кідайце, хлопцы, зброю, калі жыць хочаце!» А княгіня ім: «Не кідайце!» І Міндоўг выйшаў: «Тут я гаспадар, а не мая жонка! Схавайце мячы і прэч адсюль!» А тыя: «Як нам наша княгіня загадае!» А тая: «Не хавайце! Абараніце мяне!» І замест прыстойных памінак – сеча на замкавым двары, лютая злосць, кроў. А тых кравянаў – паўтара дзесятка. Абложылі іх, коп'ямі колюць, мячамі б'юць, ботамі плюшчаць. А на гэты шум, лямант, ляск мячоў мазуры пачалі грукаць у дзверы. Падмануліся, што гэта іх палякі ратуюць, з-за іх бітва ідзе. Крычаць у адтуліны: «Ксёнжэ Конрад тутай!», «Тато! Ванда тутай!». Нейкія Лешкі ды Мешкі: «Естэсьмы жывы! Збіце клудку!». Міндоўг мечніку Радвайлу кіўнуў: просяць – адчыні. Той засаўку зняў, дзверы расчыніліся, мазуры скопішчам вываліліся, на вачах слёзы ад шчасця – уратаваныя, не плаціць выкуп, а замест волі стаіць проці іх мядзведзь Радвайла з мячом і такія ж каржакаватыя кметы з дзідамі. Гэтак зрабілася ім страшна, што самі ў каморы сваё задам уляцелі. Вось такія памінкі атрымаліся, ігумен Раман: адны памінаюць, другія крывёй мыюцца, іншыя з мазурскага глупства рагочуць. Потым кравянаў параненых на калёсы пакідалі, за браму выкацілі – едзьце дадому. А княгіню Агну ў Марцін пакой павялі і замкнулі.

– Чаго ж ты ад мяне чакаеш? – спытаўся Войшалк, гледзячы ў вясёлыя вочы разанца. – Не проста ж ты ехаў пра смяротныя грахі чалавечыя расказваць?

– Пераканаў бы ты, ігумен Раман, вялікага князя, каб адпусціў Даўмонтаву жонку.

– А сам не спрабаваў? Князь, я ведаю, твае парады прымае.

– Ты сын, – коратка адказаў Астап, не тлумачачы, чаму не хоча ўгаворваць сам.

– Сын бацьку не ўказчык. Ты сам ведаеш.

– Кроў можа праліцца!

– Чыя? – спытаў Войшалк.

–Хто ж ведае? Чыя-небудзь! – не насмеліўся удакладняць імёнаў Астап.

– Ну, скажу бацьку: кроў можа праліцца. А князь спытае: хто можа праліць? Паведай, я таго наперад заб'ю, каб не праліў. І што мне адказаць? Што я ды Астап Канстанцінавіч крыві чалавечай шкадуем? Ніколі нікога не забівалі, апрача мух ды блашчыц? А сам, скажы, ці даўно ты кроў праліваў? – нагадаў Войшалк.

– Тое ў наездзе.

– Лічы, што і тут наезд.

– Я магу так лічыць. А як Бог палічыць?

– Скуль мне ведаць? – адказаў Войшалк. – А табе тым болей. Ці ты ведаеш, як вырашыць Бог? Чарвякі мы з табой, Астап, перад Богам, жменька зямлі. Ты ж праваслаўны, як і я. Памаліся, каб Госпад Бог неразумным утлумачыў. Як будзе, так будзе!

І, кажучы «як будзе, так будзе», Войшалк зразумеў, што бацька не хоча міру з Даўмонтам, а шукае вайны. Шмат грахоў учыніў за жыццё – новых ужо не страшыцца. Хоча прыбраць да рук Нальшу, як прыбраў раней Літву і Дайнову. Таму асуджаны князь Даўмонт і гальшанскі князь Гердзень. Ім ці загінуць, ці ўцякаць. Пакінуў князь Міндоўг пры сабе Агну не толькі дзеля таго, каб пляменнікаў даглядала. У Крэўскім удзеле можа, гады праз тры Рэпік будзе валадарыць. Калі ж Даўмонт не скарыцца, жонку сваю назад пачне патрабаваць, – яму і смерць на месцы за знявагу волі багоў. Сам будзе вінаваты: хочаш жыць – не лезь на ражон. Хацела Нальша даўніны, дзедаўскай веры, мнагажонства – атрымайце.





7

Упіхнуўшы крэўскую княгіню ў спальню яе сястры, кметы зачынілі на засаўку дзверы, і стук засаўкі, як кляймо палону, раз'юшыў Агну. Яна схапіла ўслончык і з крыкам «Я вам не полька! Не полька! Не полька!» пачала біць услончыкам у дзверы. Пустыя сенцы адгукаліся на грукат рэхам. Нехта з аховы за дзвярыма просьбітна пракрычаў: «Княгіня, суцішся. Галава баліць!» Гэтае прызнанне ўзмацніла яе лютасць, але ўслончык не вытрымаў і распаўся на часткі. Пагрукаўшы ў дзверы абломкамі, яна пачала шукаць што-небудзь цяжэйшае і нарэшце агледзела пакой. Пячная топка знаходзілася ў сенцах, ні сякеры, ні вілак, ні іншых важкіх, пад яе сілу, прыладаў у пакоі не было. Невялікае, на тры вянцы, акно закрывала дубовая рама з апраўленым у волава круглым тоўстым шклом. Разгледзець праз яго, што робіцца на двары, не давалася. Агна захацела выбіць шкло, але люстэрка і грабеньчык, што ляжалі на падаконні, нагадалі ёй пра сястру. Усё ў пакоі трымала сляды нядаўняй прысутнасці тут Марты: у куце стаяла скрыня з яе адзеннем, вісела на тырчцы яе світка, між печчу і сцяной чакаў зімовых вечароў яе калаўрот, шырокае ложа было засланае посцілкай, якую ніхто, апроч Марты, саткаць не мог – гэта быў іхны сямейны яцвяжскі ўзор, з-пад посцілкі бачныя былі воўчыя шкуры. Яна прысела на ложак, утаропілася ў запыленыя масніцы і сцята чакала выратавання. Паверыць у тое, што адбываецца, яе розум не мог. Яна ўспамінала ранак, дарогу на могілкі, труну каля магілы, плач дзяцей, жальбу Міндоўга на пачатку памінак, піўнічага са збаном віна – і з гэтага моманту ўсё парушылася: гучала нейкая дзікая воля сястры, з камораў выскоквалі ўзброеныя кметы, Скурку працялі дзідай, лямантавалі ў сваіх цёмных каморах мазуры. Ёй прыгадаўся малады кмет з аховы, ён ехаў побач яе з Крэва, яна памятала ягонае імя – Віценюс. Яго звалілі на зямлю і пяцёра Міндоўгавых парабкаў кінуліся на яго і з размаху пачалі біць ботамі па галаве, грудзях, спіне, у твар то разам, то ў чаргу, пакуль той не перастаў варушыцца. Вось, сястра, якія памінкі ўчыніў твой муж, думала Агна. З якім жа зверам бяспамятным ты жыла! Ты ад яго пайшла, а мяне ўзялі ў палон. Сяджу замкнёная ў тваім пакоі, на тваім ложы, на шкурах, дзе ты спала, радзіла сыноў і памерла... Агна зайшлася плачам, і разам са слязьмі пакінулі яе сілы. Яна прылегла і страціла прытомнасць...

Калі ачулася, ўбачыла князя Міндоўга, які сядзеў на лаўцы каля акна, чакаючы яе абуджэння.

– А-а, чакаеш, – адзначыла яна. – Ну што, калі дасі мне каня ад'ехаць?

– Ніколі! – адказаў князь.

– Я не чула гэтай волі, – хрыпла прамовіла Агна. – Можа, ты ўсё выдумаў ці ў сне прысніў. Мой муж – князь Даўмонт. Ты не можаш узяць мяне ў жонкі. Няхай Даўмонт вырашае – адпусціць мяне да тваіх сыноў ці сваіх заводзіць.

– Не Даўмонту вырашаць тое, што багі вырашылі, – аспрэчыў Міндоўг. – Малады. Новую жонку знойдзе. А табе жыць тут.

– Не хачу жыць тут! – з нянавісцю крыкнула Агна.– Хачу да сябе, у Крэва. Табе лепш пабаяцца, князь Міндоўг. Заб'е цябе Даўмонт.

– Сорак гадоў, Агна, мяне гэткія даўмонты забіваюць, – пасміхнуўся князь. – Баяўся б – князем не быў бы. Сам магу забіваць, павер. Спрачацца са мною не трэба – не пераспрэчыш. Я вырашаю. Я ўжо вырашыў. Я – старэйшы князь. Даўмонт цябе не возьме. Няхай паспрабуе... Хіба я ў ягоных дзяцей маці забраў? Яны плачуць з гора, як мае? Яны там адны без цябе, а ты тут без іх? Калі там чакаюць цябе твае дзеці – ідзі, трымаць не буду. Дык ёсць у цябе з Даўмонтам дзеці ці не?

– Нашто я табе? – заклікала князя да розуму Агна. – Сотні жанчын вакол цябе. Шчаслівыя будуць жыць тут.

– Можа, яны і будуць шчаслівыя, – сказаў Міндоўг, – але мне яны не патрэбны. А ты патрэбна, бо Марціны дзеці – твае пляменнікі, ты ж – іхная цётка... Вось чаму. А яшчэ – ты надта падобная да сястры. Не трэба дзецям прызвычайвацца да чужога чалавека. І мне таксама. Лёс, Агна, так захацеў, а я насуперак лёсу не хаджу.

– А не прыехала б я, – выказала Агна свой апошні довад, – што б ты тады рабіў?

– Не ведаю, – адказаў князь. – Ты ж прыехала. Значыць, лёс! Адпачывай!

Міндоўг выйшаў у сенцы, пакінуўшы дзверы адчыненымі. Агна зразумела, што далей як да замкавай брамы яе не пусцяць.

8

Вестка пра падзеі ў Наваградку нашмат апярэдзіла поезд з параненымі, і калі яны з'явіліся ў Крэве, Даўмонт ужо ведаў, як ён быў зганьбаваны Міндоўгам, колькі ягоных ваяроў пабілі наваградскія кметы на смерць і колькі параненых вяртаюцца ў Крэва на вазах. За доўгае княжанне Міндоўга кожны літоўскі князь прывучыўся чакаць ліха ад вялікага князя. Людзі кажуць, што ён спрычыніўся да забойства свайго старэйшага брата Даўспрунка. Стары воўк забраў у родных пляменнікаў Жмудзь, пазабіваў князёў Дайновы, палову князёў Літвы і Нальшы. Дык хіба пасля гэтага нехта залічыць яму ў грэх захоп чужой жонкі, да таго ж сваячкі? Жонка – не жыццё, не адзіная. Нават калі б Міндоўг забіў Агну, спасылаючыся на апошняю волю сястры, Даўмонт менш быў бы ўражаны. Але такая вытанчаная, хітрая, са спасылкай на багоў, хіжасць уразіла Даўмонта. Гэта ж трэба: ужо багі аб ім думаюць, клапоцяцца, каб да смерці не ведаў нуды! Усю ноч яму ўяўлялася, як стары князь усё абставіў, каб трымаць Агну пры сабе, дзеля сваіх пацехаў і прыгляду за сынамі. Нібы не ім гэтая подласць прыдумана: багі на небе вырашылі. Марта іхную волю прашаптала, а князь тут збоку прыпёку, вымушаны выканаць нават проці свайго жадання. А хто не верыць – няхай сходзіць дазнаецца праўды на той свет да Марты ці за хмары да багоў.

Больш за ўсё балела Даўмонту, што ён не хацеў пускаць Агну на пахаванне сястры, прадчуваючы нейкую бяду. Трэба было цвёрда сказаць: «Не! Забудзь!», а ён, шкадуючы жонку, намагаўся яе ўгаварыць. Жаласлівасць – тая ж здрада. Злітуйся над ворагам – ён цябе заўтра заб'е. Пашкадуй жонку – яна будзе браць перавагу слязьмі. Ён пашкадаваў – і зганьбаваны. Сляпы і глухі – вось так яны размаўлялі апошні раз. «Хіба не бачыш, – казаў ён, – багі аслеплі: маладую жанчыну ўзялі, старэчу не прыкмецілі. Гэта правільна?» – «Ты не хочаш ехаць, Даўмонт, – упарцілася Агна, – а як мне з сястрой не развітацца?» – «Міндоўг многіх можа пахаваць разам з тваёй сястрой, – казаў ён. – Магу паклясціся, ніхто з князёў не прыедзе. Ніхто яму не верыць. Усе ведаюць, што ўмее ўкусіць, як гадзюка. Можа, і праўду кажуць, што ваўкалак. Крыві не вып'е – дрэнна спіць» – «Ну, праўда, – пагаджалася яна, – табе ў Наваградак нельга». – «І табе нельга, – пераконваў ён. – Ці падымеш сястру? Паплакаць і тут можна». – «Не развітаюся – спакою мне не будзе». – «Добра, – саступіў ён, – дам табе атрад. Але з памінак – сюды. Ні дзевяцін, ні саракавін. Згодная?» – «Добра, – абяцала яна. – З памінак адразу да цябе!» І – ні атрада, ні жонкі! На памінках пракляты крыважэрца і дзеўбануў...

Усю ноч Даўмонт стагнаў, бачачы перад вачыма ненавісную морду вялікага князя, ягоныя бляклыя балотныя вочы, ягоных дагодлівых баяраў і кметаў, якія рагаталі з ганьбы Даўмонта і ўхвалялі спрыт Міндоўга, які гэтак шпарка знайшоў сабе маладую, без дзяцей, жонку. І бачыліся варта, прыстаўленая да Агны, і два малалетнія гадзяняці, для якіх цётка ператварылася ў маці, і вяселле на памінках, і смех кметаў, і рысіная ўсмешка Міндоўга. Усё гэта безліч паўтаралася, кружылася ў яго перад вачыма, як млынавыя крылы...

Лепш Міндоўг забіў бы яго, як дванаццаць гадоў таму забіў Марцінага мужа, маладога Булевіча. Забіў – і той не ведаў, не адчуваў, не цярпеў болю, што ягоная жонка становіцца жонкаю злачынцы і забойцы, цяжарыць ад яго, родзіць, хрысціцца разам з ім у нямецкую веру, носіць і родзіць другое гадзяня – і задаволеная, і смяецца, і кахае свайго новага гаспадара. А яго вялікі князь не забіў. Можа, задумаў забіць пазней. Ці хоча, каб ён, Даўмонт, сам закалоў сябе нажом. Ці напіўся, як напіваўся ягоны шалёны Войшалк, ды кінуўся секчы ўсіх, хто сустрэнецца на двары, на вуліцы, на дарозе, каб утапіць свой боль у чужой крыві. Гойсаць па дарогах, пакідаючы за сабой расколатыя галовы невінаватых, а потым убачыць моцны сук, развязаць пояс, зрабіць пятлю і павесіцца. Ці пайсці ў манастыр, маліць Бога аб пакаранні забойцаў і маліцца пра любоў паміж людзьмі, чым заняўся Войшалк, калі змяніў імя і княжы посах на чорныя лахманы. Быў Даўмонт – стане якім-небудзь Данілам. Але ж усе ведаюць і памятаюць, хто ты ёсць, – ад прошласці не схаваешся...

Досвіткам ён адчуў, што страчвае розум. Узнік і не пакідаў ягонага дома прывід Агны. Ён паглядзіць у кут – прывід там, дакарае яго пакрыўджаным позіркам, ён зірне на дзверы – Агна стаіць ля парога, нібы толькі ўвайшла, ён паглядзіць на стол – яна насупроць сядзіць, у вачах слёзы адчаю. Ён пачаў клікаць: «Агна! Агна!» – яна не адгукаецца, але ківае, што чуе яго. І ён разумеў, што няма ў доме Агны, а перад ім здань, але сэрца верыла ў гэты прывід, жадала пачуць нейкія словы, якія ўсё вернуць у яснасць нядаўняга часу. Вострымі ўдарамі крыві ў сэрца прабівалася ўсведамленне, што стары хцівец усё перайначыў, і ўжо не будзе Агны каля парога, пры печы, за сталом, і ён не ўбачыць яе ўсмешкі, і не паўторацца іх начныя ласкі і радасці. «Нашто паехала? – жахаўся ён. – Нашто пусціў цябе?» Цень Агны не даваў адказу. Ён жывы, а жонка прызначана ў нянькі сваім пляменнікам і ў жонкі іхнаму парадзіцелю. Яму застаўся жончын цень. Пры яго, Даўмонта, жыцці, пры яго дужай сіле. Нібыта ён памёр і засыпаны пяском.

Але і было падобна на пахаванне. Дом стаў, як дамавіна, без дзвярэй. Ён не мог выйсці з хаты. Ногі адмаўляліся пераступіць парог. Прыкра і сорамна было з'явіцца на дварэ, убачыць святло, паказацца на вочы чэлядзі. Стары Міндоўг сагнуў ягоную волю, зганьбаваў яго. З такой зняважай на сэрцы нельга выходзіць да людзей. Ён быў для іх князь, гаспадар і абаронца, а князь, у якога забралі жонку, падобны да падпасавіча, у якога воўк скраў авечку, і той крычма крычыць, не могучы даць рады. Вось зараз у вачах людзей ён будзе такім падпасавічам. Хаця б нейкая важкая прычына: вайна, наезд, татары ці мазуры забралі жонку. А так што – паехала на пахаванне, змяніла сястру на князевым ложы, будзе княжычам буракі варыць. А Даўмонту хто гатуе? А ён сам каля печы стаіць, вiламі гаршкі вымае. Воля, маўляў, такая была апошняя. Багі на небе вырашылі, каб ён сам сабе капусту варыў, а ягоная жонка іншаму... І Міндоўг думае, што ён, Даўмонт, гэта прыме і з гэтым змірыцца! Цяпер, каб выйсці да сваіх кметаў і чэлядзі, каб ягоныя кметы пераканаліся, што горасць не зламала княжую волю, – ён мусіць ведаць сваю мэту, а гэтая мэта – забойства Міндоўга. Нішто іншае не можа вярнуць яму годнасць. Часу мала – Міндоўг стары. Ён мусіць забіць яго раней, чым той сканае. Пасекчы яго, бы качан капусты. Калі Міндоўг сваёй смерцю памрэ, дык яму самому давядзецца перарэзаць сабе жылы, бо тады ён назаўсёды застанецца з плямай ганьбы на сваім імені і сваім родзе. Узяць меч і кінуцца на яго. І хто ж асуджае на такую дзікую смерць? Крыжакі? Татары? Не. Траюрадны дзядзька. Ён узяў Агну, абвясціў пра жаніцьбу, пра гэта ведае ці будзе ведаць уся літва, літоўская русь, яцвягі і жмудзіны, і ў кожнай хаце з яго, Даўмонта, пасмяюцца. Міндоўг сваё зрабіў, разлучыў яго з Агнаю. Значыць, трэба расстацца з Агнай, з яе ценем. Яна паехала і па дарозе памерла. Так ён мусіць думаць. Вярнуцца ў Крэва княгіняй ёй ужо немагчыма. Ён не можа вярнуць яе сёння. А заўтра – позна, яна ўжо Міндоўгава. Вялікаму князю за разбой трэба адказваць жыццём.

Ён выйшаў на двор, калі прывезлі параненых. Што іх прывезлі, Даўмонт зразумеў па галасах чэлядзі. Чэлядзь і размаўляла голасна, каб князь пачуў і выйшаў сам. Ён падышоў да воза, на якім ляжаў Скурка. Ваяводу не забілі, каб паказаць яму, Даўмонту, што маглі б забіць, ды злітаваліся: глядзі на сваіх недарэкаў і радуйся, што жывы.

– Княжа, – прашаптаў ваявода, – даруй!

– Не вініся, – адказаў Даўмонт.– Што мог – тое зрабіў.

Ён абышоў параненых, кожнаму сказаў суцяшальнае слова і доўга стаяў каля свайго ўлюбёнца Віценюса. Маладому кмету паламалі ботамі рэбры, выбілі вока. Твар Віценюса быў перавязаны анучкай, з апусцелай вачніцы сачылася кроў, з уцалелага вока цяклі слёзы

– Я не плачу, княжа! – апраўдваўся Віценюс. – Гэта злосць мая плача!

– Нічога, цярпі, Віцень! – падтрымаў улюбёнца Даўмонт. Ён пагладзіў хлопца па мяккіх ільняных валасах. – Будзе і ў нас належнае свята. Возьмем кроў за кроў, вока за вока!

Ягоны абавязак даць пры людзях грозную клятву: што прагучала – трэба выканаць. Але даць клятву проста, стрымаць будзе цяжка. У яго пяць сотняў вершнікаў, а Міндоўг выставіць пяць тысяч. І ў любы дзень можа абрынуць сваю сілу на Крэва і ўсю Нальшанскую зямлю. І пяць тысячаў конных ахвотна прыскачуць – кожны захоча пажывіцца ў суседзяў-нальшанцаў пры наездзе. Як адказаць такому ворагу? У якім полі сустрэць? Якімі мячамі перамагчы? Не праглядвалася нават у далечы

гэткая магчымасць. А сэрца патрабавала неадкладнага адказу..

Даўмонт выйшаў з гарадзішча і стромкай сцяжынай падняўся на Перунову гару. Зверху ён бачыў свой горад у лозе між пагоркамі, рассеяныя на іх валуны, замак пры Крэвянцы і ручаіне, два шэрагі хат, пабудаваных уздоўж дарогі, і далёка ва ўсе бакі ягонае зямля – парослыя верасам узгоркі, рэдкія пералескі, палі, што кожны год радзілі больш камянёў, чым жыта. На гэтыя палі ён выязджаў паляваць, сухі верас шамацеў пад капытамі коней, баявы сокал-рарэг злятаў з ягонай пальчаткі, уздымаўся ў неба і застываў чорнай кропкай пад аблокамі, выглядаючы затоенага звера. На гэтую гару адвячоркам прыходзілі яны з Агнай праводзіць сонца, глядзелі, як знікаюць у вячэрнім змроку далёкі лес, россыпы валуноў, Крэвянка, града пагоркаў, за якія хавалася барвянае кола сонца, і былі шчаслівыя. А цяпер растаптаныя і няшчасныя... На гэтую гару прыходзілі ягоныя бацька і дзед маліцца боству вайны перад адыходам на вайну і ў наезды, і ён таксама прасіў тут Перуна быць ласкавым да кметаў, калі заклікалі полк на вайну з крыжакамі і мазурамі. А цяпер тут, на святой гары, ён просіць у багоў дапамогі дзеля той бітвы, у якой ён заб'е вялікага князя Міндоўга...

Ён лёг на зямлю і ўбачыў над сабой яснае неба. Успыхвала срэбным бляскам, праплывала паміж ім і аблокамі восеньскае павуціннe. Ён зразумеў, што гэта знак, што нальшанскія багі гатовыя выслухаць яго. І Даўмонт сказаў багам: «Вы ведаеце, што я невінаваты. Вы ведаеце, што ў мяне подла забралі маю жонку, маю пару. Я ведаю, што князь Міндоўг схлусіў, мянуючы свае хітрыя словы вашай воляй. Я ведаю, што вы можаце забраць удачу і даць удачу. Я ведаю, што вы можаце не даваць парады і можаце мудра параіць. Я князь гэтай усыпанай камянямі зямлі. Тут жыве няшмат людзей. Мая знявага кладзецца знявагай і на іх. Яны не хочуць жыць зняважанымі. А я не магу весці гэтых людзей у бой з войскам князя Міндоўга – назад вернецца жменька, і ўсе яны будуць параненыя, як ваявода Скурка, ці страцяць вока, як малады вясёлы Віцень. Я не ведаю, дзе, калі і як магу сустрэць свайго ворага і забіць. Маёй дружыны дзеля гэтага недастаткова. Але ёсць князі, якія жадаюць таго ж самага, чаго прагну цяпер я. Ёсць полацкі князь Таўцівіл, прагнаны Міндоўгам з Жмудзі. Ёсць новы жмудскі князь Трайнат, пастаўлены Міндоўгам княжыць на землях, якія сам падараваў немцам. Яны пакрыўджаныя, яны таксама жадаюць, каб вы дапамаглі ўсталяваць справядлівасць і даць перамогу праўдзе. Зараз я вазьму ў рукі па каменьчыку. І буду чакаць вашай парады – з кім з гэтых князёў мне будзе лепш аб'яднацца. Калі святло ўспыхне з левай рукі – з Трайнатам. Калі бліснe з правай рукі – з Таўцівілам. Калі павуцінкі блісkануць з абодвух бакоў – я звярнуся да абодвух князёў». Даўмонт, сціскаючы ў кулаках каменьчыкі, доўга ляжаў, узіраючыся ў неба, дзе радзіліся паміж сабою багі. Раптам ярка блiснула срэбраная нітка з левай рукі. Тады Даўмонт устаў, падзякаваў багам за клопат і пайшоў са святой гары ў свой замак, ведаючы, чаго чакаюць ад яго нальшанскія багі.

9

Згадваючы лёс усіх знаёмых людзей і чутае пра незнаёмых, Агна не знаходзіла ў іхных жыццях нічога падобнага на сваю бяду. Здаралася, дзвюх сясцёр браў у жонкі адзін чалавек – адну ўслед за другой, але другая жонка была ці незамужняя перастарка ці ўдава з дзецьмі. Марта прыйшла сюды ўдавою. Няхай і не з уласнае волі, але не ад жывога мужа. Міндоўг быў тады гадоў на дванаццаць маладзейшы. Марта нарадзіла двух сыноў, вынянчыла і ўзгадавала іх, гэта было яе шчасцем. У яе ж, Агны, усё інакш. Міндоўг стары: колькі б гадоў ён яшчэ ні пражыў, ён ужо старэчы. Яе муж жывы, яна не ўдава, яна – забраная сілаю жонка маладога прыгожага князя Даўмонта. Яе муж у Крэве, яна пры пляменніках у Навагрудку. У каго яшчэ ёсць два жывыя мужы? Ад першага не нарадзіла, радзіць ад старога, нялюбага – дзікунства; у кожным разе гэтае дзіця было б няшчаснае, нечаканы клопат для старэйшых братоў. Міндоўг наўрад ці падумаў пра гэта, з яго дастаткова двух наступнікаў, дый Войшалк можа ў любую хвіліну скінуць рыззё і апрануць княскую світку. Міндоўг да яе не цягнуўся, як да Марты. Ён забіў Марцінага мужа, высек увесь куст Булевічаў, каб стала ўтульным і бяспечным уласнае гняздо. А цяпер ён не паварушыў і пальцам. Ён не ваяваў з Нальшай, не асаджаў Крэва, не біўся з Даўмонтам, не зрабіў яе ўдавой, якую мае права ўзяць пераможца. Ён падумаў пра яе, калі яна прыехала аплакаць сястру. Прыкмеціў каля труны і насмеліўся на грэх: чаму б замест старэйшай сястры не пакінуць тут малодшую? Тыдзень назад – ён муж Веды, цяпер муж Агны. Ён хлусіць пра волю Веды, пра яе запавет. Ён прыдумаў гэтыя словы, калі яны вячэралі, і яна распавядала, як сястра ўратавала яе ад укусу гадзюкі. Веду ён узяў сілай, яе – хлуснёй. Веда нарадзіла яму сыноў, яна ж пакінута іх даглядаць. Нашто ім цётка? Нашто ім брат, які будзе такі, як яны зараз, тады, калі стануць сапраўднымі князямі, будуць мець сем'і і думаць пра будучыню ўласных сыноў? Калі Міндоўг і не сканае да таго часу, ён будзе зусім лядашчы, знядужаны дзед. Яны самі паўбраты Войшалку. Яна для ўсіх трох мачаха, для Войшалка – ужо другая, хоць ён сам старэйшы за яе гадоў на дваццаць, а Рэпік і Рукля маладзейшыя на дзесяць гадоў. Гаротны лёс акрэсліў ёй стары князь: стаць новай Мартай, заняць яе месца ў навагрудскім замку, у княжых пакоях і на княжым ложы. Ёй застаецца толькі змяніць імя. Як Веда зрабілася Мартай пасля хрышчэння ў нямецкую веру, так Агна можа зрабіцца Мартай, калі таксама ахрысціцца. Праўда, выгналі адсюль нямецкіх манахаў, але можна ахрысціцца і ў рускай царкве, каля якой Марту пахавалі. Тады поўная замена: ні дзецям, ні людзям нават не прыйдзецца прывыкаць да іншага імя новай княгіні і маці. І падобная тварам на Марту, і апранацца будзе ў яе спадніцу, кашулю і світку. Толькі вось як сэрца сабе вырваць, каб не балела і нічога не памятала?

Вар'яцтва тое, што ён задумаў і зрабіў! У старэчым замарачэнні розуму. Не мусіць стары дзед трымаць яе, маладзіцу, за жонку. Хіба хацеў бы ён для сваёй дачкі мужа з такім векам за плячамі? Сваю дачку ён аддаў за маладога Шварна. Не, ён апаміатаецца, думала Агна. Аднаго дня сыдзе з яго гэтае насланнё. І ўяўлялася Агне жаданая развязка: да Міндоўга вяртаецца цвярозы розум, ён саромеецца і адпускае яе да Даўмонта, а каб не сорамна было за жорсткі ўчынак, абвесціць усім, што здань памерлай жонкі сказала яму адпусціць сястру ў Крэва. Ці Даўмонт дамовіцца з ім за якую-небудзь службу, і тады браму расчыняць, і яна паедзе дамоў, у Нальшу, і жыццё вернецца ў ранейшую акрэсленасць. Застануцца пры старым бацьку яе пляменнікі, застанецца пры сваёй старасці і адзіноце праклятьы Міндоўг, яна зноў будзе крэўская княгіня, будзе гаспадарыць у сваім замку, куды ўвёў яе два гады назад пасля вяселля Даўмонт і дзе засталося ўсё, нават яе пасаг, скрыня з яе строямі і вясельным ручніком, які захоўваюць да магілы.

Але мінуў дзень, другі, тыдзень – і нічога не адбылося. Міндоўг не адумаўся, не засаромеўся, зацямненне з яго не сышло, а паехаў некуды ў пушчу; ніякай весткі ад Даўмонта і пра яго не прыходзіла; марна было і думаць выйсці з замка праз зачыненыя вароты. І сядзець у адзіноце пад ціскам бяды і жахлівых думак неставала сілы, ды і не давалі. На трэці дзень па ад'ездзе князя прыйшоў Сірвід, паклаў на стол ключы ад замкоў на клецях і каморах і сказаў, што яму трэба ехаць па справах, а ключы князь загадаў пакінуць ёй: яна – гаспадыня. А ўслед з'явілася чэлядзь з паварні па прыпасы для замкавай варты і на паліўку для мазураў. Ходзячы з імі па клецях, прасачыўшы, каб узялі патрэбнае, але не болей, зрабіўшы тое, што звычайна рабіла ў сябе ў Крэве, адчула Агна, што адбылося яе прымацаванне да Навагрудскага двара: у вачах чаляднiц, у іхных размовах яна – княгіня, трымальніца ключоў ад хлебных і мясных клецяў. І шчыльна было ў замку людзей. Здалёк, калі пад'язджала яна са сваёй аховай да Навагрудка, памятала Агна, здаўся ёй Міндоўгаў замак у чатыры разы большы за Крэўскі. Стаіць на вялізнай гары, вышэйшай за Перунову гару ў Крэве, абкружаны ровам, на стромкіх схілах іголкамі тырчаць завостраныя калы, каменная вежа вышынёй са стары дуб, перад брамай палова моста разборная, палова пад'ёмная, на ланцугах, над брамай два ярусы клецяў з байніцамі для лучнікаў. Але і людзей тут проці Крэўскага замка пяцёра на аднаго. Незанятага двара – малы круг пасярэдзіне розных замкавых пабудоваў. Ды і ён толькі ўначы пусты. А ўдзень усюды цясняцца людзі. Адзін атрад варты каля брамы і на сценах стаіць, другі спіць у сваіх каморах, вазы з сенам, саломай прыходзяць, гной са стайні вывозяць. У князевай вежы на адным паверсе пісцы, на другім варта, на трэці – камяні падымаюць, у клецях над

брамай калаўрот скрыгоча, калі мост узнімаюць, і ляскаюць ланцугі, калі мост апускаецца. У паварні заўжды таўкатня, да ветру за стайняй заўсёды чарга, а ранкам з камораў нечыстоты выносяць і зліваюць у бочку, якую апаўдня вязуць за горад. А яшчэ ўдзень выпускалі з камораў размяць ногі палоненых мазураў і мазуранак, і тыя, згаладалыя, блукалі па двары, чакаючы свой абед – пустую капусту. Толькі ўвечары, калі засыналі пляменнікі, і можна было ад усіх адасобіцца. Але ў гэтай адзіноце душа пакутавала мацней, чым днём у мітусні. Удзень здавалася, што ноччу, у адасабленні, ёй адкрыецца нешта такое значнае, што вызваліць яе, але ў цішыні ночы сэрца сціскаў страх, а душа балела ад уласнай непапраўнай віны – чаму не паслухалася мужа і прыехала сюды, пахавалі б Веду і без яе, праўду казаў Даўмонт. І праз год магла б прыехаць пастаяць каля магілкі. А цяпер застаецца надзея, што Даўмонт не сцерпіць і знойдзе, як яе вызваліць.

Князь вярнуўся праз два тыдні і ў прыцемках прыйшоў да яе ў пакой пасядзець з Рэпікам і Руклем. Лучына сумна патрэсквала. Міндоўг чамусьці пачаў успамінаць для сыноў, але і ёй давялося выслухаць, аб сваім дзяцінстве. Прыгадваў, як часцяком увечары набіваліся ў бацькаў дом баяры, а ён з братамі ляжаў на палацях, вось як яны зараз ляжаць, слухаў аповеды пра даўнія паходы літвы, вылічэнне продкаў да агульнага ўсім князям прашчура князя Палямона, які прывёў іх на Літву і Жмудзь аднекуль з-за мора, а маці частавала баяраў і дзяцей паранай рэпай – і такая тая рэпа была, ці здавалася, салодкая, што нічога смачнейшага з тых гадоў ён не еў. Ды і не кожны дзень карміла маці рэпаю. А ў восем гадоў – пасадзілі на каня скакаць у сядле, і мячом дзядзькі і старэйшыя браты вучылі біцца. І моцна лупцавалі па спіне і ніжэй за памылкі. Казалі: зноў прамахнуўся, атрымай узнагароду – і плазам мячоў сваіх па спіне. На жываце часцяком даводзілася спаць, бо на спіне не мог. А калі б так жорстка не вучылі, не ўмеў бы абараніцца, даўно б ужо забілі. Але тады, калі гэтак білі, злаваўся на ўсіх, у вочы кляўся: адпомшчу, калі вырасту...

Агна слухала і разумела, што не патрэбна яна Рэпіку і Руклю як мачаха, мінулі іхныя тыя гады, калі неабходна ім маці ці цётка. Зараз ім дзядзька патрэбны. Каб вучыў конна ездзіць, трапна страляць, біцца мячом. І бязлітасна лупцаваў за памылкі. А яна так біць няздольная. Даўмонта князю трэба было ўзяць замест яе. Ці князя Трайната. Усё нахлусіў стары князь на памінках перад мноствам сведкаў. Адно пабаяўся: абвясціць апошнюю волю Марты, калі яна яшчэ на стале ляжала. Раптам расплюшчыла б вочы і выкрыла: «Не хлусі, княжа!» З магілы хоць крычы – ніхто не пачуе.

Неяк уначы яна прачнулася ад пачуцця, што ўсіх іх чакае няшчасце. І яе, і злоснага Міндоўга, і ягоных сыноў. Так ёй ясна ўбачыліся непазбежныя бедствы, што нават не ўзнікла боязі: чаго не пазбегнуць – таго сэрца не страшыцца. Ляжала з расплюшчанымі вачыма і бачыла скрозь цемру часу новыя накрэсленні іхнага лёсу: не будзе ім доўгага жыцця – іх усіх заб'е Даўмонт. Яе, магчыма, пашкадуюць, бо невінаватая і паланянка, а гэтых усіх пасякуць. І, можа, не самога Міндоўга першага заб'юць, а спачатку на ягоных вачах Рэпіка і Руклю, каб жахнуўся бацька такому канчатку сваіх подлых учынкаў. А ўжо потым і яго...

Назаўтра, калі Міндоўг зайшоў у паварню, Агна зірнула на яго і ўпэўнілася ў думцы, што князь зажыўся. Сівы, валасы на галаве парэдзіліся, перапаўзлі ў бараду, твар у глыбокіх зморшчынах, скура старая, сцямнелая за доўгі век – такі яе новы муж і, калі паверыць ілжывым клятвам, сястрой для яе абраны і прызначаны. Нашто яна яму, не ўтрымалася зноўку спытаць яна Міндоўга. Людзі сыходзяцца ў пары, каб род працягваць. А ты трох наступнікаў маеш. Ці хочаш яшчэ аднаго – замест унука ад Войшалка? Князь здзівіўся і разгублена адказаў, што пакуль не меў часу над гэтым разважыць.

– Князь, – спыталася яна, – я шмат думаю пра волю сястры, і ўдзень, і ноччу, іншае проста на розум не йдзе. Ці правільна ты зразумеў яе волю? Можа, яна не гэтага хацела? Табе, кажуць, семдзесят гадоў. Мне – дваццаць. Розніца – поўны век. Руклю твайму дзесяць, мне дваццаць. Як бачыш, розніца неістотная. Можа, Марта жадала, каб я стала ягонаю жонкай, ды ты не даслухаў?

Міндоўга гэтая нечаканая прапанова ўразіла. Ён застыў, намагаючыся зразумець яе сэнс. І кавалак мяса на нажы нерухома павіс у паветры, блізка адкрытага рота. Яна бачыла зжаўцелыя княжевы зубы і думала: як стары конь стаў Міндоўг, зубы выдаюць старасць, недарма каня па зубах выбіраюць. У Даўмонта белыя, у яе белыя – яны маладыя, у іх жыццё наперадзе, а ў вялікага князя зжаўцелі ад часу і ўсё адно трэці раз хоча ажаніцца.

Хвіліну доўжылася княжева зняменне. Магчыма, ён упершыню падумаў пра жаніцьбу сына ці пра сваю старасць, ці пра вынікі трэцяга шлюбу. Нарэшце, ён скінуў мяса з нажа, абцёр нож аб хлеб і ўклаў у похвы.

– Не! – цвёрда адказаў ён. – Што Марта шаптала, тое ўсе і пачулі. Ты для Руклі і Рэпіка – цётка. Мне – жонка, ім – другая маці. Не заведзена ў літвы з роднымі цёткамі жаніцца.

– Шмат чаго ў нас не заведзена, – запярэчыла Агна. – Хіба з чужою жонкаю жаніцца прынята? У мяне муж усё ж жывы. Усе ведаюць, што гэтак, як ты зрабіў, учыняць не заведзена. Чаму ж за роднага пляменніка на жаданне ягонай маці, маёй сястры, ісці нельга?

– Таму што жадання такога не было. І быць не магло.

– Не было дык не было, – пагадзілася яна. – Няхай так, – і выказала наступную прапанову: – Вось у цябе мазуранкі сядзяць, ты за іх грыўні чакаеш.

– Чакаю, – адказаў князь. – Праўда, не грыўні, а зброю. А што?

– Няхай Даўмонт мяне выкупіць.Назаві яму цану. І табе будзе карысць, і мне шчасце.

– Я што, па-твойму, збой з лесу? – пасміхнуўся Міндоўг. – Украў цябе дзеля грошай? Трымаю на саломе? Ты зачынена ў клець? Твая сястра была тут княгіня, і ты – княгіня. Разумееш? Мы з табой сям'я, дзве зоркі – Лель ды Палель. Як я табой таргаваць магу? Вось калі здарыцца бяда, ты ў палон трапіш, – дадаў Міндоўг, – тады, не сумнявайся, выкуплю, колькі б ні сказалі.

– Выходзіць, не вызваліцца мне ад цябе, пакуль хто вайной не прыйдзе?

– Табе ад злосці трэба вызваліцца, – параіў Міндоўг.

– Хто, княжа, з нас больш злосны, – спыталася Агна, – ты ці я? Хіба гэта ты ў мяне ў палоне мардуешся?

– А ты не мардуйся! – сказаў князь і выйшаў з паварні, так нічога і не з'еўшы.

10

Міндоўг прыгадаў здзеклівую Агніну прапанову стаць жонкай Руклі ўвечары, калі ў адзіноце клаўся спаць. Адразу знікла санлівасць, бо ўявіўся хударлявы Рукля ў абдымках налітай здароўем Агны, на княжым ложы, і гэтае відовішча адлюстравала недарэчнасць выказанага Агнаю меркавання. Добранькі жарт – зрабіць Руклю ейным мужам. Нашто дзіцяці такая жонка? Даўмонт здурэў бы, калі б справа абярнулася гэткім чынам. Не патрэбны ёй уладаром дзесяцігадовы пляменнік. Не, не бывае такой бязглуздзіцы ў галаве, казаў ён сабе, гэта яна прыдумляе кпіны, каб мяне злаваць. Даўмонт жывы, вось што не дае ёй спакою. Хоць, што ёй было з яго? Колькі там, два ці тры гады пасля вяселля пражылі, а дзяцей не завёў. Ці не ўмее, ці багі працівяцца, не даюць. А тут родныя пляменнікі, яна тут – вялікая княгіня. А што ў Нальшы? Што, Даўмонт прырасціў свае землі, умацаваўся? Сядзіць на ўдзеле па бацьку. Такіх у Нальшы пяць князёў поседам сядзяць. Адна мара – жыць ціха, як мышы ў падполлі, каб кот кіпцюрамі не падрапаў. Маўляў, гэтак дзяды жылі. Узімку наезд, улетку наезд – каго-небудзь абабралі, лупы па дварах развезлі, брагі напіліся, гароху наеліся, пуза пагладзілі, на печ заваліліся – літоўскае шчасце. Хіба адбіліся б ад Бурундая, калі б не было моцнага Навагрудка? Уселіся б на карак татары, як у Разані сядзяць, калі б не яго, Міндоўгава, адзіная валадарная воля. Змянілася жыццё за апошнія дваццаць гадоў гэтак неспадзявана, як раней за стагоддзі не мянялася. Толькі сляпы можа сумаваць аб прыяцельстве дробных князёў у тыя дзедаўскія часы. Тыя дзяды пра татараў не ведалі, пра немцаў краем вуха пагалоскі чулі. Такіх магутных ворагаў ніколі Літва не мела. Што ў параўнанні з імі наезды палякаў ці рускіх дружын? Наедуць – праз год атрымаюць наезд у адказ. А паспрабуйце сваімі крэўскімі, кернаўскімі, гальшанскімі дружынамі на татараў наехаць! Ці на крыжацкія замкі! Няхай паспрабуе Даўмонт сваімі пяццю сотнямі хоць бы Навагрудак аблажыць. Што застанецца ад яго праз гадзіну? Лужына крыві.

Уся бяда малых людзей у тым, думаў Міндоўг, што яны дрэнна кемяць, марудна думаюць пра самае важнае ў жыцці. Чаму немцы лёгка прусаў падпарадка-

валі? Таму што мелі прусы восем старэйшых князёў, а вялікага паміж сабой абраць не здолелі. І ніхто з васьмі не наважыўся стаць вялікім ды іншых сабе падначаліць. І на Літве так вялося, пакуль ён, Міндоўг, не вырашыў, што стане вялікім князем. І насуперак усім перашкодам ды ворагам стаў. Было ў яго трыста ашмянскіх кметаў. Цяпер дваццаць тысяч сядаюць у сядло, калі ён аб'яўляе паход. Ён – першы вялікі князь Літвы. Ён і Полацк здолеў прыяднаць, і землі дрыгавічоў. Ён першы вялікі князь Літвы і Русі. Але пра што, пра каго ён, вялікі князь, змушаны думаць пасярод ночы? Пра якіхсьці Даўмонта, Гаторпа, Любеня, пра іх дробныя крыўды, зайздрасць, іх братнюю нянавісць, непрыязнасць да зменаў. Цяжка з тымі, у каго замест глузду ў галаве пыха. Забіць іх – і тады думаць пра іх не трэба. Шкадуеш іх забіваць – яны свайго месца не ведаюць, злуюцца, вострацъ мячы, ад іх жа і абараняцца трэба не менш пільна, чым ад крыжакоў.

Але, праўду кажа Агна, Даўмонт жывы, і жывыя прыязныя да яго Гердзень ды іншыя нальшанскія князі. Хоць кожны з іх паасобку яму не пагроза і наогул нікому не пагроза, але зграя воранаў і ліса па полі ганяе... «Ён жывы!» Хіба гэта надта разумны доказ? Ну, жывы. Пакуль што жывы. Яго шчасце. Няхай парадуецца – зноўку жаніх. Але калі жывы Даўмонт перашкаджае Агне адчуваць сябе гаспадыняй Навагрудскага замка, значыць, Даўмонту лепш не жыць. Дзяцей у яго няма. Калі возьме каго ў новыя жонкі заўтра, дык дзіця захныча праз год. А калі за гэты год Даўмонт загіне, дык крэўская зямля адразу далучыцца да Навагрудка. Ды хоць і дзіця будзе, што з гэтага вынікае? Яшчэ адзін няшчасны на белым свеце. Можна і мячом Нальшу прылучыць. Хоць заўтра. Даўмонт уцячэ і будзе дадзяваць наскокамі на межах. І ўся гэтая зграя дробных уладароў у Дзяволтве і Жмудзі, пазбягаючы такой долі, злучыцца, каб шкодзіць Навагрудку. Таму лепш ісці зведаным шляхам – сабраць іх разам у паход, а ў бітвах заўсёды частка князёў гіне, і частка іхных палкоў гіне, крыўдаваць няма на каго – каму жыць, каму груганоў карміць, пазначае Мерцва. Хто застаўся жывы – усё адно знядужаны. А хто загінуў – той пасля хаўтураў забыты. Як Едзівід-небарака. Хто сёння аб ім прыгадвае? Быў – і няма. Тое ж і з Даўмонтам можа здарыцца. Не прыйдзецца слухаць скаргі, што ён жывы. Ну, жыў, а цяпер ляжыць у полі, невядома дзе магілку шукаць. Удава. Няўжо лягчэй зробіцца на душы, калі паведамяць, што Даўмонта немцы ці валыняне забілі? Тады, як заведзена, роспачна паплакаць – і выкрасліць з памяці. Маўляў, што зробіш – забіты варожай рукой! Вольная! Можна без болю ў сэрцы замуж ісці. Не сваёй воляй лёс мяняю, сякера нямецкая ці валынская змяніла. Немцаў кляніце, мяне шкадуйце... Што мужчынская памяць, што жаночая – коратка жыве. І ўжо тады, як у людзей прынята, – радуйся жонка новаму мужу і выконвай усе абавязкі, як сястра твая дванаццаць гадоў выконвала...

11

Князь Трайнат атрымаў вестку аб смерці Міндоўгавай жонкі ў той дзень, калі Марту пахавалі. З гэткім жа спазненнем ён даведаўся пра жаніцьбу свайго дзядзькі, якую той учыніў пасля трэцяга памінальнага кубка. Вестка пра ганьбу, што абрушыў Міндоўг на маладога Даўмонта, прынесла Трайнату задавальненне. Цяпер ён атрымліваў надзейнага саюзніка супраць старога Міндоўга. Можна лічыць, радасна думаў Трайнат, што Міндоўг сам вырашыў пакласці галаву на калоду. Застаецца ўзняць і апусціць сякеру. Даўмонт з задавальненнем і падыме, і апусціць. Больш упартага забойцу для сябе Міндоўг ужо не падрыхтуе. Дарэмна паклёпнічаюць тэўтонскія рыцары, што ў жмудзінаў дрэнныя багі. Вось сведчанне, што яны клапатлівыя пра свой народ. абрыдзеў жмудскім багам іх шматразовы здраднік, і падштурхнулі яны яго да шаленства. Забраць у жывога князя жонку – зразумела, не навіна, але каб у пляменніка спарахнелы дзядзька забіраў сабе жонку, такога паданні літвы і жмудзі не ведаюць. Нездарма кажуць: сівізна ў галаву – чорт у рабрыну. Дорага заплаціць князь Міндоўг за старэчы юр.

Трайнат бачыў сякеру над галавой вялікага князя і пасміхаўся, прадчуваючы магчымыя змены для сябе пасля знішчэння Міндоўгавага роду. Так прыемна было пра гэта думаць, што ні аб чым іншым і не думалася. Найчасцей думка была такая: само па сабе нічога не зробіцца. Трэба беднаму Даўмонту дапамагчы, падтрымаць яго, сваёй крэўскай дружынай ён Міндоўга не адолее. Думка пра забойства дзядзькі з кожным днём развівалася, укаранялася ў сэрца і ўрэшце запатрабавала дзеянняў. Найперш неабходна было дамовіцца з Даўмонтам. Разлічваць на княжы стол у Навагрудку Даўмонт не мусіць, але ягоная помста апраўдвае гвалтоўную змену вялікага князя – нехта ж павінен заняць апусцелае месца. Ніхто не зможа дакараць Даўмонта і называць яго злачынцам. Міндоўг зганьбаваў Даўмонта, а Даўмонт забіў Міндоўга. Усё адпаведна старадаўняму святому закону. Шмат хто зараз на гэта будзе спадзявацца. Міндоўг, зразумела, таксама ведае літоўскія законы, ведае, што стварыў сабе смяротнага ворага. Імя «Даўмонт» будзе для яго знакам небяспекі, але павінна стаць імем ягонай смерці. А тое, што на месца старога Міндоўга сядзе моцны Трайнат, ніхто не аспрэчыць. Жмудзь пасля Навагрудка другая па сіле палкоў. І правы на стол вялікага князя ў Трайната сапраўдныя: ягоная маці – родная Міндоўгава сястра. Князі Нальшы, Дайновы, Дзяволтвы і тут, на Жмудзі, адразу яго падтрымаюць. Усім Міндоўг пёры з хвастоў вырываў. Падабалася на нямецкі лад уладарыць: сказаў – рабіце. У мяне, маўляў, карона нямецкая на галаве сядзела, розуму дадала. У каралях пабываў, Рукля недарослы – у каралевічах. Генрык – так яго нямецкія святары ахрысцілі. А малодшага – Андрэем. Каралевіч Генрык для Навагрудка, князь Андрэй для Жмудзі. А тое, што раней усю Жмудзь немцам граматай падараваў, – пра гэта памятаць не трэба. Гэта, маўляў, у часе вайны давялося дараваць. Ваенная хітрасць. Каб Данілу Галіцкага перасіліць з дапамогай рыцарскіх пасілкаў. Пакуль я жывы, Жмудзь пры мне. І ўсе, хто на Жмудзі жыве, таксама. А пасля маёй смерці самі з немцамі разбярэцеся. Ці яны з вамі разбяруцца, як з прусамі. Чаму ж Навагрудак немцам не падараваў? Ці Вільню? Ці сваё радавое ашмянскае гарадзішча з прылеглымі землямі? Бо не сцярпела б баярства навагрудскае і віленскае, калі б падараваў князь іхныя землі ды іх саміх немцам. І вежа каменная не ўратавала б ад смерці. Зарэзалі б нажамі. Што ім ды яму да жмудзінаў – далёка ад Навагрудка іхныя землі, няхай немцы іх ціснуць і б'юць, не шкада...

І быццам адчуў Даўмонт, хто пра яго думае і хоча пабачыцца, – у двор да Трайната прымчаў з Крэва ганец з прапановай аб сустрэчы. З першымі маразамі князі з'ехаліся ў пушчы. Сэнс спаткання нагэтулькі абодвум быў зразумелы, што, не пятляючы, адразу дамовіліся аб галоўным: Трайнат сваім палком дапамагае Даўмонту адпомсціць, а Даўмонт сваёю дружынаю дапамагае Трайнату ўзяць Навагрудак. Як і калі гэта здарыцца, не абмяркоўвалі; вырашылі проста – пры першым зручным выпадку. Магчыма, такі выпадак надарыцца зімой ці ўвесну, залежна ад непрадказальных абставінаў – раптам хто наедзе, і Міндоўг скліча войска ці сам выправіцца куды з малым аддзелам аховы. Добра, каб на ловы. Калі і куды – не прадбачыш. Галоўнае – быць напагатове, чакаць вызначаны час. Багі вызначаць і падкажуць. Рысь у засадзе па некалькі дзён чакае сваю ахвяру. Не спіць, не варушыцца. Вось і нам трэба затаіцца. Няхай навагрудскі князь мяркуе, што крыўду сцярпелі і перад ім скарыліся. Маўляў, што зробіш проці волі вялікага князя, проці яго вялікай сілы, сіла салому ломіць. Трэба хітраваць, усыпляючы ягоную пільнасць, замерці перад скачком, і да гэтай змовы нікога да апошняга дня не далучаць. Хто не любіць Міндоўга, той сам на гэтыя ловы прыйдзе. Прыкладам, полацкі князь Таўцівіл пажадае прыгадаць роднаму дзядзьку, як ад атрада падасланых забойцаў уцякаў, у балотах хаваўся...

Вечарамі, калі збіраліся ў доме госці і чэлядзь – і хто праў, хто пяяў, хто лучыну шчапаў, хто займаў увагу жахлівымі ці вясёлымі казкамі, – князь Трайнат глядзеў на жонку, дачку, чаляднікаў і думаў: «А ў хуткім часе не тут, а ў Навагрудскай вежы будзем вечарамі сядзець. Усе яны туды са сваімі кроснамі, калаўротамі, песнямі ды казкамі перамесцяцца. А тут, у Кернаве, малодшы князь сядзе – мяне слухацца, з немцамі біцца. А лепш, калі не князь, а просты намеснік, каб не займалі галавы небяспечныя мары пайсці тым жа шляхам, якім ён, Трайнат, у Навагрудак прыйшоў. Шкада роднага дзядзьку забіваць, не надта добрая справа, ды інакш у вялікія князі не трапляюць. Міндоўг сваё пражыў. Калі ён сам памрэ, дык Войшалк на памінках можа расчуліцца, скіне клабук з галавы, насуне бацькоўскую карону – цяжка будзе зняць. Ці навагрудцы паміж сабой пашэпчуцца і паставяць Руклю, каб урады свае пры сабе захаваць.

Няма выбару. Багі паклапаціліся, усё наперад пралічылі і акрэслілі, ужо мсціўца вечарамі вострыць на камені меч.

Наводзячы размову на абмеркаванне сямейнага жыцця Міндоўга, Трайнат задаволена слухаў, як жонка і бабы ганьбавалі князя Даўмонта, што ціхмяны і лёгка прыняў крыўду – забралі жонку, а ён як бязрукі. Што мы з вамі ведаем, казаў тады Трайнат, можа, ён і радуецца гэтаму. Міндоўг сабе ягоную ўзяў, а ён сабе маладзейшую, некранутую знойдзе. Ды і што ён можа – Наваградак узяць у аблогу сваімі сотнямі? Хутка дружыну яго спластуюць, як жончыну ахову перабілі. Праўда, пагаджаліся з ім, калі цвяроза паглядзець, дык лепш будзе зноў абабіцца. А потым зноў у вялікага князя Міндоўга жонка памрэ, смяяўся Трайнат, і зноў ён Даўмонта халасцяком пакіне. Зноў Даўмонт вяселле згуляе, зноў у Міндоўга жонка памрэ... Усе душыліся рогатам. Нявесела цяпер князю аднаму начамі мерзнуць, шкадавалі Даўмонта бабы: малады, а на печы адзінока, як стары, ляжыць, старыя нянькі ежу гатуюць. Не пазайздросціш Даўмонту: калі вырашыў Міндоўг яго са свету зжыць, дык зжыве.

Блага, думаў Трайнат, што цяжка да Міндоўга падступіцца. Абкружыў сябе баярамі ды кметамі – не праб'ешся да яго. Калі куды едзе – наперад нікому не адкрывае. Чужога чалавека ў сваю службу не прыме. Трэба сярод яго блізкага атачэння нявернага ці пакрыўджанага чалавека пашукаць, ці вернага цяпер, але здольнага здрадзіць князю, калі пасля гэтага нешта атрымае для лепшага жыцця. Заўсёды знойдзецца ахвотнік такое ўчыніць... Сярод баяраў і ўраднікаў наўрад ці хто пагодзіцца. Яны больш, чым маюць пры Міндоўгу, ад новага князя не атрымаюць. Ім і зручна, каб Міндоўг доўга жыў і княжыў. А вось кмет просты, які марыць у сотнікі трапіць... Ці чаляднік, якому абрыдла ваду ў князеву лазню насіць. Паабяцаць яму, што будзе свечнікам і двор атрымае. Яму і рабіць нічога не трэба ўласнымі рукамі – шапнуць толькі ў падстаўленае вуха, куды князь збіраецца ехаць ды з якою аховай. Павінны быць паблізу Міндоўга такія людзі. Захацеў бы Міндоўг, дык і тут падобных мярзотнікаў знайшоў бы, і пры Даўмонце таксама нехта такі ходзіць. Усюды яны ёсць – хто слабы, хто хцівы, то злапомны. Але дробнага занятку людзі баяцца сваё жыццё на кон ставіць. Можа, і рады былі б узляцець, ды крылы курыныя, успудзяць князя цікаўнасцю ды жахам у вачах. Могуць і прызнацца са страху ў сваіх задумах і марах. Не, з драбязой чалавечай дамаўляцца – сябе прыніжаць. Вось калі толькі Міндоўгаў радца захоча? Бліжэй за ўсіх стаіць, сваякоў тут не мае, па родавай княжай звычцы на высокае месца мусіць зазірацца. Трэба будзе з ім сустрэцца, пазначыў сабе на будучыню Трайнат. Калі большага хоча – адгукнецца. А тыя, што самі ў полымя не палезуць, потым прыбягуць падтрымаць, калі асноўнае будзе зроблена. Занадта доўга Міндоўг пры ўладзе – шмат каго пакрыўдзіў. А зараз не ўсім спадабалася, як князя Даўмонта абразіў. Калі жонку сваю імгненна сцёр з памяці, дык што пра баяраў казаць? Прыстукне кожнага, як камара. Крэўскага князя няма чаго шкадаваць – сам дазволіў сваёй бабе залезці ў воўчае логава. Няхай і кусае сябе за локаць. Але ўсім карысць: перакаланілася кмецтва на гэтым Міндоўгавым учынку, што саслабеў іх вялікі князь, старасці напужаўся, шалее, за дзетак дрыжыць, значыць, захістаўся яго княжы сталец. А моцнага наступніка не мае: Руклю яшчэ дужэць гадоў сем, Войшалк у манастырскай каморы завяз. Ніхто сваё жыццё за іх класці не пойдзе.

12

З усіх ураднікаў вялікага князя Агна адчувала прыхільнасць толькі да разанца Астапа. Яна бачыла, што ён шкадуе яе. Астатнія глядзелі з той абыякавасцю, якое вартая бяспраўная гаспадарова сваячка. Чужая двару і Міндоўгу, яна не магла ім нашкодзіць ці быць карыснай. Сястра памерлай княгіні, цётка княжычаў, перахожая жонка паводле запавету, няпрагная да ўлады – усё гэта не абяцала карысці ад прыяцельства з ёю. Усё Міндоўгава атачэнне трымалася з ёю ветліва, віталася пры сустрэчы, жадала здароўя пры развітанні ў тых выпадках, калі выпадала сустракацца на двары ці разам сядзець за сталом. Князева жонка – што князева маёмасць: лепш да яе не прыглядацца і надта блізка не падыходзіць. Жывая яна ці хварэе, пакутуе ці радасная – не наша справа, не любіць літва тых, у каго вока на чужую маёмасць вострае, а язык доўгі.

Прыветлівы, гаваркі разанец мог за чвэртку гадзіны больш запытацца і расказаць, чым станавітыя ўраднікі за тыдзень. Жаласлівых словаў Астап не казаў, але позірк у яго быў сяброўскі. Прыйдзе ў паварню, пажартуе, пра нешта спытаецца, нешта раскажа – вось і спачуванне. Іншым разам ён апавядаў свае прыгоды з мінулага жыцця. З асобных Астапавых успамінаў даведалася Агна, што ён з разанскіх князёў. Бацька ў мяне быў ліхі, казаў Астап, старэйшага брата і пяцёх дваюрадных у застоллі пасек, але ў полі бітву не вытрымаў і давялося яму ўцякаць у стэп. З полаўцамі доўга мы сябравалі, разам з чарнігаўскім князем на Данілу хадзілі. У чарнігаўцаў Астапу не надта шанцавала з-за бацькі, якому не магло даравацца братазабойства, у Наваградку пашчасціла – князь Міндоўг за бацьку яго не дакараў, узяў да сябе. Дзякуй Богу, уладкаваўся, а мог у татараў у палоне сядзець, як іншыя разанскія сваякі, кабылінае малако ў даёнку надойваць. А сям'я? А якая сям'я? Тая сям'я там згубілася, згінула ад татарскіх арканаў ці згарэла, калі горад палілі. Не засталося следу. Прыгадваюцца ў снах, казаў Астап. Я і не бядую дужа. Як у нас кажуць: не страшыся, дружына, на той свет прарвёмся, на небе сустрэнемся. Там з першай сям'ёю і сустрэнуся. Тут жыццё грахоўнае і нядоўгае, нядоўгае і жорсткае: каму дужа шанцуе, каму наадварот. Я ўдачлівы, знарокам хваліўся Астап. І жывы, і князь Міндоўг двор мне дараваў, што пасля забітага баярына застаўся, а пры двары – жонка з дачкой, зараз ужо ад мяне сына нарадзіла. І будавацца не давялося, усё гатовае – хата, двор, дзеўка, стайня, хлеў, клець, само прыйшло ў рукі. Калі ад сваіх і ад полаўцаў уцякаў – адчайваўся, здавалася, сэрца парвецца ад горасці і няўдачы, пamру ў сядле і звалюся пад капыты каню. А цяпер думаю: як бы яшчэ пражыць гэтулькі, колькі пражыў, сына выгадаваць, вялікі дом зрубіць. Колькі месца займаў на ўслоне, гэтулькі і буду займаць, але, вось, паказацца трэба, што не лыкам шыты. Людзі любяць, калі спіну перад імі згінаюць. Іншы яшчэ і ацэньвае, наколькі чалавек перад ім нахіліўся – глыбока ці схітраваў, у пашану ці не ў пашану яму згінае свой хрыбет. Сам калісьці так глядзеў, а цяпер шмат перад кім нахіляюся. Магу табе сказаць, не надта гэта прыемная справа – кланяцца.

– А мне як быць, Астап? – спыталася Агна.

– А што ты можаш? Бог цярпеў і нам вялеў. Лепш жонкай быць, чым цёткай на столку пры печцы, – адказаў ён.

– Брыдка мне тут жонкай быць.

Астап уважліва паглядзеў на яе:

– А як з князёў у слугі? А сястры тваёй, думаеш, лёгка было?

Усім не соладка, думала Агна, ды якая ж ад гэтага палёгка? Астап сюды сам прыскакаў, і шчаслівы, што прынялі. Марту ўдавой прывялі. А ёй што тут рабіць? Штодзённа пільнаваць, каб не аб'ядала князя ягоная чэлядзь, шчасціць Міндоўга думкай, што не народзіць Марціна сястра братоў Руклю і Рэпіку? Падумаўшы так, яна вырашыла, што даўмелася падставы гвалту над сабой: Міндоўг баяўся, што ў Руклі з'явяцца дваюрадныя браты па маці і некалі ўзнікне небяспека сутычак між імі. Можа, неаднойчы яны з Мартай пра гэта меркавалі, і тая гэтаксама баялася? Але іх жа трэба было нарадзіць, гэтых братоў, думала Агна. І чаму абавязкова браты? А раптам дачок яна нарадзіла б князю Даўмонту? Якая ж ад дзевак пагроза Руклю? А пакуль што наогул дзяцей няма. Няўжо для Міндоўга і куст уначы – мядзведзь?

Ад тужлівага наваградскага жыцця найшла на Агну бяссонніца, усю ноч магла яна праляжаць, не забываючыся ні на хвіліну. Аб адным і тым думалася, адно і тое ж прыгадвалася. Ад паўтарэння і думы надакучылі, і ўспаміны сталі цьмяныя. Прыгадваліся маці і бацька, прыгадвалася, але без болю, што іх забілі мазуры, і яна думала – так ім было наканавана. А ёй наканавана ціха паміраць тут, у пакоі сястры. Але ўсім багамі прызначана адказваць за кожную благую справу. Мазуры забівалі яцвягаў – мазураў шмат пазабівалі. Немцы вёскі і людзей палілі – іх за гэта ў азёрах патапілі. І Міндоўгу некалі прыйдзецца пацярпець за яе пакуты.

Неяк удзень яна прыснула. У сне нальшанцы захапілі наваградскі замак. Яна бачыла, як Скурка прыбіў дзідай да варотаў ваяводу Сірвіда, і той вісеў, перабіраючы перад скананнем нагамі. А на версе каменнай вежы Даўмонт і Віценюс разгойдвалі старога Міндоўга за рукі і ногі, а разгайдаўшы, падкінулі ў паветра, і князь паляцеў уніз з крыкам жаху, і глухі ўдар паведаміў ёй, што яна вызвалена. Яна зірнула з вежы ўніз – там, у замкавым рове, у бруднай лужыне, ляжаў Міндоўг.

працяты астрогамі. А потым Даўмонт і яна скакалі знаёмай дарогай у Крэва, у свой родны дом. А ззаду скакала ахова, Віценюс, Скурка, вясёлыя кметы. Добры сон, думала яна, калі абудзілася. Толькі нікому тут нельга яго пераказаць: раз'юшыцца Міндоўг ад такіх прадбачанняў, выправіць людзей забіць Даўмонта. І застаўся сон ейнай таямніцаю. Можа, ён прарочы, думала Агна, ажыўляючы спадзею, можа, збудзецца...

Пасля дзядоў, калі дажджы змяніліся першымі маразамі і прыпарушыла зямлю снегам, пазначаючы блізкі канец пакутлівага для яе года, пачула Агна ад чалядніц змрочную для сябе вестку – Даўмонт шукае новую жонку. Нібыта ўжо пасылаў сваіхураднікаў глядзець дачку Гаторпа, і да яцвяжскага князя Скамонда ездзілі ад яго шукаць нявесту, можа, яшчэ куды выпраўляў людзей. Сэрца не дазваляла Агне ў гэта паверыць. Прыгадваючы Крэва, Перунову гару, дзе ўдваіх часцяком праводзілі сонца, дом, свае рэчы ў доме, печ, ложа, пакрытае ейнаю посцілкай, яна не магла ўявіць, што ў гэтым доме замест яе будзе жыць, гаспадарыць, спаць, сустракаць Даўмонта, хадзіць разам з ім на Перунову гару іншая жанчына. Я ж жывая, думала Агна. Хіба Даўмонт удавец? Што яны вырабляюць? Міндоўг бярэ мяне за ўдаву. Даўмонт шукае жонку, быццам аўдавеў. Яны абодва здурэлі. Агна вырашыла спытацца ў Астапа – ці праўдзівыя чуткі, што князь Даўмонт скарыўся, забыў пра яе і пасылае людзей на агледзіны выданніц.

– Ходзіць такая пагалоска, – адказаў разанец. – Ездзяць па дварах ягоныя мечнік і лоўчы. Можа, што і высездзяць. А можа і не. Небагата гожых дзевак у княжых дамах. Ён, сама разумееш, абы-каго прывесці да сябе не можа. Я гэтак скажу табе: лепш яму хутчэй ажаніцца. Усім было б спакайней – і вялікаму князю, і Даўмонту, і табе.

Пацверджаная Астапам горасная вестка дашчэнту абязволіла Агну. Нічога не змянілася з бабінага лета, напердзе яе чакала непраглядная нуда, яна не ведала, чым абнадзеіцца, дзе шукаць сабе апірышча. У душы збіралася журба, усе жаданні ўсохлі, усё здавалася непатрэбным, чужым, бязрадасным. Вось я зрабілася што голае дрэва зімой, думала Агна, сухастоіна, ссекчы мяне трэба.

Неяк выдаўся зусім тужлівы для Агны дзень. Яна адзінока засела ў пакоі, нават пляменнікаў адправіла спаць да бацькі. Пачаў бы хто лямантаваць «Пажар! Ратуйся!», дык і з ложа не ўстала б: што дымам удушыцца адразу, што тугой здушлівай за доўгія месяцы – адно і тое ж. Бяда да бяды цягнецца – Міндоўг нібыта такога яе бязвольнага стану чакаў. Увечары ўвайшоў да яе ў пакой, і яна адчула, што ён застанецца тут да ранку. Ён сеў побач яе, потым прылёг і пачаў песціць і палез пад кашулю халодная шурпатай рукой. Агна слухала ягонае дыханне, і было ёй усё роўна: у жонкі яе возьме, ці задушыць гэтымі шурпатымі рукамі, ці заб'е за абы-якавасць да яго, толькі б ні пра што не пытаўся і ніякіх словаў ёй не казаў. Не клікала яна яго, пэўна, падмануўся, думаючы, што Рэпіка і Руклю наўмысна ад сябе адаслала, каб ён да яе прыйшоў. Вось і прыйшоў... Стары князь – нядоўгія ласкі. Ён заснуў, і яна хутка заснула, можа, раней, чым ён; пасярод ночы прачнулася, побач ляжыць цёплае расслабленае чужое цела. Яна павярнулася да сцяны, нудна было думаць, нашто яно ляжыць побач, а ранкам прачнулася – не было каля яе сівога мужа. І такое ўзнікла ў яе пачуццё, што прыснілася ёй непатрэбная князева любоў, не прыходзіў ён да яе, прымроілася яшчэ адна жуда ў змроку ночы...

Так і старалася думаць, што бачыла страшны сон проці ранейшага, прарочага, пакуль не адчула, што цяжарная. Два гады з маладым мужам спала – нічога ў лоне не завязвалася, а Міндоўгава старэчае семя адразу пайшло ў рост... Ашалець можна ад такой несправядлівасці. Быццам атручаны камень засунуў ёй у чэрава ўдавец па сястры. Яна адчувала апальваючы цяжар гэтага каменя. Усе думкі былі гарачкавыя, нават у сне аддавалася жудой прысутнасць у целе ненавіснага семя. Узгадвала, як з Даўмонтам марыла пра сына: яна зацяжарыць, а ён будзе прыціскаць вуха да жывата і слухаць рухі свайго дзіцяці. Не давалася, не рос жывот. А цяпер надзьмецца, і будзе сядзець у ім маленькі Міндоўг. Жонка князя Даўмонта зацяжарала вырадкам князя Міндоўга. І падзяліцца сваёй бядой няма з кім. Не крыкнеш князю – нашто мне твой вырадак? Нашто ён табе? Стары ваўкалак толькі ўзрадуецца. І баб не папросіш параіць – усяму народу раскажуць: у князевых сыноў будзе брацік ці сястрычка. На ганьбу Даўмонту.

Трэба было пазбаўляцца ад каменя, які ўзрастаў у чэраве. Але дзе ўзяць зелле ў гэтым замку сярод чужых людзей? Скажы адно слова – «каноплі», – і адкрыецца, што носіць князеў падарунак, ды хоча вытруціць. Варту прыставяць пільнаваць, каб не вытруціла вырадка. Паверыўшы сэрцу, Агна папрасіла Астапа прынесці ёй патрэбнае зелле. Той некалькі хвілін моўчкі ўглядаўся ёй у вочы: позірк у яго быў пранікілвы, быццам ён намагаўся ацаніць, ці вартая яна выратавання і ягонай дапамогі. Нарэшце ён сказаў: «Ты хоць разумееш: калі князь дазнаецца – мне галаву знясуць!» – «Не дазнаецца! Клянуся!» – абяцала Агна, і ён паверыў ёй.

Цяпер яна гаспадарыла на кухні, каб заварваць выратавальную для сябе атруту. Праз тры тыдні ў лазні раптам схапіў жывот рэзкі боль і пацякла з улоння кроў. Проста на палок вылілася з яе тое, што магло стаць яшчэ адным Міндоўгавым наступнікам. «Перапарылася», – тлумачылі чалядніцы выкідыш, і засталося для ўсіх таямніцай: жадала яна выкінуць ці хацела насіць. Можа, і хацела, ды не пашчасціла, і ў такім выглядзе давядзе пагалоска яе бяду да князя Даўмонта. І Міндоўг будзе гэтак думаць. Яму даспадобы: не хацела – адно, не пашчасціла – другое. Не пашчасціла – трэба паўтарыць.

Ён прыйшоў паўтараць, калі Агна ачуняла. Перад народам, калі апрануты ў кальчугу, апаясаны мячом, пакрыты шлемам ды футравай апанчой,– грозны князь Міндоўг, проста Пярун з неба сышоў, а пераступіў парог для любові – на плячах старая світка, кашуля паяском падпярэзана, кудлы, хоць і прычасаныя, вісяць павуціннем – дамавік. За печчу сядзець, цвыркуна слухаць, а ён гвалтаваць прыцягнуўся. Смешна глядзець на яго.

– Здарылася нешта, Міндоўг? – спыталася яна.

– Рэдка бачымся, – адказаў князь.

– А нашто нам часцей бачыцца?

– Ну, трэба, відаць, – лагодна сказаў Міндоўг. – Ты – жонка, я – муж!

– Ты – муж, я – жонка? – пасміхнулася Агна, агледзела князя халодным позіркам з галавы да ног, і здалося ёй, што стаіць за плячыма ў Міндоўга шызаваты цень. Гэта Мерцва ўжо па пятах яго ходзіць, здагадалася яна радасна. А ён не бачыць, няма на княжай патыліцы трэцяга вока. Памрэ хутка князь, а вось клапоціцца, хоча ёй незабыўны дарунак на ўсё жыццё пакінуць. Сапраўдны гаспадар: паміраць збірайся, а жыта сей. Хоць бы падумаў, куды ёй ісці з такім плёнам пасля ягонае смерці.

– Ведаеш, Міндоўг, – яна вырашыла гаварыць князю шчыра, – згулялі мы адно сабачае вяселле – хопіць на мой век. Ты мне не муж, я тваёй жонкай быць не хачу. Толькі калі гвалтам возьмеш. Пакліч сваіх кметаў, няхай за рукі, за ногі трымаюць, тады кладзіся на мяне. Інакш – не.

Яна бачыла, што гэтыя словы яго раз'юшылі. Ды што ён мог – накінуцца на яе з кулакамі, паклікаць чэлядзь, загадаць «трымайце маю жонку за рукі, за ногі, буду дзіця рабіць», каб стаць пасмешышчам для слуг і дружыны.

– Паасобку – дык паасобку, – перадужаў гнеў князь.

Ён узяў з палацяў і кінуў на лаўку воўчую шкуру, лёг і накрыўся світкай. Яна адчувала, што ён не спіць. «Вось і добра, не спі! – падумала яна – Лепш па розных кутах ляжаць, як дзед і унучка. Памерзне на лаўцы, адляжыць спіну, не хутка зноў прыйдзе. Не трэба будзе атруту глытаць». Супакоеная сваёй малой перамогай, яна хутка заснула.

Назаўтра Агна вярнула да сябе Рэпіка і Руклю. Яны спалі над ёй, на палацях. Калі гасілі лучыну, яна расказвала пляменнікам, якія ў іх былі дзед і бабка па маці, які быў у дзеда двор, як плавалі яе браты ў Зэльве, на беразе якой стаяла іх княжае гарадзішча. Асабліва падабалася Руклю і Рэпіку слухаць паданні пра бітвы яцвягаў з палякамі і руссю. Да ранку былі гатовыя не спаць, просячы ўсё новых апавяданняў; у суцяшэнне сіратам Агна выдумляла далёкія паходы, удачлівыя наезды прадзеда. Расказала пра смерць іх дзеда і бабкі ў бітве з мазурамі два гады таму. Мазураў наехала безліч, яцвягаў на гарадзішчы была жменька, стрэлы ў іх скончыліся, мячы затупіліся, але ніхто меч не кінуў, у палон не пайшоў – не прынята ў яцвягаў здавацца на варожую літасць. Калі яцвяг у палоне – значыць, параненым узялі ці нейкай хітрасцю. А калі яцвяжку возьмуць гвалтам, яна дзіця ад гвалтаўніка кідае ў дрыгву. Шкада, што вы дзеда з бабкай не памятаеце, казала Агна. Яны вас бачылі. вы з маці месяц на гарадзішчы ў нас жылі, калі вайна была, а

ваш бацька з валынянамі біўся. Вы ў кашулях па хаце поўзалі, я цябе, Рэпік, хадзіць вучыла. Калі б не той мазурскі наезд, можна было б дзеда і бабку наведаць, а цяпер там пажарышча і пустэча. Яна прыгадала некалькі песень, якія спявалі бацька і дружына на застоллях, і напявала іх пляменнікам... І гэта ўсё, што яна магла зрабіць для сыноў сваёй сястры. Няўжо дзеля такой драбязы, думала яна, князь Міндоўг зламаў маё жыццё, сапхнуў мяне ў вір і навёў на сябе і сваіх дзетак цень смерці?

13

Міндоўг, чуючы соннае дыханне Агны, узгадваў гады, пражытыя з яе сястрой. Ва ўспамінах усе дванаццаць гадоў іхнага жыцця асвятляліся радасцю. Ну, першыя месяцы, прызнаваўся ён сабе, былі не надта шчаслівыя: яна прызвычайвалася да яго пасля Вішымунта, плакала начамі, выплакваючы з душы свайго забітага мужа. А выплакаўшы, зразумела: памяць – не жыццё, памяць – гэта цені. Ты – тут, а дзе цені – невядома, не памацаеш іх, не абдымеш. Жывеш – значыць прымай тое, што бачыш, змяні тое, што можаш змяніць. Яна прыняла яго і стала пяшчотнаю жонкай, гаспадыняю замка, разумнаю дарадчыцай. Яны перажылі вайну, аблогі, здрады, і перамаглі, і яна нарадзіла яму сыноў, і кахала яго. Разам з ім яна хрысцілася, разам яны хрысцілі сваіх дзяцей. Рэпік і Рукля і зараз носяць на грудзях крыжыкі, якія яна трымала ў сваіх руках. Яна любіла называць сыноў іх хрысціянскімі імёнамі – Генрык і Андрэй. Яна была з ім побач, калі папскія пасланцы прывезлі, а рыжскі біскуп усклаў яму на галаву каралеўскую карону. Ён быў наваградскім каралём, яна – каралевай, сапраўднай каралевай, якая ўмела прадбачыць далёкія вынікі бягучага дня. Не ён прыдумаў, яна яму падказала дамагацца падпарадкавання Царквы на Літве рымскаму папе, а не біскупу з Рыгі, каб стаяць з немцамі нароўні, а не ніжэй. Калі яшчэ тут паспрабуе хто-небудзь стаць каралём і каралевай! Калі яшчэ тут будзе такая Царква! Дарэмна ён не паслухаўся яе і расхрысціўся. Чым з немцамі ваяваць, прасцей было б перабіць князёў – і сваіх, і яцвяжскіх, і прускіх. Сабраць у наезд і каля вогнішча пасекчы ўсіх мячамі сваёй аховы. Не насмеліўся бонду сваяцкай крыві спусціць у раку. Пабаяўся ад іх пазбавіцца – бойся, што яны цябе заб'юць. Было б ужо вялізнае каралеўства; можа, і Марту, калі б засталася яна з каронай, абышла б бокам кашчавая Мерцва.

Нічога гэтага не перажыць побач яго Агне, а яму з ёй. Яна падобная на сястру але яны розныя, як золак і прыцемкі. Агна яшчэ доўга будзе дзьмуць на вугольчык сваёй крыўды, сваёй памяці пра Даўмонта, толькі таму, што той малады, а ён, Міндоўг, сівы. Так вядзецца – маладыя не любяць старых. Ён сам у маладыя гады не любіў старых: прайшоў жыццё сваім шляхам, не перашкаджай іншым ісці сваім... Але ў сэрцы сціхае боль разлукі з Мартай, калі Агна побач, калі ён бачыць яе, чуе яе голас, яе дыханне – такое ж, як у Марты. Яна хоча застацца толькі цёткай для пляменнікаў, а жонкай быць не хоча. Няхай так. Сілком любы не будзеш. Мала яшчэ яна аб жыцці разумее. Пакуль дзіцяці баба не мае, розум у яе дзявоцкі – пра пустое марыць, загадкавым позіркам стараецца зачароўваць. Маладая ваўчыца таксама ваўку ўсміхаецца, хвастом перад ім круціць, а як вывадак з'явіцца і галодны заскавыча – ніякіх дурных гульняў, сама мужа свайго з логава гоніць прэч на паляванне: разбойнічай, забівай, лезь у аўчарню, кармі. Дзеўка аб прыгожым хлопцу сумуе, баба з дзецьмі – аб надзейным здабытчыку думае. У цётках сядзець – няшмат розуму трэба. Каму будзе патрэбная цётка, калі пляменнікі падрастуць? Куды пойдзе? У якое запечча?

Вось зрубіў Войшалк мужчынскі манастыр. Марта марыла жаночы манастыр паставіць. Зручнае месца для гаротных дзевак, удоў, цётак з княжых сем'яў. Няхай моляцца Хрысту ў сваіх каморках. Можа, Марта думала пайсці ў манастыр па ягонай смерці. Напэўна, правільна думала. Лепш там жыць гаспадыняй сабе, чым пры сынавай жонцы няньчыць унукаў. Ну што рабіў бы сёння Войшалк, каб не меў на сабе манаскага рызза? Пужаў бы народ на дарогах, ці стаяў проці бацькі, чакаючы, калі вызваліцца бацькава месца, каб біцца за яго з іншымі князямі. А ў манастыры ніхто яго не бачыць, не чуе, ні з кім ён не б'ецца. Хіба толькі лоб б'е аб падлогу. І для такіх, як Агна, не будзе лепшага прыстанку, чым пусты пакойчык за манастырскай агароджай. Палякі і русь даўно іх набудавалі. Якая баба не вельмі паслухмяная – яе Хрысту служыць. Але пакуль ён, Міндоўг, жывы, Агна пры ім будзе жыць. Не пакінуў бы яе ў замку – не чуў бы зараз гэтага дыхання, а ў тым, што супярэчыць і злуе, таксама нешта ад Марты. Быццам тая пасля смерці змянілася, ажывіла дзявоцкі нораў.

Усе людзі, жадаюць ці не жадаюць, да новага жыцця прывучваюцца. Каня пад сядлом хадзіць і звону мячоў не пужацца гадамі навучаюць. Рэдкая кабыла адразу ў аглоблі смірна становіцца. Так і ў сям'і. Марта хутка паслухалася. Агне час патрэбен, каб прызвычаіцца. Чаму магла навучыцца пры Даўмонце? Што за князь, які пра большую ўладу не марыць, задаволены малым удзелам? Гэтакураднік мусіць думаць. Яму з ласкі княжай даецца, яму пра большае толькі марыць. А князь жыццё перайначвае, ён абавязаны моц памнажаць. Усё трымаецца сілай і на сіле. Няма іншага закону на гэтым свеце. Не сабраў князь Земавіт сілу – і валяецца ягоны сын на саломе, б'е вошы, а маці ходзіць, шпакуе, просячы грыўні на выкуп. Няма ў Даўмонта сілы – і не вырушыў ён у паход адбіраць Агну. Але, кажуць, апамятаўся, ездзіць, шукае жонку і моцнага цесця. Ды дзе ж адшукае? Дачку лішнюю, можа, і збудзе хто. Але палка, не, не дадуць. Няма ў Таўцівіла сілы – і задаволены ён, што дазволена яму княжыць у Полацку. Адчуе сябе мацнейшым валынскі князь Васілька Раманавіч – адразу прыйдзе браць лупамі за даўнія крыўды.

І, праўда, прыйдзе, падумаў Міндоўг, калі даўмеюся аб'яднаць чарнігаўскую русь з валынскай праз жаніцьбу бранскага княжыча з валынскай князёўнаю. Нічога добрага для Навагрудка ад такой жаніцьбы не народзіцца. Лепш засцерагчыся і разбурыць магчымы саюз. Жыццё князёў і княстваў на шалях ляжыць, думаў Міндоўг. Адзін узмоцніцца – другі саслабее, адно землямі прырасце – другое землі страціць. Хочаш мець больш, даводзіцца ў кагосьці адбіраць. Адзін у аднаго і адбіраюць. Хто слабейшы, таго першага і абскубуць. І жонку забяруць, і працаваць на сябе прымусяць. Расплюскаць трэба бранцаў, тады валыняне будуць ціха сядзець. Няма міру на зямлі, і не можа быць міру. Хочаш для сябе міру – сам выпраўляйся вайной. Мазураў супакоілі, трэба бранцаў супакоіць.

Гэты ёмкі клопат заняў думкі князя, і побач з ім крыўды Агны, яе кпіны і абыякавасць страціці для яго важнасць. Марта тры месяцы прывыкала, думаў ён, і сястра малодшая нікуды не дзенецца, прызвычаіцца да мужавай улады.

14

Зіма выдалася марозная, частыя снегапады непралазна закрылі ўсе дарогі і рэкі, і месяцы ад Калядаў да Вялікадня прайшлі мірна. А вясной, калі растае снег і разліваюцца рэкі, вайны не пачынаюць – грузне коннае і пешае войска. Таму і зіму, і вясну сядзелі навагрудцы ціха. Ніхто не наязджаў, самі па лупы не хадзілі, толькі на ловы ў пушчу выпраўляўся Міндоўг, калі заядала яго нуда замкавай аднастайнасці.

Агна ў тыя дні, калі князь ад'язджаў паляваць, чакала, што яго прывязуць у замак са стралой у грудзях. Ажэніцца Даўмонт ці не ажэніцца, гэта ягоная справа, але адпомсціць ён абавязаны. Ніхто не аддасць Даўмонту сваю дачку, пакуль ён не адпомсціць за першую жонку. І мроілася ёй, як Даўмонт тоіцца ў лесе і выпускае стралу ў свайго крыўдзіцеля, разбуральніка іхнага жыцця. Але князь вяртаўся цэлы. Ацэньваючы вышыню сумётаў і стойкі мароз, Агна разумела, што такой смерці Міндоўга чакае дарэмна. Адкуль Даўмонту ведаць, калі збярэцца вялікі князь на ловы, дзе яго чакаць. Не можа ж ён у лютыя маразы месяцамі сядзець у засадзе. Але супроць разумных высноваў трапятала ў сэрцы надзея на ўдачу, калі двор чакаў вяртання князя з пушчы. «Няўжо так і застанецца ўсё, пакуль Міндоўг сам па сабе не сканае?» – тужліва думала яна. Чакаць сабе волі месяц за месяцам, а можа і год за годам, гаспадарыць у ненавісным замку на правах цёткі, прымаць паклоны ад чэлядзі як князевай жонцы... Зашмаргу ён для мяне сплёў, думала Агна.

Зімнія месяцы яна бавіла за кроснамі – ткала посцілку, каб заглушыць працай горасць дзённых думак. Страціўшы князеў дарунак, захаваўшы волю, Агна паспакайнела, і ў гэты час паявіліся ў яе суразмоўніцы – дзве мазаўшанкі, якіх удзень выпускалі з каморы, каб не акалелі там з холаду. Звалі іх Ванда і Малгажата. Ванду павінен быў выкупіць бацька, ужо прыязджалі ад яго ўдакладняць выкуп.

Малгажата была замужняя, і ў Варшаве застаўся яе трохгадовы сын. Яна была ўпэўненая, што яе выкупіць муж. За паўгода палону мазаўшанкі схуднелі, адзенне збузавалася, нямытыя валасы віселі патлямі, а больш за ўсё ім хацелася есці. Князь на Агніну просьбу змяніць паланянкам адзенне адказаў так:

– Калі іхныя сваякі даведаюцца, што іх кормяць, мыюць, даюць вопратку, іх ніколі не выкупяць. Сваякі не надта шкадуюць тых, каго ў палоне шкадуюць.

– Хіба больш пашкадуюць, – запярэчыла Агна, – калі ўбачаць ссохлых, нясхрэбеных, у лахманах, паедзеных вошамі ды блашчыцамі? Наадварот, падумаюць: што выкупляць – шкілет?

Князь падумаў і пагадзіўся напалову:

– Калі так хочаш – нагрэй ім вады.

У кухні за печчу мазуранкі ўпершыню з лета памыліся. «Пане Езусе, – казала Малгажата, – ніколі не думала, што буду шчаслівая, стоячы ў балеі з цёплай вадой. Калі муж выкупіць, месяц адсяджу ў лазні. Паем – і на палок. Абальюся вадой – і зноў есці. Вось якія цяпер мары – як у бяздомнага сабакі. Раней, бывала, прачнуся – Пане Божа, у касцёл трэба бегчы, там імша, як жа без мяне, ксёндз пачне крыўдаваць, Пан Бог не даруе. Цяпер прачнуся і думаю – Божа, дзе мне сёння лустачку хлеба выкленчыць. Палову цела страціла. Сядзець няма на чым. Косці пад скурай грукочуць. А раней я мажная была кабета. Муж не пазнае, абдымаць пабаіцца...»

Мужу Малгажаты было за пяцьдзесят, ёй – дваццаць тры. Малгажата знарок казала, што толькі так і трэба замуж ісці: муж яе кахае, усё, што яна жадае, для яе робіць, а калі хутка памрэ, дык у яе яшчэ ўсё жыццё наперадзе. «Тады новага старога завараджу, – распавядала яна пра свае далёкія разлікі, – потым трэцяга. Але каб бяздзетныя былі. Каб мой сын стаў багатым наступнікам. А галоўнае – каб толькі не мазуры. Лепш за каго з кракавякаў – далей ад прусаў і літвы, каб наездаў не баяцца, зноў не трапіць у палон. Таямніца ўлады над тымі, хто паважнага веку, магу вам сказаць, можа калі прыдасца, вельмі простая – адно пяшчотнае слова на дзень. Гэта для іх як мёд. А дзе мёд – там і мухі».

А Ванда марыла па вяртанні дадому пайсці ў касцёл, месяц, на каленях стоячы, маліцца перад абразом Панны Нябеснай, каб сцерліся з памяці пераЖытыя жахі. Ноччу сняцца жудасныя сны, удзень жыць не хочацца. Вусцішна! Пойдзеш замуж, народзіцца дзіця і дрыжы ўсё жыццё, што наедзе яцвяг, спаліць хату і двор, заб'е мужа, забярэ сына ў палон. Лепш у кляштар падацца, сядзець за сценамі, не ведаць і не бачыць гэтых жахаў. А мы, яцвягі, пакрыўджана пярэчыла Агна, баімся, што наедзе мазур, абрабуе, заб'е, забярэ ў палон. Як маіх бацьку і маці забілі. «Усе мы злыя, – адказвала дзеля замірэння абедзвюх Малгажата, – і літва, і палякі, і рыцары нашы, і мы, бабы. Не прыгадаю выпадку, каб хоць адна сказала мужу пасля наезду: «Навошта ты мне нарабаванае прывёз? Яно ўсё у чужых слязах. Кінь на дарогу, няхай жабракі падымуць». Не, чужую світку прымерае, чужыя завушніцы, пярсцёнкі надзене, чужымі футрамі шубу падшые, чужым жытам сваю сям'ю корміць, а мужа ўхваліць – зух, шмат прыдбаў, гаспадарлівы і клапатлівы. Можа, каму і лепш будзе ў кляштары. А мне не надта хочацца. Я паесці люблю, у мяне пярына была, узаб'еш – вышынёй з локаць. Вярнуся, усе гусі будуць голыя год хадзіць, але пярыну пухам наб'ю. Змарылася на саломе, як кабыла, спаць...»

Часцяком заходзіў да іх у пакой Міндоўг павучыцца, як ён тлумачыў, мазурскай мове. Але, хутчэй, было яму больш цікава сярод маладых жанчын, чым размаўляць са сваімі змрочнымі ўраднікамі. Тады і сыны з ім прыходзілі і сядалі побач бацькі на лаўку браць урок. Утрох яны паўтаралі за Малгажатай і Вандай пад гудзенне калаўротаў і стук набіліцаў на кроснах: «Баўван зэ сьнегу», «Пуўк рэнкі правэй», «На двожэ мруз, пшы пецу пшыемне», «Словік спева на шчэнсьце, врона – на смутэк», «Крэв в жывах сень сьціна». Неякназіральны Міндоўг прыкмеціў, што Агна змяніла на кроснах узор.

– Новую посцілку пачала? – спытаў ён без асаблівай цікавасці.

– Не. Спадніца знасілася, трэба змяніць.

– Хіба адну маеш? – не ўразумеў ён. – Няма ў кубэлку?

– Гэта не мае, – адказала Агна.– Маё ўсё ў Крэве.

Князь нібы спачувальна кіўнуў, але, адзначыла Агна, раздражніўся Пэўна, сам на сябе, што раней не прыгадаў пра яе маёмасць, што засталася на памяць першаму мужу.

Назаўтра прыйшоў да яе разанец Астап з пытаннем:

– Што прывезці? Князь па тваё рэчы пасылае.

– Нічога! – адмовілася Агна, разумеючы, што Міндоўг вырашыў яшчэ раз прынізіць Даўмонта. – Нічога ты не прывязеш. Нічога ён не верне. Дарэмна едзеш.

– Блага мне паміж двух агнёў стаяць, – адказаў на гэта Астап.

Ён вярнуўся праз тыдзень са скрыняю, бязладна набітаю яе світкамі, спадніцамі, кашулямі, посцілкамі і абуткам.

– Нашто ўзяў? – спытала Агна.

– Ты можаш з князямі спрачацца, – растлумачыў ён. – Мне не дазволена. Даўмонт сказаў забраць. Ужо напагатове скрыня ў сенцах стаяла.

Разбіраючы свае рэчы, над кожнай яна ўсплакнула, прыгадваючы, што маці для яе ткала, што сама ткала, што з бабамі ткала на Даўмонтавым двары. Падыспадам паказаўся ручнік, які яна сама саткала і падаравала Даўмонту на вяселле. Не толькі гэтым ён быў дарагі ёй і павінен быў быць дарагім Даўмонту. У татарскі наезд Бурундая, калі яны хаваліся ў пушчы, яна гэтым ручніком перавязвала Даўмонту раны. На льне і засталіся бурымі плямамі сляды ягонай крыві. Усё ён вярнуў. Быццам пахаваў. Вымецены яе сляды з ягонай хаты...

І здалася ёй скрыня труной. Рассыпаліся апошнія надзеі вярнуцца ў Крэва, паплакаць на Перуновай гары аб заканчэнні сваіх пакутаў. Прыслаў ёй Даўмонт акаваную дамавіну – прыбярыся, былая жонка, у сьвяточнае, кладзіся і заплюшч вочы навечна. Хіба яе віна, што ў Міндоўга вялікая сіла, а ў Даўмонта малая? Ахова не абараніла, сам прыцярпеўся, нявесту шукае, а ёй дае волю: хочаш – жыві па сэрцы, хочаш – па хітрым розуме, а не хочаш – вазьмі ды памры. Чыё сэрца, думала яна, яе смерць супакоіла б? Міндоўгу не дастанецца, марна стары князь грашыў, зноў яму развітвацца з жонкай, сядзець пры дамавіне, стаяць ля свежай магілы. Зацёр яе сляды князь Даўмонт, пагадзіўся назваць сваю жонку жонкаю Міндоўга. А калі і трымае памяць, дык злосную – як падставу помсціць вялікаму князю. За сябе помсціць, не за яе. За сваю меншую ўладу, меншую дружыну, за знявагу. Пра ейны боль не ўзгадае. Даўмонт забыў яе, трэба ёй на яго забыцца. Не адновіцца іхнае жыццё, двойчы той самы ручнік не даруюць. Няхай і будзе гэтак, як ён вырашыў. Веда пакінула ёй пляменнікаў, стануць яны яе прыёмнымі дзецьмі – адзіныя сваякі на свеце, іншых не засталося...

Гэтае сваё крэўскае адзенне яна аддала мазаўшанкам. Дарунак быў да вызвалення. Напрыканцы зімы прыбыў поезд палякаў з выкупам забіраць Конрада і іншых палонных. Быў сярод іх і муж Малгажаты, такі ж сівы, як Міндоўг, толькі маладзейшы. І гэтак шчасліва ён сваю Малгажатку абдымаў, і ад радасці, што жывая, шчыра плакаў, і рукі ёй цалаваў, што зайздрасць праццяла Агну: вось каб яе хто так клапатліва выкупіў. Пры развітанні Малгажата сказала: «Можна думаць пра жыццё – не пашчасціла. Можна думаць – пашчасціла. Няхай ён цябе кахае, як мой мяне. А ты любі сябе, неба, лазню, лес, пярыну, дзяцей. Я на тваім месцы карону на галаве насіла б ужо». З'ехалі вазкі з былым палонам з Наваградка, і Агна засталася адна з пляменнікамі, з памяццю аб галасах мазаўшанак, аб іх розных марах, і аб парадах Малгажаты, якія, адчувала, не здолее здзейсніць ніколі: не мае яна, ці не прачнулася яшчэ ў ёй ахвота кіраваць іншымі, гаворачы адно пяшчотнае слова на дзень.

На радуніцу, калі Міндоўг быў у паходзе, павяла Агна Руклю і Рэпіка на жальнік да Марты. Пачысцілі ад леташняга лісця і паправілі магілку, пасумавалі утраіх, і Агна адпусціла пляменнікаў. У адзіноце яна прысела на капец і доўга расказвала сястры пра сваё цяперашняе жыццё. Была б ты жывая, гаварыла Агна, і я была б шчаслівая пры маладым мужу, ці падманвалася б, што шчаслівая. А цябе няма – і жыву я ў тваім доме, п'ю з твайго кубка, ем тваёй лыжкай, гадую тваіх дзяцей, а брата тваім сынам нарадзіць ад Міндоўга я не захацела. Думаў, магчыма, твой муж, што я ва ўсім буду, як ты, абарачуся ў цябе, а я не магу сваё мінулае тваім замяніць. Памятаю, як забіраў цябе да сябе Вішымунт, я маленькая была і зайздросціла: хацелася і мне хутчэй пайсці замуж. Ні Вішымунта, ні цябе – адзін твой муж Міндоўг усіх перажыў Напэўна, калі б мяне некалі гадзюка не ўкусіла, я няшмат памятала б пра цябе. Я дзяўчынка была, ты – выданніца. Сёстры выходзяць

замуж, а іхныя мужы могуць да смерці варагаваць, і сёстры ўсё жыццё не бачацца. Калі б не тая гадзюка ў маліннiку, я, відаць, ненавідзела б цябе зараз, бо твой муж маё жыццё зламаў. А цяпер я ведаю: нахлусіў ён мне і ўсім пра тваю апошнюю волю. Ён нахлусіў, а таму я жыву недарэчна і пуста. Калі была з Даўмонтам, хацелася мне доўга пражыць, а цяпер зноў зайздрошчу табе, як у дзяцінстве. Ты зноў пры бацьку і маці, і мне часцяком хочацца да вас, каб маці папесціла і бацька пашкадаваў. Былі такія ў мяне дні, Веда, што я тваіх сыноў Рэпіка і Руклю не любіла і не хацелася мне іх бачыць – Міндоўгава семя, а прайшла злосць, і шкада мне іх, што без тваёй ласкі растуць. І трывожна мне за іх. Калі ты ды іншыя нашыя дзяды можаце іх з нябёсаў апекаваць, дык падайце нам знак проці бяды, таму што ходзіць за Міндоўгам смерць, а ён не бачыць. І я буду клапаціцца пра дзяцей, а вас чакаць восенню на ваша свята. А як мне далей жыць, не ведаю. Не атрымліваецца ў мяне думаць «пашанцавала» аб тым, што прыняла як няшчасце. Такое ў мяне адчуванне, сястра, што я не стаю на зямлі, а нясе мяне некуды вецер. Калі хацела назад да Даўмонта, была ў мяне сіла трываць. Ён мой вясельны ручнік мне вярнуў і перад маім крыўдзіцелем скарыўся. Нявесту шукае. Пакуль што, кажуць, не знайшоў. Цяпер у Крэва не хачу, а тут трымацца няма за што. Не магу я за тваіх сыноў ухапіцца, ды і нашто падлеткам няшчасная цётка? Дрэнна я прыдумала вытруціць сваё дзіця. Але не пра яго тады думала, а пра Даўмонта, пра чужых людзей, чужыя словы. Яго пашкадавала, сябе пакарала... А цяпер пра Даўмонта зрэдку думаю, а ў чым знайсці для сябе радасць – не ведаю. Калі б ты ці маці наша прыйшлі да мяне ноччу ў сне, далі падказку, што мне лепш рабіць... Мне, апроч вас, ніхто не дапаможа, а сама я бяссільная гэткае жыццё сваё змяніць.

15

У сярэдзіне траўня Міндоўг павёў літоўскую русь і літву на сустрэчу з палком ноўгарадскага князя Аляксандра дзеля дамоўленага сумеснага паходу на тэўтонскіх рыцараў. Праз месяц апалчэнне вярнулася без страты людзей, але і без лупаў. Міндоўг кіпеў злосцю: ноўгарадцы не з'явіліся, а ваяваць з немцамі толькі сваімі сіламі князь не захацеў: ён сваіх людзей пакладзе, а ноўгарадскія і пскоўскія дружыны тады прыйдуць на гатовае. Першаму праца – апошняму пашана. Такі саюз літве не падыходзіць. І далёкі паход гэтым падманам Аляксандра percтварыўся ў бессэнсоўную прагулянку некалькіх тысячаў ваяроў. Потым князю апавясцілі, што Аляксандр мусіў ехаць у арду на ханскі выклік, але не надта гэта Міндоўга суцешыла: і час, і прыпасы, і конская сіла былі зрасходаваныя дарэмна, хоць не менш важная мэта была ў другім накірунку – на бранскай мяжы.

Можа, бранскім паходам і патрабавалася пачынаць лета. Калі Раман Бранскі з Васількам Валынскім праз шлюб сваіх дзяцей з'ядналоцца, дык пойдуць у наезд на наваградскія і літоўскія землі. Няхай Вольга Раманаўна яшчэ ў нявестах пасядзіць, думаў Міндоўг, а Уладзіміру, другому сыну Васількі, можа бацька адшукаць пару і на Літве – не сышоўся свет клінам на бранскай князёўне. Бацькам пажадана ўзмацніцца, дык спароўваюць дзяцей, нібы жарабца і кабылу. Няхай жаніх выйдзе ў поле побач бацькі, можа, са смерцю там ажэніцца. Без вайны іх вясельны запал не астудзіцца.

Усім князям ад Жмудзі да Полацка ганцы павезлі загад збірацца каля Слуцка пад канец жніўня, маючы харч на месяц. Куды вырушыць сабранае войска, ні ганцы, і ніхто, апроч самога Міндоўга, не ведаў. Ездзіў ганец і ў Нальшу, і прывёз адказ, што Даўмонт са сваёй дружынай прыйдзе. Да Трайната на Жмудзь, у далёкую паездку, Міндоўг паслаў Астапа, а не дваровага ганца, выказваючы жмудскаму сваяку пэўную павагу. Астап узяў належную ахову і пагнаў ад заставы да заставы, кожныя дваццаць пяць вёрст мяняючы коней. Праз два дні ён быў у кернаўскім замку і стаяў насупроць Трайната ў яго княжым пакоі.

Яшчэ не распачаўшы размовы, толькі пачуўшы сціплае прадстаўленне «ганец князя Міндоўга», гледзячы ў блакітныя, прамяністыя, прыветлівыя вочы разанца, Трайнат усхваляваўся – чуццё падказвала яму, што ён недарэмна пра гэтага чалавека з восені думаў. Нічога нельга было прачытаць у гэтых вачах, усё веданне жыцця было заслонена нібы дзіцячай даверлівасцю і прастадушнасцю. Быццам забыўся разанскі князь на свае шматлікія папярэднія пакаленні, на рурыкавіцкую гордасць, задаволіўся лёсам польнага ваяводы і адказнага ганца. Не можа такога быць, думаў Трайнат. Пэўна, марыць ён пра ўладу, удзел, пра вяртанне на сваю княжую ступень, пячэ яму сэрца несправядлівасць разанскіх няўдачаў. Абодва ведалі адзін аднаго па войнах з крыжакамі і мазурскім паходзе, але ранейшыя справы не заахвочвалі Трайната прыглядацца да блізкага чалавека Міндоўга, а Астапа шукаць увагі князя, які атрымаў ад вялікага князя Жмудзь два гады таму за храбрасць у бітве з немцамі каля возера Дурбэ. Цяпер жа ён убачыў у вачах Міндоўгавага сястрыніча асаблівую цікаўнасць да сябе і наважваўся адгадаць яе прычыну. Насупраць, ён ведаў, стаяў чалавек з цвёрдай воляй, рашучы, жорсткі, разумны, і такі чалавек не мог углядацца ў ягоную душу без важнае мэты.

– Проста ганец? – усміхнуўся Трайнат. – Помніцца, ты – ваявода і радца князя Міндоўга.

Лісlівыя словы не маглі быць выпадкам – жмудскаму князю няма патрэбы ліслівіць наваградскаму баярыну. Таму Астап успрыняў словы Трайната за праверку сваёй абачлівасці.

– Не, – не згадзіўся ён, – я пры ім слуга. Князь Міндоўг, калі хоча параіцца, сам з сабою і раіцца. Ну, у асобных выпадках – зураднікамі.

– Значыць, ты ўраду не маеш? – спытаўся Трайнат, быццам са здзіўленнем, хоць ведаў, што ўраду няма, інакш Астап назваў бы сябе па ўраду.

– Не маю, – пацвердзіў Астап. – Я ж нетутэйшы.

Трайнат спачувальна паківаў галавой, нібыта дакараў Міндоўга за памылку, і адпусціў ганца адпачыць.

Увечары князь паклікаў Астапа разам павячэраць. У застольнай размове самнасам Трайнат без бачнай падставы пачаў распавядаць пра цяжкія прадчуванні на будучыню і ківаў на жаданне прыяцельства з Астапам, з чаго вынікала магчымая змена ягонага лёсу. Прадчуванні тычыліся Міндоўга, які, са словаў Трайната, хоць і дажыў да глыбокай старасці, усё ж не пазбягае памылак і буйных грахоў. Узяць хоць бы, казаў Трайнат, ягоны ўчынак з Даўмонтам. Адных крыўдзіць, іншых не шануе. Вось калі б, прыкладам, Астап служыў у Трайната, ужо даўно хадзіў бы першым ваяводам, атрымаў бы ўдзел, не падсаджваў бы старога князя на каня і не насіўся б конна на лясных небяспечных дарогах, як просты кмет. Але наўрад ці Астап захоча здымацца ды ехаць на Жмудзь?

– Не думаў пра гэта, – асцярожна адказаў Астап. – Не меў нагоды.

– Падумай, – прапанаваў Трайнат. – Кожнаму наперад трэба думаць. Вядома, Міндоўг – моцны князь, але – гады вельмі сталыя. Нават у сялянскай хаце, калі гаспадар знясільваецца, не можа хадзіць за ралам, ссекчы дрэва, ён пераходзіць за печ, саступаючы кут маладому, дужаму, хто здольны карміць сям'ю. Вось і для князя Міндоўга надыходзіць такі час, ён сам яго прыспешвае, гневаючы багоў. Адзін ягоны сын лахманы чорныя апрануў, два іншыя – дзеці. Значыць, нехта з боку прыйдзе на княжы сталец у Наваградак, калі Міндоўг аднаго дня прызнаецца: «Змарыўся, хачу адпачыць!» Калі вялікі князь адыдзе ад справаў, шмат якія дробныя князі запаляцца жаданнем заняць ягонае месца, пачнуцца звадкі, а хіба гэта добра пры мностве ворагаў на ўсіх межах? Наперад няшмат людзей заглядаюць. Лепш сярод нешматлікіх быць, чым сярод неабачлівых, якія заднім розумам жывуць. Калі ўсё спраўнілася, яны бачаць, што інакш трэба было думаць, і тады разводзяць рукамі, б'юць сябе кулаком па лбе, дзівяцца на сваю някемнасць: «Эх, як раней не дадумаўся! Век жыві – век вучыся!». А вучыцца позна, калі прапусціў міма сябе дзень удачы...

Адказаць патрабавалася да ад'езду, і Астап, лежачы ў каморы, абдумваў Трайнатаву прапанову. Правільным у ягонай прамове было тое, што князь Міндоўг стары і шмат хто чакае ягонага скону. А як надыдзе гэты дзень, не тое што тут на Жмудзі, але і ў наваградскіх баярскіх хатах пачнуць думаць пра карысную ім замену. Запросяць Войшалка - ігумен гэты яго, Астапа, і слугой не будзе трымаць, назаўтра выкіне прэч з замкавага двара: не падабаюцца яны адзін аднаму. Падобна, думаў Астап, дамовіўся ўжо жмудскі князь з Даўмонтам. Той малады, нічым не ўславіўся, апрача забранае жонкі, яму ў Наваградку не ўладарыць. Калі на нешта наважыліся, дык ад яго, Астапа, няшмат папросяць – падвесці Міндоўга да засады. І пральецца кроў. Гэта адразу было

зразумела, яшчэ на вяселлі тым, што згулялі на памінках. Хіба ён не імкнуўся гэтага пазбегнуць? Наўмысна ездзіў да Войшалка ў манастыр, прасіў – перакана́й бацьку, бяду на сябе кліча. Не, «як будзе, так будзе»! Кепска будзе. Калі Трайнат гатовы да нападу, дык і Даўмонт з ім разам: забіць вялікага князя беспакарана можа толькі Даўмонт, у яго права на помсту. А полацкі Таўцівіл, гальшанскі Гердзень і ўся Дзяволтва далучацца. Проці ўсіх не пойдзеш – затопчуць. Ды і нашто яму, Астапу, ісці проці ўсіх князёў? Гэта іх літоўскія звадкі, а ягоны клопат малы – падказаць зручны час. І ўсё – тады ён стане наваградскім ваяводам, праваю рукою вялікага князя. А нораў у Трайната круты – калі ён сядзе ў Наваградку, дык будзе гаспадарыць, пакуль не састарэе, як Міндоўг. Але і Жмудзь будзе яму паслухмяная, значыць, ён мацнейшы за Міндоўга стане. Вялікага князя ён чужымі рукамі скіне, але і самому давядзецца пайсці на смяротны грэх – забіць свайго дваюраднага брата Таўцівіла. Той усё ж па дзядзьку Міндоўгаў наступнік. Заб'е – і тады адкрыты для яго, Астапа, шлях у полацкія намеснікі, а больш дакладна – у князі. Ён – Рурыкавіч. У Полацку адвечна Рурыкавічы валадарылі. Не патрэбны будзе палачанам чарговы перахрыст з літвы. А як далей – з Трайнатам разам, ці супроць яго – Бог вырашыць. Так што ёсць сэнс дапамагчы жмудскаму князю.

Раніцай ён спытаўся ў Трайната, выказваючы сваю згоду:

– Што ад мяне залежыць?

– Адно: каб Даўмонт ведаў, дзе сустрэць Міндоўга без вялікай аховы.

– Значыць, у паходзе.

– Да паходу, – удакладніў Трайнат. – Каля Слуцка.

Астап здагадліва кіўнуў, але ўсё ж вырашыў пацікавіцца:

– Даўмонт ведае?

– Даведаецца, калі час прыйдзе, – супакоіў Трайнат. – Ягоная справа нескладаная... Гэй, Астап Канстанцінавіч, – раптам штучна спахапіўся Трайнат. – Ты паедзеш, няхутка ўбачымся. Вазьмі ад мяне на памяць, – і ён працягнуў Астапу нож нямецкай коўкі з залатымі скрэпамі на касцяной тронцы.

Астап узяў падарунак, агледзеў і адказаў, што належала:

– Прыгожы нож, князь Трайнат. Буду помніць.

Ён засунуў нож за пояс, ведаючы, што цяпер звязаны з Трайнатам назаўжды. А не возьмеш, думаў ён, нагоняць у дарозе жмудзіны і заб'юць.

Калі Астап сядаў у сядло, Трайнат наказаў на дарогу:

– Ты разумны чалавек, Астап. Не пашкадуеш!

– Калі Бог захоча! – Астап перахрысціўся.

– Багі даўно жадаюць, – сказаў Трайнат пераканана. – Людзі дрэнна іх чуюць.

– Гэтак часцяком бывае! – пагадзіўся разанец, дзівячыся сіле жадання Трайната адправіць роднага дзядзьку на той свет. Дачакацца не можа, пакуль той памрэ. Але калі ён будзе чакаць, тады і мне доўга чакаць, падумаў Астап, а век наш нядоўгі, на ўсе чаканні дзён не хопіць...

Ён крануў каня, і кметы аховы зарысілі за ім па вузкай прынёманскай дарозе ў зваротны шлях.

16

На купалле Міндоўг павёз сям'ю на летняе селішча да Нёмана. Упершыню з леташняй восені Агна пакідала горад. Пасля замкавай цеснаты гэтае падарожжа верхам праз пушчу наноў адкрывала ёй свет. За дзевяць месяцаў наваградскага сядзення Агна забылася, як шуміць лес, шамаціць пад конскімі капытамі дарожны пясок, як дурманяць пахі квяцістага лугу, якія таямнічыя лясная глуш і лясныя ручаі, і адчувала сябе шчасліваю.

Апоўдні выйшлі на лясную пустку і далі коням адпачыць. На пустцы рэдка стаялі дуплістыя дубы. Адзін быў пазначаны маланкай – у выпаленым дупле пры карнявішчы мог схавацца вершнік. Рэпік і Рукля даследавалі гэтую таямнічую пячору. Агна сядзела ля падножжа, заваражана назірала, як лунае над лесам сокал. Да яе падышлі і прыселі побач Міндоўг і Астап. Запэцканыя сажай, падобныя на чарцей, браты ўскараскаліся на дуб і гойдаліся, трымаючыся за гнуткія галінкі.

– У дзяцінстве, – сказаў гучна Міндоўг, – калі я быў такі, як яны, таксама любіў лазіць на дубы. Ухаплюся за галінку, і калышуся ўверх-уніз. Аднойчы гайдаўся, гайдаўся ды раптам чую – ж-ж-ж – нібыта страла ляціць. А ляціць проста мне ў лоб вялізная аса. З таго часу такіх вялізных і не бачыў ніколі. Гэтак ударыла ў пераноссе, быццам камень хто пусціў з рушніцы. Пляснуўся на зямлю, адбіў зад. Ды яшчэ і аса ўджаліць паспела, на лбе вырас гузак, агнём гарыць. І хоць бы хто пашкадаваў. Як хто ўбачыць маю морду з барвовым рогам на лбе, з акасеелымі шчылінамі замест вачэй – ад смеху курчацца. А бацька кажа: «Дурны ж ты, сынок, калі маленькая аса цябе гэтак адолела!»

Рэпік і Рукля пасля пачутага палічылі за лепшае не рызыкаваць сустрэчай з асой, саскочылі і ўселіся пры дарослых, спадзеючыся на працяг падобных успамінаў.

– Са мной яшчэ горш было, – прыгадала Агна. – Ела неяк суніцы. Ягаду падкіну – ротам лаўлю, потым – дзве, потым – тры. І гэтак мне соладка і добра – млею ад асалоды. Раптам быццам хто з маху іголку ў язык уваткнуў – пчала заляцела, са страху ўджаліла. Прыбегла дадому, а мяне адразу давай катаваць, каб джала з языка выцягнуць. Палову выкалупалі, палова засталася. Язык распух, тырчыць вонкі, як затычка. Ні есці, ні піць, ні стагнаць не магу. Тыдзень за печчу галодная ды нямая хавалася, каб ніхто не бачыў і не кпіў...

Рукля і Рэпік заходзіліся смехам.

– Глядзіце! – Міндоўг паказаў рукой на нерухомую чорную кропку ў небе над лесам. – Сокал. Зараз рынецца на некага.

І сапраўды, чорная кропка раптам імкліва панеслася ўніз, і сталі бачныя распластаныя крылы і гатовая для ўдару дзюба. Высокія дрэвы не дазволілі ўбачыць канец сакалінага палявання.

Усе крыху памаўчалі, разумеючы, што сокал перамог, а нейкая жывая істота загінула.

– Вось такое на свеце жыццё, – задумліва сказаў Міндоўг.

– Усе есці хочуць, – заключыў Астап. – Ды лепш я вам таксама раскажу сваю прыгоду. Бо са мной такое было ў дзяцінстве, – Астап хітравата ўсміхнуўся, – чаго ні з кім на белым свеце не было.

– Ну ўжо, – не паверыў князь. – Такое немагчыма. Усё было і будзе.

– Можа, і будзе, – сказаў Астап, – наперад не ведаю, але раней не было, паклясціся магу. Неяк расказала мне мая бабка казку пра жабку-князёўну. Назаўтра ранкам іду ўздоўж рова, бачу сядзіць на маёй сцяжынцы жаба. Думаю: вось яно маё шчасце, мяне чакае. Жабу схапіў, да сэрца прыціснуў, дамоў прыбег, за печку схаваўся і ў халодную пыску яе цалую. Бабка прыкмеціла, спужалася: «Унучак, ты што, ашалеў?» – «Не! – кажу. – Нявеста мая. Трэба пацалаваць, каб у дзяўчынку павярнулася». Тады бабка кажа: «А-а! Правільна, унучак, робіш, але, можа, не сваю нарачоную схапіў. Вазьмі, унучак, торбачку, яшчэ пашукай!» Я іх, можа з дзесятак перацалаваў. Ды вось, не пашанцавала... Ну што, ніхто больш пра такую любоў пахваліцца не можа?

– Праўда, ніхто, – здзіўлена зазначыў Міндоўг.

– Я магу! – пераможна аспрэчыў Рэпік. – Са мной было. І жабу я каля вежы сустрэў. І цалаваў за печчу. І таксама князёўнай не стала...

– Ты глядзі! – расчаравана адгукнуўся Астап. – Дарэмна я паклясціся хацеў.

А Рукля не ўтрымаўся пакпіць з брата:

– Жабін жаніх!

– А табе затое варона на нос нагадзіла, – прыгадаў у адказ Рэпік. – Забыўся ўжо, як на гняздо зазіраўся?

Браты абмяняліся варожымі позіркамі і адвярнуліся адзін ад аднаго ва ўзаемнай непрыязнасці.

– Варона – святое! – сказаў Міндоўг, каб замірыць сыноў. – Усім ад яе дастаецца. Што нос – у кожнай лужыне адмыеш. Як-небудзь вазьму вас у Коўна, там старадаўняе свяцілішча на выспе, святая дуброва – адны вароны толькі і жывуць. Хто ў тых варон каменем кіне – таму галаву сякерай зносяць. А каго якая з тых варон адзначыць, як Руклю, той шчаслівы ходзіць, месяц не мыецца, перад усімі выхваляецца – во, глядзіце, знак удачы займеў.

– Што ж гэта за ўдача такая, – засумняваўся Рэпік, – месяц на галаве насіць.

– Паспрабуй, – параіў Міндоўг, – даведаешся.

Абедам прыехалі ў Альконы. Вялікі двор, абгароджаны высокім парканам з тоўстымі дубовымі варотамі, стаяў на пагорку блізка Нёмана. Паміж ракой і лесам шырока раскінуўся луг. Адным краем ён упіраўся ў лясістыя ўзгоркі, на другім была вёска загоншчыкаў, дзесятак хатаў – не больш. Княжы двор закрывалі ад вёскі дзве стадолы, якія скарыстоўвала пад жыллё ахова, бо не хапала месца ў каморах пры двары.

Да вечара ўладкоўваліся, у прыцемках павячэралі і пайшлі на купальскае

вогнішча. Маладыя кметы пускалі з горкі абмазаныя смалой, падпаленыя колы. Князь, а за ім Агна, Рэпік, Рукля, Астап падняліся на ўзгорак. Міндоўг не ўтрымаўся і таксама запусціў падпаленае купальскае кола да ракі. І апынуўся пераможцам – далей за ўсіх ягонае кола пракацілася. «Шанцуе табе, княжа, – ухваліў Астап. – Будзе табе гэтым годам шчасце!» – «Хто ж праціў? – адказаў Міндоўг. – Абы няшчасця не было!» Агна прысела на высахлую траву, князь прылёг, тады і Астап дазволіў сабе прылегчы. Усе моўчкі глядзелі на зыркія купальскія зоркі.На лузе дружыннікі і вясковыя дзяўчаты скакалі цераз агонь, нарошчваючы яго ў даўжыню. Рэпік і Рукля з аднагодкамі з вёскі таксама скакалі цераз полымя ўпоперак вогнішча.

– Што мяне дзівіць, – сказаў Міндоўг, – дык гэта зоркі на небе. Што гэта такое? Хоць бы хто знаў ды растлумачыў, што за агеньчыкі там, у вышыні. Кажуць: знічкі нашыя там агеньчыкамі гараць. Як хто памрэ – знічка гасне. Нешта мала верыцца. Колькі людзей на маёй памяці і ў бітвах загінулі і сваёй смерцю памерлі, а зорак і на дзесятак не паменшала.

– Тысячы палеглі, – знайшоў яснае рашэнне Астап, – тысячы нарадзіліся.

– Магчыма, – не задаволіўся князь. – Толькі як яны загараюцца, га? Вось гэта таямніца... А што, Астап, – раптам змяніў цікаўнасць князь, – ты папраўдзе жабу цалаваў?

– Не, пакуль не давялося. Бачыў, як Рэпік цалуе. Ну, і прыдумаў у падтрымку, каб не саромеўся перад братам.

– Шкада, – сказаў князь. – Выходзіць, толькі адзін мой сын такі прасцяк даверлівы.

Агна слухала гэтую размову, глядзела, як слупамі ўзлятаюць над вогнішчам іскры, бачыла каля агню шчаслівых дзяцей, і адчувала горасць, што вытруціла зародак. Быў бы ў яе сын. Яе дзіця. Пакуль Міндоўг жывы – яна абароненая, і дзіцёнак быў бы пад абаронай. Зясцерагла Даўмонта ад прыніжэння, сябе свайго шчасця пазбавіла, а ён усё адно вымеў яе сляды... Хоць бы хто спыніў тады. Хоць бы дзяды з неба розум прасвятлілі. Вось, Астап, мог спыніць, але слова праці не сказаў. Быццам адгукнуўся на просьбу, дапамог, нават і рызыкаваў, а дзіця загубіла з яго дапамогай. І дачка ў яго ёсць прыёмная, і ўласны сын гадуецца, аднак жа не адгаворваў... Трэба нарадзіць, вырашыла Агна. Нудна векаваць пустацветам. Хоць даведаюся, што гэта за боль, калі дзіця родзіш, і якая радасць, калі народзіш. А чыё яно – маё...

Князь прабыў у Альконах два дні і, пакінуўшы ахову, вярнуўся ў Наваградак, як ён сказаў, будаваць вежу і рыхтаваць паход. Агна адчула да яго ўдзячнасць, што не застаўся і даў ёй волю пабыць сам-насам. Усю сярэдзіну лета, пакуль Міндоўг адсутнічаў, Агна пра яго і не ўзгадвала. Здавалася ёй, што ён наогул з'ехаў назаўжды. І рэдкія ўспаміны пра Даўмонта не адгукаліся пачуццямі, нібы ён быў даўні выпадковы спадарожнік на забытым ужо шляху. Няблізка быў Наваградак, яшчэ далей стаяў Крэўскі замак, не хацелася ўзірацца праз такую далячынь у іхныя дубовыя сцены, вежы, брамы, каморы і насельнікаў. Быццам растварыліся яны ў павалоцы сонечных летніх дзён. Марылася Агне, каб на яе забыліся. І ранкам, калі хадзіла ў лес, і ўвечары, калі стаяла на беразе, гледзячы, як адбіваюцца зоркі ў Нёмане, ці купалася ў цёплай нёманскай затоцы, ці гатавала ў паварні, адчувала Агна гэтую мару. «Добра б, – казала яна сабе, – застацца тут назаўсёды. Не бачыць нікога з іх – ні другога, ні першага. Толькі дзіця нарадзіць, каб было пра каго клапаціцца».

Рукля і Рэпік хадзілі з кметамі на рыбалку, карміліся са стаёўнікамі з іх катла, спалі ля вогнішча на выпасе – Агна мала іх і бачыла. Аднойчы яны ўгаварылі яе пайсці ў пушчу, паказаць мясціны, дзе гулялі з маці. Каля вёскі меўся брод цераз Нёман, а за ім пачынаўся маліннікамі лес. Гэтым бродам яны перайшлі раку, доўга ішлі сцяжынкамі ад паляны да паляны і апынуліся на беразе звілістай плыткай рачулкі, шчыльна зарослай парэчкамі. Вывернутая з каранямі сасна служыла мастком; трымаючыся вядомых ім знакаў, пляменнікі вывелі Агну да імшыстай паляны, затуленай ад сонца старымі елкамі. Пасярод паляны біла з зямлі крыніца, ад яе адыходзіў вузкі, шырынёй з далонь, ручай.

– Вось сюды мы хадзілі, – сказаў Рукля. – Мамуля казала, што тут выток ракі, святое месца, прошча...





На зваротным шляху Рэпік расказаў ёй, што маці станавілася перад крыніцай на калені і казала, каб яны станавіліся і прасілі ў прошчы даравання сабе і шчасця дарагім людзям. А для сябе ў прошчы не трэба прасіць, іншыя папросяць, тады споўніцца, інакш – не...

Пазней Агна адна прыходзіла на гэтую зацененую паляну і стаяла каля крыніцы, дзе летась малілася Марта. Неяк, стоячы на каленях ля прошчы, яна зразумела, што пагадзілася з лёсам. Магчыма, і Марта, думала яна, тут, у гэтым глухім лясным гушчары, пагадзілася прыняць свой лёс пасля гібелі Вішымунта. Як думаеш – так і сэрца адчувае ці вучыцца адчуваць. Праўду казала Малгажата. Думала: палон, ганьба, бедны Даўмонт – мардавалася; раздумала аб тым смуткаваць – супакоілася сэрца. Быў Даўмонт мужам – яго думкамі жыла; пры пляменніках пайшло жыццё – пра іх трэба клапаціцца. А самае важнае цяпер у жыцці – свайго сына ці дачку нарадзіць. Марта гэтае шчасце зведала, трэба і ёй зведаць. Будзе сын – будзе Міндоўг яго аберагаць. Яшчэ, можа, мацней палюбіць, чым старэйшых сваіх сыноў. Не патрэбна ёй смерць Міндоўга. Няхай князь доўга жыве, і сыны ягоныя няхай растуць у міры, няхай Даўмонт хутчэй знойдзе сабе добрую жонку. А ёй лёс, як і Марце, – быць жонкай вялікага князя, быць вялікай княгіняй, бачыць усё, як князь бачыць, нудзіцца без яго, радавацца яму, калі прыязджае, забыцца на ўсе крыўды, каб на шкоду яму нічога не жадаць.

17

Міндоўг прыехаў у Альконы напрыканцы жніўня. Ужо жыта стаяла ў снапах на ржышчы за вёскай, гаі жаўцелі да бабінага лета, вада ў Нёмане несла апалае лісце, і ўсе – ад дзяцей да аховы – настроіліся на блізкае вяртанне ў Наваградак. Рукля і Рэпік за лета падраслі, і князь задаволена здзівіўся, параўнаўшы леташнія засечкі на вушаку з новымі. «Калі кожны год на далонь прыбаўляць, – пажартаваў ён, – дык хутка галовамі столь пачняце прабіваць!» Сустрэча ўзрадавала і Агну: хата запоўнілася, выраўняўся малаўцямны парадак – паланёная цётка і дзеці сястры. Цяпер за сталом сядзеў бацька яе прыёмных дзяцей, яе муж, гаспадар, ён кроіў хлеб, на лаўцы ляжаў ягоны меч, на сцяне віселі яго шлем і панцыр; людзі, што заходзілі ў хату, кланяліся яму, садзіліся да стала з ягонага дазволу. І калі б увайшоў, напрыклад, Даўмонт, ён таксама прысеў бы да стала з дазволу гаспадара, а без дазволу стаяў бы пры парозе. Ёй спадабалася, як ён ухваліў яе варыва і печыва, бо сказаў не ў вочы, а дзецям: «Ну, зараз разумею, з чаго гэтак падраслі!» І Астап паспяшаўся жартаўліва падтрымаць: «Калі тыдзень за такім сталом правесці – новую кашулю прыйдзецца шыць, старая не вытрымае, лопне!» Але ягоная пахвала здалася Агне няшчырай – ухваляў, каб дагадзіць князю, а галоўнае – расхацелася ёй бачыць саўдзельніка па благой справе. Яму ўсё аднолькава цікава – і добрае, і злое, з агню можа вынесці, і ў агонь можа ўласнымі рукамі ўкінуць. Яе тады ўвосень пашкадаваў, але князю свайму тады здрадзіў. Вядома, забіў бы яго Міндоўг, калі б даведаўся, хто дапамог пазбавіцца апошняга, можа, у ягоным жыцці дзіцяці. Папрасіла б тады аборку прынесці – прынёс бы аборку, узяўшы слова, што не адкрые князю, адкуль аборка ўзялася. Чужы ён; што яму да яе; у яго своя сям'я і свае клопаты; ён у князя не па любові – уцякач на службе. Знойдзе лепшую службу ці паклічуць раптам яго разанцы – адразу ад'едзе. Толькі Міндоўгу і можна верыць.

Падаючы на стол, слухаючы аповед Міндоўга пра надбудову ў Наваградку каменнай вежы, ягоныя разлікі пра сотні тысячаў камянёў і валуноў, што патрэбныя дзеля будоўлі каменнай замкавай сцяны, пра тысячы вазоў і вознікаў, якія гэтыя камяні з палёў у Наваградак павязуць, Агна прыгадала даўнія не цэненыя раней княжыя ўчынкі. Узгадалася, як Міндоўг разам з сынамі паўтараў за Вандай і Малгажатай мазавецкія прыслоўі, падаючы дзецям прыклад цікаўнасці; як спаў на лаўцы, укрыты світкай, а не палез у цяпло на палаці; як пяшчотна прыгадваў сваю маці; як знарок смешна расказваў пра свае страхі, калі ўцякаў ад полаўцаў. Яна ўважліва ўзіралася ў князя і раптам зразумела, чаму Даўмонт і іншыя князі не любяць і баяцца Міндоўга. Не за тое, што ён забіваў. І яны не лепшыя, і яны забівалі без шка-

давання. Іх бацькі, дзядзькі і яны самі саступілі яму. Волі ў яго было больш. Цяпер яны яго кметаў вылічваюць – у яго тысячы, у іх сотні, вось, значыць, і сіла ў яго. Але калісьці не было ў яго наваградскіх кметаў, а была, як у іх, – літоўская ашмянская дружына ў трыста коней, ды ён стаў вялікім князем, а яны засталіся ўдзельнымі. Ён прымусіў іх слухацца сябе. Ён і яе прымусіў прыняць сваю волю. Але ў яе ні кметаў, ні коней, ні братоў з мячамі, яна – адна, адзінокая жанчына, на месцы памерлай сястры. У іх коні, кметы, дзіды, дзядзькі і браты – і ўсе яны слухаюцца князя, хоць ненавідзяць яго. У князя не забралі жонку – ні першую, якая нарадзіла Войшалка, ні Марту. Ён забіраў. Ён і са смерцю паспрачаўся – узяў замест Марты, якую забралі багі, яе, Агну, падобную на сястру і аднае з ёю крыві... Яны шэпчуцца проці яго, але баяцца выступіць збройна. Сядзяць у сваіх гарадзішчах, цярпяць, чакаюць, калі ён памрэ. А ён жывучы, ён шмат каго пераждыў, і гэтых, хто чакае, на злосць ім пераждыве. Ён не верыць ім, бо яны клянуць яго шэптам, а хто шэпчацца за плячыма, той і б'е ў спіну, а трэцяга вока нават у вялікага князя няма. Яна павінна быць для князя як трэцяе вока.

Адвячоркам Агна пайшла з князем да Нёмана. Упершыню яны прагульваліся разам. На луг сівымі пластамі напаўзаў туман, шэрымі ценямі рухаліся ў тумане спутаныя коні, вакол вогнішча грудзілася варта, ад стадолаў далятаў вясёлы смех, а дзесьці далёка за вёскай нехта спяваў сумную песню, у адзіноце праводзячы барвовы захад. Яны спыніліся на беразе і доўга глядзелі на адлюстраванне ў Нёмане першых зорак. Абое адчувалі, што ў гэтую хвіліну паміж імі загадкава сціраецца мяжа раз'яднанасці; патрабаваліся нейкія важкія словы, каб адзначыць у памяці гэты іх першы сямейны вечар.

– Княжа, – пачала Агна, – беражы сябе. У цябе за спінай чыйсьці цень. Гэта нядобры цень, а Рэпік і Рукля яшчэ дзеці. Мне часцяком бывае страшна. Я хачу ў Наваградак пад ахову сценаў...

Міндоўг уважліва яе слухаў.

– Добра, – зразумеў ён недасказанае. – Буду сцерагчыся.

Але гэтае абяцанне было недастатковым адказам на абвешчаную яму вернасць. Агна чакала шчырасці.

– Я з дзяцінства жадаў улады, – сказаў Міндоўг. – Я звыкся з уладай і, пэўна, не здолею ад яе адмовіцца, пакуль не памру. І жыццё склалася гэтак, што мой першы сын на трыццаць гадоў старэйшы за сярэдняга. Гэта азначае, што я Войшалка любіў і на яго спадзяваўся. Трыццаць гадоў у мяне быў адзін сын, і я доўга не жаніўся пасля смерці першае жонкі. Потым я зразумеў, што спадзяюся дарэмна: ён хутка ўспыхвае, і хутка гасне. Сухая салома. Ён – то ваяр, то манах. Быць адважным ваяром для князя мала, быць шчырым манахам – нельга.

Яны паціху пайшлі ўздоўж ракі да краю лугу.

– Цяпер, – працягваў князь, – я спадзяюся на сына, якому да княжай справы яшчэ гадоў сем сталець. Рукля будзе сапраўдным князем. Ці, магчыма, Рэпік стане сапраўдным князем. Зараз ён ціхі, але ўсё мяняецца. Я таксама быў не надта шумлівы. Але сем гадоў трэба неяк пражыць. Таму я абавязаны быць хітры, недаверлівы, рашучы, асцярожны, жорсткі, разумны, каб мяне не падманулі такія ж жорсткія, хітрыя і рашучыя. Марта гэта разумела. Наогул, разумела ўсе дачыненні – князёў, немцаў, вешчуноў, сваякоў, злых і слабых...

– Ты думаў, – спытала Агна, – што і мне ўсё зразумелае, як ёй?

– Не, гэтак я не думаў, – шчыра адказаў князь. – Марта была надзейным сябрам. Дванаццаць гадоў мы прабылі разам. Раптам яе не стала. Такое рабілася на сэрцы, нібыта ў бітве стаю голы сярод апранутых у браню. Яе няма, ты ёсць – вось і ўсё, што тады бачыў. Хоць, – удакладніў Міндоўг, – не зводзіцца адказ да аднаго слова. Шмат усяго сыходзіцца разам. Была і такая прычына: нашто Руклю і Рэпіку браты ад нальшанскага князя? Не можа Нальша быць асобнай зямлёй. Марта баялася вайны паміж яе і тваімі дзецьмі ў будучыні. Няма радасці быць жорсткім, але яшчэ горш пакідаць жорсткія справы для сыноў. Я не вырашу – ім давядзецца вырашаць. Улада вышэй за князя. Князь памірае, а зямля і ўлада застаюцца. Мы ў гасцях ва ўлады. Узяў уладу – яна загадвае. Толькі дурань думае, што ўлада – гэта ён сам. Улада і табе будзе загадваць, калі мяне не будзе. Пра гэта я ніколі не забываюся. А пра тое, ці будзеш ты мне сябрам, ці адолее цябе





варожасць, – не думаў. А кім станеш? – спытаў ён.

– Былі месяцы, Міндоўг, – сказала Агна, – ненавідзела цябе. Цяпер – не, адышло. Пра сваё жыццё думаю, і змяёй для цябе не буду. Буду, як была Марта.

Князь памаўчаў, прымаючы такое прызнанне.

– Добра, – усміхнуўся князь. – Ты сказала лепш, чым я мог пачуць...

18

Ваявода Сірвід Рушковіч чакаў прыбыцця да войска вялікага князя – было неабходна тэрмінова здымаць палкі ў паход. Для дзесяці тысяч верхавых і тысячы цяглавых коней навокал Слуцка не хапала выпасаў, і ўжо здарылася бойка паміж полацкімі і наваградскімі стаёўнікамі за пожні. Усе дружыны сабраліся, затрымліваўся толькі Трайнат, але ганцы дакладвалі, што жмудскі полк вырушыў і ў хуткім часе падыдзе. Нарэшце ад Міндоўга прыбыў Астап з загадам ісці да Прапошаска, там князь ачоліць войска.

У той жа дзень Астап з'явіўся ў Даўмонтавым намёце. Гэта была іх першая сустрэча пасля зімовай паездкі разанца па Агніну маёмасць. Па злым бляску ў вачах крэўскага князя Астап зразумеў, што Трайнат паасцярогся адкрываць мсціўцу ўсю сваю задуму. Астапу спадабалася, што Трайнат стрымаў слова. Цяпер Даўмонт адчуваў разгубленасць. З Астапавай просьбы неадкладна паслаць вестуна да жмудскага князя Даўмонт зразумеў, што замест непрыяцеля перад ім у ягоным намёце стаіць хаўруснік. Ганец павінен перадаць Трайнату: сустрэча праз два дні каля вусця Сулы. Таму, казаў Астап, заўтра Даўмонт здыме з паходу дружыну і паспяшаецца да Сулы. Далейшае яны абмяркуюць разам з Трайнатам. Як зняць полк – Даўмонтава справа. Выручаць крэўскага князя падказкай Астап не хацеў. Але таму і не патрабавалася дапамога. Пэўна, даўно падрыхтаваў важкае для сябе і іншых тлумачэнне на падобны выпадак. Міндоўг год таму спасылаўся на волю багоў. Даўмонт таксама апраўдаецца іхняю воляй.

У ноч напярэдадні паходу Даўмонт прысніў трывожны сон. Прыснілася яму, быццам у полі граяла над яго дружынай чарада варон і адляцела ў бок Нальшы. Князь расказаў сон дружыне, старыя кметы ацанілі сон як злавесны: чарада варон – чорныя вестуны да іхных сем'яў, пойдуць далей – усе ў гэтым паходзе палягуць. Князь абвясціў Сірвіду, што ў паход ісці не можа – багі далі кравянам знак вяртацца дадому. «Як хочаш!» – адказаў не надта задаволены Сірвід, але пярэчыць проці нябеснага знаку не наважыўся. Войска знялося і пайшло да Прапошаска. Крэўскі полк павярнуў свой абоз і рушыў зваротным шляхам.

Астап пакінуў войска пасля першага пераходу, калі ўпэўніўся, што Даўмонтаў адыход не абудзіў падазрэнняў. Маючы двух заводных коней, ён прасядзеў у сядле ад зары да зары і апынуўся на месцы сустрэчы крыху пазней за Даўмонта. Ранкам да вусця Сулы прыбыў жмудскі полк. Князі павіталіся і ўселіся на беразе для апошняй рады. «Час прыйшоў, – сказаў Трайнат, – цяпер толькі наперад!» – «Ну, дзякаваць багам, дачакаліся!» – пацвердзіў змрочны Даўмонт. Астап вырашыў падагнаць абодвух: «Праз дзень будзе позна!» На прырэчным пяску ён накрэсліў размяшчэнне князевага селішча ў Альконах, паказаў, дзе брод, стадолы, выпас, двор, каморы аховы, месцы начной варты, галоўныя і патаемныя вароты. Разважыўшы над малюнкам, яны вызначылі надзейную, як ім здалося, паслядоўнасць сваіх дзеянняў.

Астап прыбудзе ў Алькону пад вечар. На досвітку Даўмонт павінен стаяць на ўзлессі напагатове. У гэты ж час на другі бераг Нёмана падыходзіць са сваім палком Трайнат. З першым святлом Астап адчыняе вароты. Гэта знак Даўмонту. Як вароты пачнуць расчыняцца, Даўмонт з першай сотняй мусіць браць двор, яго другая сотня абкружае дворышча, конная сотня Скуркі трымае князеву ахову ў стадолах. Полк Трайната пераходзіць бродам Нёман, атачае колам усіх, каб ніхто не прарваўся. Дзеля адрознення сваіх ад Міндоўгавых кметы Даўмонта і Трайната мацуюць да шлемаў яловыя лапы. Хто без лапы – таго секчы. Пасля бою ў Альконах дружыны ідуць да Наваградка. Замкавая ахова, ведаючы Астапа, апусціць мост і адчыніць браму. Разам з пяцёркай кметаў ён пераб'е брамнікаў і ўпусціць Трайната. А тады да войска паімчыць ганец

з весткай пра здзейсненую Даўмонтам помсту і пра новага вялікага князя Наваградка, Літвы і Жмудзі...

Трайнат і Даўмонт паплявалі цераз плячо, каб ніхто не сурочыў, Астап паводле хрысціянскага звычаю перахрысціўся, і ўсе раз'ехаліся выконваць кожны сваё.

19

Апошнюю ноч перад сустрэчай з Міндоўгам Даўмонт правёў з лучнікамі на ўзлеску за дзве сотні крокаў ад княжацкага двара. Блакітная чароўная поўня асвятляла страху тае хаты, дзе снілі свае перадсмяротныя сны воўк і ягоныя ваўчаняты. Каля вогнішчаў на лузе пазяхала ахова. Вартавыя па чарзе абыходзілі луг, бераг, двор і вярталіся грэцца. Гэтай вонкавай аховы было чалавек дваццаць. Усім ім заставалася жыць некалькі гадзін. Даўмонтавы людзі нерухома ляжалі ў кустоўі, чакаючы золку. Сам князь прыхіліўся да сасны і драмаў. Пачуццё блізкай ужо помсты сагравала яго. Год ён цярпеў ганьбу і кпіны. Ён дасылаў сваіхураднікаў глядзець не патрэбных яму дачок слабых князёў. Як скораны, прыгнечаны слуга, ён аддаў маёмасць сваёй жонкі яе захопніку. Ён сцярпеў сорам дзеля гэтай ночы – ночы адплаты. Цяпер чарга князю Міндоўгу зведаць, што такое жах. А жахліва яму стане не ад мяча і не ад сваёй смерці – наўрад ці ён баіцца сваёй смерці, ён і так лішняе пажыў. Стане яму страшна, калі ягоныя ваўчаняты атрымаюць па апернай страле. А ўжо тады і сам ляжа паміж імі. Міндоўг і Міндоўгавічы. Стары кароль Літвы і каралевічы. І заўтра ўдзень ён, Даўмонт, будзе ехаць па Наваградку і ступіць у замак, і там, дзе быў абрабаваны, дзе яго зганьбілі, дзе забівалі напярэдадні кастрычніцкі... дзе яго зганьбілі, дзе забівалі чужых людзей, скіне з сябе цяжар прыніжанасці. Шкада, на чарняца Войшалка забыліся. Трэба было і на ягоны манастыр наслаць кметаў. Каб адначасова вынішчыць увесь Міндоўгаў вывадак.

Дарма стары воўк напаў на яго і адняў пару. Нельга нападаць на рарэга, думаў Даўмонт. Воўк палюе на зямлі, сокал узнімаецца ў неба. Міндоўг – воўк, я – рарэг, думаў Даўмонт. Рарэг доўга вісіць пад аблокамі, чакаючы свайго ворага, яго не бачна – чорная кропка ў недасягальнай вышыні. І звер думае, што сокал не сцярпеў чакаць і зляцеў, падмануты і галодны, у гняздо, і выходзіць на сваю сцяжыну. І тады рарэг чорнай маланкай падае на ваўка, і ўдар дзюбай ператварае драпежніка ў падлу. Рарэгі не забываюць крыўды. На сцягу ягонага бацькі быў сокал-рарэг, а сцяг перайшоў да яго ад дзеда, і дзед дзеда быў рарэг. Іхны род – род сокалаў; яны цярплівыя, яны мужныя, яны бязлітасныя. На досвітку ён, Даўмонт, стане для Міндоўга такім рарэгам. Год давялося чакаць гэтага палявання. Такога палявання, як гэтае, яшчэ не было на Літве. Праз вякі будуць пераказваць старыя сваім унукам, як рарэг Даўмонт забіў ваўка з імем Міндоўг, як чакаў у восеньскім халодным лесе першы прамень сонца, каб усе маглі пабачыць ягоную помсту. Ніхто не зможа сказаць: «Вялікі князь Міндоўг сканаў на сваім ложку, акружаны дзецьмі!» Не, усе будуць казаць: «Князь Даўмонт пасек Міндоўга на капусту!» Калі хто-небудзь спытае: «Куды знік род Міндоўга, вялікага князя, былога караля з трыма сынамі?» – кожны нальшанец, кожны літовец, кожны наваградзец адкажа: «Яго цалкам вынішчыў князь Даўмонт!» І было гэта вераснёўскім ранкам у бai на беразе Нёмана. А калі спытаюць: «А дзе ягоная жонка, забраная гвалтам для сябе і сваіх сыноў Міндоўгам?» – кожны чалавек у Нальшы і на Літве адкажа: «Даўмонт яе адпусціў. Ён не мог вярнуць у свой дом жанчыну, якая год даглядала ваўчанят, не перасіліла гідлівасці да старога ваўка, не знайшла ў сабе мужнасці атруціць іх усіх разам, задушыць уначы воўчымі шкурамі. Даўмонт даў ёй воз, яна паехала на сваю радзіму ў Дайнову сядзець цёткаю пры малых дзецях яцвяжскіх сваякоў». А калі хто-небудзь спытае: «Дзе цяпер крэўскі князь Даўмонт?» – кожны нальшанец з гонарам адкажа: «Князь Даўмонт цяпер старэйшы князь усёй Нальшы!» А што будзе гадоў праз дзесяць, ніхто сёння не ведае і ведаць не можа. Магчыма, ён падпарадкуе сабе ўсю Нальшу і ўсю Дзяволтву і тады паспрачаецца з наступнікамі Міндоўга, з яго братанічамі і сястрынічамі. Не лепшая кроў цячэ ў іхных жылах. Ён помсціць за сябе, за сваю ганьбу, а яны чакаюць, калі ён пасячэ іхнага роднага дзядзьку. Такога нораву князі самі сябе хутка перарэжуць, і нядоўга прыйдзецца чакаць такога дня. Тады надыдзе яго час. Вялікі князь Міндоўг распачаў крывавую ўсобіцу, а калі дапамогуць багі, вялікі князь Даўмонт пакладзе ёй канец.

Даўмонт трымаў перад вачыма гэтыя прыемныя вобразы, пакуль не пачало раз'ясніваца на ўсходзе неба і не пачалі выяўляцца з начнога змроку ясныя абрысы коней на выпасе, аховы ля агню, дваровай агароджы, берагі Нёмана, лес за ім, дзе гэтак жа таіліся зараз жмудзіны. Тады яго ўвага засяродзілася на браме, і ён даў знак лучнікам падрыхтавацца. Світала, двор пакрысе ажываў. Ён убачыў, як за агароджай апускаецца журавель, пачуліся чыесьці галасы, забразгалі ланцугі, на якія бралі сабак – і раптам вароты пачалі расчыняцца. Яшчэ створкі падзяляла вузкая шчыліна, але Даўмонт убачыў праз яе Астапа. Кроў горача ўдарыла ў сэрца, і ўсе думкі, і ўсе пачуцці з душы выціснула назапашаная за год, абуджаная знакам Астапа нянавісць і лютасць. Даўмонт махнуў кметам «Давай!» Праз імгненне загулі ў палёце дзесяткі стрэл, і ўся ахова, што сядзела пры вогнішчах і хадзіла па старажавых сцяжынах, была зваленая без адзінага ўскрыку. Толькі спутаныя коні спуджана кідаліся па лузе, баючыся забітых, але на двары ніхто не ўсхапіўся і не ўстрывожыўся. Даўмонт ускочыў і пабег да двара, а за ім бегла яго сотня, перастройваючыся ў баявы серп...

20

Агна прачнулася ад пачуцця вострай трывогі. Яна села на ложку і не магла зразумець, чаму ёй жахліва на сэрцы. Было гэтак жудасна, як некалі ўявілася ў сне. «Што?» – спытаўся князь. «Не ведаю, – адказала яна. – Мне вельмі страшна! Даўно гэтак не было. Чамусьці баюся!» Міндоўг паверыў яе прадчуванню, ускочыў, надзеў кальчугу, апаясаўся мячом. «Пабудзі дзяцей, – загадаў ён. – Выязджаем!». І выйшаў з дома. Трое кметаў, што ўсю ноч драмалі ў сенцах, прыхапілі свае лукі і кінуліся ўслед князю.

І тут загучаў за агароджай покліч баявога рога і пачуўся конскі тупат з глыбіні лесу і на другім беразе Нёмана.

«Сядлаць коней! – крычаў князь. – Лучнікаў, сабак на вароты!» Расчыненыя вароты перакрылі возам, за ім сталі ў два шэрагі лучнікі, а на іх ужо насоўваўся затулены шчытамі клін. Міндоўг пазнаў нальшанцаў. Быццам у пацвярджэнне за сцяною пачуўся шалёны крык «Нальша! Сокал! Наперад! Бі!» А дзесьці ад вёскі даходзіў перакатам кліч жмудзінаў – «Локіс! Прэнкі!». Князь узгадаў аб дзецях і скочыў па іх у хату. Агна, не ведаючы, што трэба рабіць, стаяла з пляменнікамі ў куце. «Выходзь да стайні, – сказаў князь. – Будзем прабівацца. За мной! Хутчэй!» Яны выбеглі на двор. Каля брамы Міндоўгавы і Даўмонтавы кметы ва ўпор расстрэльвалі адзін аднаго. Скуголілі пабітыя суліцамі ваўкарэзы. Параненыя вяяры курчыліся на зямлі, некалькі ўжо хрыпелі крывавай пенай. За стайняй конюхі каклі мацаванне адкіднай часткі агароджы. «Сыходзьце ў лес, – навучаў Міндоўг. – Калі мяне параняць, заб'юць – не спыняйцеся. Бяжыце да Войшалка!»

Нальшанскі клін праламаў абарону і запаланяў двор. «Хутчэй!» – крыкнуў Міндоўг конюхам. Тыя ўдарылі ў плот, ён паваліўся, і ў агароджы адкрыўся шырокі пралом, але насупроць яго за дзесяць крокаў стаялі напагатове шэрагі лучнікаў з ялінкавымі лапамі на шлемах. Пушчаныя імі стрэлы звалілі некалькіх стаёўнікаў і коней. «Мне не вырвацца! – сказаў Міндоўг Агне. – Даруй!» Ён павярнуўся і пайшоў насустрач Даўмонту. За плячыма крэўскага князя стаяў Астап, ён быў у панцыры, ялінкавая лапа, прымацаваная да бармiцы, высока тырчала над ягоным шлемам. Міндоўг і рынуўся да яго з крыкам «Здраднік!» Але дарогу яму заступіў Даўмонт, і вялікі князь лютымі ўдарамі прымусіў Даўмонта ступіць пару крокаў назад. Раптам крэўскі князь з драпежнай радасцю засмяяўся. «Азірніся, воўк! – крыкнуў ён, апускаючы тапор. – Дзе твае ваўчаняты?» Ён зноў адступіў на некалькі крокаў, каб князь не прыняў яго параду за хітрасць. Міндоўг азірнуўся і ўбачыў, як падымаюць на дзідах Руклю. Сын яшчэ быў жывы і клікаў «Тата! Татка!» Міндоўг кінуўся да сына, знёс галаву аднаму з забойцаў, адсек руку другому, але тут яго спасціг першы ўдар Даўмонта. Тапор нальшанскага князя рассек яму ключыцу, і Міндоўг выпусціў меч. Сіла пакідала яго, Даўмон-

таў тапор адцінаў яму ногі, прабіваў кальчугу, набліжаўся да твару. Князь упаў, і пакуль не памёр, ачуваў, што Даўмонт сячэ яго на кавалкі...

Агна, закалажоная звярынай лютасцю, што панавала на двары, бязлітасным забіваннем, крывёю, рыкамі забойцаў, стаяла ля сцяны стайні. Толькі Руклеў крык і ягоны твар, які раптам узняўся над бітвай, вырвалі яе са здранцвення. Яна ўбачыла дзіды, нацэленыя на Рэпіка, і закрыла яго сабой. «Даўмонт! Не трэба! – крычала яна. – Злітуйся...» Але сказаць «над дзецьмі» яна ўжо не паспела. Цяжкі ўдар дзіды прыбіў яе да сцяны. Яна ўбачыла дрэўка, што выходзіла з яе грудзей, дружынніка, які гэтае дрэўка трымаў. Яна пазнала маладога кмета, год назад ён скакаў побач яе ў Наваградак. Яна прыгадала ягонае імя – Віценюс, і ўспомніла, як яго збівалі пасярод замкавага двара. Цяпер ён стаяў перад ёю без шлема, яго левае вока закрывала скураное навечча, у правым палала лютая нянавісць. «Ты здрадзіла!» – чула яна ягоны злосны голас. «Здрадзіла!», «Здрадзіла!», «Здрадзіла!» – паўтараў ён і біў яе шырокім нажом. Туман наплываў на Агніны вочы, скрозь ружовую заслону яна ўбачыла джала суліцы ў Рэпікавым горле, пунсовую паласу неба, Астапа з мячом, Даўмонта з сякерай. Даўмонт крочыў да яе, яна ўбачыла бляск ягонага тапара, і Віценюс перастаў крычаць «Здрадніца!», галава яго некуды знікла, цела павалілася на зямлю, і для Агны сціхлі ўсе гукі, сціх яе боль, і ўсе кметы, усе знаёмыя, Скурка, Астап, князь Даўмонт сталіся невядомымі, чужымі, непатрэбнымі, і яна адступіла ад іх у выратавальную цемру...

Праз гадзіну забітых пазносілі ў дом, пакрылі саломай, абклалі дом пад страху галлём і паднеслі жарынку.

Стаяла бабіна лета, дзень быў ясны, цёплы, і высока ўзнімаўся ў блакітнае неба чорны развітальны слуп дыму...

Князі не меліся чакаць, калі загасне гэтае вогнішча. Даўмонт, Трайнат, Астап селі на коней, ваяводы і сотнікі пракрычалі кметам «У сядло!». Жмудскі і нальшанскі палкі расцягнуліся ў паходны парадак і зарысілі лясной дарогай на Наваградак. Цокалі аб камяні падковы, калыхаліся скрываўленыя суліцы, трапяталі пад лёгкім ветрам чырвоныя палкавыя сцяжкі і ўскрыкі «Хо!», «Хо!» перакочваліся па шэрагах, калі кметы прыспешвалі коней астрогамі.

21

Войшалк, якога паспелі апавясціць пра забойствы, уратаваўся ўцёкамі ў Пінск.

Даўмонт вярнуўся ў Нальшу.

Трайнат сеў вялікім князем. Ягоны дваюрадны брат Таўцівіл лічыў за сабой больш правоў быць наступнікам Міндоўга, чым ягоны забойца. Сустрэча двух князёў у Наваградку скончылася сечай, у якой Трайнат перамог.

Праз год верныя Міндоўгуканюшыя зарэзалі Трайната нажамі, калі ён парыўся ў лазні.

Войшалк змяніў расу на браню, прывёў з Пінска палкі і вярнуў бацькаў сталец. Ваявода Астап быў схоплены пагоняй, і Войшалк пасек разанца на часткі. Затым наваградскія палкі вырушылі на Нальшу. Даўмонт разам з дружынай уцёк у Пскоў, дзе яго прынялі князем з умоваю ахрысціцца ў рускую веру. Ён ахрысціўся, узяў імя Цімафей і атрымаў у жонкі князёўну Марыю, унучку Аляксандра Неўскага. Неаднойчы вадзіў ён псковічаў у наезды на Літву, аддаючы агню і мячу сваю былую зямлю. Век яго скончыўся ў 1299 годзе.

Войшалк валадарыў тры гады. З прынёманскага пажарышча прывёз ён бацькаў попел і паблізу Наваградскага замка насыпаў курган для вечнай памяці пра вялікага князя Міндоўга. Змораны ўладай і крывёй, ён вярнуўся ў манастыр, перадаўшы княжы сталец у 1267 годзе Шварну Данілавічу. Старэйшы брат Шварна князь Леў пакрыўдзіўся і забіў Войшалка мячом у манастырскай трапезнай...

А ці было б з усімі гэтымі людзьмі інакш, калі б князь Міндоўг не пакінуў Агну пры сабе?

Хто ведае? Магчыма, адшукаліся б іншыя падставы, каб спраўдзіўся наканаваны кожнаму лёс.



# Уільям Батлер ЕЙТС | ЁН



*Пра тое,*
*што прайшло*
*і будзе зноў.*

*Пра Яго*

## ПЯСОЧНЫ ГАДЗІННІК
## ВЕРШЫ
## АЎТАБІЯГРАФІЯ

*ЦЫТАТНІК*

ТРЫ ПАДАРОЖЖЫ
ВАНДРОЎНІКА У.Б. ЕЙТСА

## *Пра Яго*

***1865 г., 13 ліпеня.** У Сэндымаўнце, прадмесці Дубліна, нарадзіўся Уільям Батлер Ейтс, сын мастака Джона Батлера Ейтса і Сузан Мэры Палексфэн.*

***1868 г.** Сям'я Ейтсаў пераязджае ў Лондан, дзе пасяляецца ў Бэдфард-парку, т.зв. "вёсцы прэрафаэлітаў", сярод якіх пачынаў Дж. Б. Ейтс. Першыя моцныя эстэтычныя ўражанні будучага паэты.*

***1881 г.** Сям'я вяртаецца ў Дублін. Ейтс наведвае Муніцыпальную Школу Мастацтваў, дзе знаёміцца з Дж. Расэлам, будучым паэтам і мастаком (пісаў пад псеўданімам АЕ), які прыахвоціў Ейтса да вывучэння акультнае веды.*

***1885 г.** У "Дублінскім універсітэцкім аглядзе" апублікаваны першы твор Ейтса – паэтычная драма "Абток стодаў".*

***1886 г.** Ейтс бярэ ўдзел у Дублінскай ложы Герметычнага таварыства: "Гэтыя таварыствы раней ці пазней ператвараліся ў тое, чым я найбольш пагарджаў". Ва універсітэцкім дыскусійным клубе знаёміцца з Джонам О'Ліры, удзельнікам ірландскага рэспубліканскага руху: "У размовах з О'Ліры і кнігах, якія ён пазычаў ці дарыў мне, я пачарпнуў усё, пра што дагэтуль пішу".*

***1887 г.** Зноў разам з сям'ёй едзе ў Лондан. Знаёмства з У. Морысам, які быў найбуйнейшай постаццю ў мастацтве прэрафаэлітаў.*

# ПЯСОЧНЫ ГАДЗІННІК

**Асобы:**
Мудрэц
Дурань
Вучні
Анёл
Жонка Мудраца і Двое Дзяцей.

***Месца дзеяння:** Вялікі пакой з дзвярыма ўглыбіні і другімі збоку, якія вядуць ва ўнутраны пакой. Пасярэдзіне пісьмовы стол і крэсла. Побач нізенькі зэдлік. Некалькі лаваў. Мудрэц сядзіць за сталом.*

**Мудрэц** *(гартаючы старонкі кнігі).* Дзе гэтае месца, што я мушу сёння тлумачыць маім вучням? Вось яно, і кніга кажа, што яго напісаў нейкі жабрак на мурох Вавілона: "Ёсць дзве жывыя краіны, бачная і нябачная; і калі ў нас зіма, у той краіне вясна; і калі ў нас дзьмуць вятры лістападу, там пара, калі авечкі ягняцца". Лепш вучні папрасілі б мяне патлумачыць якое іншае месца, бо гэтае надта цяжкое. *(Дурань уваходзіць і стае ў парозе, працягваючы капялюш. У другой руцэ ён трымае нажніцы.)* Як на мой розум, гэтыя словы гучаць як глупства; але гэта немагчыма, бо калі б яны былі глупствам, дык аўтар гэтае кнігі, дзе я знайшоў столькі ведаў, не змясціў бы іх тут і не стаў бы атачаць мноствам абразоў, глыбокімі колерамі і цудоўнаю пазалотай.

**Дурань.** Дай грошык.

**Мудрэц** *(перагортвае старонку).* Тут напісана: "Вучоныя даўнейшых часоў забыліся пра бачную краіну". Гэта я разумею, але я сваіх вучняў навучыў лепш.

**Дурань.** Не дасі грошык?

**Мудрэц.** Чаго ты хочаш? Словы мудрага сарацына няшмат чаму цябе навучаць.

**Дурань.** Такі вялікі і мудры настаўнік, як ты, не адмовіць Дурню і дасць яму грошык.

**Мудрэц.** Што ты ведаеш пра мудрасць?

**Дурань.** О, я ведаю! Я ведаю, я бачыў.

**Мудрэц.** І што ж ты бачыў?

**Дурань.** Калі я праходзіў праз Кілклуэн, дзе даўней кожны дзень на світанні білі ў званы, я нічога не пачуў, толькі як людзі храпуць у сваіх дамах. А калі праходзіў праз Тубэрванах, дзе маладыя хлопцы некалі лазілі на гару да святога калодзежа, дык цяпер яны сядзелі там на скрыжаванні і гулялі ў карты. А калі праходзіў праз Карыгорас, дзе манахі раней пасціліся і служылі бедным, я пабачыў, што яны п'юць віно і слухаюцца сваіх жонак. А калі я запытаў, праз якое няшчасце ўсё гэта сталася, яны сказалі, што гэта ніякае не няшчасце, а мудрасць, якую яны ўведалі з тваe навукі.

**Мудрэц.** Зайдзі на кухню, жонка дасць табе пад'есці.

**Дурань.** Ты мудры, а рада твая дурная.

**Мудрэц.** Чаму, Дурню?

**Дурань.** Што з'ясі, таго больш няма. Я хачу грошык сабе ў торбу Мне трэба купляць вяндліну ў крамах, і гарэхі на рынку, і моцнае пітво на той час, калі сонца аслабне. І мне патрэбныя сілкі, каб лавіць трусоў, вавёрак і зайцоў, і гаршчок, каб іх гатаваць.

**Мудрэц.** Ідзі прэч. Мне ёсць чым займацца і без таго, каб даваць табе грошыкі.

**Дурань.** Дай мне грошык, і я прынясу табе шчасце. Рыбак Брэзаль пускае мяне ўзімку спаць у нератах у сябе на гарышчы, бо, кажа, я прыношу яму шчасце; а ўлетку звяры і птушкі даюць мне спаць каля сваіх гнёздаў і нораў. Удачу прыносіць нават позірк або дотык да мяне, але яшчэ больш удачы бывае, калі мне даюць грошык. *(Працягвае капялюш.)* Калі б я не прыносіў шчасця, то згаладаў бы.

**Мудрэц.** А нажніцы табе навошта?

**Дурань.** Не скажу. Калі скажу, ты іх прагоніш.

**Мудрэц.** Каго праганю?

**Дурань.** Не скажу.

**Мудрэц.** А за грошык?

**Дурань.** Не.

**Мудрэц.** А калі я табе дам два грошыкі?

**Дурань.** Табе прыйдзе вялікая ўдача, калі ты дасі мне два грошыкі, але я табе не скажу.

**Мудрэц.** Тры грошыкі?

**Дурань.** Чатыры, і тады скажу!

**Мудрэц.** Вельмі добра, чатыры. Але больш я ніколі не буду зваць цябе Дурным Тэйгі.

***1889 г.** Выходзіць першы том твораў "Вандраванні Ойсіна і іншыя вершы". Нацыянальная міфалогія трывала асталявалася ў творчасці Ейтса. Адбываецца сустрэча з актрысай і заўзятай прыхільніцаю ірландскае незалежнасці Мод Гон, якая на доўгія гады становіцца рамантычнай гераіняю вершаў Ейтса: "Усё лепшае, што я зрабіў і працягваю рабіць, – хіба гэта не спроба растлумачыць ёй сябе?"*

***1890 г.** У Лондане разам з Эрнстам Рысам Ейтс засноўвае "Клуб Рыфмароў". Сярод паэтаў, якія наведвалі мансарду сярэднявечнае карчмы "Чэшырскі сыр", былі Эрнст Доўсан, Лаянэл Джонсан, Артур Сайманс. Яны знаёмяць Ейтса з творчасцю французскіх сімвалістаў. Ягоныя вершы друкуюцца ў часопісах "Жоўтая кніга" і "Савой".*

***1893 г.** Выходзіць у свет зборнік апавяданняў "Кельцкае сутонне". Ён стаўся своеасаблівым сімвалам Ірландскага Адраджэння. Зборнік вершаў "Ружа". Праца над трохтомным выданнем твораў У. Блэйка.*

***1896–98 г.** Вандруе: Лондан, Парыж, Дублін, Слайга. У Парыжы сустракаецца з П. Вэрленам і С. Малармэ і знаёміцца з Дж. Сінгам.*

***1897 г.** Пачатак шматгадовага сяброўства з лэдзі Аўгустай Грэгары, тэатральнай дзеячкаю і мецэнаткаю, збіральніцаю ірландскага фальклору. У артыкуле "Кельцкі элемент у літаратуры" Ейтс піша пра новую крыніцу, якая "можа ўзбагаціць сучас-*

# ТРЫ ПАДАРОЖЖЫ ВАНДРОЎНІКА У.Б. ЕЙТСА

### *1. У пошуках "шчасных выспаў"*

**Перадумовaю творчасці можа стацца своечасова прачытаная кніга, гутарка, што закранула патаемныя струны душы, і г.д. Перадумовы гэтыя вызначыць льга, асабліва калі пасля творцы застаюцца дзённікі, нататкі і ўспаміны; значна складанейшае – высветліць пачуцці, якія выводзяць паэта на гэты, як вядома, цярністы шлях. Але ж у выпадку з Уільямам Батлерам Ейтсам адшукаць такое – найістотнейшае для вялікага ірландскага паэта! – пачуццё досыць лёгка: гэта каханне. Усё жыццё ён быў закаханы ў Ірландыю, і яна "звяла яго з розуму//і зрабіла паэтам" (У.Х. Одэн). Да таго ж цягам доўгіх гадоў ён кахаў жанчыну, якая сказала яму: "Ты мусіш дзякаваць Богу, што я не пабралася з табою... Ты тво-рыш цудоўныя вершы, апавядаючы пра сваё няшчасце, і ты шчасны праз гэта". І пры канцы не без гонару дадала: "Свет павінен быць удзячны мне за тое, што я табе адмовіла".**

**Любоў Ейтса да Ірландыі была шчаслівейшаю, бо "Зялёная Эйрын" ад самага пачатку аддзячыла ўзаемнасцю свайму найлепшаму паэту. Вытокі захаканасці Ейтса ў Ірландыю вядуць даследчыкаў у дзяцінства Уільяма Батлера. Памяць дзяцінства для паэта – скарбніца досведу і ўзрушэнняў, з якіх сталы дойлід слова творыць сімвалы. У Ейтса шчаслівае, поўнае ўражанняў дзяцінства. Правёў ён яго на захадзе краіны, у графстве Слайга. Тамтэйшых жыхароў яшчэ не закранулі эканамічныя зрушэнні, што зміталі старыя аграрныя побыт, дагаджаючы індустрыяльнай рэвалюцыі, і вера іхняя была старэйшаю за хрысціянства. Хлопчыкам ён чуў гісторыі пра чароўны народ зялёных пагоркаў, а пасля сам вандраваў па гэтых пагорках між шматлікіх дольмэнаў, упэўнены ў існаванні надпрыроднага свету. Дзяцінства, а пасля й шматлікія вакацыйныя тыдні юнака прайшлі ў вёсцы Балісадар, на поўдні Слайга, дзе ў ягонага стрыечнага дзеда Уільяма Мідлтана была сядзіба, а родны дзед Палексфэн трымаў млын, адзіны аб'ект індустрыі ў акрузе. (Імёны гэтых і іншых продкаў з'явяцца пасля ў Ейтсавай паэзіі сталых гадоў, калі ён будзе складаць сваю ўласную міфалогію: для стварэння яе вобразаў і нават архетыпаў паэт будзе карыстацца з рэальных постацяў сваіх крэўных і сяброў.) Галоўны Ейтсаў паведамляльнік у галіне народнае веры і фальклору Пэдзі Флін сцвярджаў, што Балісадар – гэта "найбольш населеная чароўным народам мясціна ва ўсім Слайга". Вёска знаходзілася ў парафіі айца Харта (мясцовага св. Францішка; гэта на ягонае пахаванне, як пісаў Ейтс у баладзе 1888 г., "птушкі ад Нокнарэю//І ўсяе зямлі вакол Нокнашын//Сабраліся ў гэты дзень"). А зусім недалёка былі курганы над магіламі волатаў Фірболгаў, былых барацьбітоў супраць Фамораў, якія жылі ў Ірландыі яшчэ да прыходу Туата дзі Данаан – плямені багавіцы Дану, расы багоў, што з часам ператварылася ў сідаў – насельніцтва чароўных пагоркаў. У гэтай вёсцы, што**

*ны сімвалізм" – пра ірландскія міфы, "што здольныя падараваць новаму стагоддзю найвыразнейшыя сімвалы".*

***1899 г.*** *Зборнік вершаў "Вецер у чароце".*

***1902 г.*** *Пастаноўка п'есы "Кэтлін, дачка Хоўліэна". Яна набыла ў Ірландыі значнасць палітычнае падзеі. У 1938 г. Ейтс пісаў у вершы "Чалавек і рэха": "Цяпер, калі я стары і хворы,// Я праводжу бяссонныя ночы, // Думаючы пра тое, // Што я сказаў і што зрабіў.// І перада мною паўстае пытанне,// На якое я не знаходжу адказу:// Ці не паставіла гэтая мая п'еса людзей пад англельскія кулі".*

***1904 г.*** *У Дубліне створаны нацыянальны Тэатр Абацтва. Кіраўнікі тэатра: лэдзі Грэгары, Дж. Сінг, У.Б. Ейтс.*

***1910 г.*** *Зборнік "Зялёны шалом і іншыя вершы".*

***1912 г.*** *Сустрэча з Эзрам Паўндам, які ў зімовыя месяцы наступных трох гадоў выконвае абавязкі сакратара Ейтса. Паўнд знаёміць яго з японскім тэатрам Но.*

***1914 г.*** *Зборнік вершаў "Адказнасць".*

***1916 г.*** *Пастаўленая першая п'еса ў традыцыях тэатра Но – "Пры Каршуновай крыніцы": "З дапамогаю японскіх п'есаў я вынайшаў вытанчаны, пазбаўлены літаральнасці сімвалічны кшталт драмы".*

***1916 г., 24—29 красавіка.*** *Паўстанне ў Дубліне, так званы "Велікодны Тыдзень". Яно скончылася паразаю паўстанцаў і смя-*

**Дурань.** Дай падыду бліжэй, каб ніхто не пачуў. Але спачатку абяцай, што не будзеш іх праганяць. *(Мудрэц ківае.)* Кожны дзень людзі выходзяць на двор ва ўсім чорным і раскідаюць вялікія чорныя нераты па гарах, вялікія чорныя нераты.

**Мудрэц.** Нашто яны гэта робяць?

**Дурань.** Каб спаймаць за ногі анёлаў. Але кожнае раніцы, на самым досвітку, я выходжу і стрыгу нераты сваімі нажніцамі, і анёлы адлятаюць.

**Мудрэц.** Ну, цяпер я бачу, што ты сапраўды Дурны Тэйгі. Ты сказаў, што я мудры, а я ніколі не бачыў ніякіх анёлаў

**Дурань.** А я іх бачыў мноства.

**Мудрэц.** Ты і анёлам прыносіш удачу?

**Дурань.** Што ты, што ты, не! Гэтага б ніхто не патрапіў. Але яны заўсёды тут, калі пашукаць: яны як калівы травы.

**Мудрэц.** Калі ты іх бачыш?

**Дурань.** Калі раблюся спакойны; тады ўсярэдзіне нешта абуджаецца, нешта шчаснае і спакойнае, як зоры – не як тыя сем, што рухаюцца, а як нерухомыя зоры. *(Ён паказвае ўгару.)*

**Мудрэц.** І што тады робіцца?

**Дурань.** Тады на нейкую хвілю чуваць пах летніх кветак, і побач праходзяць высокія людзі, вясёлыя і ўсмешлівыя, і адзежа ў іх агністага колеру

**Мудрэц.** Ты даўно іх бачыў, Дурны Тэйгі?

**Дурань.** Нядаўна, хвала Богу! Я бачыў толькі што, як адзін ішоў якраз за мною. Ён не ўсміхаўся, але адзежа на ім была агністая, а вакол галавы нешта зіхацела.

**Мудрэц.** Добра, вось табе твае чатыры грошы. Ты, Дурань, кажаш "Хвала Богу", а пакуль мяне не было, так казалі мудрацы. Цяпер прэч адгэтуль. Мне пара званіць у звон і склікаць маіх шкаляроў

**Дурань.** Чатыры грошыкі! Гэта вялікая ўдача. Вялікі настаўніча, я прынёс табе процьму шчасця! *(Выходзіць, трасучы торбаю.)*

**Мудрэц.** Яго завуць Дурны Тэйгі, але ён не дурнейшы, чым былі раней усе, з іхнымі мроямі, казаннямі і трыма светамі; але я разбурыў іхныя тры светы праз свае сем навук. *(Кранае рукамі кнігі.)* Філасофіяй, створанай для самотнае зоркі, я навучыў іх забыць Тэалогію; Архітэктурай я засланіў цвержы іхных хмарных нябёсаў; Музыкай, дачкою грозных планет, чые валасы

месцілася каля стронгавых затокаў, дзе рака Аншайн зліваецца з морам, а паблізу бухты ўзвышаецца гара Нокнарэй з легендарным крэйнам (магільным камянём) каралевы Мэдб, і дагэтуль жывая ірландская баладная традыцыя. Менавіта ў Балісадары Ейтс упершыню пачуў ад праллі ўрывак з песні, які запісаў і развіў у сваім раннім вершы "Down by the Salley Garden..." ("За вербамі, у садзе..."). Ён і надрукаваны быў пад назваю "Старая песня, прапяяная зноў". Гэта, бадай, адзін з найяскравейшых тэкстаў з першага зборніка вершаў маладога паэта. Балада як твор сюжэтны патрабуе звычайна вялікага аб'ёму. Але паэт здолеў змясціць у васьмі радках сапраўды баладныя эмоцыі і пачуцці. Можна нават казаць пра наяўнасць у ёй сюжэта, дзе прысутнічае падвойны пункт погляду: мы бачым маладога чалавека, які слухае сваю каханую, і – адначасова – сталага чалавека (ці нават старога) у скрусе з тае прычыны, што не выканаў яе запавету; і ўсё гэта напісана дваццацічатырохгадовым паэтам, які таленавіта выяўляе эмоцыі як свайго аднагодка, так і сівога апавядальніка. Гэткая гульня вобразамі, свайго роду тэатралізацыя лірыкі, пазней перарасце ва ўлюбёны прынцып творчасці Ейтса – прынцып "маскі", калі паэт будзе выкарыстоўваць сваіх лірычных герояў як "маскі", унутраныя антытэзы самому сабе. Але да гэтага будзе яшчэ перыяд "Кельцкага сутоння", калі ягоныя творы населяць героі колісь пачутых паданняў – эльфы і сіды – і будуць там вельмі ўтульна пачувацца. "Кельцкае сутонне" ("Celtic Twilights") – зборнік Ейтсавых апавяданняў, частка якога ўяўляе сабой знаёмыя паэту з дзяцінства легенды; рэшта складаецца з цалкам аўтэнтычных тэкстаў, напісаных паводле фальклорных матываў. Апавя-





заўсёды ў агні, і Граматыкай, дачкой месяца, я зрабіў іх глухімі да ўяўных арфаў і мовы анёлаў; а з Арыфмэтыкі я нашыхаваў баявыя парадкі, якія разграмілі сілы нябесныя. А Рыторыка і Дыялектыка, народжаныя з зоркі святла і з зоркі кахання, ах вы мае дзіданоша і катапульта! О! коннікі мае шпаркія! мае порсткія вострыя аргументы, гэта з вашаю дапамогай я зрынуў плоймы дурасці! *(У парозе стае Жанчына-Анёл, у бурштынавым строі, з квітучай галінкаю ў руцэ і з залацістым німбам над галавой.)* Пакуль не было мяне, людскі розум быў напханы глупствамі пра нябёсы, дзе птушкі пяюць гадзінкі, і пра анёлаў, якія прыходзяць да людзей і становяцца ў іх у дзвярах. Але я загнаў відзежы на нябёсы і замкнуў іх там на ладны замок. Добра, але ж трэба прадумаць гэтае месца пра дзве краіны. Нешта падобнае мне баяла некалі маці. Яна казала, што калі нашае цела спіць, то душа абуджаецца, і ўсё, што чэзне тут, даспявае там, а нашыя ўраджаі бяруцца ад нас, каб карміць нябачных людзей. Але сэнс гэтае кніжкі мусіць быць інакшы, бо так думаюць толькі дурні і жанчыны; а іхных думак ніхто ніколі не пісаў на мурах Вавілона. *(Бачыць Анёла.)* Ты што? Ты хто? Я, здаецца, бачыў нешта падобнае да цябе ў дзіцячых мроях, – гэтае зіхаценне, гэты бурштынавы строй! Але я скончыў з мроямі, я скончыў з мроямі.

**Анёл.** Я Анёл Бога Найвышэйшага.

**Мудрэц.** Чаму ты прыйшла да мяне?

**Анёл.** Я прынесла табе вестку

**Мудрэц.** Што ты маеш мне сказаць?

**Анёл.** Ты памрэш не пазней як праз гадзіну Ты памрэш, калі ў гэтым гадзінніку ўпадзе апошняя пясчынка. *(Перакульвае гадзіннік.)*

**Мудрэц.** Мне яшчэ не час паміраць. У мяне вучні. У мяне маладая жонка і дзеці, я не магу іх кінуць. Чаму я павінен паміраць?

**Анёл.** Ты мусіш памерці, бо ад тых дат, як ты прыйшоў у гэты край, ніводная душа не пераступіла парога нябёсаў. Парог зарос травою, і брама паржавела, а анёлам, што стаяць пры ёй на варце, самотна.

**Мудрэц.** Куды мяне забярэ смерць?

**Анёл.** Брама нябёсаў не адчыніцца перад табою, бо ты адмаўляў існаванне нябёсаў; і брама чыстца не адчыніцца перад табою, бо ты адмаўляў існаванне чыстца.

**Мудрэц.** Але ж я адмаўляў існаванне і пекла!

*ротнай караю для іхніх правадыроў, сярод якіх былі паэты Падрык Пірс і Х'ю Мак-Данах. Ейтс, знаходзячыся падчас паўстання ў Лондане, піша верш "Вялікдзень 1916 г.". "Я нават не думаў, што нейкая грамадская падзея можа так глыбока закрануць мяне".*

***1917, кастрычнік.*** *Шлюб з Джордж Хайд-Ліз. Падчас мядовага месяца ў жонкі выявіліся здольнасці да аўтаматычнага пісьма. З яе дапамогаю Ейтс будуе сваю міфафіласофскую сістэму, якая знайшла адлюстраванне ў тагачасных вершах, а таксама ў кнізе "Відзежа".*

***1919 г.*** *Зборнік вершаў "Дзікія лебедзі ў Куле".*

***1919—21 г.*** *Нацыянальна-вызвольная вайна, што скончылася дамоваю з Англіяй, паводле якой Ірландыя атрымала статус дамініёна, за выняткам Паўночнае Ірландыі.*

***1921 г.*** *Зборнік вершаў "Майкл Рабартыс і танцорка".*

***1922 – 23 г.*** *Грамадзянская вайна паміж прыхільнікамі дамовы і рэспубліканцамі, якія дамагаліся незалежнасці ўсяе Ірландыі. Скончылася паразаю рэспубліканцаў. Падчас вайны Ейтс знаходзіцца ў Тор Бэйлілі.*

***1923—28 г.*** *Выбраны сябрам ірландскага сената. Адзін з трох сенатараў, што кансультавалі ўрад у пытаннях адукацыі, культуры і мастацтва.*

***1923 г.*** *Ейтс – лаўрэат Нобелеўскае прэміі: "Магчыма, англельскія камітэты ніколі б не назвалі вам майго імя, калі б я не пісаў п'есаў і артыкулаў пра тэатр,*

данні гэтыя аднаўлялі старажытныя паданні ў містычным святле, у сімвалічнай "смузе", характэрнай для мастацтва "канца веку", што не замінала ім адыграць велізарную ролю ў папулярызацыі народнай творчасці, "той глебы, што дае пажытак караням вялікага мастацтва".

Матывы і вобразы фальклору сталіся зместам большасці вершаў у зборніках "Ружа" і "Вецер у чароце". Ірландцы верылі: калі падымаецца моцны вецер – гэта імчыць войска сідаў. Гальскае слова "sidhe" і перакладаецца як "віхор", "вецер". Менавіта ў такім выглядзе, як яны бачыліся сялянам, і з'яўляюцца сіды ў вершах "Войска сідаў" ("The Hosting of Sidhe") і "Неўтаймоўнае племя" ("The Unappeasable Host"). Жудасная відзежа – тагасветны хаўрус вершнікаў – відовішча не для нервовых! Ніам з "Войска сідаў" усклікае: "Калі хто-кольвек зірне на нас,//Мы станем паміж ім і чынам ягоных рук.//Мы станем паміж ім і надзеяй ягонага сэрца!" (падрадкоўнік наш. – *М.Ш.*). Калі хтосьці з людзей пачынае пільна сачыць сідаў, ён страчвае цікавасць да звычайнага жыцця, аднак набывае мудрасць блазнаў з кельцкіх казак, што вышэйшая за веду мудрых. У зборніку ёсць некалькі вершаў, якія ідуць непасрэдна за "Войскам сідаў" і выступаюць свайго роду адказам паэта на вокліч несмяротных і надзвычайных сілаў. У вершы "Вечныя галасы" гучыць катэгарычная адмова ад дыялогу з вечным: чалавечае сэрца надта слабае і стомленае, каб імкнуцца да вечнасці. У "Неўтаймоўным племені" чуваць адчайны голас чалавека, якога зачараваў шолах "ветру ў чароце". Трохразовы паўтор нагнятае адчуванне неспакою і роспачы, што прасякае смяротнага чалавека, які сутыкнуўся з несмяротнасцю. Налыгванне адлаведных вобразаў – заклік магілаў,

*калі б мая лірычная паэзія не была падобнаю да мовы, якою прамаўляюць на сцэне, а найперш – калі б маё імя не сталася ў пэўнай ступені сімвалам цэлага руху".*

***1925 г.*** *Выходзіць першы варыянт кнігі "Відзежа", дзе ўвасобіліся ўсе ягоныя міфалагічныя, філасофскія і акультныя пошукі.*

***1928 г.*** *Зборнік вершаў "Вежа".*

***1929 г.*** *Пасля сур'ёзнае хваробы доўгі час жыве ў Рапала (Італія).*

***1933 г.*** *Зборнік "Вітая лесвіца і іншыя вершы".*

***1936 г.*** *Зноў сур'ёзна хворы, але публікуе "Оксфардскую анталогію сучаснае паэзіі", да якой сам адабраў вершы (вельмі суб'ектыўна) і напісаў прадмову.*

***1937 г.*** *Другі, істотна перагледжаны варыянт "Відзежы"*

***1938 г.*** *Апошняя п'еса "Смерць Кухуліна".*

***1939 г., 28 студзеня.*** *Пасля доўгай хваробы У.Б. Ейтс памірае. Пахаваны ў Ракабруне (Францыя).*

***1948 г.*** *Прах Ейтса перавозяць у Ірландыю. "Той, хто спрыяў натхненню ў прыродзе і людзях Слайга, павінен быў урэшце вярнуцца да іх" (Ф.О'Конар). Над магілаю паэты, у Драмкліфе, паставілі камень з радкамі верша "Пад Бэн-Балбэнам": "Вершнік, кінь халодны позірк// На жыццё й на смерць// І руш далей..."*

**Падрыхтавала**
**Марына ШОДА.**

**Анёл.** Пекла – месца тых, хто адмаўляе.

**Мудрэц** *(укленчыўшы).* Я сапраўды ўсё адмаўляю і вучыў адмаўляць іншых. Я ні ў што не верыў, апроч таго, што мне казалі мае пачуцці. Але, ах! о гожы Анёле, дaруй мне, даруй мне!

**Анёл.** Табе належала прасіць прабачэння раней.

**Мудрэц.** Калі б я бачыў тваё аблічча так, як бачу цяпер, о! гожы Анёле, я б верыў, я б прасіў прабачэння. Можа, ты не ведаеш, як гэта лёгка – сумнявацца. Бура, смерць, збуцвенне травы, мноства хваробаў, – да мяне ж прыходзілі ўсе гэтыя вестуны. О! чаму ты маўчыш? Ты нясеш дараванне ад Найвышэйшага, дай мне яго! Я б пацалаваў табе руку, калі б не баяўся – не, не, край твае адзежы!

**Анёл.** Ты занадта даўно адпусціў несмяротныя рукі, каб ухапіцца за іх цяпер.

**Мудрэц.** Ты не разумееш. Ты жывеш у тым краі, які людзям відаць толькі ў сненнях. Ты жывеш у краі, пра які мы можам толькі марыць. Можа, табе гэтаксама цяжка зразумець нашую няверу, як нам – паверыць. О! што я кажу! Ты ж усё ведаеш! Дай мне час паправіць усё, што я нарабіў  Дай мне год – месяц – дзень – гадзіну! Дай мне час да канца гэтае гадзіны, каб я мог паправіць зробленае!

**Анёл.** Таго, што ты нарабіў  ты не паправіш. Але адно права я маю. Калі ты знойдзеш хоць аднаго верніка, пакуль не пройдзе гадзіна, ты праз гады чыстца трапіш на неба. Бо з аднаго агністага зернетка, якое дагледзяць тыя, хто паслаў мяне, зродзіцца плён, які асыпле золатам такі. А цяпер бывай, бо я стамілася пад цяжарам часу.

**Мудрэц.** Дабраслаўлёны Айцец, дабраслаўлёны Сын, дабраслаўлёны Дух, дабраслаўлёны Веснік, якога Яны паслалі!

**Анёл** *(пры дзвярах, паказваючы на пясочны гадзіннік).* Верхняя шклянка неўзабаве апусцее. *(Выходзіць.)*

**Мудрэц.** Усё будзе добра. Я паклічу вучняў; яны толькі кажуць, што не вераць. *(Цягне вяроўку звана.)* Зараз яны будуць тут  Я чую іхныя крокі па сцежцы за вокнамі. Яны хочуць зрабіць мне прыемнае; яны толькі строяць з сябе нявернікаў  Вера надта старая рэч, каб адолець яе за якую часіну. І яшчэ, цяпер можна будзе сцвердзіць тое, што я некалі абвергнуў *(Яшчэ раз звоніць у звон.)* Вось і яны. Перайду да стала. Буду гаварыць спакойна, як быццам нічога не здарылася. *(Становіцца пры стале з нерухомым позіркам.)*

**самотны вецер, трымценне прывідаў – заканчваецца рытарычным зваротам да ўласнага сэрца. Гэты прыём характэры для шматлікіх вершаў Ейтса таго часу: рытарычнае пытанне ці зварот на пачатку тэксту (калі паэт звяртаецца да чыннікаў навакольнага свету і такім спосабам задае магістральную скіраванасць верша) альбо ў ягоным канцы (аўтар звяртаецца да самога сябе, а часцей – да свайго сэрца, душы ці кахання, быццам упісваючы штораз новыя пачуцці лірычнага героя ў адзіны паэтычны канон).**

**У сукупнасць уяўленняў ірландцаў пра сідаў уваходзіла таксама вера ў тое, што вялікія валадары, каралі і каралевы, а таксама найлепшыя ваяры пасля смерці далучаліся да чароўнага народа. Адным з улюбёных легендарных персанажаў паэта быў Фэргус, сын Ройха, герой двух вершаў: "Фэргус і друід" і "Хто з Фэргусам?". Сюжэтна яны не звязаныя і ўяўляюць сабой розныя элементы паданняў пра Фэргуса. У першым творы герой сустракаецца з друідам – святаром, чарадзеем, носьбітам незямной мудрасці, спасцігнуць якую імкнецца і Фэргус, а калі спасцігае, гаворыць: "Ведаючы ўсё, я стаўся нічым". Словы гэтыя можна ўспрымаць як своеасаблівае "раўналежнае месца" да Эклезіяставага "ВО МНОГОИ МУДРОСТИ ЕСТЬ МНОГОЕ РОЗГНЕВАНИЕ, ИКТО ПРИДАВАЕТЬ УМЕНИА ПРИДАВАЕТЬ ИПРАЦИ"*. Зусім іншы паводле інтанацыяў і змесьту другі верш. Тут паэт фактычна бярэ на сябе функцыі сідаў і вабіць юнакоў і дзяўчат абяцаннямі вечнай маладосці і радасці. Паэт выконвае функцыі пасрэдніка паміж светам смяротных і трансцэндэнтным светам, аддаючы свой голас апошняму. І голас гэты набывае надзвычайную музычнасць, зачароўвае, нібы шолах лістоты, нібы шэпт хваляў, нібы покліч чароўнай краіны... Акра-**





*(Уваходзяць Вучні і Дурань.)*

**Дурань.** Пакіньце мяне. Пакіньце мяне. Хто там цягне маю торбу? Каралевіч, не цягні маю торбу.

**Хлопец.** Гэта твае сябры-анёлы далі табе гэтую торбу? Чаму яны яе табе нічым не напхалі?

**Дурань.** Дайце грошыкі! Дайце колькі грошыкаў!

**Хлопец.** Адпусці гэты плашч, ён у руках распаўзаецца. Нашто табе грошыкі, калі ў цябе на поясе такі вялізны кашэль?

**Дурань.** Мне трэба купляць вяндліну ў крамах, і гарэхі на рынку, і моцнае піва на той час, калі сонца аслабне. І мне патрэбныя сілкі, каб лавіць трусоў, і вавёрак, якія крадуць арэхі, і зайцоў, і гаршчок, каб іх гатаваць.

**Хлопец.** Чаму твае сябры не скажуць табе, дзе ляжаць скарбы?

**Іншы.** Чаму яны не пашлюць табе сноў пра скарбы? Калі прысніш тры разы, заўсёды знаходзіцца скарб.

**Дурань** *(працягваючы капялюш).* Дай грошыкаў! Дай грошыкаў!

*(Яны кідаюць грошыкі яму ў капялюш. Ён стаіць пры самых дзвярах, каб можна было працягваць капялюш да кожнага, хто ўвойдзе.)*

**Хлопец.** Настаўніча, Дурны Тэйгі ў цябе за вучня?

**Іншы Хлопец.** Тэйгі, ты дасі нам грошыкаў, калі мы навучым цябе ўроку? Не, ён жа ходзіць у горы ў дармовую школу Раскажы нам, Тэйгі, чаго ты навучыўся ў гарах?

**Мудрэц.** Цішэй. *(Ён стаіць моўчкі, пазіраючы ўдалеч.)* Стойце ціха, дзе стаіце, бо я хачу, каб вы мне нешта сказалі.

*(Імгненная паўза. Усе стаяць, дзе стаялі. Тэйгі застаецца пры дзвярах.)*

**Мудрэц.** Ці ёсць хто паміж вас, хто верыць у Бога? У нябёсы? Або ў чысцец? Або ў пекла?

**Усе хлопцы.** Нікога, Настаўніча! Нікога!

**Мудрэц.** Я ведаў, што вы гэта скажаце; але не бойцеся. Я не буду злавацца. Скажыце мне праўду. Вы не верыце?

**Хлопец.** Раней мы верылі, але ты навучыў нас лепшае навукі.

**Мудрэц.** О! навука, навука не заходзіць так глыбока! У глыбіні сваёй сэрца застаецца нязменным. Вы верыце, як заўсёды, і баіцеся мне сказаць.

**Хлопец.** Не, не, Настаўніча.

# ЦЫТАТНІК

Ейтс – цэнтральная постаць ірландскага адраджэння, правадыр і натхняльнік цэлае плеяды ірландскіх паэтаў.

**К.Чукоўскі** (з прадмовы да п'есы Дж. Сінга "Плэйбой Заходняга свету")

Ён ненавідзеў ірландскі натоўп, але ж любіў ірландскі народ...

**Ш.О'Кейсі** (з эсэ "За тэатральнай заслонаю")

У.Б. Ейтс цяпер стары, але такі ж вялікі барацьбіт, якім быў заўсёды; ён, вядома, і памрэ на варце...

**Ш.О'Кейсі** (з ліста да Дж.Дж. Натана, кастрычнік 1935)

Спадар Ейтс – адзіны жывы паэт, чыя творчасць вартая большага за часовую цікавасць...

Сп. Ейтс суб'ектыўны; ён верыць у чарадзейства і асацыяцыі, што лунаюць вакол словаў...

Метад сп. Ейтса, па-мойму, вельмі рызыкоўны, але ён  найвялікшы з жывых паэтаў, якія пішуць па-ангельску... Ягоны падарунак Англіі хутчэй негатыўны – ён выкрыў шматлікія заганы, уласцівыя агнельскай паэзіі, а ягоныя "паслядоўнікі" ні да чаго не прыйшлі...

Сп. Ейтс настолькі відавочна несмяротны, што не мае патрэбы пераглядаць свой стыль, дапасоўваючыся да нашай дактрыны...

Сп. Ейтс ужо ёсць вялікай ту-

**мя ўсяго, гэта самы хрэстаматыйны і самы цытаваны твор Ейтса. Радкі з яго, напрыклад, мармыча Стывэн Дэдалус у сусветна знаным рамане Дж. Джойса "Уліс".**

**Падчас напісання гэтых вершаў Ейтс вельмі цікавіўся сімвалізмам. Час паўставання ягонай творчасці супадае з красаваннем тэорыі "мастацтва дзеля мастацтва". Ейтс не стаўся паслядоўным прыхільнікам гэтай дактрыны, але ж яна дала свой плён у некаторых ягоных тагачасных творах. Відавочна праграмным тэкстам гэтага перыяду можна лічыць верш "Закаханы апавядае пра Ружу ў сваім сэрцы". Аўтар адмаўляецца ад сляпога, рабскага наследавання рэчаіснасці, узбагачае арыстоцелеўскую ідэю перайманія знаходкамі папярэдніх і сучасных яму сімвалістаў. Рэчаіснасць "не догма, а наказ да дзейнасці", як сказаў бы класік. Адпаведна, мастацтва – гэта не люстра, якое метадычна перадае ўсе падрабязнасці "аб'ектыўнай рэчаіснасці, дадзенай нам у адчуванні". Паміж творцам і сукупнасцю навакольных аб'ектаў ёсць трэцяя, вырашальная для творчага працэсу інстанцыя, і імя ёй – эстэтычны ідэал. Менавіта ў ягоным святле нанова створаная мастаком рэчаіснасць ператвараецца ў прыгожы, прасякнуты паэзіяй свет. І паэт дэкларуе свой эстэтычны ідэал, карыстаючыся для гэтага сімвалам Ружы. У дадзеным выпадку гэтае слова мае мноства канатацыяў, пачынаючы ад розэнкрайцэраўскай (Ружа – сімвал Вечнае Жаноцкасці) і традыцыйна народнай (Ружа – каханне) і заканчваючы тымі сэнсамі, якія льга вывесці з самога тэксту Ейтса. Насамперш, гэта паэзія, як своеасаблівая прызма, праз якую паэт сузірае навакольную рэчаіснасць; па-другое, ягоная родная Ірландыя, але такая, якою ён хацеў яе бачыць, абстрагуючы-**

маннай постаццю са сваімі накіраванымі ў мінулае асацыяцыямі.

**Эзра Паўнд** (з розных працаў і лістоў)

Я ўпэўнены, захапленне паэзіяй Ейтса вельмі карыснае для маладых паэтаў Англіі і Амерыкі. Ягоны стыль настолькі арыгінальны, што выключае пагрозу пераймання, а ягоныя выказы такія нечаканыя, што не могуць ані палесціць гэтым паэтам, ані ўмацаваць іх у аблудах. Ім было карысна мець перад сабою бясспрэчна вялікага паэта-сучасніка, пераймаць якога ў іх не было ніякай спакусы, настолькі ягоныя ідэі супярэчылі ўсяму, што тады было ў іх моднае...

Роля Ейтса не была б настолькі значная, каб ён не стаўся вялікім паэтам; але я хачу сказаць пра ягоны ўплыў – уплыў мастака, пра ягоную палкую адданасць свайму мастацтву, якая і давала такі імпульс развіццю ягонага выдатнага таленту Прыязджаючы ў Лондан, ён любіў сустракацца з маладымі паэтамі, гутарыць з імі. Некаторым ён падаваўся фанабэрыстым і безапеляцыйным. Я ніколі так не думаў; я заўсёды лічыў, што ён гаворыць з моладдзю, як роўны з роўнымі паплечнікамі, пасвячонымі ў тую ж таямніцу Па-мойму, рэч у тым, што ў адрозненне ад шматлікіх іншых, ён ставіў мастацтва вышэй за ўласную рэпутацыю альбо ўласны паэтычны імідж. Мастацтва большае за паэта – гэткае стаўленне ён перадаваў і іншым, і

**Мудрэц.** Калі вы скажаце мне, што вы верыце, я буду ўсцешаны, а не сярдзіты.

**Хлопец** *(да свайго суседа).* Яму хочацца з кім-небудзь падыскутаваць.

**Ягоны сусед.** Я гэта ведаў ад самага пачатку.

**Хлопец.** Гэта не сённяшняя тэма, сёння вы меліся гаварыць пра тыя словы, што жабрак напісаў на мурох Вавілона.

**Мудрэц.** Калі сярод вас ёсць хоць адзін, хто верыць, ён будзе маім найлепшым сябрам. Напэўна сярод вас ёсць такі. *(Усе маўчаць.)* Тое, чаго вы навучыліся на матчыных каленях, напэўна ж, так хутка не забылася.

**Хлопец.** Настаўніча, пакуль ты не прыйшоў да нас, ніхто ў нашай краіне не мог пазбыцца дурасці і невуцтва. Але ўсе ўжо пачулі цябе, усе пазналі праўду Ты ўжо спраўдзіў сваю мэту

**Іншы.** Якога дурня ты зрабіў з таго манаха на рынку! Ён слова не мог вымавіць.

**Мудрэц** *(адыходзіць ад стала і становіцца пасярод пакоя).* Вучні, дарагія сябры, увесь гэты час я хлусіў вам. Гэта я быў невукам. Ёсць Бог Ёсць неба. Ёсць агонь, які мінае, і агонь, які трывае заўжды.

*(Тэйгі ўвесь гэты час сядзіць на крэсле пры дзвярах, лічачы на пальцах, што ён купіць за свае грошы.)*

**Хлопец** *(іншаму).* Ён не спагоніць ахвоты, пакуль мы з ім не падыскутуем. *(Да Мудраца.)* Давядзі гэта, Настаўніча. Ты іх бачыў?

**Мудрэц** *(ціха і ўрачыста).* Толькі што, перад тым як вы ўвайшлі, нехта падышоў да дзвярэй, і калі я ўзняў вочы, то ўбачыў, што там стаіць Анёл.

**Хлопец.** Гэта быў сон. У сне кожны можа ўбачыць анёла.

**Мудрэц.** О, Божа мой! Гэта быў не сон. Я быў пры поўным розуме, гэтаксама як цяпер Кажу вам, я не спаў, як цяпер не сплю.

**Хлопец.** Некаторыя бачаць сны наяве, але яны вар'яты, і хто дасць веры іхным словам? Даруй мне, Настаўніча, але так ты мяне вучыў Гэтаксама ты адказаў манаху, калі той баяў пра відзежы святых і мучанікаў

**Іншы Хлопец.** Бачыш, як добра мы засвоілі тваю навуку

**Мудрэц.** Прэч, прэч з вачэй маіх! Мне патрэбен нехта, хто верыць. Я мушу знайсці тое зерне, пра якое казаў Анёл, перш чым памру. Кажу вам, я павінен яго знайсці, а вы мне ў адказ нейкія аргументы. Вон адгэтуль, або я вас кіем паб'ю! *(Хлопцы рагочуць.)*

**Хлопец.** Як добра ён удае веру! Ён рыхтык як той манах, калі больш не мог нічога сказаць.

**Мудрэц.** Прэч, прэч, або я абламлю гэты кій аб вашыя плечы! Вон, хоць бы вы былі каралеўскія дзеці!

*(Тыя хутчэй падаюцца да выхаду.)*

**Хлопец.** Хадзем, хадзем: ён хоча, каб мы знайшлі яму, з кім паспрачацца.

*(Усе выходзяць.)*

**Мудрэц** *(адзін. Ідзе да бакавых дзвярэй).* Паклічу жонку. Яна напэўна верыць; жанчыны заўсёды вераць. *(Адчыняе дзверы і кліча.)* Брыгіта! Брыгіта! *(Брыгіта ўваходзіць; яна ў фартуху, у яе закасаныя рукавы і рукі ў муцэ.)* Брыгіта, скажы мне праўду; не старайся мне дагадзіць. Ці молішся ты часам?

**Брыгіта.** Малюся! Не, ты ж даўным-даўно навучыў мяне кінуць гэта. Спярша мне было сумна, але цяпер я рада, бо ўвечары надта хочацца спаць.

**Мудрэц.** А ў Бога ты не верыш?

**Брыгіта.** Ах, добрая жонка заўсёды верыць у тое, што ёй муж кажа!

**Мудрэц.** Але часам, калі ты адна, калі я ў школе, а дзеці спяць, ці не думаеш ты пра святых, пра ўсё тое, у што ты некалі верыла? Пра што ты думаеш, калі застаешся адна?

**Брыгіта** *(памеркаваўшы).* Я ні пра што не думаю. Часам задумаешся, ці добра гадуюцца свінні, альбо выйдзеш паглядзець, ці не падзяўблі вароны курынага корму

**Мудрэц.** О, што мне рабіць! Няўжо ні ў кога не засталося веры? Трэба пайсці і знайсці некага! *(Ідзе да дзвярэй, але спыняецца, утаропіўшыся вачыма ў пясочны гадзіннік.)* Мне ж нельга выходзіць: я не магу яго тут пакінуць!

**Брыгіта.** Табе няма з кім паспрачацца?

**Мудрэц.** Ах, выглянi за дзверы і скажы мне: ці ёсць хто на вуліцы? Мне нельга пакідаць гэты гадзіннік: хто-небудзь можа яго страсянуць! Тады пясок пабяжыць хутчэй.

**Брыгіта.** Я не разумею, што ты кажаш. *(Выглядае на вуліцу.)* Там вялікі натоўп гамоніць з тваімі вучнямі.

**Мудрэц.** Ах, бяжы туды, Брыгіта, ды паглядзі, ці знайшлі яны каго-небудзь, хто верыць!

**Брыгіта** *(выціраючы рукі фартухом і адкасваючы рукавы).*

таму маладзёнам заўсёды было лёгка з ім...

Ёсць два кшталты безасабовасці: адзін – натуральны для любога дастаткова ўмелага аўтара, і другі – даступны адно найсталейшым мастакам... Да другога падымаецца адно такі паэт, які ў стане вынесці з свайго багатага ўласнага досведу агульную ісціну і выявіць яе, захаваўшы ўсю індывідуальную своеасаблівасць, але ж стварыўшы агульназначны сімвал. І адметнасць Ейтса ў тым, што ён спярша быў вялікім майстрам першага кшталту, а пазней – вялікім паэтам другога. Але ён не стаўся іншым чалавекам. У ім адчувальны напружаны эмацыйны свет маладосці – і без гэтага ранейшага досведу ён, бясспрэчна, ніколі б не дасягнуў тых вяршыняў мудрасці, якія мы знаходзім у позніх творах. І толькі апошнімі гадамі ён здолеў гэты досвед выявіць, што, на мой пагляд, робіць яго непаўторным і надзвычай цікавым паэтам...

Ад самага пачатку Ейтс тварыў і разумеў сваю паэзію як прамову, а не як друкаванае слова, і гэткім жа чынам ён заўсёды пісаў п'есы для сцэны, а не для кніг...

Ейтс нарадзіўся ў той час, калі агульнапрынятаю была дактрына "мастацтва дзеля мастацтва", а памёр – калі ад мастацтва патрабавалі служэння грамадству Але ён цвёрда верыў у свой шлях, які праходзіў паміж гэтымі дзвюма скрайнасцямі, і не адхіляўся ані да той, ані да другой. Ён паказаў, што мастак, які служыць свайму мастацтву з поўным адданнем, тым

**ся ад выяўленых у тэксце не надта паэтычных, а месцамі і непрыгожых рэаліяў ("Праз непрыгожасць і смутак, паноўныя тут заўжды..." і г.д.). І нарэшце, за любоўю да паэзіі і замілаванасцю Ірландыяй не трэба забывацца на каханне да рэальнай жанчыны, пагатоў лірыка Ейтса ў сваёй сутнасці ёсць гісторыяй ягонага моцнага пачуцця да Мод Гон, якая сталася рамантычнай гераіняю вершаў паэта. Надзвычай прыгожая жанчына, таленавітая акторка, дачка англійскага палкоўніка, што зрабілася палкай ірландскай нацыяналісткаю, яна была для Ейтса не толькі рэальнай каханаю, але і ўвасабленнем усёй "Зялёнай Эйрын". Для яе былі створаныя вобразы гераіняў – гераічных жанчын, а не проста персанажаў твораў – у п'есах "Графіня Кэтлін" і "Кэтлін, дачка Хоўліена". Ён шматкроць прапаноўваў ёй узяць з ім шлюб, але з нязменна адмоўным вынікам. Мод Гон абыякава ставілася да ягонага кахання, але ж не да ягоных вершаў, што з'явіліся на свет, як яна небеспадстаўна лічыла, дзякуючы яе абыякавасці да кахання Ейтса.**

**Паміж творамі, апублікаванымі ў апошні год мінулага стагоддзя, і маленькім томікам "У сямі лясах", што з'явіўся на пяць гадоў пазней, у жыцці і творчай кар'еры Ейтса адбылася важная падзея. Той, хто раней звяртаўся да напісання п'есаў адно прыхапкамі, насамрэч захапляецца справамі Ірландскага Тэатральнага Таварыства, якое было заснаванае ў 1899 г. намаганнямі лэдзі Аўгусты Грэгары, Джорджа Мура і Эдварда Марціна і пазней сталася сусветна вядомым Тэатрам Абацтва. На сцэне тэатра ставіліся п'есы такіх знаных ірландскіх драматургаў, як Джон Сінг, Шон О'Кейсі і, натуральна, самога У.Б. Ейтса. Свой зварот да тэатра ён растлумачыў наступным чынам: "Калі Ірландыя не жадае чытаць, то, магчыма, яна стане слухаць – ці ж палітыкі і царква не выхавалі слухачоў?" На працягу сваёй доўгай і паспяховай кар'еры драматурга Ейтс напісаў велічэзную колькасць п'есаў на ірландскую, хрысціянскую, эзатэрычную тэматыкі. Найчасцейшы герой ягоных драматычных твораў – Кухулін. Ён быў сімвалам ірландскага нацыянальнага адраджэння, увасабленнем усіх гераічных ідэалаў, таму невыпадкова, што менавіта ягоная выява ёсць на помніку героям Вялікоднага Тыдня. У пошуках "свайго" тэатра, Ейтс яднае міфалагічную сюжэтную аснову з эстэтычнымі прынцыпамі класічнай японскай драмы Но. Мастацтва Но бачылася Ейтсу ідэальнай мадэллю паэтычнай драмы. Сцэна без дэкарацыяў, мінімум рэквізіту, схаваны пад маскаю твар актора – усё гэтае, паводле думкі драматурга, павінна было стварыць тэатр "больш дасканалага рэалізму", які, "не імітуючы рэчаіснасць, праз метафару і сімвал падказваў бы нам яе". Адмовіўшыся пасля ад жорсткіх канонаў Но, Ейтс сфармуляваў для сябе два найістотнейшыя прынцыпы паэтычнай драмы: прынцып сінтэзу разнастайных відаў мастацтва і прынцып метафарызму як асновы мастацкай мовы драматургіі. Не зусім карэктнае пытанне, што істотнейшае ў Ейтсавай творчасці – паэзія альбо драма, бо ў яго заўсёды мела месца ўзаемапранікальная раўнавага гэтых літаратурных радоў. Ейтс паводле ўсіх паказнікаў стварыў менавіта паэтычны тэатр, але ж і паэзія Ейтса сваімі фармальнымі і сутнаснымі адзнакамі была і маналагічнаю і дыялагічнаю, а таксама населенаю персанажамі, што гралі сваю ролю ад тэксту да тэксту.**

самым здзяйсняе чын у імя свайго народа і ўсяго людства.

**Томас Стэрнз Эліят** (з лекцыі пра Ейтса, прачытанай у 1940 г у Дубліне, у Тэатры Абацтва)

Ейтс шукае дасканаласці ў сімвалах, якія б абуджалі радавую памяць – вялікую Памяць, што б'ецца пад коркаю індывідуума.

**Хорхе Луіс Борхес** (з эсэ "Нататкі пра Уітмэна")

Вершы Ейтса ад першага да апошняга ўздымаюць бясконцы пратэст супраць атамізацыі грамадства, выкліканай індустрыялізацыяй, а іхнія ідэі і мова, якою яны напісаны, заўсёды былі спосабам барацьбы з гэтым злом. Феі і легендарныя героі ягоных ранейшых твораў – гэта спроба адшукаць у фальклорнай традыцыі нейкую аснову, якая б усё звязвала і падагульняла; а дактрына Anima Mundi з ягоных пазнейшых вершаў – па сутнасці, тая ж самая ідэя, толькі пазбаўленая мясцовага каларыту ў імя таго, што Ейтс лічыў агульначалавечым, – іншымі словамі, ён прагнуў сусветнае рэлігіі. Чыста рэлігійнае вырашэнне можа быць няплённым, але ж ягоныя пошукі вынік праўдзівага ўспрымання сацыяльнага зла..

Ёсць сфера, у якой паэт стаецца чалавекам учынку Гэтая сфера – мова, і менавіта ў ёй веліч Ейтса найвідавочнейшая. Наколькі б памылковыя, недэмакратычныя погляды ён ні вызнаваў, яго мова зрабіла паслядоўную эвалюцыю да таго стылю, які можна назваць цалкам дэмакратычным. Сацыяльныя цноты сапраўднае дэмакратыі – братэрства і духоўнасць, а раўна-

Цяжка быць жонкаю вучонага, якому заўжды трэба дыскусіраваць. *(Выходзіць і гукае праз кухонныя дзверы.)* Дзеці, не чапайце хлеба, пакуль я не прыйду.

**Мудрэц** *(укленчыўшы)*. "Salvum me fac, Deus – salvum – salvum..." Усё забыў Трыццаць гадоў прайшло, як я апошні раз маліўся. Трэба цяпер маліцца на простай мове, як блазан, што жабруе на кірмашы, як Дурны Тэйгі! *(Моліцца.)* Памажы мне, Айцец, Сын і Святы Дух!

*(Уваходзіць Брыгіта, за ёю Дурань, цягнучы да яе капялюш.)*

**Дурань.** Дай чаго-небудзь; дай мне грошык, каб купіць вяндліны ў краме, і гарэхаў на рынку, і моцнага піва на той час, калі сонца аслабне.

**Брыгіта.** У мяне няма грошыкаў. *(Мудрацу.)* Тваё вучні не могуць нікога знайсці, хто б паспрачаўся з табою. Ад тых дат, як ты перамог таго манаха, у цэлай краіне ні ў кога няма веры ні на макулінку. Няўжо ты не можаш супакоіцца і хоць раз у жыцці не паспрачацца? Страшная, мабыць, рэч мець такі розум!

**Мудрэц.** Я загінуў! Я загінуў!

**Брыгіта.** Цяпер адпусці мяне: мне трэба спячы хлеб для цябе і дзяцей.

**Мудрэц.** Прэч, жанчына, вон адгэтуль, кажу табе! *(Брыгіта выходзіць праз кухонныя дзверы.)* Няўжо ніхто не прыдумае, якое мне даць рады? Але яна казала пра дзяцей. Я пра іх забыўся. Яны мусяць мець веру. Толькі маючы розум, можна сумнявацца; маладзейшыя бываюць поўныя веры. Брыгіта, Брыгіта, прышлі да мяне дзяцей!

**Брыгіта** *(з-за сцэны)*. Вас бацька кліча; бяжыце да яго.

*(Уваходзяць двое дзяцей. Яны становяцца поруч за колькі крокаў ад кухоннага парога, нясмела пазіраючы на бацьку.)*

**Мудрэц.** Дзеці, у што вы верыце? Ці ёсць неба? Ці ёсць пекла? Ці ёсць чысцец?

**Першае дзіця.** Мы не забыліся, тата.

**Другое дзіця.** Не, тата. *(Кажуць абое разам, як у школе.)* Неба няма; пекла няма; няма нічога, чаго нельга пабачыць.

**Першае дзіця.** Дурныя людзі раней думалі, што такое бывае, але ты вельмі вучоны і навучыў нас лепшаму.

**Мудрэц.** Вы такія ж благія, як і астатнія, благія, як і астатнія! Вон з пакоя, вон, вон! *(Дзеці плачуць і ўцякаюць.)* Прэч, прэч адгэтуль! Потым я навучу вас лепшаму – не, я ўжо ні чаму больш вас не навучу. Ідзіце да маці – не, яна не здолее вас навучыць...

***2. "Штось іншае... за помсту і праклёны"***

**Калі чытаеш паэзію Ейтса ў храналагічнай паслядоўнасці, заўважаеш паступовы пераход ад ранніх міфалагічных герояў (Фэргуса, Ойсіна, Дэйрдрэ і інш.) да герояў, што прыходзілі з прыватнага жыцця Ейтса. Апрача Мод Гон, ён прысвяціў свае вершы сябрам, продкам альбо сучаснікам, якія мелі досыць годнасці і заслугаў, каб адсланіць міфалагічных персанажаў ці, прынамсі, змяшацца з імі. Пачаўшы з традыцыйнага выкарыстання легендаў і фальклору ў якасці падмурка творчасці, Ейтс нарэшце авалодаў паэтычным майстэрствам, дастатковым для міфалагізацыі рэальнай гісторыі, але з фактаў жыцця навакольных людзей, свайго найбліжэйшага асяроддзя ён тварыў прынцыпова *новую* гісторыю. Паэт стварае для сваіх герояў такія прасторава-часавыя "нішы", якіх многія з іх былі пазбаўленыя ў рэальным жыцці. Каб не гэтая створаная Ейтсам гісторыя, ім, магчыма, цяжка было б стацца нечым большым за зноску ў падручніках літаратуры. Але і эпізодавы герой таксама набывае значнасць, калі для яго знойдзеная адпаведная роля ў Ейтсавай міфалогіі. А Ейтс, рухаючыся ад адной постаці да наступнай, быццам дае кожнаму свой рукапіс – ягоную ролю ў тэксце, не проста адзначаючы чарговага ўдзельніка п'есы, але паступова збіраючы ў адно цэлае пакаленне людзей, занятых у ягонай гістарычнай драме.**

**Мод Гон займала ў асабістым міфе Ейтса месца "Belle dame sans merci", якой ён служыць, да якой імкнецца. Але яна не адзіная жанчына, што зрабіла на яго моцнае ўражанне. Доўгія гады сяброўства звязвалі яго з лэдзі Аўгустай Грэгары, знанай пісьменніцаю, ірландскай арыстакраткаю і мецэнаткаю, на чыё**





**Памажы ім, Божа!** *(Адзін.)* Пясок бяжыць надта хутка. У верхняй шкляніцы засталося зусім мала. Зараз па мяне нехта прыйдзе; можа, ён ужо пры дзвярах! Кожнае стварэнне, якое мае розум, сумняваецца. Ах, каб жа ж трава і планеты маглі гаварыць! Нехта сказаў, што яны б пасохлі, калі б мелі сумневы. О, прамоўце да мяне, каліўцы травы! О пярсты Божае пэўнасці, прамоўце да мяне. Вас мільёны, а вы маўчыце. Я баюся бачыць тую хвіліну, калі веснік прыйдзе па мяне. Накрыю гадзіннік. *(Накрывае яго і пераносіць на стол. Дурань тым часам сядзіць пры дзвярах, возячыся з кветачкамі, напханымі ў капялюш. Ён якраз пачаў абдзімаць галоўку дзьмухаўца.)* Што ты робіш?

**Дурань.** Пачакай хвілінку. *(Дзьме.)* Чатыры, пяць, шэсць.

**Мудрэц.** Навошта ты гэта робіш?

**Дурань.** Я дзьму на дзьмухавец, каб даведацца, колькі часу.

**Мудрэц.** Ты ўсё чуў! Вось чаму ты хочаш ведаць, колькі часу! Ты чакаеш, пакуль яны ўвойдуць у дзверы і панясуць мяне адсюль. *(Дурань дзьме далей.)* Вон адгэтуль, за дзверы! Тут не павінна быць нікога, калі яны прыйдуць! *(Хапае Дурня за плячо і пачынае выпіхваць яго за дзверы, але раптам змяняе рашэнне.)* Не, я хачу ў цябе нешта спытаць. *(Цягне яго назад у пакой.)* Ці ёсць неба? Ці ёсць пекла? Ці ёсць чысцец?

**Дурань.** Дык цяпер ты ў мяне пытаешся? Я думаў, калі ты пытаўся ў сваіх вучняў: вот калі б ён запытаў Дурнога Тэйгі, дык Тэйгі мог бы распавесці яму пра гэта ўсё чыста, бо Тэйгі пра ўсё гэта ўведаў, пакуль стрыг нераты.

**Мудрэц.** Раскажы мне; раскажы мне!

**Дурань.** Сказаў жа я, Тэйгі ўсё ведае. Нават совы і зайцы, якія doяць каровы, таго не дакажуць, што ведае Тэйгі. Але Тэйгі не будзе гаварыць; ён нічога табе не скажа.

**Мудрэц.** Раскажы мне, раскажы мне! Бо там пад покрыўкаю бягуць пясчынкі, і калі яны збягуць усе, я памру; і душа мая загіне, калі я не знайду каго-небудзь, хто верыць! Кажы, кажы!

**Дурань** *(з мудрым выглядам)*. Не, не, я не скажу табе, што ў мяне ў галаве, і не скажу, што ў мяне ў торбе. Ты, можа, украдзеш мае думкі. Учора я сустрэў на дарозе празорцу, і ён запытаў· "Тэйгі, скажы мне, колькі грошыкаў у цябе ў торбе? Стаўлю тры грошы, што там не набярэцца дваццаці грошыкаў; дай я засуну руку і палічу". Але я зацягнуў вяроўку тужэй, вось так, і кожную ноч, як кладуся спаць, я хаваю торбу так, што ніхто не знойдзе.

лежнымі ім якасцямі ў мове ёсць моц і выразнасць. І гэта цноты, якія ў Ейтса ад кнігі да кнігі ставаліся ўсё відавочнейшымі.

**Уістан Х'ю Одэн** (з эсэ "Таварыства супраць набожчыка спадара Уільяма Батлера Ейтса")

Ірландыя, якой Ейтс спрабаваў навязаць тэасофію і эстэтызм, дапамагла яму не ператварыцца ў іхняга раба; Ірландыя, сутнасць якое ён часам скажаў, дала змест ягонай паэзіі.

**Луіс МакНіс** (з кнігі "Паэзія У.Б. Ейтса")

Незалежна ад таго, ці ён меў дачыненне да народных аповесцяў у Слайга, да будызму ў Дублінскім герметычным таварыстве, да спірытычных сеансаў альбо п'есаў Но, што выяўлялі прыгоды Кухуліна ў Краіне Памерлых, Ейтс заўсёды з напалам грукаў у муры фізічнага свету, каб атрымаць адказ з таго, другога боку. Яго пошукі заўжды мелі таемны характар, касмалогія была суцэльнаю фантазіяй, аднак жа яго інтэлект не даў сябе падмануць. Ейтс часцяком дазваляў сабе сумневы рацыянальнага кшталту, але потым паддаваўся сіле ўяўлення ці рыторыкі. Іншымі словамі, Ейтсава разуменне звышпрыроднага свету не было наіўным; паэт быў... вынятак чуйны да зняважанасці цялеснае нядужасці, да разбуральнае смерці, але свядома супрацьстаяў дамінаванню матэрыі над духам. Больш за тое, калі казаць пра ягоную веру ў звышпрыродныя механізмы, то яна была заблытанаю, як і нашая, найбольш яна расчульвае нас ва ўступе да "Відзе-

**спачуванне ён заўсёды мог разлічваць у цяжкія хвіліны жыцця. Ёй, у сваю чаргу, неабходная была падтрымка, якую яна знаходзіла ў вершах Ейтса. Ейтс адгукаўся на ўсе крыўды, нанесеныя таму ці іншаму ягонаму сябру. Верш "Сябру, чыя праца пайшла на глум" быў напісаны з тае нагоды, што Дублінская карпарацыя адмовілася ад цудоўнай калекцыі жывапісу сэра Х'ю Лэйна, пляменніка лэдзі Грэгары, які хацеў падараваць яе гораду, але дублінскі муніцыпалітэт не выдзеліў грошай на пабудову новай галерэі. Аднак Ейтс не робіць з гэтай сітуацыі верша "з нагоды", наадварот, ён дбайна "знішчае" ўсе падрабязнасці інцыдэнту, захоўваючы адно ягоны "каркас". Абстрагуючыся ад канкрэтыкі пры дапамозе абагульнення, ён дасягае большай выразнасці тэксту, робіць яго актуальным для любога часу і кожнай прасторы.**

**Няўдачы, паразы, беды, няшчасці выклікаюць суперажыванне паэта, жаданне загаварыць пра гэта, дапамагаюць адрасатам пераадолець адмоўныя эмоцыі ці, прынамсі, крыху зменшыць непераадольныя пакуты. З вялікай спагадаю адгукнуўся Ейтс на смерць адзінага сына лэдзі Грэгары Робэрта, таленавітага мастака, навукоўца, лётніка, які загінуў ва ўзросце 37 гадоў падчас І сусветнай вайны. У зборніку "Дзікія лебедзі ў Куле" (сама назва адсылае да лэдзі Грэгары і яе маёнтка Кул-парк) былі апублікаваныя два вершы, прысвечаныя памяці маёра Робэрта Грэгары. Першы – уласна некралог, дзе на фоне журботных успамінаў пра памерлых сяброў аплакваецца наймалодшы з іх, "наш Сідні", "салдат, вершнік і навуковец". Ва ўласным Ейтсавым міфе ён – самаразбуральная дасканаласць, што сталася ахвяраю**

жы", гэтага тэзаўрусу таемнае веды і спекуляцыі, што быў часткова прадыктаваны яму істотамі, якіх ён любіў называць сваімі "духамі-дарадцамі"

**Шэймас Хіні** (з эсэ "Радасць, альбо Ноч: палярнасці ў паэзіі У.Б. Ейтса і Філіпа Ларкіна")

Ейтс з упартай нязменнасцю маляваў карціну дэградацыі сучаснага свету, што імчыць да загубы і ўадначас нясе ў сабе насенне шляхетнага адраджэння новае, прыгожае цывілізацыі. У пэўным сэнсе ён аплакваў гібель Ірландыі таго апошняга перыяду, калі панаваў пратэстантызм; але праз прызму сусветнае гісторыі ён бачыць яе і як сімвал, як прыклад заняпаду сучаснасці ўвогуле...

Сам Ейтс – найяскравейшы твор уласнага мастацкага ўяўлення. Нават эпітафія на ягонай надмагільнай пліце ў Драмкліфе падтрымлівае вобраз арыстакрата, тую паставу, пра якую ён так часта дбаў і з якой кпіў.

**Шэймас Дзін** (з артыкула "Стагоддзе ірландскае літаратуры")

Прыклад Ейтса і Джойса можна разглядаць як своеасаблівы выклік іх паслядоўнікам: альбо, маўляў, спаборнічайце з намі, альбо зрынайце. Іхнія паэтыкі-спадужніцы ўспрымаюцца цяпер як пэўная дыялектыка далейшага развіцця ірландскай літаратуры.

**Патрык Маккейб**

*Падрыхтавалі*
*Марына ШОДА*
*і Андрэй ХАДАНОВІЧ.*

**Мудрэц** *(падыходзіць да гадзінніка, як быццам мерачыся адкрыць яго).* Не, не, я не маю адвагі! *(Кленчыць.)* Змілуйся нада мною, Дурань, і скажы мне!

**Дурань.** А! Цяпер іншая рэч. Цяпер я цябе не баюся. Але давай я падыду бліжэй; хто-небудзь можа падслухаць, што сказаў Анёл.

**Мудрэц.** О, што сказаў табе Анёл?

**Дурань.** Аднаго разу я быў адзін у гарах, і да мяне падышоў Анёл і сказаў: "Дурны Тэйгі, не забывай пра Тры Полымі: Полымя, якое карае, Полымя, якое ачышчае, і Полымя, у якім душа радуецца вечна!"

**Мудрэц.** Ён верыць! Я збавёны! Памажы мне. Пясок увесь прасыпаўся. Я паміраю... *(Дурань дапамагае яму дайсці да крэсла.)* Я сыходжу з краіны сямёх вандроўных зорак і пераходжу ў краіну нерухомых зорак! Пазвані ў звон. *(Дурань звоніць у звон.)* Яны ідуць? А, я чую іхныя крокі... Я скажу ім. Цяпер я ўсё зразумеў. Чалавек наскрозь працяты Богам... Мы не бачым праўды... Бог бачыць праўду ў нас. Не магу гаварыць, няма сілаў. Скажы ім, Дурань, што калі жыццё і розум гінуць, праўда высыпаецца вонкі, як гарошыны з стручка. Але не, я буду маліцца – але я не магу маліцца. Маліся, Дурань, каб яны атрымалі знак і захавалі жывыя душы. Твае малітвы лепшыя за мае.

*(Дурань схіляе голаў. Мудрэц панікае галавой на руку, што ляжыць на кнігах. Уваходзяць Вучні.)*

**Хлопец.** Паглядзіце, Дурань стаў званаром!

**Іншы.** Навошта ты склікаў нас сюды, Тэйгі? Што ты хочаш нам сказаць?

**Іншы.** Не дзіва, што ён нядаўна казаў пра сны! Глядзіце, ён і цяпер прыдрамаў. *(Падыходзіць і дакранаецца да Мудраца.)* Ой, ён нежывы!

**Дурань.** Не мітусіцеся! Ён прасіў знаку, каб вы маглі ўратавацца. *(Усе на хвіліну змаўкаюць.)* Глядзіце, што выйшла ў яго з рота... маленькае, крылатае. і зіхоткае. Вось яно пераляцела да дзвярэй. *(У дзвярах з'яўляецца Жанчына-Анёл, расхінае рукі і зноў іх стуляе.)* Яна ўзяла гэта ў свае рукі... яна разамкне іх у Райскім Садзе.

*(Усе кленчаць.)*

**Пераклаў з англійскай**
**Мікола РАМАНОЎСКІ.**

нейкай парадаксальнай непазбежнасці; вобраз юнацтва, якое паглынулі ягоныя ўласныя надзеі; сімвал несмяротнасці, набытай адно пасля гераічнага жыцця і велічнай смерці. Другі верш – "Ірландскі лётнік прадчувае сваю загубу" – гэта перадсмяротны маналог героя, кульмінацыя чарговай дзеі "чалавечай трагедыі" Ейтса. Герой разважае пра тое, што прывяло яго ў такое рызыкоўнае становішча, пакінуўшы сам-насам з амаль немінучым сконам. Адзіная прычына – мужная насалода небяспекаю, што нязменна зачароўвала Ейтса. Адно вышэйназванае пачуццё ды яшчэ згадкі пра земляко́ў з Кілтартан Крос надаюць сэнс кароткаму, але найінтэнсіўнейшаму перыяду ў бессэнсоўным жыцці асуджанага на загубу, гэта тая адзіная повязь, што падтрымлівае чалавека ў ягоным балансаванні над прадоннем абсурднага існавання. Ідэя хісткай раўнавагі выяўляецца і ў фармальным плане тэксту – яе падкрэслівае шэраг парных словазлучэнняў і вобразаў ("Сябрам не стаў я абаронцам,//Не бачыў ворагаў у твар", "Ані загад, ані сумленне", "І смерць мая й нат іншы вынік", "Жыццё намарна й марны скон"). Сфармуляванае на пачатку верша прадчуванне скону ўзмацняецца ўсведамленнем сумнеўнасці матывацыі самога змагання і нават часткова вынікае з разумення таго, што мэты гэтага змагання суцэльна чужыя герою. Сапраўды, маёр Грэгары гіне на італьянскім фронце, змагаючыся на баку ангельцаў; ён мае прычыны аднолькава ставіцца да "ворагаў" і "сваіх", бо вынікі ваенных дзеяў хутчэй за ўсё не будуць мець аніякага ўплыву на лёс ягоных суайчыннікаў-ірландцаў. Таму такі мінімалізаваны арсенал сродкаў для будавання высокага пафасу





## *За вербамі, у садзе...*

**За вербамі, у садзе, я любую сустрэў.**
**Я слухаў яе словы ў лістоце ніцых дрэў:**
**"Кахайце, як травіца расце каля вады".**
**А я не даў ёй веры – быў надта малады.**

**Пасля стаялі поруч на беразе ракі**
**І адчуваў я поціск бялюткае рукі.**
**"Жывіце, як гадуе лістоту вербалоз".**
**А я быў неразумны і змарнаваў свой лёс.**

## *Хто з Фэргусам?*

**Хто з Фэргусам – і наўзгалоп**
**Праз цені лесу ўсё хутчэй,**
**І ў скокі ля самой вады?**
**Дзяўчына, не хавай вачэй!**
**Юнак, навошта хмурыш лоб?**
**Забудзь пра жахі назаўжды!**

**Расхмар чало, не думай дум,**
**Чаму так горкі сэрца жар!**
**Вось Фэргус гоніць свой рыдван:**
**Ён, ценям лесу валадар,**
**Яднае акіянскі шум**
**І зор вандроўных акіян.**

## *Закаханы апавядае*
## *пра Ружу ў сваім сэрцы*

**Праз непрыгожасць і смутак, паноўныя тут заўжды, –**
**Аратага крокі цяжкія, у глебе сухой камяні,**

(які, нягледзячы ні на што, усё ж такі створаны!), таму ў Ейтсавай поліфаніі "гераічную" партыю часам заглушае голас горкай іроніі.

У рознай ступені матываваная вайною і частка паэтычнага зборніка "Вежа", які складаецца з вершаў 1921–1927 гадоў. За выняткам вышэйзгаданых тэкстаў, сусветная вайна не пакінула істотнага следу ў творчасці Ейтса. Затое глыбока ўвайшла ў ягоную плоць і кроў вайна ў Ірландыі: спачатку вызвольнае рушанне ірландцаў супраць ангельцаў (1919–1921), вынікам якога сталася ўтварэнне Ірландскай свабоднай дзяржавы (без Паўночнай Ірландыі), а пасля грамадзянская вайна 1922 – 1929 гадоў паміж прыхільнікамі кампрамісчнай ангельска-ірландскай змовы і рэспубліканцамі, якія імкнуліся да незалежнасці ўсёй Ірландыі; вайна, што скончылася паразаю рэспубліканцаў. У гэтым кантэксце вельмі красамоўныя такія назвы твораў, як "1919" і "Развагі падчас Грамадзянскай вайны". Пра другі з іх Ейтс пісаў, што гэтыя радкі, хоць і названыя "развагамі" ("meditations"), "не філасофскія, але ж простыя і палкія; гэта плач па страчаным міры і згубленай надзеі". "Развагі..." – гэта цыкл з сямі вершаў. Амаль увесь ён напісаны ў 1922 годзе ў Тор Бэйлілі (набыты Ейтсам дом з вежай, якая сталася для яго адным з найважнейшых сімвалаў). Па сутнасці гэта глыбока інтымны твор, дзе палітычныя падзеі выкарыстоўваліся адно ў якасці каркаса, на які нанізваліся ідэі і эмоцыі, што доўга выспявалі ў свядомасці паэта. Першы верш "Радавыя сядзібы" стварае сцэну дзеяў для ўсяго цыкла: вялікі дом, атрыманы ў спадчыну. Гэтая сцэна не зусім стасуецца з рэальнай біяграфіяй Ейтса, але ж цалкам адпавядае ягонай паэтычнай аўтабіяграфіі: у вер-

**Дзіцячы плач, рып драбінаў і рыканне чарады –**
**Не бачыш тую, што ружай красуе ў сэрца твайго глыбіні.**

**Вялікага ліха – брыдоты – паўсюль назіраеш сляды.**
**Свет перарабі нанова, адно тады адпачні.**
**Шкатулку зрабі залатую з нябёсаў, зямлі й вады**
**Для мрояў пра тую, што ружай красуе ў сэрца твайго глыбіні.**

## *Неўтаймоўнае племя*

**Дзеці багіні Дану ў далоні поруч**
**Б'юць, смяюцца і мжацца ў сваёй калысцы,**
**Бо каршуннё залунае, каб ім калісьці**
**Рушыць на Поўнач, – і сэрцы прасякне горыч.**
**Я да грудзей прыціскаю дзіця ў адчаі:**
**І з пасланцом магіл твар у твар гаворым!**
**Вецер самотны скуголіць над дзікім морам,**
**Вецер самотны ў пажары на небакраі,**
**Вецер самотны б'ецца ў як свет старыя**
**Брамы Пекла й Нябёсаў у скавытанні.**
**О сэрца, табе неўтаймоўныя воі-здані**
**Мілейшыя за святое імя Марыі!**

## *Сябру, чыя праца пайшла на глум*

**Без ісціны ўначы**
**Паміж сляпых і хворых.**
**І не перамагчы,**
**Калі сумленне вораг**
**У подлай барацьбе**
**Маной не развярэдзіў,**
**Не паважаў сябе,**
**Ані сваіх суседзяў!**
**Штось большае пачні**
**За помсту і праклёны:**
**На морскім камяні**

шы "Кроў і месяц" ён абвяшчае сябе спадчыннікам арыстакратыі духу, атожылкам сваіх вялікіх папярэднікаў – Свіфта, Голдсміта, Бэрклі, Бэрка. Таму ён дазваляе сабе развагі пра матэрыяльную спадчыну старажытных радоў. Не сумняваючыся наконт яе шляхетнасці і велічы, ён падкрэслівае, што веліч гэтую фундавалі гвалт, прымус і жорсткасць. Падвойнасць такога становішча не выглядае для Ейтса чымсьці штучным, бо ён бачыць у шляхетнасці і жорсткасці, у асалодзе і пакуце два бакі таго самага медаля – без аднаго з іх сама тэма нашых развагаў проста не ў стане існаваць. Пагатоў у вершы чуваць ганьбаванне "нашчадкаў-сібарытаў", якія за доўгія гады арыстакратычнай бяздзейнасці забыліся на сапраўдную грубую сілу чалавека, што першы заснаваў шляхетны род. Усе наступныя вершы цыкла таксама вельмі грунтоўныя, і кожны чарговы спакмень апісання служыць пэўным грунтам для Ейтсавых разважанняў, як вайна ёсць грунтам для ўсіх "Развагаў". Самота паэта толькі аднойчы парушаецца ўварваннем звестак звонку: "Баец увваходзіць у дзверы,//Постаццю падобны да Фальстафа,//Жартуе пра вайну..." (V, "Дарога пры маёй браме". Падрадкоўнік наш. – *М.Ш.*). Але потым паэт зноў замыкаецца ў сваёй гаркоце, як у хаце, і ў гэтай хаце ратуецца ад "сцюжы мроі, што канае". Ключ да наступнага верша "Шпакоўня пры маім акне" дае рэфрэн: "Рыхтуй шпакоўню для вулля!", адзіная светлая фарба змрочнай палітры твора. Напаўразбураная каменная кладка выклікае думкі пра разбурэнне ўвогуле і агульнае разбурэнне: "дзесьці забіты чалавек альбо спалены дом", "барыкады з камянёў і дрэва", "варожасць, важнейшая за каханне" і інш. На гэ-





**Спявай струной шалёнай**
**І ў гэты собскі схоў**
**Нясі натхненне ўпотай,**
**Бо цнота песняроў**
**Ёсць найцяжэйшай цнотай!**

## *Ірландскі лётнік прадчувае сваю загубу*

**Канаю між зямлёй і сонцам**
**На прасціне з нябесных хмар.**
**Сябрам не стаў я абаронцам,**
**Не бачыў ворагаў у твар.**
**Я ведаю, мой суайчыннік –**
**Адно жабрак з Кілтартан Крос,**
**І смерць мая й нат іншы вынік**
**Ягоны не палепшаць лёс!**
**Ані загад, ані сумленне**
**Мяне зрынаюць у нябыт:**
**Адно ў парыве захаплення**
**Я занураюся ў блакіт.**
**Усё, пра што салодка марыў,**
**Прынесла наймізэрны плён.**
**Я паміраю паміж хмараў:**
**Жыццё намарна й марны скон!**

## *Сімвалы*

**Напаўразбітай вежы сны,**
**Сляпы пустэльнік б'е ў званы.**

**Клінок зазіхацеў выразна**
**Ў руках у валацугі-блазна.**

**Меч пад шаўковай паласой**
**І глупства напалам з красой.**

тым фоне руплівіцы-пчолы ўяўляюць сабою сімвал працавітасці і цярплівасці (пчолы спрадвеку асацыяваліся з будаўніцтвам), гэта творчыя сілы ў апазіцыі да часова паноўнай у свеце разбуральнасці. Магчыма, што пчаліны рой у забытай шпакоўні сімвалізуе для Ейтса новы, чарговы ўзровень-віток гісторыі – адраджэнне на магіле зруйнаванага ладу, а таксама надыход новай генерацыі, здольнай карыстацца з таго, што нам пакінулі памерлыя. Падобныя матывы можна прачытаць у маленькім, але дасканалым паводле сваёй структуры вершы "Кола". Кола паводле Ейтсавай міфафіласофскае сістэмы – сімвал спрадвечнага сусветнага руху, замкнутага ў цыкле "нараджэнне – смерць – нараджэнне", найпрасцейшым прыкладам якога можа служыць змена пораў года. Смерць прывабная для ўсіх з прычыны магчымага адраджэння ў новай якасці, сцвярджае паэт. Такая канцэпцыя стварае перадумовы для погляду на найтрагічнейшыя ў гісторыі падзеі "з вышыні птушынага лёту". Цікавасць да ўсходніх веравызнанняў прынесла свой плён для ўласнай міфалогіі – дала хай і мінімальную, але ўсё ж такі падставу для аптымізму нават у суцэльнай роспачы. Хай шпакоўня занядбаная, але заўжды знойдуцца новыя жыхары-пчолы; хай гістарычная хада пакуль не дае нагоды для вялікай радасці, уласная міфатворчасць пакідае месца для сцвярджальнага пафасу. Мужны спеў з глыбіні роспачы. Сумленнае ўсведамленне трагічнага становішча і амаль дзіцячая вера ў выратавальную сілу самой гістарычнай хады – вось эмацыйная дамінанта верша, які дагэтуль уплывае на свядомасць усё новых пакаленняў ірландскай інтэлігенцыі. Чаго вартае адно тое, што

## *Развагі падчас грамадзянскае вайны*

1

### РАДАВЫЯ СЯДЗІБЫ

**Калі жыццё красуецца ў садах
Прасадамі ў прасоды лістоты,
Сабой запаланяе ўвесь прасцяг,
Б'е цераз край, не ведае журботы, –
Яно вядзе свой векавечны шлях
Праз занапады й велічныя ўзлёты,
Прымаючы такі ці іншы кшталт –
Адно каб не механістычны гвалт!**

**Ах, мары, эфемерныя, як здані!
Але калісьці мроіў і Гамер,
І марныя ў мінулым збудаванні
Каштоўнасцю здаюцца нам цяпер,
Чарупінаю з вірнае атхлані,
Што набывае казачны надмер
І ўвасабляе ў перлах і гагаце
Атрыманае ў спадчыну багацце.**

**Так найслыннейшыя валадары
Склікалі першых дойлідаў да працы,
І з іхніх крохкіх візіяў майстры
Стваралі адмысловыя палацы.
Але сканае гаспадар стары –
Адно мышам там суджана застацца.
У скрынях продкаў золата і спіж,
А спадкаемцам будзе толькі мыш.**

**А што калі ўсім гэтым сувенірам:
Старым тэрасам, стодам у садах,
Дзе месца ёсць дрыядам і сатырам,
Паўлінам, бо паўлін – Юноны птах;
Дзе сцежкі ўсе пасыпаныя жвірам,**

**апошні нобелеўскі лаўрэат з гэтае краіны, паэт Шэймас Хіні, уключыў поўны тэкст гэтага твора ў сваю лекцыю з выпадку атрымання ганаровай узнагароды.**

**Аматары папрактыкавацца ў разгадванні сімвалаў могуць угледзець у вобразнай тканіне верша "Шпакоўня..." намёк на масонства. Перадумовы для гэтага стварае шматсэнсоўнасць ангельскага слова masonry (1. цагельная кладка; 2. масонства), да таго ж пчолы заўсёды ахвотна пароўноўваліся з будаўнікамі. Вядомы таксама той факт, што Ейтс быў чальцом масонскае ложы "Залаты Золак". Такія меркаванні могуць падацца крыху штучнымі, калі абапірацца адно на дадзены тэкст. Але ўсе яны даводзяцца наступнай, сёмай часткаю "Развагаў...". Паэта літаральна наведваюць відзежы. З'яўляюцца карціны, якія Ейтс беспамылкова атаясамлівае з сімваламі "нянавісці, духоўнай пярэсыці і прышлай паражнечы". Нянавісць сімвалізуюць шалёныя атрады вершнікаў і іхні вокліч "За Жака дэ Малэ!" У XVIII стагоддзі гэты заклік уваходзіў у рытуалы некаторых масонскіх ложаў, а падчас Французскай рэвалюцыі яго можна было пачуць на вуліцах Парыжа. Паводле Ейтса, гэты кліч вельмі пасаваў тым, хто ва ўчынках кіруецца нянавісцю. Найбольш палохае паэта адчуванне, што гэтая сляпая нянавісць ператвараецца ў пошасць.**

**Пасля ідуць відзежы духоўнай пярэсыці. Калі развіваць ужо ўзяты пад увагу тэзіс пра матываванасць Ейтсавых развагаў рэальнай, пазалітаратурнай канкрэтыкай, варта адзначыць раўналежнасць зместу трэцяй страфы верша і сюжэта карціны Гюстава Маро "Дамы і адзінарогі", што вісела ў доме паэта. Вобраз гэтых паннаў ("У сэрцы ўсё – любоў, у целе ўсё – каханне...") адсылае чытачоў**





**Філосафы ў альтанцы знойдуць дах,
А юнакі – памкненні, мроі, ўздыхі, –
Адзіны лёс – быць люстрам нашай пыхі?**

**Што калі герб, надбрамны вартавы,
Які калісь аздобіў замак нечы;
Партрэт у галерэі радавы,
А на партрэце – вой шыракаплечы;
Шляхетная пасадка галавы
І шпацыр па паркеце – тыя рэчы,
Што нам прыносяць славу ці спакой, –
Адно выява марнасці людской?**

VI

### ШПАКОЎНЯ ПРЫ МАІМ АКНЕ

**Дзе расхісталіся цагліны
Й мур разбурыўся спакваля,
Шпачыны гоман штохвіліны
Чуваць, – сюды, народ пчаліны,
Рыхтуй шпакоўню для вулля!**

**Нас мурам атачае стома
І доўга звесткі йдуць здаля.
Каго забілі альбо з дому
Пагналі – покуль невядома:
Рыхтуй шпакоўню для вулля!**

**Свет у вайну замілаваны;
Два тыдні – і ў крыві зямля.
Шукальнік славы і пашаны
Канае ад смяротнай раны:
Рыхтуй шпакоўню для вулля!**

**Мы затлумілі мрояй голаў,
Разлютаваліся пасля.
Нам полымя пякельных колаў
Бліжэй за міласць... Племя пчолаў,
Рыхтуй шпакоўню для вулля!**

**да пятнаццатай фазы ўвасаблення, паводле міфапаэтычных пабудоваў Ейтса з кнігі "Відзежа". Гэта ювелірна дэталізаваная праца пра "Вялікае Кола" дваццаці васьмі ўвасабленняў – у адпаведнасці з колькасцю фазаў месяца. Праз гэтыя ўвасабленні, паводле ірландскага празорцы, праходзіць сусветная гісторыя, любая цывілізацыя і культура і, адпаведна, кожная чалавечая душа. Пятнаццатая фаза – кругабег месячнай поўні, граніцы "суб'ектыўнасці", якой чалавек дасягнуць не можа, бо гэта – фаза боскай красы па-за межамі душы і цела. Апошні фантом сімвалізуе паражнечу. Гэта "спіжовыя ястрабы", "абыякавы натоўп". Магчыма, вобраз ястрабаў быў падказаны Ейтсу пярсцёнкам, на якім былі выграваныя ястраб і матыль як сімвалы наўпроставай дарогі логікі і звілістага шляху інтуіцыі. Паводле Ейтса, сапраўдная мудрасць – гэта інтуіцыя, а не жорсткая "жалезная" логіка. З выбару "інтуіцыйнага" шляху беспасрэдна вынікае і фінал верша: паэт сцвярджае, што мог бы давесці ўсім сваю значнасць, сваю вагу ў свеце людзей (напрыклад, у галіне палітыкі альбо ў нечым падобным), але ж самота і зануранасць у рэальнасць мастацтва для яго прывабнейшыя. Абстрактная (у адрозненне ад нас, Ейтс не ўкладае ў гэтае слова ніякага адмоўнага зместу) асалода развагаў, радасць уяўлення імпануюць яму больш за актыўную дзейнасць, прычым стары філосаф абірае тое самае, што калісьці абраў для сябе і паэт-юнак. Лірычны герой, як і сам аўтар, не чакае прылёту "халодных каршуноў" прышлай паражнечы. Штодня ён самаахвярна робіць сваю справу, спрабуючы ўгледзець тое, што звычайным людзям бачыць забаро-**

VII

Я БАЧУ ПРЫВІДАЎ НЯНАВІСЦІ,
ДУХОЎНАЕ ПЯРЭСЫЦІ Й ПРЫШЛАЕ ПАРАЖНЕЧЫ

**Па звітых лесвіцах і крохкіх парапетах**
**На вежу ўсё вышэй, праз снегавую бель.**
**Лог, вязы і раку святлом фарбуе ветах,**
**Змяняючы свой від штоночны наўсуцэль:**
**Ёнззяе, быццам меч, што волю даў пагрозам.**
**Раптовыя вятры рвуць парасі парчу.**
**Вар'яткі-мроі зноў на шабаш клічуць розум,**
**І вусціпнасць плыве відзежамі ўваччу.**

**"Смерць катам дэ Малэ!" – мне чуюцца праклёны.**
**Звяз вершнікаў ліхіх ляціць наўскапыта,**
**Раз'юшаны ад ран, ад голаду шалёны.**
**І брата брат сячэ рукой барацьбіта.**
**Старыя, юнакі, лахмоцце і карункі –**
**Усё ідзе ў нябыт. Мой розум ува мгле,**
**Ва ўлонні паражні шукае паратунку,**
**І я амаль крычу: "За Жака дэ Малэ!"**

**Аквамарын вачэй і сцёгны хуткіх ланяў:**
**Паненкі пекныя загналі пад сядло**
**Адзінарогаў шыхт, нібыта прадказанняў**
**І вавілонскіх кніг наогул не было!**
**А думкі іхнія – нязведныя атхлані,**
**Дзе патанае жарсць праз лішніцу агню:**
**У сэрцы ўсё – любоў, у целе ўсё – каханне,**
**А на паверхні слых страчае цішыню.**

**Аквамарын вачэй, павекаў трапятанне,**
**Адзінарогаў шыхт і войскі лахманоў –**
**Пасуньцеся хутчэй, пакіньце сцэну, здані!**
**Чакаем на прылёт халодных каршуноў:**
**Ляканню прышлых дзён і пройшлых дзён згрызотам,**
**І мроям колішнім не атруціць ім кроў!**
**Спіжовы бразгат крыл і насалода лётам,**
**Найдасканалы зрок і хватка кіпцюроў...**

**нена, – "постаць няўгледнай веды", каб зрэдчас сузіраць рысы знаёмага твару, імкнецца апынуцца на тым баку магчымага – там, дзе візія можа стацца візаю на жыхарства ў краіне шанаваных Ейтсам блазнаў, вар'ятаў і паэтаў.**

***3. Выправа ў "рукачынную вечнасць".***

**"Выправа ў Візантыю" (1927 г.) – верш пра ўзаемасувязь несмяротнасці і творчасці, пра жаданне далучыцца, дакрануцца да вечнасці і – раўналежна – стацца яе творцам. Падвойнасць гэтага памкнення пэўнага часу выклікала спрэчкі ў ангельскамоўнай крытыцы. Ці гэта слушна – не супастаўляць, а супрацьпастаўляць жывы свет і мастацтва, якое ў сутнасці сваёй ёсць ягоным люстраваннем? І чаму паэт так упарта трымаецца думкі, што зарукай вечнасці ёсць не спрадвечны рух у межах цыкла "нараджэнне – смерць", а нязменны артыфакт? Ілюструючы гэтую супярэчнасць, верш складаецца з дзвюх роўных частак. Відочнай воссю канцэпцыі ёсць апошні радок другой страфы, а менавіта словы "святая Візантыя". Чым жа гэты тапонім натхняе паэта? Візантыя (а першапачаткова менавіта места Візантыя – гістарычны цэнтр будучай імперыі) як "другі Рым", "сталіца" ўсходняга хрысціянства ў пэўны момант сваёй гісторыі сталася месцам сустрэчы дзвюх культураў, што мелі найістотнейшы ўплыў на фармаванне цывілізацыі Заходняй Еўропы. "Усё места з ягонымі велічэзнымі, аздобленымі мазаікаю будынкамі, якія прыгажосцю сваёй спадужнічаюць з натурою, сцвярджаючы трансцэн-**





**Я росчынкі дзвярэй замкнуў і йду па сходах;**
**Вяртаюся дамоў і думаю ў паўсне,**
**Што мог зрабіць усё, каб славы цёплы подых,**
**Каб жар багомлення крануўся і мяне!**
**Не! За пыхлівасць нам сумленне будзе помсціць.**
**Амбітным святарам пакінь іх алтары,**
**І ўгледзіш некалі няўгледнай веды постаць –**
**Ты, кемлівы юнак, ты, казаннік стары!**

*Кола*

**Сярод зімовай белізны**
**Спяваем веснавыя гімны;**
**Ледзь дачакаўшыся вясны,**
**Упарта клічам вецер зімны;**
**Чвэрць года прамінае – зноў**
**Пяём хвалу мінулай чвэрці**
**Й не ведаем, што нашу кроў**
**Хвалюе толькі прага смерці.**

*Выправа ў Візантыум*

I

**Тут месца не для старасці. Юнацтва**
**Ў абдоймах; на галінах і галлі**
**Пяе экстаз рэліктавае птаства.**
**Як тут жыццю не красавацъ, калі**
**Звер, птах і рыба ведаюць мастацтва**
**Прыйсці, пражыць і адысці з зямлі?**
**У пастцы пачуцця, як пад гіпнозам,**
**Забыцца льга на ўсё, што здзейсніў розум.**

II

**Істота наймізэрная – стары,**
**Як пудзіла, загорнуты ў анучы, –**
**Таксама адгукнецца, угары**

**дэнтнае, з ягонай глыбокай багаслоўскай культураю можа служыць паэту за ўзор Небнага горада і люстравання стану душы "па-за прыродаю" (зборнік эсэ "Відзежа"). У вобразе Візантыі паэту бачылася сукупнасць індывідуальнасцяў, злітых у адзіны вялізарны сімвал дасканаласці і несмяротнасці. Паводле ўласных словаў, падарожжа ў Візантыю сімвалізавала пошукі духоўнага жыцця, накшталт пошукаў святога Граалю з легендаў пра караля Артура. Толькі ў даным выпадку ў дарогу выпраўляецца не рыцар, а чалавек мастацтва, паэт. Бо Візантыя – места, дзе мастак карыстаецца большай пашанай, чым дзе-кольвек. Для Ейтса гэта таксама горад, дзе мастак у стане ўвасобіць сябе ва ўласным дасканалым творы, спасцігнуць вечнасць і гэткім чынам вырашыць праблему, якая спакон веку хвалявала ўсіх творцаў, – ці пакінуць яны, творцы, пасля сябе пэўны трывалы след у мастацтве. Менавіта гэтыя разважанні зрэдчас заканчваюцца гордзівым "Exegi monumentum...", шчырай справаздачай перад сабою і нашчадкамі, якая сведчыць пра тое, што ўласнае жыццё не згінула намарна.**

**Паэт ужо ўгледзеў старасць на гарызонце і свядома падводзіў вынікі. "Я цяпер спрабую напісаць, – гаворыць ён, – пра стан сваёй душы: думаю, гэта слушна для старога чалавека". Вобраз старога – "пудзіла ў лахманах" – узнікае ў другой страфе "Выправы ў Візантыю". Паэт на парозе старасці жадае пераступіць цераз абмежаванасць сваіх фізічных магчымасцяў, хоча адправіць душу вандраваць у пошуках "несмяротных сугуччаў". Наступная страфа выяўляе**

**Пачуўшы несмяротныя сугуччы.**
**Але ж не так дужэюць песняры,**
**Да велічы прыпаўшы неўміручай.**
**Дзеля таго і плыў праз мора ты,**
**Каб трапіць у Візантыум святы.**

III

**О знаўцы ў небным полымі, для спеву**
**Сыдзіце, як з мазаік на сцяне,**
**Вы з боскага агню! Святыя, дзе вы?**
**Каб вечным спевам навучыць мяне,**
**Спаліце маё сэрца, хай павевы**
**Нясуць яго ад цела; хай зірне**
**Душа мая на новую айчыну**
**І вечнасці кранецца рукачыннай.**

IV

**Хай назаўжды, сыходзячы з зямлі,**
**Цялеснае я скончу існаванне.**
**Адно калі залатакавалі**
**Ў карункавай каштоўнай філіграні**
**Мяне ўвасобяць птушкай, адылі**
**Для базілеўсаў распачну спяванне,**
**Для валадарак і валадароў –**
**Пра тое, што прайшло і будзе зноў.**

*Пераклаў*
*Андрэй ХАДАНОВІЧ.*

# АЎТАБІЯГРАФІЯ

## *Фрагменты з дзённікаў (1909 год)*

Каб гэтыя зацемкі гучалі натуральна і дапамагалі мне, яны не павінны вынікаць адна з аднае – тады б яны ператварыліся ў літаратуру. Кожная зацемка мусіць быць запісам выпадковае думкі, і тады толькі яна выкажа маё жыццё. Хрыстос, Буда і Сакрат не пісалі кніжак, бо гэта азначае – разменьваць жыццё на лагічны працэс.

**ягоных нябесных двайнікоў, якія будуць антытэзаю "старому пудзілу", – мудрых старцаў у залатым боскім агні. У 1907 годзе Ейтс упершыню ўбачыў у Равэне мазаікі сабора св. Апалінарыя і быў настолькі ўражаны ўзорамі гэтага вялікага мастацтва, што на працягу доўгага часу не мог вызваліцца ад іх чараў. Магчыма, у жыхароў зімных паўночных краінаў візантыйскія мазаікі нязменна выклікаюць адчуванне ўзвышанасці, іррэальнасці. "У Брытаніі, дзе зімна, – піша Марыя Сцюарт, – мы засцілаем дыванамі падлогі і шчыльна завешваем імі сцены і дзверы; на Усходзе ж робяць іншым чынам. Гэты пакой увесь іграў фарбамі; у мазаіцы яны выкарыстоўваюць шмат золата, а крыху няроўная паверхня стварае ўражанне, быццам гэта не камень, а паветраная ядвабная заслона. Постаці зусім як жывыя, разнаколерныя. Многа вельмі прыгожых".**

**Адсюль, з гэтых пакрытых мазаікай муроў, і прыходзяць да паэта "знаўцы ў небным полымі". Яны – тыя, што ўжо належаць да "рукачыннай" вечнасці, што ведаюць дарогу да яе і ў стане выканаць функцыі правадыроў у Ейтсаву візію – духоўную Візантыю. Кранууўшыся гэтай створанай вечнасці, душа старога песняра ўжо не жадае чарговых цялесных інкарнацыяў. Яе памкненне – залатая птушка, твор элінскіх золатакавалёў. Гэтаму вобразу надаецца сэнс, які цалкам адрозніваецца ад сэнсу вобраза аналагічнай птушкі з вядомай казкі Андэрсена "Салавей", нягледзячы на іхнія агульныя атрыбуты: залатую галіну "ў карункавай каштоўнай філіграні" і наўпроставую сувязь з асобаю імператара, што слу-**





Мінулае ночы ў клубе "Arts" мы дыскутавалі над адным палітычным пытаннем. У нейкі момант я хацеў быў падаць аргументы – адно для таго, каб адказаць на чыёсьці цверджанне, – аднак не зрабіў гэтага і неўзабаве заўважыў, што кожны з маіх аргументаў быў некім выкарыстаны. Логіка – гэта машына, і можна пакінуць яе сабе самой. Без аніякае помачы яна змусіць удзельнікаў вычарпаць тэму; як дурань, так і мудрэц немінуча дадуць належны адказ, а калі нехта забудзецца на адказ, дык вернецца дадому нешчаслівы. Кінь купюру на стол – і атрымаеш узамен шмат дробных грошай.

Свядома прынятыя (а значыць, ужо маска) стыль і індывідуальнасць – гэта адзіныя ўцёкі ад валютчыкаў і гасцей з запалёнымі тварамі.

Я мяркую, што сапраўднае каханне – гэта дысцыпліна; яно вымагае мудрасці; вось жа – насуперак Святому Пісьму – каханне Саламона і Сабы здолела вытрываць. Ён або яна прадчувае таемнае "я" другога і – адкідаючы веру ў звычайнае, штодзённае "я" – стварае люстэрка, у якім каханы ці любая бачаць адлюстраванне, якому наследуюць пазней у штодзённым жыцці; таму што каханне таксама стварае Маску.

Нашая сучасная паэзія – імажыніцкая. Гэта паэзія маладых. Паэзія, узніклая ў найлепшыя эпохі, – гэта бесперапынная экспрэсія апетытаў і заганаў. Таму мы выбіраем там, дзе яны вычарпаліся.

Згадаў сёння, як брахман Магіні сказаў мне: "Калі я быў малады, быў шчаслівы. Меркаваў, што праўда ёсць нечым, што можна перанесці з аднаго розуму ў другі. Цяпер я ведаю, што праўда – гэта стан розуму".

Пакліце з сапраўднага жыцця, і вам застанецца толькі сентыменталізм; гэтак бывае з душою, замкнёнай як ад зямлі, так і ад Неба.

Тое, што было філасофіяй на Далёкім Усходзе, у хрысціянстве сталася жыццём, біяграфіяй і драмаю. Такі самы працэс праходзіць падчас напісання п'еса. Перш за ўсё, калі ў ёй ёсць псіхалагічная глыбіня, тады ёсць у ёй таксама пэўны комплекс ідэй, тое, што выражаецца ў філасафічных катэгорыях. Напрыклад, мая "Князёўна Кэтлін" была напачатку маральным пытаннем: "Ці можа душа ахвяраваць сабою дзеля добрае мэты?" Але філасофія паступова знікае, і ў канцы ўжо адзіна ўлоўнай філасофіяй – калі яна яшчэ застаецца – выступае звычайная экспрэсія таго ці іншага вобраза. Калі п'еса супоўна тоесная жыццю, яна здаецца дапытліваму чытачу нікчэмнай гісторыйкай. Ці была Бхагавадгіта "сцэнаром", з якога зрабілі Евангеле?

Звычайна ўсе пыхлівыя душы прадстаўляюць скрайнія пагляды. Толькі ў тых, што збудавалі багаты свет успамінаў і мысленчых навыкаў, такія скрайнія пагляды сутыкаюцца з пачуццём праўдападобнасці. Напрыклад, меркаванні, якія памяшчаюць праўду з аднаго толькі боку, могуць увайсці ў развітыя розумы выключна на аснове руху й напружання – калі ўвогуле могуць увайсці – і, раней ці пазней, розум інстынктыўна іх адкідае.

Існуе сувязь паміж дысцыплінай і драматычным пачуццём. Калі мы не здолеем сабе ўявіць самога сябе як кагосьці інакшага, чым

**хае гэтых механістычных выканаўцаў. Залатая птушка ў дацкага пісьменніка – адно крохкая цацка, здольная толькі на адзіную мелодыю; тут музычная машына супрацьпастаўляецца жывой істоце – сапраўднаму салаўю. Гэтае антытэзы не пазбег і Ейтс: "рэліктавае птаства" з першае страфы і залатая птушка з чацвёртай, якая з нагоды сваёй несмяротнасці ведае мінулае і будучае, можа спяваць пра мінулае, сучаснае і будучыню (апошняе магчыма дзякуючы ўяўленням паэта пра цыклічнасць часу). Але ў ірландскага лірыка няма адмоўнай афарбаванасці ніводнага з двух "птушыных" вобразаў, бо птахі гэтыя – прадстаўнікі зусім розных светаў, двух узроўняў рэчаіснасці. Першы – гэта свет рэальнага быцця (the world of becoming), дзе ўсё знаходзіцца ў няспынным руху ад нараджэння да смерці. Тут пануюць плоцевыя пачуцці. Некаторыя крытыкі лічаць, што гаворка ў гэтай страфе пра Ірландыю. Але цалкам магчыма, што ў вобраз радзімы ўштукаваны таксама матыў "чароўнай краіны", шчасных выспаў вечнай маладосці, на якія дзякуючы дапамозе феі Ніам трапляе Ойсін, герой ранейшай паэмы Ейтса "Вандраванні Ойсіна". Другі свет – гэта Візантыя, падарожжа да якой аўтар абірае гэтым разам, – свет дасканалага быцця (the world of complete being), які вышэйшы за плоцкія жарсці і нават вышэйшы за час, што ствараецца праз мастакоў – шукальнікаў вечнай красы, квінтэсенцыі кшталту і "чыстай" сутнасці. Выкарыстаем тут словы Уільяма Блэйка: "Свет Уяўлення – гэта свет Вечнасці; гэта боскае ўлонне, куды мы ўсе трапляем пасля смерці фізічнага цела. Свет Уяўлення**

ёсць, калі не здолеем дапусціць да сябе таго другога "я", тады мы ніколі не навяжам сабе дысцыпліны, дарма што можна было б яе навучыцца ад іншых. Актыўная сіла – у адрозненне ад пасіўнага ўхвалення прынятае формулы – гэта нешта тэатральнае, свядома драматычнае, – нашэнне маскі. Вось умова напружанага і поўнага жыцця. У людзей, вельмі дзейных з сваёй прыроды, заўсёды назіраецца або схільнасць пазіраваць, або – калі поза сталася другім "я" – клопат пра зробленае ўражанне. Гэта можна заўважыць у "Жыццях" Плутарха і, часам, у тых сучаснікаў, якія спрабуюць жыць паводле класічных узораў. Напрыклад, у Оскара Уайльда або, што менш відавочна, Уолта Уітмена. Вордсварт нярэдка плыткі і цяжкаваты, часткова з таго, што ў разуменні ім маралі няма тэатральнага элементу, затое ёсць падначаленне дысцыпліне, якую сам ён не стварыў.

Усё жыццё пераследавала мяне ідэя, што паэт павінен ведаць людзей усіх класаў, будучы адным з іх, што павінен спалучыць сваю асабістую рэалізацыю з найбольшым магчымым веданнем усякае мовы і ўсякіх падзей у свеце. Памятаю, як пятнаццаць ці дваццаць гадоў таму прагнуў я, каб, прыняўшы нейк выгляд селяніна, вандраваць па Захадзе, пасля хацелася пaплаваць матросам на караблі. Але той, хто асцерагаецца кантактаў з чужымі і паводзіцца натуральна толькі перад найбліжэйшымі сябрамі, не можа вандраваць у пошуках прыгодаў. Мастак выспявае ва ўсё большай самоце, ён ёсць усё болей сабою паводле ўласных мерак; адсюль ён усё выразней траціць панаванне над светам, які няўхільна ўскладняецца. Нейкага дня ён усё ж вырушыць, каб здабыць веды, нібыта пілігрым у Святую Зямлю. Будзе тады найбольш рамантычным з усіх персанажаў. І будзе забаўляцца ўсімі маскамі.

Трагедыя – гэта толькі азарт: адкідаючы вобраз героя, яна прымае форму дзякуючы перыпетыям і палёту пачуццяў; а камедыя – гэта сутыкненне ўсіх вобразаў. Адмоўся ад вобраза ў камедыі – тады атрымаеш фарс. Фарс жа цалкам абапіраецца на інцыдэнт. На практыцы бальшыня п'ес – мешаніна: Шэкспір трагікамічны. Камедыя радасная, бо прынясце ролі, сваёй маскі – ці то індывідуалізаванага камічнага твару, ці то твару гратэскавага, фарсавага – гэта дэманстрацыя энергіі, а ўсякая энергія радасная. Паэт выснаўвае трагедыю з душы, якая ўва ўсіх падобная. Няма ў ёй радасці ў нашым разуменні гэтага слова, ёсць адно экстаз, што паходзіць з сузірання рэчаў, большых за адзінку, рэчаў, якія невыразліва ўспрымаюцца людзьмі на гэтым свеце. У трагічных масках няма ні героя, ні ўласнай энергіі, яны блізкія да дэкарацый і абстрактных фігураў егіпецкіх святынь. Перш як розум зірне іхнімі вачыма, актыўная воля знікне – адсюль іхны супакой, поўны смутку. Радасць паходзіць з волі, якая працуе, змагае перашкоды, ведае смак перамогі. Душа ведае толькі змены свайго стану; трагічныя матывы, як мне здаецца, звязаныя не з дзеяннем, але якраз-такі з зменамі стану. Я адчуваю гэта, хоць невыразна, калі палюю на праўду, якая што гушчар, і мой абавязак – прытрымлівацца разумовага ўражання і шэрай штодзённасці. Аднак: экстаз – ці ж не ёсць гэта спраўджаннем душы самой у сабе, ці ж не ёсць нейкім велічным імклівым выбухам, падобна да таго, як бы студня вылівала саму сябе? Ці ж не гэта мы называем хараством?

У размове з Крэбам Робінсанам Блэйк сказаў, што ён ставіць па-над чалавекам інтэлекту чалавека шчаслівага й дурнаватага, ці штосьці такое. Было гэта, бадай, выражэннем ягонай пахвалы жыццю – "Усё, што жыве, святое" – і ягонага непрымання абстракцыяў. Бальзак, хоць абагаўленне ім прыгожай, шляхетнага паходжання жанчыны магло б сведчыць, што й ён зрабіў падобны выбар аб'екта свайго пaклaнення, занадта ўзвышае культ волі, каб усведамляць выбар, калі гэтакі ён усё ж зрабіў. Ніцшэ, без сумневу, усведамляў выбар, калі ўяўляў сабе Звышчалавека. Як мастакі, мы пакутуем у нашым мастацтве тады, калі не любім жыцця, суладнага ў сабе, і калі бяздумна чынім тое, што наказвае нам чалавецтва. Мы ёсць – калі паглядзець на нас з перспектывы жыцця – падступным капрызам, эмфазаю і, можа, незавершаным скляпеннем. Тыя, апяванне і апекаванне якіх застаецца нашай павіннасцю, гэта скляпенні завершаныя. Жыццё, якое мы бачым, – не канец рэчаў, але калі нашая праца й нашая воля дасягаюць нейкае вышыні, тады стаім мы разбітыя перад несціханым жыццём і не знаходзім у ім для сябе задання, якому мы б маглі прысвяціць свае найвыдатнейшыя здольнасці. Мы змушаныя мысліць і выражаць сябе, але не дзеяць. Фаўст пад канец быў здатны ўжо толькі папрасіць ворнае зямлі, нібыта які чыноўнік з міністэрства сельскай гаспадаркі. Праўда што, Рамэо не быў ані інтэлектуалам, ані вучоным – даволі нам таго, што ёсць у ім прырода. Мы ўспрымаем яго як завершанае скляпенне, бо ў літаратуры патрэбныя нам завершаныя рэчы. Людзі ўчынку, песняры жыцця й жарсці павінны быць прадметам цікавасці кожнага, але пра нас не належыць шмат гаварыць. Плутарх меў рацыю: мастак не павінен розніцца ад іншых у дзяржаве, таму што маладыя людзі, народжаныя для вайны й кахання, не хочуць быць такімі, як Фідыяс. Жыццё спавядаецца Жрацу і яму аддае пашану; мы спавядаемся Жыццю, кажучы, што мы б зрабілі, калі б толькі былі маладыя, прыгожыя й багатыя. А Жыццё адказвае: "Я ніколі не думаю пра гэта, у мяне так мала часу". І як пахвальна, што Жыццё з бліщчастымі вачыма імкне сваёй дарогаю, забываючыся пра нас.

Дзве гадзіны бяздзейнасці – пакуты невыносныя, бо ў мяне няма адгаворак і я адчуваю прымус пісаць. Маленькая Д.Ф. сказала мне, што ў садзе яе бацькі наткнуліся на курца опіуму, які тварыў вершы ў сне. Калі ён прачнуўся, дык запісаў загаловак, астатняга ўсяго не запомніў. Быў адзіным шчаслівым паэтам.

Ніводнае мастацтва не можа само завяваць людзей – людзей завяёўвае ідэал жыцця, які вызначаецца аўтарытэтам. Калі мы зноў адкрыем гэты ідэал, тады мастацтвы, музыка й паэзія, жывапіс і літаратура, наблізяцца адно да аднаго.

Я ўвесь час крычу насуперак жыццю. Не сплю начамі праз турботлівыя думкі пра час, які забіраецца ў паэзіі, – мінулае ночы не мог заснуць, але, нягледзячы на гэта, мушу рабіць усё тое, дзякуючы чаму я магу весці актыўнае жыццё і выяўляць сябе не як традыцыйны паэт, а як той забыты феномен: нармальны, дзейны чалавек.

**Пераклаў з англійскай**
**Юрась БУШЛЯКОЎ.**

---

**бясконцы і вечны, тады як свет Прыроды – канечны і часовы... У вечнасці адна сутнасць ніколі не ператворыцца ў іншую... Кожная індывідуальнасць ёсць вечнай". Паэт замілаваны ў абодва названыя светы. У адзін праз уласцівае яму пачуццёвае, фізічнае хараство, праз "мастацтва//Прыйсці, пражыць і адысці з зямлі"; у другі – за магчымасць творчасці, за здольнасць "вечнасці крануцца рукачыннай". Вобраз "створанай вечнасці", бадай, галоўны ў тэксце, ягоная кульмінацыя. Дзякуючы сваёй рэверсіўнасці, ён шматзначны: створаная вечнасць ёсць вечным творам. Гэта як *"смерць-у-жыцці"* і *"жыццё-ў-смерці"* з другога "візантыйскага" верша паэта, які называецца ўласна "Візантыя".**

**Напісаны на тры гады пазней ад "Выправы ў Візантыю" (у 1930 г.), ён не дадае амаль аніякіх новых сэнсаў да ўжо створанай аднойчы вобразнае сістэмы, а адно ўдакладняе асноўныя яе пасылы. Адной з прычынаў напісання другога "візантыйскага" твора з'явілася вострая крытыка С. Мура, скіраваная супраць зместу чацвёртай страфы "Выправы ў Візантыю". Яму здавалася, што ў птушцы, створанай элінскімі майстрамі, настолькі ж шмат ад прыроды, як і ў чалавечым целе, як, напрыклад, у Гамеры ці Шэкспіры, якія таксама пяялі мінулае і будучае. У выніку крытыцызм Мура ўзняў задуму Ейтса на новы ўзровень паэтычнай яснасці. Уся ўвага засяроджаная ў другім вершы на вастрыні кантрасту паміж прыродай і мастацтвам у іхнім сапраўдным сэнсе. Візантыя, якая ў першым творы прэзентуецца выключна як горад вечны і нябесны, у другім набывае новыя якасці: дзеля абсалютнага кантрасту ён населены і жывымі, і памерлымі. І калі звычайна прывіды знікаюць з першым крыкам пеўня, то тут, наадварот, душы жывых рэцірую цца, ледзь толькі пачуюць "пеўняў Гадэса" (на рымскіх надмагіллях певень сімвалізаваў адраджэнне), залатых "рукачынных" птахаў, якія ў Візантыі ёсць зямнымі двайнікамі тагасветных істотаў. Прыроднае быццё вызначаецца як "звычайная сукупнасць//Жарсці і бруду", і ўся стратэгія верша заключаецца ў тым, каб адзначыць нязвычна парадаксальную жыццядайнасць памерлых творцаў, жывейшых за звычайных жывых людзей; "жыццядайнасць" ціхую, але ж у сваіх жэстах багацейшую за бясконцую трывогу быцця.**

**Ад "старога пудзіла" да ягонага двайніка з візантыйскай мазаікі, ад забытага творцы да нязменнага, вечнага артыфакта – доўгае падарожжа, але Ейтс здзяйсняе яго, пастулюючы сувязь паміж уласнай творчасцю і далёкай містычнай Візантыяй, знаходзячы падабенства паміж сваімі мэтамі і творамі візантыйскіх майстроў. На гэтым шляху ён ставарае ўласны несмяротны твор "Выправа ў Візантыю", дзе штодзённыя праблемы ягонага рэальнага жыцця ўздымаюцца да вышыні, на якой яны губляюцца ў "несмяротных сугуччах" візантыйскай птушкі.**

**Марына ШОДА**

---

* Біблія: Факсімільнае ўзнаўленне Бібліі, выдадзенай Францыскам Скарынаю ў 1517—1519 гадах; У 3 т. Т. 3. Мн., 1991. С. 391. У перакладзе Янкі Станкевіча: "Бо ў шмат мудрасці, шмат і гневу, і хто павелічае веду, павелічае боль". (Казаннік, 1:18).

# НАШ Адам СТАНКЕВІЧ



*Дык што-ж дала Беларусам Берасьцейская царкоўная Унія й ці варта было прымаць яе, калі гэтулькі, толькі збольшага да яе прыгледзіўшыся, бачым у ей заган, недахопаў, а нават і яўнай шкоды, як для беларускай цэрквы, так і для Беларускага народу?*

## *Пра Адама Станкевіча*

**Паводле даробку ў культуру і нагогул у нацыянальнае жыццё беларусаў Адам Станкевіч выглядае цалкам сваім у шэрагу найвыбітнейшых сыноў Беларусі – тых, чыім стваральным духам ён захапляўся і жывіўся, чыю творчасць даследаваў у кнігах, эсэ і артыкулах.**

**Паміж прыходам на свет на пачатку 1892 года ў вёсцы Арляняты тагачаснага Ашмянскага павета і з'яўленнем у студзені 1949-га яшчэ адной агульнай магілы каля вёскі Шаўчэнкі Тайшэцкага раёна Іркуцкай вобласці (Азярлаг) змясцілася столькі падзеяў, учынкаў, перамогаў і паразаў, што іх хапіла б і на дзесяцёх.**

**На Новы 1915 год малады выхаванец Віленскай духоўнай семінарыі адправіў першую імшу ў парафіяльным касцёле ў гістарычна-векапомным Крэве. Праз тры гады ён вяртаецца ў Вільню ўжо выпускніком Пецярбургскай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі, вядомым супрацоўнікам сталічных беларускіх часопісаў "Светач" і "Дзянніца" і дзеячам Беларускай хрысціянскай дэмакратыі.**

**Адам Станкевіч адным з першых ксяндзоў пачынае паслугоўвацца беларускай моваю ў набажэнствах, часта выступае перад сялянамі ў ваколіцах Дзісны і Браслава, за што польскія духоўныя ўлады высылаюць яго ў Драгічын... Але неўзабаве ён ужо выкладае ў Віленскай беларускай гімназіі, а ў 1922-м праходзіць на выбарах у Польскі сойм, дзе з'яўляецца намеснікам старшыні Беларускага соймавага клуба Браніслава Тарашкевіча...**

**1924 год – старшыня Таварыства беларускай школы. 1926-ты – кіраўнік Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры і адзін з заснавальнікаў у Вільні Беларускай друкарні імя Ф. Скарыны. З 1927-га адзінаццаць гадоў рэдагуе рэлігійны месячнік "Хрысціянская думка"...**

**Новая высылка з Віленскага ваяводства і вяртанне ў Вільню, занятую Чырвонай Арміяй і нібыта зноў беларускую. І пад "саветамі", і пасля хуткай перадачы Вільні Літве, і ў часы нямецкай акупацыі Адам Станкевіч працягвае нястомна служыць беларускай справе: адраджае беларускае школьніцтва, старшынюе ў Беларускім цэнтры ў Літве, аднаўляе выданне газеты "Крыніца", служыць пабеларуску ў касцёле святога Міхала...**

**У снежні 1944-га яго арыштоўваюць людзі з ведамства Берыі. Іх не цікавіць "супрацоўніцтва" беларускага ксяндза з немцамі, ад якіх Адам Станкевіч нязменна трымаўся на дыстанцыі. Галоўнае (як і ў дзесяткаў тысяч іншых беларусаў) злачынства – вера ў незалежнасць сваёй краіны. Ягоная "віна" ацэньваецца на 25 гадоў няволі.**

**Віленскія беларусы збяруць грошы і паставяць на могілках паблізу Крэва помнік свайму святару і яго маці. Але сапраўдным помнікам Адаму Станкевічу застанецца ягоная літаратурная спадчына: кніга "Доктар Францішак Скарына – першы друкар беларускі" (у ёй даводзілася, што знакаміты палачанін не проста імкнуўся пашыраць грамату, а меў на мэце стварыць суайчыннікам магчымасці для больш шырокага засваення еўрапейскага цыкла "сямі вызваленых навук"), нарысы "Францішак Багушэвіч: яго жыццё і творчасць", "Казімір Сваяк: нарыс аб ягонай ідэалогіі", "Кастусь Каліноўскі", "Мужыцкая праўда" і ідэя незалежнай Беларусі"... Глыбокімі аналітычнымі абагульненнямі вылучаюцца манаграфіі "Беларускі хрысціянскі рух" (1939) і "Хрысціянства і беларускі народ" (1940), адкуль і ўзяты прапанаваны чытачам "Крыніцы" фрагмент.**

**Уладзімір АРЛОЎ**





# ХРЫСЬЦІЯНСТВА І БЕЛАРУСКІ НАРОД

### Ідэя хрысьціянскага адзінства ў Беларусі ад пачатку да Берасьцейскай Уніі ў 1596 г.

Палажэньне Беларусі ў беларуска-літоўскім пэрыядзе, бязумоўна, спрыяла жыцьцю яе царкоўнаму агулам і аб'яднаньню яго з Цэрквай Рымскай. У гэтым часе Беларусь, будучы палітычна й культурна як-бы адгароджанай ад разлучанай з Рымам Візантыі, а так-жа абароненай і заслоненай ад татарскай няволі, ужо гэтым самым зблізкалася да Рымскай Апостальскай Сталіцы.

Дзякуючы гэтаму, ідэя аб павароце да адзінства Хрыстовай Цэрквы сярод Беларусаў у гэтым часе аджыла нанава, усьцяж адзывалася, рабіла спробы ажыцьцёвіцца і – ці на кароткі, ці на доўгі час – нанава закаранілася.

Вялікі князь літоўскі – слаўны Вітаўт, маючы ў граніцах сваей дзяржавы ўсе беларускія землі, а так-жа большасьць зямель украінскіх, зоркім вокам вялікага чалавека бачачы ненармальнае палажэньне хрысьціянскай царквы ў дзяржаве й хочачы гэтыя землі зблізіць з Літвой, а таксама шукаючы спосабу адгарадзіцца ад умешваньня ў беларускія й украінскія справы царкоўныя Масквы, – так-жа меў унійныя пляны й прабаваў іх увесьці ў жыцьцё.

І так ведаем, што Вітаўт пасылаў полацкага беларускага епіскага Хвядоса ў Канстантынопаль, каб тамтэйшы патрыярх назначыў яго на кіеўскага мітрапаліта і каб Русь усю, што ўваходзіла ў склад яго дзяржавы, назаўсёды ўвольніў ад маскоўскіх мітрапалітаў. Бо трэба ведаць, што сталіца кіеўскіх мітрапалітаў пасьля разгрому Кіева Татарамі ў 1240 г. была перанесена сьпярша ў Уладзімер Суздальскі, а ад году 1328, як сказана вышэй, у Маскву й улада гэтых мітрапалітаў сягала так-жа й на царкву украінскую й беларускую. Патрыярх на прапазыцыю Вітаўта не згадзіўся. Тады Вітаўт у 1414 г. склікаў беларускіх і украінскіх князёў, баяр і епіскапаў на сынод у Наваградак. Сынод ськінуў з пасаду тагочаснага мітрапаліта Фоцыя, які варожа адносіўся да Беларусаў і Украінцаў, а спрыяў Маскве, і выбраў на яго месца Рыгора Цэмвляка, Баўгара. Кастантынопальскі патрыярх выбараў гэтых ня прызнаў. Тады ў 1415 г. тыяж епіскапы сабраліся ў тым-жа Наваградку яшчэ раз, напісалі пастырскі ліст, у якім аб'ясьнілі ўсей Беларусі й Украіне прычыны, дзеля якіх яны, не зважаючы на пратэст патрыярхі, Фоцыя ськінулі з пасаду мітрапаліта. Такім чынам Цэмвляк стаўся мітрапалітам беларускай і украінскай цэрквы. Сталіца была ў Кіеве, але мітрапаліт прабываў часта ў Наваградку й Вільні. Цэмвляк, як кажуць гісторыкі, спрыяў уніі. Ён зведама

Вітаўта ў 1416 г. езьдзіў у Канстантынопаль і там дабіўся згоды на унію, як ад цара, так і ад патрыярха. Згода гэта была, праўда, больш палітычнай, бо на Візантыю ўжо нападалі Туркі, дык помачы ад эўрапейскіх дзяржаў і князёў трэба ей было канечна. У кожным выпадку цар і патрыярх даручылі Цэмвляку й дваццаці іншым усходнім епіскапам у 1418 г. паехаць у Канстанцыю, дзе адбываўся тады сабор, каб на ім падпісалі унію. Паездка гэта, праўда, адбылася, але да уніі беларускай царквы не давяла.

Вярнуўшыся з Канстанцыі, Цэмвляк хутка памёр. Наступнікам яго стаўся Герасім, епіскап беларускага Смаленска, адзін з пасланцоў у Канстанцыю, якога так-жа гісторыкі ўважаюць за старонніка уніі.

Урэшце патрыярх Язэп, сам старонньнік уніі, прыслаў на мітрапаліта беларускай і украінскай цэрквы Баўгара Сідара, якому разам з мітраполіяй Кіеўскай даручыў так-жа й мітраполію Маскоўскую. Было гэта зроблена дзеля мэтаў унійных, – каб давесьці да царкоўнай еднасьці ня толькі беларуска-украінскія землі, але так-жа й Маскошчыну, бо Сідар быў адкрытым староньнікам уніі.

Тымчасам у Фэррары меўся адбыцца царкоўны сабор. Візантыйскі цар і тагочасны патрыярх, відзячы грозьбу з боку Туркаў, і далей былі за унію з Рымам. Кандыдатам на гэты сабор быў намечаны той-жа кіеўскі й маскоўскі мітрапаліт Сідар. Пасьлаць яго на сабор пад уплывам візантыйскага цара й патрыярхі згадзіўся так-жа й вялікі князь маскоўскі Базыль II.

Калі Сідар прыбыў на сабор у Фэррару, застаў там ужо візантыйскага цара, царградзскага патрыярха, 700 усходніх епіскапаў з розных краёў, многа духавенства ніжэйшага й людзей сьвецкіх. Сабор пачаўся шчасьліва. Доўга вяліся разважаньні аб спрэчных пунктах між Цэркваю усходняй і заходняй: аб пяршэнстве й найвышэйшай уладзе ў Царкве Рымскага папы, аб паходжаньні сьв. Духа, аб чысцы, аб адпраўляньні сьвятой літургіі на хлебе квашаным ці няквашаным. Урэшце, усе дэлегаты ўсходняй цэрквы, апрача епіскапа эфескага Марка, былі за прыняцьцем аб гэтых справах навукі сусьветнай рымскай цэрквы, як навукі сапраўды згоднай з Хрыстовай Царквай.

Тымчасам у Фэррары выбухла пошасьць і сабор быў перанесены ў Флёрэнцыю, дзе нарады шчасьліва былі дакончаны й Унія падпісана 6.VII.1439 г. Ад імя цэрквы беларускай, а так-жа украінскай і маскоўскай, унію падпісаў кіеўскі й маскоўскі мітрапаліт Сідар.

Пашырэньню аднак гэтай уніі ў Візантыі стаялі на перашкодзе гэткія прычыны. Прадусім ня было там на унію поўнай згоды ў вышэйшым духавенстве, а найгоршай можа перашкодай дзеля пашырэньня там гэтай уніі было заваяваньне Візантыі Туркамі, якія да уніі з Рымам не дапускалі, добра разумеючы, што Візантыйская цэрква, аддзелена ад галавы Хрысьціянства, будзе паслушнейшай у руках іхняй палітыкі.

Затое з ружовымі надзеямі варочаўся на Русь мітрапаліт Сідар. Ехаў сюды ён з тытулам папскага легата на ўсе землі беларускія, украінскія й маскоўскія, а так-жа ехаў з тытулам кардынала. Быў гэта першы кардынал ад Цэрквы нашага краю.

Яшчэ з дарогі мітрапаліт гэты пасылае пастырскі ліст да духавенства й верных сваей мітраполіі, у якім абвяшчае аб уніі й заклікае да яе духавенства й народ, а так-жа заклікае хрысьціян лаціньнікаў да любові ўсходніх братоў сваіх.

Адразу Сідар прыбыў у Маскву, але тут аднак згоды на унію не атрымаў ды й сам быў арыштаваны й пасаджаны ў манастыр. Пасьля гэтага маскоўскі цар Базыль на маскоўскага мітрапаліта сам назначыў нейкага Ёну. Ад гэтага часу маскоўская цэрква назаўсёды была аддзелена ад мітраполіі кіеўскай, а знача й ад цэрквы беларускай і украінскай у Вялікім Княстве Літоўскім.

Сідар тымчасам патрапіў жывым уцячы з маскоўскага манастыра й прыбыў у Кіеў, каб тут прыступіць да пашыраньня уніі ўжо ўва ўсей беларуска-літоўска-украінскай дзяржаве. Вось-жа ў кіеўскай мітраполіі, за малымі выняткамі, справа уніі была прызнана, а такім чынам, рэч ясная, унія была прызнана й цэрквай беларускай, якая гэтак узноў вярнулася да хрысьціянскай еднасьці.

Нажаль, Сідар дзеля бліжэй няведамых прычын у Кіеве доўга не аставаўся й ад'ехаў у Рым у 1443 г., дзе ў 1463 г. памёр. На яго месца прышоў Рыгор, які кіраваў цэрквай беларускай і украінскай на працягу 30 гадоў і які за гэты час нямала папрацаваў для уніі, якая тут ужо была даволі глыбокія пусьціўшы карэньні. Гісторыя кажа, што ў гэтым часе





ў Вялікім Княстве Літоўскім прыступіла да уніі восем беларускіх і украінскіх епіскапаў. Унію тут прызнавала так-жа й улада сьвецкая, якая надала уніятам роўныя правы з лаціньнікамі.

Паддзержывалі так-жа унію на нашых землях і мітрапаліты кіеўскія, наступныя па Рыгоры, як Місаіл (1477), Ёна Глезна, Макары. У 1498 г. мітрапалітам кіеўскім быў Язэп Баўгарыновіч, епіскап смаленскі, так-жа гарачы староньнік уніі й дзейны працаўнік дзеля яе, які памёр у 1501 г. Асабліва дзейна працаваў для уніі на нашых землях мітрапаліт кіеўскі Солтан, які аб'яжджаў беларускія й украінскія землі сваей вялікай мітраполіі й уцьвярджаў хрысьціян у уніі. Дзеля рэформы царкоўнага уніяцкага жыцьця ён нават быў склікаўшы ў 1510 г. правінцыяльны сынод у Вільні.

Далей аднак разьвівацца Флёрэнтыйскай уніі на нашых землях ня было суджана. Пратрываўшы тут гадоў да сотні, ужо на пачатку XVI ст. яна ў кіеўскай мітраполіі, а знача й на землях беларускіх, бадай цалком выгасае.

Першай прычынай гэтага ўпадку уніі было блізкае суседзтва Маскоўскага царства, якое змацаваўшыся ськінула з сябе татарскае панаваньне ў 1480 г. і ў якім ужо прабуджалася нацыянальна-імпэрыялістычнае пачуцьцё да нашых зямель і да нашай цэрквы. Маскоўскае царства землі беларускія й украінскія пачало ўжо зваць сваей вотчынай, не жадаючы дапусьціць, каб народы гэтых зямель, як зьбліжаныя да Маскоўцаў сваім паходжаньнем, аддзяляліся ад Масквы верай.

Нацыянальная гордасьць Масквы пасьля заваяваньня Візантыі Туркамі ў 1453 г. узрасла ўрэшце да таго, што яна звала сябе трэцім Рымам*), які мае быць пакліканы ўсе ўсходнеславянскія землі аб'яднаць і палітычна й рэлігійна. Гэтак Масква гаварыць магла асабліва сьмела, калі ў 1589 г. аддзялілася ад Канстантынопаля й устанавіла маскоўскае патрыяршаства. Пасьля гэтага беларуская цэрква ня злучаная з Рымам мусіла ўжо быць залежнай выключна ад Масквы.

Другой прычынай, якая стаяла на перашкодзе пашырэньню ў беларускіх землях уніі, была польская палітыка, уплывы якой у Вялікім Княстве Літоўскім, як аб гэтым сьведча вымоўна Городэльская унія 1413 г., ужо нядвузначна былі варожыя да беларускай усходняй цэрквы й да яе вызнавальнікаў. Унія гэта, хоць праўда й далей не касавала палітычнай незалежнасьці Вялікага Княства Літоўскага, але яна Беларусаў і Украінцаў, як не лаціньнікаў, агранічвала ў палітычна-грамадзкіх правох і дзеля гэтага проста ўжо тады адстрашала ад уніі й дапамагала прыхільна ўглядацца на заступаючуюся за іх дызуніцкую Маскву.

Такім чынам, як бачым, беларуская цэрква ў гэтым ужо часе мусіла знайсьці такую апору й такую арганізацыйную форму, каб якнайбольш была незалежнай ад чужых варожых уплываў, каб якнайбольш была зьвязнаная з народам і з патрэбамі душы ягонай, каб была ўрэшце ў поўным значэньні больш-менш цэрквай сапраўды беларускага народу. Бо як бачым, польска-маскоўскія ўплывы на беларускае царкоўнае жыцьцё ў гэтым часе настолькі ўзмагліся, што ўжо яны пачалі ўводзіць у цэркву раздвоеньне й падпарадкаваць яе сабе. Лёгка дадумацца, што такой верай для Беларусаў магла быць унія з сусьветнай Рымскай Цэрквай.

Праўда, XVI в. мы Беларусы называем векам залатым. Але гэта ня зусім так. Век гэты сапраўды залаты ў сэнсе разьвіцьця беларускай мовы, літаратуры і культуры палітычна-грамадзкай. І гэта зразумела. Быў-жа гэта час вялікай палітычнай і культурнай самастойнасьці Беларускага народу, які, будучы вольным палітычна, мог тварыць свае культурныя вартасьці. Быў так-жа гэта час гуманізму, які, дастаўшыся з цёплай Італіі й на нашы беларускія землі, абуджаў зацікаўленьне да ўсяго таго, што больш канкрэтнае, людзкое. Быў гэта ўрэшце час рэфармацыі, якая выклікала рэлігійную барацьбу й на нашых землях і, што за гэтым ідзе, узбагаціла беларускую народную літаратуру. Усяму-ж гэтаму спрыяла, як ня трэба лепш, штука друкарская.

Гэта усё праўда, аднак для жыцьця царкоўнага XVI в. векам залатым ня быў. Каб сапраўды добра было тады й з жыцьцём царкоўным, дык-бы гэны век наш залаты быўбы яшчэ залацейшым. Але на жаль справы цэрквы былі тады разстроены цалком.

Беларуская цэрква праз разьдзел яе з Рымам была аддалена ад заходу й ад яго культуры й зьбліжана да Масквы, якая сама, будучы адарванай ня толькі ад Рыму, але

*) Першы Рым – праўдзівы, другі – Канстантынопаль, трэці – Масква.

так-жа й ад сваей найбліжэйшай і натуральнай крыніцы культуры – Візантыі, па ўпадку якой у 1453 г. усеўладна панавалі там Туркі, была фармальна спавіта цемрай беспрасьвецьця. Дык ня дзіва, што сярод беларускага народу панавала тады так-жа поўная цемната й забабоннасьць, як агулам, так і ў справах веры. Асьвечанага духавенства бадай ня было зусім. Нават на сталіцах епіскапскіх засядалі тады часта мала граматныя людзі. Духоўныя агулам і епіскапскія пасады багатыя паны часта тады куплялі за грошы, а магнаты й князі, ня пытаючыся епіскапаў, самі назначалі духоўных на прыходы. Было й так, што гэтыя-ж князі й магнаты гэтак сама паступалі й з епіскапамі. Дзеля гэтага здаралася часта, што высокія царкоўныя пасады займалі яўныя гвалтаўнікі права прыроднага, божага й царкоўнага.

Праўда, проціў гэткага сумнага стану беларускай цэрквы зарэагавалі людзі сьвецкія, арганізаваўшыся ў так званыя брацтвы, з якіх на беларускіх землях выдатна працавалі: віленскае, менскае, магілёўскае і інш., але брацтвы гэтыя былі бязсільны направіць так вялікае зло і, як людзі сьвецкія, не заўсёды кампэтэнтныя ў царкоўных справах, справы гэтыя часта яшчэ больш псавалі.

Словам, прышоў упадак на беларускую царкву, а разам з ім, у тым-жа часе, прышоў такжа ўпадак і на палітычную й культурную самастойнасьць Вялікага Князьства Літоўскага, а гэтым самым і Беларускага народу. Масква штораз сьмялей грэзіла яму з усходу. Туркі з паўдня, а Немцы з заходу. Польшч гэта выкарыстала й накінула яму Люблінскую Унію 1569 г., на моцы якой гаспадарства ўсё гэта й з яго народамі Беларускім, Украінскім і Літоўскім ужо мела станавіць складовую частку Польшчы й Польскага народу.

Пасьля Люблінскай уніі пачынаецца для Беларусі новы пэрыяд – польскі, які, як увідзім ніжэй, ёсьць так-жа новым пэрыядам і для справы беларускай царкоўнай уніі.

Дык вось-жа беларускай цэркве ў гэтым новым пэрыядзе беларускай гісторыі нічога іншага не аставалася, як успомніць старадаўныя традыцыі ўсецаркоўнай еднасьці, асабліва-ж ня так далёкую яшчэ унію Флёрэнтыйскую й да гэтай традыцыі, да гэтай уніі вярнуцца з паваротам. Так яна й зрабіла.

Мітрапаліт Міхал Рагоза ў 1590 г. склікаў у Берасьць на сынод усіх беларускіх і украінскіх епіскапаў, прадставіў ім цяжкое й проста бязвыхаднае палажэньне іх Цэрквы й запытаўся, каго гэта Цэрква, маючы на воку дабро сваё, павінна слухаць: патрыярха царагарадзкага, патрыярха маскоўскага дзевяць гадоў таму ўстаноўленага, ці ўрэшце папу рымскага? Біскупы аднагалосна пастанавілі ўзнавіць Флёрэнтыйскую унію.

На другім-жа такім сынодзе ў 1594 г., так-жа ў Берасьці, былі ўжо выбраны дэлегаты ў Рым у асобе Кірылы Тэрлецкага, епіскапа Луцкага і Гіпацага Пацея, епіскапа берасьцейскага. У 1595 г. дэлегаты былі ўжо ў Рыме, дзе ад сябе й ад імя ўсей цэрквы беларускай і украінскай зложылі вызнаньне веры паводле пастаноў сабору Флёрэнтыйскага. Пасьля гэтага Папа напісаў ліст да епіскапаў усей беларуска-украінскай мітраполіі, у якім радзіць, каб яны сабраліся яшчэ на трэці сынод у той-жа Берасьць і ў прысутнасьці сваіх паслоў урачыста паўтарылі тое самае вызнаньне веры. Напісаў так-жа Папа ліст і да караля польскага Зыгмунта III, у якім прасіў яго, каб уніяты агулам, а так-жа й уніяцкае духавенства, былі ўва ўсім што да грамадзкіх правоў роўныя з лаціньнікамі.

Вось-жа гэты трэці сынод згодна з воляй Папы сабраўся ў Берасьці 1596 г. 6.X. У гэтым саборы апрача епіскапаў цэрквы украінскай былі ад цэрквы беларускай і прынялі унію: Гермоген, архіепіскап полацкі й вітэбскі, і Іван Гоголь, епіскап пінскі й тураўскі. Ад імя караля на саборы былі прысутнымі Мікалай Крыштоф Радзівіл і ведамы канцлер Леў Сапега.

Аднак поўнага аднадумства ня было й тут. Епіскап львоўскі Балабан і епіскап Пярэмыскі Копыстэнскі, ня гледзячы на тое, што раней на унію былі згадзіўшыся, цяпер пашлі проціў уніі.

Пад іх верхаводзтвам і украінскага магната К. Астроскага ў той-жа час, у тым-жа Берасьці яны сабралі сабор проціунійны й пачалі адкрытую з уніяй барацьбу.

Як бачым, проціўунійная праца пачалася на землях украінскіх. Адтуль-жа барацьба гэта перакінулася й на землі беларускія, дзе з уніяй змагалася асабліва віленскае царкоўнае брацтва, а за ім менскае й іншыя. Аднак гэта проціўунійнае змаганьне ў Беларусі аказалася бязсільным. З бегам часу на ўсіх беларускіх землях, з выняткам





епіскапства мсьціслаўскага ў Магілёўшчыне, унія прынялася й пусьціла глыбокія карэньні. Унію ня прыняла толькі епархія мсьціслаўская, якая адна толькі ў Беларусі станавіла проціўунійны асяродак і да якой належалі ўсе дызуніты ўсей Рэчыпаспалітай польскай. На землях-жа украінскіх за гадоў сто ад Берасьцейскай уніі злучыліся так-жа з Рымам і ўспомненыя епархіі – львоўская й пярэмыская.

Берасьцейская унія трымалася й разьвівалася на беларускіх землях, як увідзім пазьней, 243 гады. За гэты так вялікі час яна настолькі зраслася з беларускай душой, што, ужо сьмела можна сказаць, сталася сапраўды народнай беларускай верай. Але прыгледзімся бліжэй да яе.

Як Беларусы духоўныя, так і многія сьветлыя адзінкі сьвецкія, згадзіліся на унію для дабра сваей цэрквы, бо сапраўды іншага выхаду яны ня мелі. Калі-б яны гэтага не зрабілі, то ў будучыне як для беларускай цэрквы, так і для беларускай нацыі было-б яшчэ горш. Згадзіўся на унію так-жа й польскі ўрад – ды больш таго: ён яе пажадаў, падтрымліваў і адчасьці праводзіў дзеля сваіх палітычных мэтаў. Праўда, палітычна тады ўжо беларускія й украінскія землі належылі да Польшчы, але прыналежнасьць гэта была больш вонкавая, бо жыхары іх душой былі цалком для Польшчы чужыя. Праваслаўная рэлігія й вынікаючая з яе культура гэтых народаў выразна дзяліла іх ад Палякоў і не дазваляла з Палякамі зьліцца. Унія Берасьцейская мела ў плянах польскага ўраду й польскага тагочаснага грамадзянства запоўніць і гэты недахоп у тагочаснай польскай палітыцы. Палітыка гэта ясна здавала сабе справу, што беларуская (і украінская) царква, адарваная ад Масквы й злучаная з Рымам, сілай свайго палажэньня паддасца пад уплыў польскі, паволі спольшчыцца, пакіне нат свой абрад і мову.

## УНІЯЦКАЯ ЦЭРКВА – АПОРАЙ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦІ Ў XVII–XVIII СТ.

Пасьля пэрыяду ў гісторыі Беларусі, які трываў ад XIII да XVI ст. уключна, у якім прыпадае беларуская залатая пара, што ёсьць доказам ня толькі сконсалідаваньня беларускай нацыі, але й яе вялікай творчай здольнасьці, да чаго так магутна прычынілася беларуская Праваслаўная Цэрква, як сродак злучнасьці й гэтым самым тварэньня беларускай нацыянальнасьці, – настаў пэрыяд цалком новы, званы часта польскім. Гэты новы пэрыяд трываў ад другой палавіны XVI ст., калі ў 1569 г., дзякуючы Люблінскай Уніі, Беларусь фармальна страціла сваю палітычную самастойнасьць, – да разбору Польскай Рэчыпаспалітай у самым канцы XVIII ст. Люблінская Унія, а па ей Берасьцейская – касьцельная – сапраўды гэта тыя слупы, ад якіх фармальна, а хутка па іх і фактычна, пачынаецца дэкадэнцыя беларускага палітычнага й культурнага жыцьця. У гэтым пэрыядзе беларуская нацыянальнасьць страціла сваю палітычную й культурную самастойнасьць. Гэты пэрыяд – гэта час заняпаду Беларусі.

Але што-ж у гэтым так зв. польскім пэрыядзе жыцьця Беларускага народу сталася з ім, з яго нацыянальнай асаблівасьцяй? Ці гэты народ перастаў існаваць і ці яго нацыянальнасьць расьцярушылася й зьгінула? Не. Народ астаўся народам і яго нацыянальнасьць асталася непарушанай, але народ гэты апынуўся тады ў такіх умовах свайго жыцьця, што ня меў ніякай магчымасьці быць дзейным, разьвіваць далей сваю культуру, будаваць сваю грамадзкасьць і разьвівацца й жыць сваім уласным нацыянальным жыцьцём. Дзеля гэтага народ тады наш як-бы абмёр, застыў у бяздзейнасьці, заснуў. Тымбольш тады нашаму народу было цяжка, бо ўжо тады ён цалком быў пакінуты сам сабе. Вышэйшыя асьвечаныя клясы яго пакінулі, гонячыся за прывілеямі, за ўрадамі, за ўласным самалюбным дабрабытам. Праваслаўе, з якім народ зжыўся й якое ўжо было яго нацыянальнай верай, пасьля доўгай і ўпорыстай барацьбы ўступіла месца Уніі, якой сьпярша народ так баяўся й ад якой так заўзята бараніўся.

І вось-жа й у гэтым пэрыядзе беларускай гісторыі, у пэрыядзе вялікага заняпаду Беларускага народу, народ гэты ня зьгінуў. І мала таго, што ня зьгінуў, але паціху жыў і паціху далей прынамсі аберагаў сваю нацыянальнасьць і яшчэ нават даваў па крысе азнакі свайго жыцьця ў форме сякіх-такіх культурных здабычаў. Дык што-ж тут аберагала беларускую нацыю, што было тут гэным сродкам яднаньня й апоры? Як ня

дзіва, але гэтым і тут было Хрысьціянства, гэтым сродкам была Уніяцкая Цэрква, ня гледзячы на сваё цяжкое палажэньне з прычыны навязваньня ей часта чужых антынародных заданьняў і трактаваньня яе, як нешта ліхое і "мужыцкае".

Польскі урад й польскае грамадзянства пераважна з палітычных мэтаў падтрымлівалі Унію й яе праводзілі.

І так, пасьля ўвядзеньня Уніі Зыгмунд III адкрыта стаў па яе старане. Часта сілай, проціў волі Беларусаў, забіралі для Уніі цэрквы й царкоўную маемасьць, што ў выніку на Уніі адбівалася толькі ад'ёмна. Праўныя адносіны да уніятаў былі яўна аднабокія й несправядлівыя. Ня гледзячы на просьбы й дамаганьні Папаў рымскіх зраўняць у палітычна-грамадзкіх правох уніятаў з лацінькамі, зроблена гэта ня было ніколі. Епіскапы напр. уніяцкія ніколі ня былі дапушчаны да сэнацкіх крэслаў, з чаго карысталіся біскупы лацінскія.

Духавенства лацінскае адносілася да Уніі так-жа варожа. Унію й яе духавенства, ня вылучаючы нават і епіскапаў, яно яўна ненавідзела й пагарджала. Гэтая ненавісьць і пагарда асабліва ўглыбляліся ў меру таго, як вышэйшыя асьвечаныя беларускія клясы, пад гэткім напорам лацінізму й полёнізму, паволі пакідалі унію, – што яны з тых-жа прычын рабілі ўжо аддаўна, – пакідалі свой абрад і мову, польшчыліся й пераходзілі ў польскае лацінства.

Сапраўды, Палякі праз Берасьцейскую Унію дапялі таго, што слушна ім закідаюць расейскія гісторыкі праваслаўныя, а так-жа – што й сяньня часта можна пачуць ад беларускай праваслаўнай інтэлігенцыі, асабліва ўзгадаванай на расейскай гістарычнай літаратуры, а іменна тое, што Унія Берасцейская – гэта была вера не самастойная, а толькі праваднік, масток, які вядзе да польскасьці й лацінства.

Праўда, лепшыя сыны беларускай цэрквы уніяцкай і беларускай нацыі бачылі гэтую фальшывую старану ў уніі, бачылі так-жа небясьпеку, згэтуль вынікаючую як для самай Уніі, так і для Беларускага народу й у меру магчымасьці гэтаму праціўстаўляліся. Аднак яны прад гэным яўным паходам на іх цэркву й народ былі бязсільны. Небясьпеку гэту й свае вялікія крыўды яны часта прадстаўлялі Папам, а тыя, правам забараняючы пераходзіць уніятам з свайго абраду ў лацінства, часта зварочваліся да польскіх каралёў з просьбай не пазваляць на гэта беларускай арыстакрацыі. Але гэта ўсё было лішнім і дарэмным. Польскія палітыкі й нават самі каралі прыракалі паслухаць Папаў, але прырачэньня ніколі не спаўнялі й далей Унію выкарыстоўвалі для сваіх мэтаў палітычных, як толькі ўмелі й хацелі. У рэзультаце Палякі праз унію забралі ад Беларусаў усё лепшае, – забралі тое, што забраць хацелі: – асьвечаную клясу людзей і іх абшары зямельныя, а так-жа пакрысе забіралі й агулам ад Беларусаў уніятаў іх абрад і мову.

У рэзультаце такой польскай палітыкі Унія на беларускіх землях у XVIII ст. была ўжо выключна верай сялянскай, прычым многа ўжо злаціненая й спольшчаная. Найбольш яскрава аб гэтым сьведчаць пастановы уніяцкага сыноду ў Замосьці 1720 г.

Дык што-ж дала Беларусам Берасьцейская царкоўная Унія й ці варта было прымаць яе, калі гэтулькі, толькі збольшага да яе прыгледзіўшыся, бачым у ей заган, недахопаў, а нават і яўнай шкоды, як для беларускай цэрквы, так і для Беларускага народу? Вось-жа, ня гледзячы на ўсе гэтыя недахопы, і на ўсе тыя благія вынікі для нашай цэрквы й народу, якія былі звычайным наступствам Берасьцейскай Уніі, Унія гэта ўсёждыкі мела рацыю свайго быту. Унія гэта – з пункту гледжаньня беларускага – гэта гістарычная неабходнасьць і для беларускай цэрквы й для Беларускага народу. Надта магчыма, што калі-б ня гэная унія, дык сяньня ўжо ня было-б беларускай нацыі, яна ці такім ці іншым чынам патанула-б у маскоўскім нацыяналізьме й імпэрыялізьме, куды гразьнейшым для нас, як такі-ж нацыяналізм і імпэрыялізм польскі.

Вось-жа праз Унію Беларусь, праўда, шмат страціла, але, трэба прызнаць, здабыла значна больш – праз Унію яна захавала веру айцоў сваіх на працягу 243 г. і прынамсі ў сваей аснове захавала так-жа й сваю нацыю. Унія дала Беларусам правільную царкоўную арганізацыю, вынікаючы з апоры аб Рымскі Прастол, у меру тагочасных палітычных варункаў адрадзіла царкоўнае жыцьцё, падняла асьвету духавенства й народу, спрыяла разьвіцьцю беларускай народнай літаратуры. Уніяцкая літаратура – гэта літаратура з натуры сваей беларуская, бо-ж яна мела на мэце выключна шырокія сялянскія масы, якіх дзякуючы гістарычным абставінам і была яна верай. Словам, унія, як бачым, гэта такая на нашых землях форма Хрысьціянства, якая найбліжэй сваей





натурай да натуры беларускай, якая сапраўды зьяўляецца апорай нацыянальнай і культурнай гэтага народу.

Калі-б жыцьцё беларускай Праваслаўнай Цэрквы, шукаючы выхаду з свайго цяжкога палажэньня ў XVI ст., пакіравалася якімсь чынам на ўсход, на Маскву, ці працэй кажучы, калі-б яна не пайшла на Унію й асталася праз гэныя 243 г., праз якія была ў Уніі, у духовай прынамсі еднасьці з Масквой, – вынікі для яе й з боку веры й з боку нацыянальнага былі-б незраўнана горшыя. Было-б гэта дужа грозна для веры, бо душа беларуская, будучы ў доўгіх сталых зносінах з Масквой і адтуль чэрпаючы маральнае й культурнае падтрыманьне, штораз больш і больш праймалася-б, насупроць істоце Хрысьціянства, маскоўскім абсолютызмам і ў сэнсе хрысьціянскім штораз больш раскладалася-б. Гэткі-ж паварот беларускай царкоўнай гісторыі быў-бы так-жа больш шкодны й для нацыі, бо ясна, што праз залежнасьць царкоўную, праз блізкія адносіны рэлігійныя з Масквой, раскладалася-б і беларуская нацыя, лёгка паддаючыся маскоўскай асыміляцыі.

Ня трэба забывацца, што мова беларуская больш розная ад мовы польскай, як ад маскоўскай, дык і ўплывы польскія праз Унію на беларускую цэркву й нацыю менш шкодныя й менш небясьпечныя, чым гэта было-б з уплывамі маскоўскімі.

Ня трэба так-жа забывацца й аб тым, што маскоўскія цары, хоць беларускія землі былі й за палітычнай мяжой Масквы, аднак-жа пачынаючы ад якой палавіны XVII ст. і праз усё бадай ст. XVIII усьцяж забіралі голас у абароне пакрыўджаных Беларусаў праваслаўных і нават уніятаў, проста ўмешваючыся ў іх царкоўнае й нацыянальнае жыцьцё. Заступніцтва-ж гэта, рэч ясная, мела на мэце ня выпусьціць Беларусаў, якіх Масква заўсёды лічыла сваімі роднымі, з сваей апекі й пры аказіі прылучыць іх да сябе й цалком з сабой асымiляваць. Дык вось-жа, паўтараем, калі-б Беларусь у XVI ст., дапусьцім, асталася праваслаўнай і паддалася-б уплывам рэлігійным і нацыянальным Масквы, яна-б адышоўшы ў канцы XVIII ст. да Масквы, – не гаворачы ўжо аб тым, што было-б, калі-б яна да Масквы палітычна адышла раней, – дык яна-б на зары свайго рэнэсансу, свайго адраджэньня, была-б пазбаўлена й тых, сапраўды ўбогіх, сіл, чэрпаных, трэба ведаць, прадусім з традыцыі, зьвязанай з уніяй, сіл, з якімі яна выступіла на арэну свайго сучаснага ўжо больш-менш сьведамага нацыянальнага жыцьця. Словам, Берасьцейская унія – гэта вялікая й неабходная бачына ў гісторыі нацыянальнай і царкоўнай Беларускага народу. Ня трэба забывацца так-жа й таго, што калі-б ня Унія – дык Палякі ўсёроўна цягнулі-б Беларусаў у лацінства й тут больш зьгінула-б іх і была-б большая шкода Беларускаму народу.

На шчасьце, Беларускія праваслаўныя масы пасьля завядзеньня Уніі, замест Праваслаўя, агулам, даволі хутка да яе прывыклі. Справа ў тым, што калі гэтыя масы Уніі баяліся, дык думалі, што яна безпасрэдна нясе польскасьць і лацінства. Калі-ж убачылі, што гэтага няма, што страх не такі вялікі, як яго сабе прадстаўлялі, што ў царкве падаўнейшаму астаецца царкоўна-славянская служба Божая й пропаведзь у іх роднай беларускай мове, хутка да Уніі пачалі прывыкаць, уважаючы часта, што фактычна не зайшло ніякай вялікай зьмены. Бо ў справах дагматычных Праваслаўя й Уніі масы разьбіраліся зусім мала, або й нічога з гэтага ня цямілі. Гэтыя справы належылі да духавенства й то пераважна да вышэйшага, бо й духавенства ніжэйшае, працуючае на сялянскіх прыходах, агулам было цёмнае й культурна стаяла даволі нізка. Тымчасам вышэйшае духавенства – епіскапы – прынялі Унію й у яе запісвалі й масы, зусім іх аб гэта ня пытаючыся. Такі тады быў час, такая пара, што з масамі ня лічыліся й аб волі іх ні ў чым ня пыталіся.

Унія існавала ў Беларусі даволі доўга, бо аж 243 гады, з гэтых якіх гадоў 197 (1793—1596) прыпадае на пэрыяд польскі, пэрыяд беларускага заняду. Ужо й за гэты польскі пэрыяд і за гэтыя гады Унія прынялася й сталася беларускай нацыянальнай верай, бадай яшчэ глыбей, як у пэрыядзе папярэднім, бо тут у ёй ня было ўжо ніякіх бадай вышэйшых і асьвечаных клясаў і яна сталася выключна верай беларускай і сялянскай. Гэтаму памагала лацінскае польскае каталіцтва, якое, як сказана вышэй, Уніі ня любіла й ей пагарджала. Польскае лацінскае каталіцтва ўжо тады для Беларусаў каталікоў было завёўшы ў касьцеле ў дадаткавых набажэнствах мову польскую й гэтага-ж самага чакала й ад Уніі й гэтай апошняй ненавідзела, на сколькі тая не здавалася. І не здавалася сапраўды. Так, як Праваслаўе ваявала за сябе й за беларускую нацыянальнасьць,

таксама, агулам бяручы, пастулала й Унія, якая сталася адзінай апорай беларускай нацыянальнасьці й беларускай культуры. Уніяцкая Цэрква сталася адзіным сродкам беларускага нацыянальнага яднаньня ў сваей сучаснасьці й сталася адзіным злучвом беларускай сучаснасьці з беларускай нацыянальнай мінуўшчынай. Гэтых абодвых мэтаў яна дасягала, карыстаючыся славянскім языком у Службе Божай, а так-жа карыстаючыся языком родным, жывым, навучаючы уніятаў Беларусаўаднаго і другога ў цэркве й у школе, наскольки гэтая існавала. Не адрэчы тут будзе прыпомніць, што Праваслаўе ўжо ставалася для Беларусаў чужым, бо яно ўжо ставалася аружжам маскоўшчыны й, наскольки даставалася да Беларусаў, якія ня прынялі Уніі, – а такіх было агулам ня многа, бо агулам уся Беларусь, з нязначнымі выняткамі, была уніяцкай, – несла з сабой маскоўскія палітычныя ідэі й маскоўскую культуру.

## X

## Уніцкая Цэрква ў расейскім пэрыядзе гісторыі Беларусі (XIX ст.) й яе роль адносна беларускай народнасьці

І так царкоўная Унія ў першай палавіне пэрыяду заняпаду, у пэрыяд польскі, была злучвом беларускай нацыянальнасьці. Праўда, тое, чаго так Беларусы ў сваім часе баяліся, – польскасьць і лацінства насядала моцна на Унію, але яна спачатку з гэтым усім баролася з добрым вынікам. Пасьля-ж пачала здавацца. Унія ўжо ў XVIII ст была сільна сполёнізаваная й злацінізаваная. Але й цяпер уніяцкая цэрква прынцыпова не перастала быць гэнай апорай і сродкам яднаньня беларускай нацыянальнасьці.

Урэшце прыйшла ў самым канцы XVIII ст. другая палавіна пэрыяду заняпаду Беларускага народу, пара расейская, калі ўсе беларускія землі пасьля разбору Польшчы адыйшлі да Расеі. Цяпер лёс беларускай нацыі аказаўся яшчэ цяжэйшым. Вышэйшыя слаі беларускага грамадзянства аканчальна пакінулі народ і перайшлі на старану Польшчы, зьмяняючы нават сваю беларускую нацыянальнасьць на польскую. Інтэлігенцыя так-жа цалком спольшчылася. Уніяцкая цэрква хоць не цалком, але мала без чаго, была так-жа ўжо спольшчанай й злацінізаванай. Тымчасам перад беларускім народам паўстала новая грозная небясьпека з боку расейскага імпэрыялізму й нацыяналізму, які Беларусі нясла, упрэжаная ў расейскую палітыку, расейская праваслаўная цэрква. Трэба памятаваць, што цяпер ужо было ня тое праваслаўе, што існавала ў Беларусі ад разьдзелу цэркваў (1054) аж да берасьцейскай царкоўнай уніі, – тады праваслаўе было вольным і незалежным, а гэтым самым і беларускім. Беларускім фактычна было праваслаўе, якое ня прystала да уніі – й якое ўсьцяж аставалася ў Беларусі, хоць у нязначным ліку, існаваць вобак уніі. А зусім іншае праваслаўе цяпер ішло з Масквы – гэта было праваслаўе расейскае палітычнае, заборчае. Гэтакім яно рабіла й тыя астаткі праваслаўя беларускага, якога фрагмэнты ўсьцяж у Беларусі асталіся. Гэтае праваслаўе агулам было ўжо тым, чым фактычна ў Беларусі было й польскае лацінскае каталіцтва.

І як ня дзіўна, – і ў гэтай цёмнай беларускай пустыні зоркай праводнай, што крыху сьвяціла ў цемры, была... уніяцкая цэрква.

Беларуская культура ў пач. XIX ст. мела яшчэ, хоць праўда незавідную, але пэўнае прыпынішча ў зацішшы ўбогай, як і сам народ, уніяцкай цэрквы. Культура гэта нават у той час, калі унія ўжо была сполёнізаваная, усё-ж яшчэ апіралася на тэй-жа уніі, падтрымлівалася яе традыцыяй, падтрымлівалася яшчэ запасамі сіл даўнай яе мінуўшчыны, бо унія вякамі тварыла беларускую культуру ў форме кніг літургічных, малітаўнікаў, трэбнікаў, кніг зьместу рэлігійнага й агулам прасьветнага. Унія ў гэным часе на нашых землях – гэта была сапраўды адзіная апора беларускай культуры, бо яна адна адзіная была зьвязана арганічна з народам і з патрэбамі яго душы, адна адзіная гэтай душы як магла і чым магла служыла. Усё-ж іншае тады было пастаўлена процiў гэтага народу. Гуляла паншчына на беларускіх землях і адбывалася між Палякамі й Маскоўцамі барацьба за душу беларускую. І толькі аж на дне свайго ўпадку душа Беларуса,





паддзержавана крыху Уніяй, трымалася пры жыцьці, ня трацячы ніколі надзеі на лепшыя часы, на сваё адраджэньне.

Аднак і на гэты раз ня было яшчэ Уніі суджана на беларускіх землях разьвівацца й жыць далей. Дзьве сілы – Польшч і Масква – ў сваей палітычнай барацьбе за нас, у той час, у першую чаргу, як мы бачылі, хваталіся за рэлігію, робячы з яе аружжа сваей палітыкі. Ад гэтай палітыкі з боку Польшчы Унія яшчэ сяк-так магла бараніцца, хоць-бы дзеля таго, што за яе ўступаўся Папа Рымскі й што народ беларускі агулам сваей мовай і народнай псыхікай, як мы ўжо ўспомнілі, значна розны ад народу польскага. Але шмат трудней было змагацца, ды бадай цалком немагчыма, з Расеяй. Маскоўскае царства, сіла якога ўсьцяж расла, урэшце ў канцы XVIII ст., між іншымі, усе беларускія землі далучыла да сябе, забіраючы іх ад Польшчы.

Пасьля далучэньня Беларусі да Расеі пачынаецца для яе гісторыі новы пэрыяд – расейскі. Вось-жа й Унія, будучы цесна зьвязана з Беларускім народам пасьля ўплыву 243 гадоў свайго існаваньня, як убачым, разам з народам дзеліць свой лёс.

У 1795 за часоў царыцы расейскай Кацярыны наступіў аканчальны падзел Польшчы й уся Беларусь была далучана да Расеі.

Пасьля гэтага пры тэй-жа Кацярыне процiў Уніі павёўся ўжо выразны й цяжкі прасьлед. Усе уніяцкія епархіі, апрача аднэй так званай беларускай у Полацку, былі скасаваны. Расейскі ўрад уважаў тады, што ў Расеі маюць рацыю быту веры – праваслаўная, зразумелая рэч, – і каталіцкая, лацінскага абраду, а Унія аставацца не павінна, бо з яе, праўда, пераходзілі ў лацінства, што яшчэ Кацярына магла цярпець, але магло стацца й так, што з Праваслаўя маглі пераходзіць у Унію. У рэзультаце расейскай у гэтым часе палітыкі за ўвесь час царстваваньня Кацярыны з Уніі у Праваслаўе было пераведзена да двух мільёнаў Беларусаў і Украінцаў.

За часоў цароў Паўла І і Александра І палажэньне уніятаў значна палепшылася. Так напр., у 1806 г. у Полацку была яшчэ нават заложана уніяцкая духоўная сэмінарыя.

Аднак агулам націск расейскіх цароў на Унію ўсьцяж узмагаўся й гады яе там існаваньня былі ўжо палічаны. Рашучы для Уніі мамэнт настаў за часоў цара Мікалая І і епіскапа адступніка уніяцкай літоўскай (віленскай) епархіі Язэпа Семашкі. У гэтым часе уніяцкая цэрква мела яшчэ дзьве беларускія епархіі: віленскую, з сталіцай епіскапскай у Жыровіцах, і полацкую.

Мікалай І быў адкрытым ворагам Уніі й усякімі спосабамі імкнуўся да яе ліквідацыі. Скрыта, але так-жа рашуча памагаў яму ў гэтым успомнены Семашка з такімі-ж адступнікамі, як і сам, – епіскапамі уніяцкімі – Ант. Зубко й Базылім Лужынскім. Гэтая дабраная тройка, апіраючыся прадусім на паліцэйскіх уладах, ліквідавала Унію ўсімі сіламі.

Унія, як мы ўжо ўспаміналі, за ўвесь час свайго на Беларусі існаваньня так зраслася з беларускім народам, што ліквідаваньне яе магло адбыцца ўжо толькі пры помачы гвалтаў, што сыстэматычна й рабілася. Вось-жа й сапраўды ліквідацыі Уніі спраціўлялася як духавенства, так і людзі сьвецкія, а прадусім беларускія сяляне. У гісторыі ліквідаваньня Уніі асаблівымі жорсткасьцямі паліцэйскія расейскія ўлады адзначыліся ў Дзярновічах (Віцебшчына), у Поразаве, Кляшчэлях (Горадзеншчына), Селішчы, Сьвятлілава, Пузырэва (Магілёўшчына) і г.д.

З гэтага бачым, што ліквідаваньне Уніі сапраўды не пашло царскаму ўраду так лёгка, як ён гэтага жадаў і як пазьнейшыя ўрадавыя расейскія гісторыкі гэта даказвалі. Фактам ёсьць гістарычным, што народ беларускі сваей веры шмат дзе актыўна бараніў процiў расейскіх гвалтаў.

Каб зламаць гэтую апазыцыю уніяцкую, паводле пляну Семашкі пры ліквідацыі Уніі ўжываліся грубыя паліцэйскія спосабы. І так апорныя уніяцкія сьвяшчэньнікі пераводзіліся ў горшыя прыходы, або й зусім іх часта пазбаўляліся, назначаліся замест на сьвяшчэнскія – на пасады псаломшчыцкія, ссылаліся ў Расею, замыкаліся ў манастыры. Спосабы Семашкі навярачваньня уніятаў на Праваслаўе былі так нехрысьціянскія й так гвалтоўніцкія, што нават выклікалі яны агіду й у лепшых уладыкаў праваслаўных. Так напрыклад, як кажа сьвяшч. М. Морошкін, некаторыя з іх не сьцясьняліся выражаць Семашцы аткрыта сваю пагарду, а епіскап палтаўскі Гедэон называў яго проста Юдам Прадацелем.

Ня гледзячы аднак на ўсё гэта, Семашка сваіх мэтаў у адносінах да Уніі дапяў Унія

ў 1839 г. была ўрэшце зломлена. 1839 г. цар Мікалай на падставе акту адступніцтва ад Уніі, падпісанага Семашкам, Зубкай і Лужынскім, а так-жа зламаным духавенствам уніяцкім, афіцыяльна Унію скасаваў і ўсіх уніятаў далучыў да цэрквы расейскай. Расейскі ўрад такім чынам дапяў таго, аб чым Масква лятуцела ўжо спрадвякоў.

Гэтак перастала Унія існаваць у Беларусі. Але асталася яна ў украінскай Холмшчыне, дзе пазьней была скасавана яшчэ большымі гвалтамі, як у Беларусі, і асталася ў Галіччыне, адыйшоўшай ад Польшчы да Аўстрыі, дзе яна працьвітае й сяньня й зьяўляецца сапраўднай нацыянальнай апорай каля чатырох мільёнаў Украінцаў уніятаў, зьяўляючыся адначасна як-бы злучвом мінуўшчыны унійнай з сучаснасьцяй.

І так адвечная мрыя маскоўская далучыць да сябе землі беларускія й беларускую цэркву, як свае вотчыны, збыліся. А выканаў іх, як бачым, адступнік ад Уніі й народнасьці Я. Семашка, родам Украінец. Што яго да гэтага накіравала? Мо' кар'ера, ласкі цара, слава? Пэўне, што й гэта. Па сваім характары, як гэта ясна відацца з яго запісак, Семашка кар'ерыстам быў сапраўды. Але ня трэба забывацца, што калі дзеіць у гісторыі адзінка, то яна дзеіць ня толькі дзеля сваіх чыста самалюбных прычын, але дзеіць яна й дзеля прычын культурна-сацыяльных, у асяродку якіх адзінка гэна жыве й нясьведама яму паддаецца. Вось-жа надта магчыма, што ў Семашкі адазвалася старадаўная родная мінуўшчына. Надта магчыма, што праз зьліквідаваньне Уніі, якая ўжо ў сваей прадусім вонкавай форме шмат у чым ад гэных традыцыяў была адхіліўшыся й то ў бок польскі й праз перавядзеньне яе вызнаўцаў у расейскае праваслаўе Я. Семашка думаў прыблізіцца да формы рэлігійна-культурнай сапраўды роднай, цалком згоднай з душой украінскага й беларускага народу, зварочваючы гэтыя народы на сапраўды іх уласны гістарычны шлях. Усё можа быць. Але факт астаецца фактам, што проціунійная дзейнасьць Семашкі не па гістарычнай дарозе пакіравала як беларускую цэркву, так і беларускі народ. Акт гэты ў беларускай гістарычнай пэрспэктыве памылковы й шкодны.

Тымчасам, не касаваць Семашка павінен быў Унію, калі Беларусь апынулася ў Расеі, але падтрымліваць яе, бараніць ад маскоўскага націску на яе й адначасна старанна яе ачышчаць ад усякіх на яе наростаў чужацкіх, як польскіх, так і маскоўскіх, аддаляючых Унію, як ад старадаўных хрысьціянскіх традыцыяў і царкоўных старадаўных формаў і правілаў, таксама й ад родных народу карэньняў. З пункту гледжаньня беларускага гістарычнай мэтай Семашкі павінна было быць за ўсякую цану, за цану нават свайго жыцьця, бараніць Унію. Праўда, як відаць з тагочасных палітычных настрояў да Уніі расейскай палітыкі, Унія ўсёроўна была-б зламанай, але ў кожным выпадку пры старанным за яе змаганьні з боку Семашкі, замест змаганьня з ёй, Унія магла-б пратрываць даўжэй і яшчэ выдатнейшую адыграць роль у часе для Беларусаў найгразьнейшым, якую яна іграла для народу ў мінуўшчыне. Калі-б беларускі уніяцкі епіскапат, замест здрады Уніі, акружыў яе сапраўды хрысьціянскай любоўю, як гэта так часта рабілі беларускія сяляне, дык тады-б Унія, хоць-бы ў рэзультаце зламана царскай паліцыяй, цяпер была-б у нашай духовай уяве ясьнейшай, чым гэта ёсьць сяньня, – была-б тым, чым яна сяньня на дзеле ёсьць для украінскага народу ў Галіччыне. Апрача гэтай Галіччыны, бадай яшчэ лепшым доказам праўдзівасьці нашых думак зьяўляецца сяньняшняя Расея, як з пункту гледжаньня рэлігійнага, так і нацыянальнага беларускага.

Акт скасаваньня Уніі на беларускіх землях у 1839 г. быў супярэчны з усей мінуўшчынай беларускай, як царкоўнай, так і народнай. Акт гэты рваў прадусім з тэй хрысьціянскай еднасьцяй беларускага хрысьціянскага жыцьця, якая была асьвячана першымі вякамі паўстаньня ў нас Хрысьціянства, далей рваў з абнаўленьнем гэнай еднасьці – з Уніяй Флёрэнтыйскай і Берасьцейскай, – а ў выніку ўсяго гэтага рваў ён і з культурай агулам і культурай беларускай.

Не адрэчы тут будзе так-жа ўспомніць тое, што той-жа Семашка беларускія уніяцкія кнігі, як сам да гэтага прызнаецца, нішчыў і паліў, як і езуіты ў XVII ст. Ды і ўся палітыка расейскіх цароў ад іх пачатку аж да ўпадку ў 1917 г была палітыкай яўнага нішчэньня беларускага народу, беларускай душы й культуры, была гэта палітыка з свайго боку простым натуральным наступствам зьнішчэньня Уніі, як веры сапраўды беларускай, была натуральным наступствам зрыву з Рымскім Прастолам.



# Дзіна БУЦЦАЦІ

ЯНЫ



## КАЛОМБР

Калі Стэфана Роі споўнілася дванаццаць гадоў, ён папрасіў у свайго бацькі, марскога капітана і ўладальніка цудоўнага парусніка, замест падарунка ўзяць яго з сабою на борт.

«Калі вырасту, – сказаў Стэфана, – пачну, як і ты, хадзіць у мора і камандаваць караблямі. Яны будуць большыя і прыгажэйшыя за твой».

«Хай Бог блаславіць цябе, сынку», – адказаў бацька. І паколькі менавіта ў той дзень ягонае судна павінна было адплыць, узяў хлапчука з сабою.

Быў цудоўны сонечны дзень і мора было спакойнае. Стэфана, які дагэтуль ніколі не быў на караблі, хадзіў шчаслівы па палубе, захапляючыся складанымі манеўрамі ветразяў І пытаўся пра тое і пра гэтае ў матросаў, якія, усміхаючыся, усё яму тлумачылі.

Калі хлопчык падышоў да кармы, ён, зацікаўлены, спыніўся і стаў сачыць за адным прадметам, які час ад часу з'яўляўся на паверхні ў самым кільватэры карабля на адлегласці дзвесце–трыста метраў.

Нягледзячы на тое, што судна ўжо ляцела, рухомае цудоўным спадарожным ветрам, гэты прадмет заўсёды захоўваў аднолькавую дыстанцыю. І было ў ім штосьці невызначальнае. Яно моцна прыцягвала Стэфана, хоць ён і не разумеў яго прыроды.

Калі бацька заўважыў адсутнасць Стэфана, стаў клікаць яго на поўны голас, а пасля спусціўся з капітанскага мастка і пайшоў шукаць сына.

«Стэфана, што ты там робіш, прыкуты?» –– спытаўся ён, калі нарэшце заўважыў, што сын стаяў на карме і ўзіраўся ў хвалі.

«Тата, хадзі сюды, паглядзі».

Бацька падышоў і таксама зірнуў у той бок, куды паказваў хлопчык, але не змог нічога ўбачыць.

«Нешта цёмнае час ад часу з'яўляецца там на паверхні, – сказаў Стэфана,– і рухаецца следам за намі».

«Нягледзячы на мае сорак гадоў,– сказаў бацька,– я ніколі не скардзіўся на зрок, але тут не бачу абсалютна нічога».

*Апавяданні*

Але сын настойваў. Тады ён пайшоў па бінокль і старанна агледзеў паверхню мора ў кільватэры карабля. Стэфана ўбачыў, як ён збялеў.

«Што там? Чаму ў цябе такі твар?»

«О- о, лепш бы я цябе не паслухаўся!..– усклікнуў капітан — Цяпер я за цябе баюся. Тая рэч, што ты бачыў на паверхні вады і што ідзе за намі, гэта не проста рэч. Гэта каломбр. Рыбіна, якой больш за ўсё баяцца матросы ўсяго свету. Гэта страшная і загадкавая акула, хітрэйшая за самога чалавека. З нейкіх прычын, пра якія, магчыма, ніхто ніколі не даведаецца, ён выбірае сабе ахвяру, а потым пераследуе яе гадамі, усё жыццё, пакуль не зможа яе знішчыць. Дзіўнае вось у чым. ніхто не можа бачыць яго, акрамя самой ахвяры і яе сваякоў».

«Гэта не казка?»

«Не... Я ніколі яго не бачыў. Але па апісаннях, што чуў неаднойчы, я адразу яго пазнаў: мыза, як у бізона, рот, які бясконца адкрываецца і закрываецца, жудасныя зубы. Стэфана, няма сумненняў: на жаль, каломбр абраў цябе і не пакіне ў спакоі, пакуль ты будзеш хадзіць па моры. Паслухайся мяне: зараз мы вернемся на зямлю, ты сыдзеш на бераг і ніколі больш яго не пакінеш, што б ні здарылася. Ты павінен паабяцаць мне гэта. Марское рамяство не для цябе, сынок. Ты павінен скарыцца. У рэшце рэшт, і на зямлі ты зможаш знайсці сваё шчасце».

Пасля гэтых словаў капітан загадаў неадкладна павярнуць штурвал, увайшоў у порт і ссадзіў сына, спаслаўшыся на яго раптоўнае недамаганне. І адплыў ужо без Стэфана.

Глыбока ўсхваляваны, хлопчык заставаўся на беразе, пакуль не схаваліся за даляглядам вяршыні мачтаў. Там, за молам, што закрываў порт, мора зусім апусцела. Але намаганнем зроку Стэфана ўдалося заўважыць чорную кропку, якая час ад часу з'яўлялася на паверхні вады, -- «свайго» каломбра, які кружыў на адным месцы і цярпліва чакаў

З таго моманту сваякі рабілі ўсё магчымае, каб пазбавіць хлопчыка імкнення да мора. Бацька паслаў яго вучыцца ў адзін з гарадоў у глыбі сушы, за сотні кіламетраў ад берага. І нейкі час, захоплены новым асяроддзем, Стэфана больш не думаў пра марское страшыдла. Аднак на летнія вакацыі ён вярнуўся дадому і перш за ўсё, як толькі надалася вольная хвіліна, паспяшаўся на край мола, каб паспакушаць лёс, у які ён у глыбіні душы не надта верыў. Пасля такога працяглага часу, нават калі гісторыя, расказаная яму бацькам, – праўда, каломбр, безумоўна, ужо адмовіўся ад асады.

Але Стэфана спыніўся агаломшаны, яго сэрца моцна забілася. На адлегласці дзвесце–трыста метраў ад мола, у адкрытым моры злавесная рыбіна рухалася то туды, то сюды, час ад часу ўздымала павольна з вады мызу і паварочвалася да берага, пазіраючы амаль з тугою, ці не прыйшоў нарэшце Стэфана.

І з таго моманту думка пра варожае стварэнне, што чакала яго дзень і ноч, стала для Стэфана патаемным насланнём. Нават у далёкім горадзе яму здаралася прачынацца сярод ночы ў неспакоі. Так, ён быў у надзейным месцы, сотні кіламетраў аддзялялі яго ад каломбра. І ўсё ж Стэфана ведаў, што за гарамі, за лясамі і раўнінамі акула існавала і чакала яго. І калі б ён нават пераехаў на самы далёкі кантынент, з непазбежнай настойлівасцю, якую мае рука лёсу, каломбр зноў наладзіў бы засаду ў люстраной вадзе бліжэйшага мора.

Стэфана быў сур'ёзны і ўпарты хлапчук, ён паспяхова працягваў сваё навучанне і, як толькі стаў дарослым, знайшоў сабе прыстойную і прыбытковую пасаду ў адным з гандлёвых цэнтраў таго самага горада. Тым часам бацька захварэў і памёр, яго цудоўны паруснік быў прададзены ўдавою, і сын стаўся наступнікам даволі прыстойнай спадчыны. Праца, сябры, захапленні, першае каханне: Стэфана ўжо ўладкаваў сваё жыццё, але, нягледзячы на гэта, думка пра каломбра мучыла яго, як пагібельны і разам з тым прывабны міраж; і з кожным днём, замест таго каб знікнуць, рабілася больш назойлівай.

Вялікае задавальненне ад працавітага, зручнага і спакойнага жыцця, ды яшчэ мацнейшы – поцяг бездані. Стэфана споўнілася ўсяго дваццаць два гады, калі, развітаўшыся з гарадскімі сябрамі і звольніўшыся з працы, ён вярнуўся ў свой родны горад і паведаміў маці пра цвёрды намер працягваць бацькоўскае рамяство. Жанчына, якой Стэфана ніколі і слова не казаў пра загадкавую акулу, з радасцю сустрэла ягонае





рашэнне. Тое, што сын пакінуў мора дзеля горада, у глыбіні сэрца ёй заўсёды здавалася здрадай сямейным традыцыям.

І Стэфана пачаў плаваць, выяўляючы такія якасці матроса, як супраціўленне цяжкасцям і стойкасць духу. Ён плаваў, плаваў і за кільватэрам ягонага судна ўдзень і ўночы, у добрае і дрэннае надвор'е з усёй моцы плыў каломбр. Стэфана ведаў, што гэта было ягонае праклящце і ягоны прысуд, але, магчыма, менавіта з–за гэтага не знаходзіў сілы развітацца з ім. Ніхто на борце, акрамя яго, не заўважаў страшыдла.

«Вы нічога не бачыце ў тым баку?»– пытаўся ён час ад часу ў сваіх таварышаў, паказваючы на кільватэр.

«Не, мы не бачым абсалютна нічога. А што?»

«Не ведаю. Мне здалося...»

«Можа, ты раптам убачыў каломбра», – казалі яны, смеючыся і кранаючы жалеза[1]

«Чаго вы смеяцеся? Чаму кранаеце жалеза?»

«Таму, што каломбр такая халера, якая не дарує І калі возьмецца пераследаваць гэты карабель, значыць, аднаму з нас канец».

Але Стэфана не здаваўся. Бесперапынная пагроза, што гнала яго па хвалях, здавалася, наадварот, узмацняла ягоную волю, ягоную любоў да мора, ягоную адвагу ў моманты барацьбы ці бяспекі.

Калі ён адчуў, што авалодаў марскім рамяством у дастатковай ступені, то на грошы, пакінутыя бацькам, набыў на паях невялікі грузавы параход, а пасля стаў яго адзіным уладальнікам. Дзякуючы шэрагу удалых экспедыцый ён змог набыць прыстойнае гандлёвае судна, кіруючыся ўсё больш амбіцыйнымі мэтамі Але і поспехі, і мільёны не дапамаглі вырваць з яго душы тое бесперапыннае імкненне; з другога боку, ён ніколі не спрабаваў прадаць карабель і вярнуцца на зямлю, каб заняцца іншай справай.

Плаваць, плаваць – было яго адзінаю думкай. Як толькі пасля доўгіх пераходаў ён сыходзіў на бераг у якім-небудзь порце, дык адразу ж з нецярплівасцю чакаў адплыцця. Ён ведаў, што там быў каломбр, які чакаў яго, і што каломбр быў сінонімам няшчасця. Нічога. Непадуладная сіла безаглядна вабіла яго з аднаго акіяна ў другі.

У рэшце рэшт, нечакана, аднойчы Стэфана заўважыў, што стаў стары, вельмі стары; і ніхто з яго атачэння не мог растлумачыць, чаму, маючы такое багацце, ён не пакідае праклятага марскога жыцця. Ён быў стары і глыбока няшчасны, бо ўсё яго існаванне было змарнавана ў гэтай вар'яцкай гонцы па моры і ўцёках ад ворага. Імкненне да бездані для яго заўсёды было мацнейшым за радасці ўладкаванага і спакойнага жыцця.

І вось аднойчы ўвечары, калі яго цудоўны карабель стаяў на якары ў родным порце, Стэфана адчуў набліжэнне смерці. Тады ён паклікаў свайго вернага памочніка і загадаў яму не праціўіцца таму, што ён збіраўся зрабіць. Той даў слова гонару.

Атрымаўшы гэтае завярэнне, Стэфана распавёў спалоханаму афіцэру гісторыю каломбра, які дарэмна працягваў пераследаваць яго амаль пяцьдзесят гадоў.

«Ён цягаў мяне з аднаго канца свету на другі, – сказаў ён,– з вернасцю, якую нават самы высакародны сябар не змог бы прадэманстраваць. Хутка я пamру. І ён таксама ўжо страшэнна стары і стомлены Я не магу яму здрадзіць».

Пасля гэтых словаў ён развітаўся, спусціў у мора шлюпку і сеў у яе, калі яму перадалі гарпун

«Зараз я пайду каломбру насустрач, – аб'явіў ён. – Будзе справядліва не расчараваць яго. Але я буду змагацца з апошніх сілаў».

Павольнымі ўзмахамі вёслаў ён аддаліўся ад карабля. Афіцэры і матросы бачылі, як ён знік удалечыні, агорнуты начнымі ценямі. На небе ззяў маладзік.

Яму не давялося доўга высільвацца. Раптоўна жудасная мыза каломбра паўстала ўбаку ад лодкі.

«Вось і я, нарэшце,– сказаў Стэфана. – Цяпер мы разам!» І, збіраючы апошнюю моц, узняў гарпун для ўдару.

«У-у, – правыў заклікаючым голасам каломбр,– які доўгі шлях, каб знайсці цябе. І

[1] Згодна з прымхай, італьянцы дакранаюцца да жалеза (як беларусы стукаюць тры разы па чым-небудзь драўляным), каб пазбегнуць бяды і адагнаць д'ябла.

я таксама змораны цяжкасцямі. Колькі ты прымусіў мяне праплыць. Ты ўсё ўцякаў і ўцякаў. І нічога не разумеў».

«Чаму?»– спытаўся Стэфана, закрануты за жывое.

«Таму, што ты думаў, быццам я праследую цябе па ўсім свеце дзеля таго, каб знішчыць. А ў мяне было толькі даручэнне ад марскога цара перадаць табе вось гэта».

І акула высунула наперад язык, працягваючы старому капітану маленькі святлівы шар.

Стэфана ўзяў яго ў руку і пачаў разглядаць. Гэта была перліна непраўдападобнай велічыні. І ён пазнаў знакамітую Марскую Перліну, якая прыносіць таму, хто ёю валодае, поспех, магутнасць, каханне і спакой у душы. Але было ўжо занадта позна.

«Ой-ёй! – сказаў ён сумна, нахіляючы галаву – Як я памыліўся. Я праклінаю ўласнае жыццё і загубіў тваё».

«Бывай, няшчасны чалавек»,– адказаў каломбр. І назаўсёды знік у чорнай вадзе.

Праз два месяцы рухомую ветрам шлюпку прыбіла да крутога скалістага берага. Яна была заўважана некалькімі рыбакамі, якія, зацікаўленыя, падышлі бліжэй. У шлюпцы ўсё яшчэ седзеў белы шкілет і паміж косткамі пальцаў сціскаў маленькі круглы каменьчык.

Каломбр – гэта рыбіна вялізных памераў, страшная з выгляду, вельмі рэдкая. У залежнасці ад мора і ад народаў, што жывуць на яго ўзбярэжжы, рыбіну гэтую называюць таксама каломбер, каглаубрга, калонга, калу-балу, кхалунг-гра. Натуралісты чамусьці яе ігнаруюць. Некаторыя нават лічаць, што яна не існуе.

# ДЗЯЎЧЫНА, ШТО ЛЯЦІЦЬ УНІЗ

У дзевятнаццаць гадоў Марта нахілілася з вышыні хмарачосу і, пазіраючы ўніз на зіхатлівы ў вечаровым святле горад, адчула, як кружыцца галава.

Хмарачос здаваўся срэбным, вялізным і шчаслівым у той чысты і прыгожы вечар, калі вецер прасаваў тонкія ніткі аблокаў тут і там на фоне непраўдападобнага блакіту. Сапраўды, у гэты час на гарады сыходзіць натхненне, і кожны, хто мае вочы, паддаецца яму. З вышыні палёту дзяўчына бачыла, як дарогі і мноства палацаў выгіналіся ў працяглым тамленні захаду сонца, а там, дзе канчаўся белы колер дамоў, пачынаўся сіні колер мора, і з вышыні здавалася, што яно ўздымаецца ўгору. І паколькі на ўсходзе ноч зацягвала заслону прыцемак, горад ператвараўся ў пяшчотную бездань з роем пульсуючых агеньчыкаў. У ёй былі магутныя мужчыны і яшчэ больш магутныя жанчыны, футры і скрыпкі, бліскучыя машыны, зіхоткія шыльды начных клубаў, брамы неасветленых каралеўскіх палацаў, фантаны, дыяменты, старыя маўклівыя сады, святы, жаданні, каханне і, перад усім, тая разбуральная абаяльнасць вечара, што прымушае марыць аб велічы і славе.

Гледзячы на ўсё гэта, Марта адчайна высунулася за балюстраду і памкнулася наперад. Яна думала, што лунае ў паветры, але на самай справе падала ўніз. З-за незвычайнай вышыні хмарачосу дарогі на плошчы глыбока ўнізе былі вельмі далёка, хто ведае, колькі часу пройдзе, пакуль іх дасягнеш. Аднак дзяўчына працягвала падаць.

Тэрасы і балконы апошніх паверхаў былі ў гэты час запоўненыя элегантнымі і заможнымі людзьмі, якія пілі кактэйль і вялі пустыя размовы. Адтуль даляталі разрозненыя і збянтэжаныя ўсхліпы музыкі. Марта праляцела перад імі, і многія высунуліся паглядзець на яе.

Палёты такога роду – у большасці лятаюць менавіта дзяўчаты – не былі рэдкасцю для хмарачосу і з'яўляліся для яго жыхароў захапляльным сродкам, каб развеяцца; таму цана гэтых кватэраў была вельмі высокая.

Сонца не зусім яшчэ апусцілася і самым найлепшым чынам асвятляла вопратку Марты. Гэта была сціплая летняя сукенка, купленая ці пашытая за невялікія грошы. Але паэтычнае святло захаду сонца вельмі яе аздабляла і рабіла шыкоўнаю.

З балконаў мільянераў да яе цягнуліся галантныя рукі, прапаноўвалі кветкі і напоўненыя фужэры. «Сіньярына, глыток шампанскага?.. Шаноўны матылёк, чаму б вам не спыніцца на хвіліну сярод нас?..»

Яна лунала і шчасліва смяялася (але тым часам працягвала падаць): «Не, дзякуй, сябры. Я не магу. Я спяшаюся».

«Куды?»– пыталіся яны.

«Ой, не прымушайце мяне гаварыць»,– адказвала Марта і махала рукою на развітанне.

Адзін малады чалавек, высокі, чарнявы, не падобны да іншых, высунуў рукі, каб схапіць яе. Ён спадабаўся Марце, аднак яна хуценька ўхілілася: «Што вы сабе дазваляеце?» – і нават паспела пстрыкнуць яго па носе.

Багатыя людзі цікавіліся ёю, і гэта напаўняла яе задавальненнем. Яна адчувала сябе прывабнаю, моднаю. На квітнеючых тэрасах, сярод мітуслівых афіцыянтаў у белым і плыняў экзатычных мелодый некалькі хвілін, а можа, і меней, гаварылі пра дзяўчыну, што праходзіла перад вачамі (зверху ўніз, у вертыкальным кірунку). Адны ўважалі яе прыгожаю, другія –– не вельмі, але ўсе палічылі цікаваю.

«У Вас усё жыццё наперадзе, – казалі ёй, – чаму вы так спяшаецеся? У Вас яшчэ шмат часу, каб бегчы і стаміцца. Спыніцеся на адзін момант з намі, зразумела, гэта толькі сціплая сяброўская вечарынка, але Вам будзе добра».

Яна паспрабавала адказаць, ды паскоранне сілы цяжару апусціла яе на паверх ніжэй, на два, тры, чатыры паверхі ніжэй; сапраўды, так весела падаюць толькі ў дзевятнаццаць гадоў.

Безумоўна, адлегласць, якая аддзяляла яе ад мэты, гэта значыць, ад узроўню дарог, была невымяральная; меншая, чым колькі хвілін таму, аднак усё роўна значная.

Тым часам сонца апусцілася ў мора, усё бачылі, як яно знікла, ператварыўшыся ў дрыготкі чырванаваты грыб. Яго жыватворныя промні не асвятлялі болей сукенку дзяўчыны і не стваралі з яе спакушальную камету Добра яшчэ, што амаль усе вокны і тэрасы хмарачосу былі асветлены і моцныя водбліскі цалкам ахоплівалі яе, калі яна пралятала перад імі.

Цяпер унутры кватэр Марта бачыла не толькі кампаніі легкадумных людзей, час ад часу трапляліся і офісы, дзе служачыя ў чорных і блакітных фартухах сядзелі доўгімі шэрагамі. Многія дзяўчаты былі такога ж узросту, як і яна, альбо маладзейшыя. Стомленыя працоўным днём, яны адрывалі раз-пораз вочы ад папер і ад машынак. Яны таксама бачылі яе, і некаторыя падбягалі да вокнаў: «Куды ты? Чаму так спяшаешся? Хто ты?» – крычалі ёй, і ў гэтых галасах адчувалася нешта накшталт зайздрасці.

«Мяне чакаюць унізе, – адказвала яна. – Я не магу спыніцца. Прабачце мне». Потым зноў смяялася, калыхаючыся над безданню, але гэта быў ужо не той смех. Спусцілася падступная ноч, і Марта адчувала холад.

У гэты ж момант яна зірнула ўніз і ўбачыла расчыненыя дзверы аднаго з палацаў у жвавым ззянні святла. Там спыняліся доўгія чорныя аўтамабілі (маленькія, як мурашкі, з далечыні), з іх выходзілі мужчыны і жанчыны, нецярпліва чакалі, каб увайсці. Ёй здавалася, што можна адрозніць у гэтым мурашніку бляск каштоўнасцяў. Зверху над уваходам пялёскаліся сцягі.

Відавочна, там давалі вялікі прыём, менавіта той, пра які яна, Марта, марыла з дзяцінства. Там, унізе, яе чакалі магчымасці, фатальнасць, раманы, сапраўдны гімн жыццю. Але ці паспее яна?

З прыкрасцю яна заўважыла, што метраў на трыццаць вышэй ляцела другая дзяўчына, якая была нашмат прыгажэйшая за яе і мела даволі элегантную вячэрнюю сукенку. Яна чамусьці апускалася з куды большай хуткасцю, настолькі большай, што праз некалькі імгненняў абагнала Марту і знікла ўнізе, нягледзячы на тое, што Марта яе

клікала. Без сумненняў, дзяўчына з'явіцца на сваце раней, магчыма, усё гэта нейкі разлічаны план, каб заняць яе месца.

Пасля яна зразумела, што ляцелі не толькі яны дзве. Уздоўж хмарачосу розныя іншыя маладыя жанчыны імкнуліся ўніз — з напружанымі ад узбуджэння палётам тварамі, са святочна ўзнятымі рукамі, быццам хацелі сказаць. вось мы, тут, дайце нам свята, гэта наш час, хіба свет не для нас?

Такім чынам, гэта было спаборніцтва. А яна мела ўсяго толькі бедную вопратку, у той час як іншыя выхваляліся мадэлямі шыкоўнага крою, некаторыя нават прыціскалі да голых плячэй норкавыя баа. Такая ўпэўненая ў сабе на пачатку палёту, зараз Марта адчувала, як унутры яе ўзмацняюцца дрыжыкі, можа, ад холаду, а можа, яшчэ і ад страху; ад страху, што яна зрабіла непапраўную памылку.

Здавалася, ужо была глыбокая ноч. Вокны згасалі адно за адным, музыкі было амаль не чуваць, офісы апусцелі, ніводзін малады чалавек не нахіляўся болей цераз падаконнік, працягваючы рукі. Колькі было гадзін? Ля ўвахода ў палац унізе – за гэты час ён пабольшаў і ўжо можна было адрозніваць усе архітэктурныя дэталі – асвятленне засталося такое, як і было, але рух аўтамабіляў спыніўся. Наадварот, невялікія групкі раз-пораз выходзілі з галоўнага ўвахода, аддаляючыся стомленай хадою. Потым ліхтары над дзвярыма згаслі.

Марта адчула, як сціснулася сэрца. Ой-ёй, на свята яна ўжо не магла паспець. Кідаючы позірк у вышыню, яна бачыла хмарачос ва ўсёй яго жорсткай магутнасці Амаль увесь ён быў цёмны, з рэдкімі асветленымі вокнамі, раскіданымі на апошніх паверхах. А над дахам павольна разліваліся першыя промні світанку.

У невялікім пакоі на дваццаць восьмым паверсе мужчына гадоў сарака піў ранішнюю каву і чытаў газету а ягоная жонка прыбірала ў кватэры. Гадзіннік на серванце паказваў чвэрць на дзявятую. Нейкі цень раптам мільгнуў за акном «Альберта,– закрычала жонка,– ты бачыў? Праляцела жанчына».

«Якая яна?» – спытаўся той, не адрываючы вачэй ад газеты.

«Нейкая старая, – адказала жонка. – Лядашчая старая. Здаецца, яна была напалохана».

«Заўсёды так, – прабуркатаў мужчына. – На гэтых ніжніх паверхах не пралятае ніхто, акрамя старых. Прыгожых дзяўчат можна ўбачыць на пяцісотым паверсе і вышэй. Нездарма ж там кватэры такія дарагія».

«Ёсць адна выгода, – заўважыла жонка, – тут унізе па меншай меры чуваць, як яны падаюць на зямлю».

«Сёння не чуваць нават гэтага», – сказаў мужчына, матляючы галавой, пасля таго, як некалькі мінут прыслухоўваўся І адпіў яшчэ адзін глыток кавы.

# БЕДНАЕ ДЗІЦЯ!

Як звычайна, сіньёра Клара прывяла свайго пяцігадовага сына на бераг ракі ў гарадскі сад. Было каля трох гадзін папаўдні няпэўнай пары года – ні добрай, ні дрэннай, сонца то з'яўлялася, то знікала, і вецер то сціхаў, то час ад часу дзьмуў з ракі.

І нават дзіця не было прывабнае, наадварот, яго можна было назваць няшчасным, худзенькім, тусклым, хілым і бледным. Нават, можна сказаць, зялёным, настолькі, што, каб пасмяяцца з яго, таварышы па гульнях далі яму мянушку «Латуга»[2]. Але звычайна бледныя дзеці ў якасці кампенсацыі маюць вялікія чорныя вочы, якія выдзяляюцца на бяскроўным твары і надаюць яму патэтычны выраз. Аднак замест гэтага маленькі Дольфі меў маленькія і невыразныя вочы, што пазіралі то туды, то сюды, без усякіх асаблівых прыкмет.

У той дзень хлопчык, празваны Латугай, прынёс у парк маленькае новае ружжо, якое страляла такімі ж маленькімі патронамі без усялякіх наступстваў. Але гэта было

[2] У перакладзе з італьянскай мовы lattuga азначае "салата-латук".





ружжо. Аднак ён не стаў гуляць з іншымі дзецьмі, бо іншыя дзеці звычайна здзекаваліся з яго, і таму ён лічыў за лепшае быць самому, нават ахвяруючы гульнёй. Але толькі жывёлы мала рэагуюць на прысуд да самоты і ў стане гуляць самі; чалавек наадварот, не можа, і калі спрабуе гэта рабіць, то хутка яго спасцігае яшчэ горшая, чым раней, туга.

Тым не менш, калі іншыя дзеці праходзілі перад ім, Дольфі ўздымаў ружжо і рабіў выгляд, што страляе, але без варожасці, хутчэй, гэта было запрашэнне; ён быццам хацеў сказаць: вось, я таксама сёння маю ружжо, я таксама воін, чаму вы не клічаце мяне пагуляць з вамі?

Хлопчыкі, якія разбегліся па вуліцы, сапраўды, заўважылі новае ружжо Дольфі, якое было цацкаю таннаю, але новаю і адрознівалася ад тых, што мелі яны. Гэтага аказалася дастаткова, каб выклікаць цікаўнасць і зайдрасць. Адзін з іх сказаў: «Вы бачылі, што ў Латугі новае ружжо?» Другі сказаў: «Латуга прынёс ружжо толькі, каб паказаць яго нам і пазлаваць нас, але ён не гуляе з намі і не гуляе нават адзін. Латуга – свіння. І ружжо ў яго проста дрэнь». «Ён не гуляе, бо баіцца нас», – сказаў трэці. А першы дадаў: «Магчыма, але ён усё роўна свіння».

Сіньёра Клара сядзела на адной з лавак, засяроджаная на вязанні пруткамі. Няяркае сонца асвятляла яе. Яе сын Дольфі з недарэчным выглядам сядзеў побач, ён асцерагаўся хадзіць са сваім ружжом па вуліцы і круціў яго ў руках без усякай мэты. Было каля трох гадзін папаўдні, шматлікія птушкі на галінах дрэваў звар'яцела галёкалі, магчыма, гэта з'яўлялася прыкметай надыходзячага вечара. «Гэй, Дольфі, схадзі пагуляй», – заклікала маці, не адрываючы вачэй ад работы. «Пагуляць з кім?» – «З іншымі дзецьмі, Бог мой! Вы ж сябры, ці не так?» – «Не, мы зусім не сябры, – сказаў Дольфі, – яны кпяць з мяне, а не гуляюць». – «Ты гэта кажаш, бо яны называюць цябе Латугай?» – «Я не хачу, каб мяне называлі Латугай». – «Мне здаецца дастаткова грацыёзным гэтае імя. Я б не крыўдзілася». Але ён адказаў раззлавана: «Я не хачу, каб мяне называлі Латугай».

Іншыя дзеці звычайна гулялі ў вайну, і ў той дзень таксама. Дольфі некалі паспрабаваў далучыцца да іх, але яны адразу пачалі называць яго Латугай і смяяцца. Амаль усе яны былі бялявыя, ён жа быў чарнявы, з невялікім чубчыкам, што падаў яму на лоб у форме коскі. У іх былі ладныя ногі, а яго ножкі былі худзенькія і жаласныя. Яны бегалі і скакалі, як зайцы, ён жа нават з усёй моцы не паспяваў за імі. Яны мелі ружжы, шаблі, рагаткі, арбалеты, духавыя ружжы, шлемы, а ў сына інжынера Вайса мелася бліскучая кіраса, як у кірасіраў. Яны, нягледзячы на тое, што былі прыкладна аднаго з ім узросту, маглі сказаць пэўную колькасць брыдкіх і даволі гучных словаў, а ён не адважваўся іх паўтарыць. Яны былі моцныя, а ён слабы.

Але на гэты раз ён прыйшоў з ружжом

І вось, пасля невялікай нарады паміж сабою, дзеці падышлі бліжэй. «У цябе добрае ружжо,– сказаў Макс, сын інжынера Вайса,– пакажы». Дольфі, не выпускаючы ружжо з рук, дазволіў яго разгледзець.

«Нядрэнна»,– аўтарытэтна выказаўся Макс, які насіў на шыі пнеўматычную вінтоўку, што была лепшаю па меншай меры ў разоў дваццаць. Яна вельмі спакушала Дольфі.

«З такім ружжом ты таксама можаш ваяваць»,– сказаў Вальтэр і паблажліва прыкрыў вочы ў знак спагады.

«Ну анёж, з такім ружжом ты мог бы быць капітанам»,– сказаў трэці. Дольфі здзіўлена пазіраў на іх. Яго пакуль яшчэ не назвалі Латугай. Ён пачынаў набірацца смеласці.

Нарэшце яму растлумачылі, якім чынам збіраліся гуляць у вайну ў той дзень. Армія генерала Макса павінна была заняць горы, а армія генерала Вальтэра імкнулася фарсіраваць пераход. У рэальнасці гарамі былі два пагоркі, парослыя травою і бязладна раскіданымі кустамі; а пераход стварала вулка, што вяла ўніз. Дольфі размеркавалі ў армію Вальтэра ў чыне капітана. Пасля два вайсковыя ўтварэнні раздзяліліся, і кожнае пайшло рыхтаваць уласны сакрэтны план бою.

Упершыню Дольфі бачыў сур'ёзнае стаўленне да сваёй асобы з боку іншых хлапчукоў. Вальтэр даручыў яму заданне вялікае важнасці: ён павінен быў камандаваць авангардам. Сапраўды, яму далі ў якасці эскорту двух падарознага выгляду хлапчукоў,

узброеных рагаткамі, і адправілі ў галаву фарміравання, з даручэннем праверыць пераход. Як Вальтэр, так і іншыя добразычліва ўсміхаліся. Нават крыху занадта.

І вось Дольфі наблізіўся да пачатку вуліцы, што крута спускалася ўніз. Абапал яго былі два парослыя травою пагоркі з бязладна раскіданымі кустамі. Можна было меркаваць, што ворагі пад камандаваннем Макса наладзілі засаду, схаваўшыся ў зарасніках. Але нічога не было відаць.

«Давай, капітан Дольфі, ідзі ў атаку, пакуль яны яшчэ не з'явіліся,– канфідэнцыяльным тонам аддаў загад Вальтэр. – Як толькі ты будзеш унізе, падыдзем мы і забяспечым абарону. Але ты спяшайся, бяжы, як мага хутчэй, ні ў чым нельга быць упэўненым».

Дольфі павярнуўся і паглядзеў на яго. І заўважыў, што і Вальтэр, і іншыя сябры па зброі неяк асабліва пасміхаліся. На імгненне ён засумняваўся. «Што такое?»– спытаўся ён. «Ну, капітан, у атаку»,– заклікаў генерал.

Адначасова з другога боку ракі прагучалі вайсковыя фанфары. Цудоўны покліч трубы рокатам жыцця ўваходзіў у сэрца Дольфі, які з гонарам сціскаў сваё смешнае ружжо і адчуваў покліч славы. «У атаку, хлопцы!»– закрычаў ён так, як звычайна ніколі не адважваўся крычаць. І кінуўся бегчы з усёй моцы па вулцы.

У той самы момант за яго спінай выбухнуў дзікі рогат, але Дольфі не паспеў азірнуцца. Ён ужо бег, калі раптам адчуў, як за нешта зачапіўся адною нагой. На вышыні дзесяці сантыметраў ад зямлі быў нацягнуты шпагат.

Ён з грукатам зваліўся на зямлю тварам уніз і няўдала стукнуўся носам. Сярод палаючага рэха фанфар пачуўся гром крыкаў і стрэлаў. Ён паспрабаваў узняцца, але з кустоў павылазілі ворагі і пачалі абстрэльваць яго страшэннымі ядрамі з мокрай зямлі. Усе кідалі ў яго. Адзін з гэтых камякоў моцна заехаў яму ў вуха, і ён зваліўся зноў. Потым на яго накінуліся і пачалі біць. Нават Вальтэр, яго генерал, нават яго сябры па зброі. «Трымай! Вось табе, Латуга!»

Нарэшце ён зразумеў, што дзеці пабеглі прэч. Гераічная песня аркестра сціхала за рэчкай. Уздрыгваючы ў адчайным плачы, ён шукаў вакол сябе ружжо. Падняў яго. Яноператварылася ў абломкі. Нехта адарваў ствол, і ружжо стала непрыдатным да ніякай справы.

З гэтай мізэрнай рэліквіяй у руках, акрываўленым носам і падранымі каленямі, запэцканы ў зямлю з галавы да пятаў, ён падышоў да мамы.

«Бог мой, Дольфі, што ты зрабіў?». Яна спыталася, не што зрабілі з ім, а што зрабіў ён. Гэта была інстынктыўная непавага хатняй гаспадыні: касцюмчык быў спрэс парваны. Але было ў гэтым таксама і прыніжэнне маці: што за няшчасны чалавек атрымаецца з гэтага беднага дзіцяці? Які нікчэмны лёс яго чакае? Чаму яна не змагла нарадзіць на свет аднаго з тых бялявых і ладна збітых хлапчукоў, якія напаўнялі сад? Чаму Дольфі так не спяшаўся расці? Чаму быў такі бледны? Чаму быў маласімпатычны? Чаму ў яго венах замест крыві цякла вада і ён заўсёды дазваляў іншым браць над сабою верх? Намаганнем фантазіі яна паспрабавала ўбачыць сына такога, якім ён стане праз пятнаццаць–дваццаць гадоў. Ёй хацелася уявіць яго ў вайсковай форме, на чале кавалерыйскага эскадрона, альбо ў абдымках чароўнай дзяўчыны, ці гаспадаром якой-небудзь вялікай крамы, альбо марскім капітанам. Але ёй гэта не ўдавалася. Яна бачыла яго толькі седзячы, з асадкаю ў руцэ і вялізнымі стосамі паперы перад вачыма, схіленым над партаю ў школе, схіленым дома над пісьмовым сталом, схіленым над сталамі пыльных офісаў. Адным з бюракратаў, адным з шэрых служкаў парадку. Ён назаўсёды застанецца небаракам, пераможаным жыццём.

«О-о, беднае дзіця!» – паспачувала адна маладая элегантная жанчына, якая размаўляла з сіньёрай Кларай. І, матляючы галавой, аблашчыла спалоханы тварык Дольфі.

Хлопчык удзячна ўзняў вочы і паспрабаваў усміхнуцца. І нейкае святло на момант прайшлося па яго бледным твары. У ім была ўся горкая самота кволага, бязвіннага, прыніжанага і безабароннага стварэння; адчайная прага спакою; чыстае, балючае і прыгожае пачуццё, якое немагчыма вызначыць. На адно імгненне – і гэта было апошні раз – ён стаў рахманым, пяшчотным і змучаным дзіцём, якое не разумела прычыны сваёй пакуты і прасіла ў акаляючага свету крыху любові.

Але гэта доўжылася толькі імгненне. «Давай, Дольфі, хадзем пераапранацца!»– раздражнёна сказала маці і энергічна пацягнула яго дадому. Тады хлопчык зноў пачаў усхліпваць, твар адразу зрабіўся непрыгожы, цвёрдая рашучасць скрывіла рот.

«Якая пакута гэтыя дзеці! – усклікнула незнаёмая сіньёра на развітанне. – Да пабачэння, сіньёра Гітлер!»





# КРОПЛЯ

Кропля вады падымаецца па прыступках лесвіцы. Чуеш? Распасцёрты ў цемры на ложку, я слухаю яе загадкавы крок. Якім чынам яна рухаецца? Пераскоквае? Цік, цік – чуваць перарывісты гук. Потым кропля спыняецца і да канца ночы не падае прыкмет жыцця. Аднак яна падымаецца. Узыходзіць з прыступкі на прыступку, у адрозненне ад іншых кропель, якія падаюць перпендыкулярна, адпаведна закону гравітацыі, і ў канцы робяць маленькага плескача, добра вядомага ва ўсім свеце. Гэтая ж не: павольна ўзыходзіць яна па лесвічным маршы пад'езда «Е» нашага бясконцага шматкватэрнага палаца.

І не мы – дарослыя, такія вытанчаныя і чулыя – звярнулі на яе ўвагу, а дзяўчынка-служанка з першага паверха, маленькае бледнае неадукаванае стварэнне. Яна пачула кроплю аднойчы позна ўвечары, калі ўсе ўжо леглі спаць. Праз нейкі час яна не вытрымала і прыбегла будзіць сваю гаспадыню. «Сіньёра, – прашаптала яна, – сіньёра!» – «Што такое? – уздрыганулася сіньёра, – Што здарылася?» – «Кропля, сіньёра, кропля ўздымаецца па лесвіцы!» – «Што?» – перапытала тая, агаломшаная. «Кропля падымаецца па лесвіцы!»– паўтарыла служанка і была гатовая вось-вось заплакаць. «Ну хопіць, – загадала сіньёра, – ты што, звар'яцела? Ідзі спаць, марш! Ты выпіла, бессаромніца. Ужо некалькі дзён як за ноч змяншаецца колькасць віна ў бутэльцы. Ах ты, агіднае стварэнне, калі ты спадзяешся...» Але дзяўчо ўжо пабегла і схавалася пад коўдру.

«Хто ведае, што стукнула ў галаву гэтай дурніцы»,– думала потым у цішыні гаспадыня, не спадзеючыся болей заснуць. І міжволі слухаючы ноч, што панавала над светам, таксама пачула нейкі дзіўны шум. Безумоўна, гэта кропля падымалася па прыступках.

На імгненне сіньёра падумала ўстаць і пайсці паглядзець дзеля парадку. Але што яна магла ўбачыць у цьмяным святле маленькіх лямпачак, прымацаваных над пралётамі? Як у гэтым холадзе глыбокай ночы знайсці кроплю на цёмных лесвічных маршах?

У наступныя дні навіна павольна распаўсюдзілася з адной сям'і ў другую, і цяпер усе ў доме ведаюць пра кроплю, хоць і лічаць за лепшае не размаўляць пра гэта, як пра нейкае глупства, якога трэба саромецца. І ў час, калі спускаецца навалай ноч і прыціскае род чалавечы, многія напружваюць у цемры вушы. Адным чуецца адно, другім – другое.

Здараецца, што кропля маўчыць. Але здараецца і так, што на працягу доўгіх гадзін толькі і робіць, што рухаецца, наверх, наверх, можна сказаць, без надзеі на спыненне. Грукаюць сэрцы, пакуль здаецца, што мяккі крок датыкаецца да столі. Дзякуй Богу, не спынілася. Вось яна аддаляецца, цік, цік, і накіроўваецца паверхам вышэй.

Я ведаю напэўна, што насельнікі мезаніна ўжо адчуваюць сябе ў бяспецы. Кропля – спадзяюцца яны – ужо прайшла перад іх дзвярыма і не будзе болей іх турбаваць; цяпер іншыя, у тым ліку і я, жыхар сёмага паверха, павінен турбавацца. Але хто ім сказаў, што кропля распачне свой шлях адтуль, дзе спынілася апошні раз, а не з самага пачатку; не пусціцца ў падарожжа з першых прыступак, заўсёды вільготных і цёмных ад смецця? Не, нават яны не могуць лічыць сябе ў бяспецы.

Выходзячы раніцай з дома, жыхары ўважліва разглядаюць лесвіцу: ці не засталося якіх слядоў. Але, як можна было прадбачыць, там нічога няма, нават самых слабых адбіткаў. У рэшце рэшт, хто раніцай паставіцца сур'ёзна да гэтай гісторыі? Пад ранішнім сонцам чалавек рабіцца моцны, цяпер ён леў, нават калі колькі гадзін таму падаў духам.

А можа, тыя з мезаніна маюць рацыю? У рэшце рэшт, калі мы раней нічога не чулі і думалі, што пазбыліся гэтага, то ўжо пэўны час таксама нешта ўлоўліваем. Кропля пакуль далёка, гэта праўда. Да нас далятае праз сцены толькі лёгкае ціканне, слабае

рэха. Аднак гэта азначае, што кропля падымаецца і падыходзіць усё бліжэй і бліжэй.

Не ратуе нават, калі спіш ва ўнутраным пакоі, далёкім ад лесвічнага марша. Лепей слухаць шум, чым праводзіць ночы ў сумненні – ёсць ён ці не? Тыя, хто жыве ў такіх далёкіх пакоях, іншым разам не вытрымліваюць, прабіраюцца цішком па калідорах і стаяць за дзвярыма ў халоднай вітальні, слухаюць з затрыманым дыханнем. І калі чуюць яе, то не знаходзяць смеласці адысці, рабы невытлумачальнага страху.

Аднак яшчэ горш, калі ўсё спакойна: а раптам шум пачнецца менавіта тады, як толькі ты ляжаш у ложак?

Такое вось дзівоснае жыццё, адным словам. І немагчыма ні паскардзіцца, ні штонебудзь зрабіць, ні знайсці тлумачэнне, што дазволіла б уздыхнуць з палёгкаю, ні нават пераканаць жыхароў іншых палацаў, якія гэтага не зведалі. Ды што гэта, у рэшце рэшт, за кропля такая, пытаюцца яны з невыноснай прастадушнасцю, можа, гэта мыш? Ці жабка, што вылезла з падвала? Ды не.

А ўвогуле, настойваюць яны, ці не мае ўсё гэта раптам нейкага алегарычнага сэнсу? Можа, кропля сімвалізуе, так сказаць, смерць? Ці якую небяспеку? Ці гады, што мінаюць? Нічога такога, сіньёры: гэта проста кропля, толькі яна чамусьці ўздымаецца па лесвіцы.

Альбо гэта больш тонкі спосаб увасобіць нашыя сны і трывогі ці мару пра далёкія блукаючыя землі, дзе нас чакае шчасце? Нешта паэтычнае, адным словам? Глупства.

Ці гэта прага яшчэ больш аддаленых мясцін на краі свету, куды мы ніколі не трапім? Ды не, кажу вам, гэта не жарт, няма тут схаванага сэнсу, гаворка ідзе, хутчэй за ўсё, менавіта пра кроплю вады, што ўначы падымаецца па лесвіцы. Цік, цік – загадкава, з прыступкі на прыступку. І таму робіцца страшна.

# СЕМ ГАНЦОЎ

Я паехаў, каб даследаваць каралеўства майго бацькі, і дзень за днём аддаляюся ад горада, і ўсё радзей далятаюць адтуль да мяне навіны.

Сваё падарожжа я пачаў, калі мне было крыху больш за трыццаць, і ўжо восем з нечым гадоў, дакладней, восем гадоў, шэсць месяцаў і пятнаццаць дзён бесперапынна рухаюся. Я думаў спачатку, што за некалькі тыдняў з лёгкасцю дасягну межаў каралеўства, аднак усё працягваў сустракаць новых людзей і новыя паселішчы; і паўсюль людзі размаўлялі на маёй мове і называлі сябе маімі падданымі.

Іншы раз я думаю, што компас майго географа звар'яцеў і ў надзеі рухацца толькі на поўдзень на самай справе мы, магчыма, кружылі вакол саміх сябе і зусім не павялічвалі адлегласць, што аддзяляла нас ад сталіцы; гэтым можна было б растлумачыць прычыну, дзеля якой мы пакуль не дасягнулі крайняй мяжы.

Але найчасцей мяне трывожыць, што мяжа не існуе, што каралеўства прасціраецца без усякіх абмежаванняў і што колькі б я ні прасоўваўся наперад, ніколі не змагу дайсці да канца.

Я пусціўся ў падарожжа, калі мне было ўжо за трыццаць, магчыма, вельмі позна. І сябры, і сваякі смяяліся з майго праекта як з непатрэбнае траты лепшых гадоў жыцця. Сапраўды, мала хто з маіх верных служкаў згадзіўся выправіцца ў дарогу.

Нягледзячы на маю бясклапотнасць – нашмат большую, чым зараз, – я патурбаваўся пра зносіны з маімі блізкімі ў час падарожжа і сярод кавалераў суправаджальнага эскорту абраў сем найлепшых, якія сталі маімі ганцамі.

Я думаў спачатку, што сем, можа, нават занадта. З часам я заўважыў, што, наадварот, гэта да смешнага мала, хоць ніхто з іх ні разу не захварэў, не трапіў да разбойнікаў, не ўпаў з каня і не разбіўся. Усе сем мне служылі з такімі ўпартасцю і адданасцю, якім цяжка знайсці адпаведную ўзнагароду.

Каб прасцей было іх адрозніваць, я даў ім імёны ў алфавітным парадку[3]: Алясандра, Барталамео, Каё, Дамінік, Гектар, Федэрык, Грыгорыо.

[3] Маецца на ўвазе лацінскі алфавіт.





Я зрэдку пакідаў бацькоўскі дом, і таму паслаў туды першага пасланца Алясандра на другі дзень падарожжа, увечары, пасля таго, як мы адолелі каля васьмідзесяці міляў. Наступным вечарам, каб забяспечыць трываласць стасункаў, я адправіў другога, потым трэцяга, потым чацвёртага, аднаго за адным, і так да восьмага вечара падарожжа, у які паехаў Грыгорыо. Першы яшчэ не вярнуўся.

Ён дагнаў нас на дзесяты вечар, у той час, калі мы рыхтавалі да ночы лагер у адной ненаселенай даліне. Я даведаўся ад Алясандра, што яго хуткасць аказалася меншаю, чым мы прадугледжвалі; я думаў, што сам, на выдатным скакуне, ён за той жа час зможа прабегчы ў два разы большую за нашую адлегласць; аднак ён перавысіў яе толькі ў паўтара раза; за дзень, пакуль мы прасоўваліся наперад на сорак міляў, ён праходзіў шэсцьдзесят, але не болей.

*Тое ж здарылася і з астатнімі. Барталамео, які паехаў у горад на трэці дзень* падарожжа, вярнуўся на пятнаццаты; Каё, што паехаў на чацвёрты, вярнуўся толькі на дваццаты. Вельмі хутка я адзначыў, што дастаткова памножыць на пяць колькасць дзён, якія спатрэбіліся апошні раз, каб даведацца, калі нас дасягне ганец.

Чым больш мы аддаляліся ад сталіцы, тым з кожным разам даўжэйшы рабіўся маршрут ганцоў. Пасля пяцідзесяці дзён падарожжа інтэрвал паміж іх вяртаннямі пачаў адчувальна пашырацца; калі раней кожныя пяць дзён я назіраў за прыбыццём ганцоў у лагер, то зараз гэты час павялічыўся да дваццаці пяці дзён. Голас майго горада рабіўся ўсё слабейшы; цэлыя тыдні праходзілі, а я не атрымліваў ніякіх навін.

Прайшло шэсць месяцаў – мы ўжо перасеклі Фазанскія горы – і перапынак паміж вяртаннем папярэдняга і наступнага ганцоў павялічыўся да добрых чатырох месяцаў. Цяпер яны прыносілі мне старыя навіны; я атрымліваў пакамечаныя канверты, іншым разам з вільготнымі плямамі з-за начэй, праведзеных пад адкрытам небам тымі, ад каго мне іх прыносіў ганец.

Мы рухаліся далей. Дарэмна я спрабаваў запэўніць сябе, што аблокі, якія праходзяць нада мною, такія самыя, як у маім дзяцінстве, што неба далёкага горада не адрознівалася ад блакітнага купала ўверсе, што паветра было тое самае, тыя самыя *подых ветру і галасы птушак. Аблокі, неба, паветра, птушкі, вятры на самай справе мне* здаваліся новымі і адрознымі; і я адчуваў сябе іншаземцам.

Наперад, наперад! Валацугі, якіх я сустрэў на раўніне, сказалі мне, што межы недалёка. Я заклікаў маіх людзей не спыняцца, стрымліваў спалоханыя словы, што ўзнікалі на іх вуснах. Прайшло ўжо чатыры гады ад майго ад'езду; якое доўгае напружанне! Сталіца, мой дом, мой бацька зрабіліся надзіва далёкія, і я амаль не верыў у іх існаванне. Добрых дваццаць месяцаў маўчання і самоты праходзілі зараз да з'яўлення наступнага пасланца. Мне прыносілі цікавыя лісты, пажоўклыя ад часу, і я знаходзіў у іх забытыя імёны, незвычайныя для мяне выразы, пачуцці, якія я не мог зразумець. Наступным ранкам, пасля адной ночы адпачынку, у той час, як мы зноў адыходзілі ў дарогу, ганец ад'язджаў у супрацьлеглым накірунку і нёс у горад даўно падрыхтаваныя мною лісты.

Так прайшло восем з паловай гадоў. Сёння я вячэраў адзін у сваёй палатцы, калі ўвайшоў Дамінік, які яшчэ спрабаваў усміхацца, нягледзячы на стомленасць. Я не бачыў яго амаль сем гадоў. Увесь гэты даўжэзны перыяд ён толькі і рабіў, што скакаў праз стэпы, лясы і пустэльні, мяняючы – хто ведае, колькі разоў – каня, каб прывезці мне гэты пачак канвертаў, адкрыць якія ў мяне пакуль не з'явілася жадання. Ён ужо *пайшоў спаць і выправіцца заўтра на досвітку.*

Выправіцца апошні раз. Я падлічыў у запісной кніжцы, што, калі ўсё складзецца добра і я буду працягваць свой шлях, як рабіў гэта дагэтуль, а ён свой, то не змагу пабачыць Дамініка раней чым праз трыццаць гадоў. Мне тады будзе семдзесят два. Але я ўжо пачынаю адчуваць стому, і, магчыма, смерць захопіць мяне раней. Таму мы ніколі болей не ўбачымся.

Праз трыццаць чатыры гады (нават раней, нашмат раней) Дамінік нечакана заўважыць агні маёй стаянкі і запытаецца ў сябе, чаму за гэты час я так мала прайшоў. Як і сёння, верны ганец зойдзе ў маю палатку з пажоўклымі за гады лістамі, з пустымі навінамі даўно мінулых і пахаваных часоў, але спыніцца на парозе, калі ўбачыць мяне нерухомага, распасцёртага на лежаку; і двух салдатаў з паходнямі па баках мерцвяка.

І ўсё ж ідзі, Дамінік, і не называй мяне жорсткім! Данясі маё апошняе прывітанне ў

горад, дзе я нарадзіўся. Ты – апошняя сувязь са светам, які калісьці быў і маім таксама. Самыя апошнія навіны паведамілі мне, што многія рэчы змяніліся. Што мой бацька памёр, карона перайшла майму старэйшаму брату, а мяне лічаць прапаўшым; што пабудавалі высокія каменныя палацы там, дзе раней былі дубы, пад якія я бегаў гуляць. Але ўсё роўна гэта мая далёкая радзіма.

Ты – апошняя сувязь з імі, Дамінік. Пяты ганец, Гектар, які, калі на тое Божая воля, дагоніць мяне праз год і восем месяцаў, не зможа болей паехаць, бо ўжо не паспее вярнуцца. Пасля цябе – цішыня, о Дамінік, калі толькі я нарэшце не знайду доўгачаканыя межы. Але чым больш я рухаюся, тым больш упэўніваюся, што мяжа не існуе, па меншай меры, у тым сэнсе, у якім мы прызвычаіліся думаць. Няма ні раздзяляльных муроў, ні размежавальных далін, ні гор, якія б закрывалі праход. Можа, я і не заўважу, як перасяку мяжу, і буду працягваць рухацца наперад, не ведаючы гэтага.

Менавіта таму, я мяркую, што Гектар і іншыя ганцы, якія адпраўяцца за ім, калі мяне дагоняць зноў, то не змогуць знайсці дарогу да сталіцы, і таму паедуць паперадзе мяне, каб я мог загадзя ведаць, што мяне чакае.

З пэўнага часу незвычайная туга ўспыхвае ўва мне вечарам, і гэта не шкадаванне аб пакінутых радасцях, як здаралася ў першыя дні падарожжа; хутчэй, гэта нецярплівасць пазнання невядомых земляў, да якіх я трымаю кірунак.

Я заўважаю – хоць пакуль аб гэтым не сказаў нікому – я заўважаю, як дзень за днём, па меры таго, як я прасоўваюся да малаверагоднай мэты, з неба вылучаецца нейкае незвычайнае святло, якое ніколі мне не з'яўлялася, нават у снах; расліны, горы, рэкі, што мы пераходзім, здаюцца зробленымі з адрознай ад нашай матэрыі і паветра насычана прадчуваннямі, якіх я не магу вытлумачыць.

Заўтра зранку новая надзея павабіць мяне наперад, да нязведаных гор, зачараваных начнымі ценямі. Яшчэ адзін раз я здыму лагер, у той час як у супрацьлеглым баку Дамінік знікне за даляглядам, каб данесці да далёкага горада маё нікому не патрэбнае пасланне.

# ЦЕНЬ ПОЎДНЯ

На адной з вуліц Порт-Саіда сярод хісткіх будынкаў з запыленымі балконамі ў ажурных кратах, смярдзючых праходаў, пабеленых вапнай сценаў, подыхаў бруду, які гняздзіўся ў кожным кутку, я ўбачыў дзіўную самотную фігуру. Паабапал мяне, уздоўж падмуркаў, рухаўся жабрацкі люд гэтага квартала. Па вялікім рахунку, людзей было няшмат, але здавалася, што дарога кішэла, настолькі роўны і няспынны быў гул. Праз вэлюм пылу і асляпляльных праменняў сонца мне не ўдавалася засяродзіць увагу ні на адной з рэчаў, як іншым разам здараецца ў снах. Але потым, у самым цэнтры дарогі, падобнай на тысячы іншых дарог, што знікаюць з вачэй у перспектыве прэтэнцыёзных, але трухлявых баракаў, у самым цэнтры асветленай сонцам дарогі я заўважыў мужчыну, магчыма, араба, апранутага ў доўгі белы халат, на галаве яго было, як мне здалося, нешта накшталт капшука, таксама белага. Ён павольна крочыў па вуліцы, пагойдваўся, быццам нешта шукаў ці вагаўся, ці, можа, быў крыху безуважны. Ён аддаляўся хадою мядзведзя паміж пыльных ямінаў, ніхто не звяртаў на яго ўвагі, і здавалася, што сам ён, цалкам, на гэтай дарозе і ў гэты час, канцэнтраваў у сабе з неверагоднай інтэнсіўнасцю ўвесь свет, што яго акаляў.

Гэта доўжылася некалькі імгненняў. Я заўважыў толькі пасля таго, як адвёў позірк убок, што і мужчына, і асаблівая яго незвычайная хада раптоўна запалі мне ў душу, і я не ведаў, чым гэта патлумачыць. «Глядзі, які смешны чалавек, вунь там, у канцы вуліцы!»– сказаў я сябру ў чаканні якога-небудзь банальнага слова, якое б вярнула ўсё на звычайныя месцы (бо адчуў, што ўва мне нарадзіўся нейкі неспакой). І вымаўляючы гэта, я зноў скіраваў погляд у канец вуліцы, каб station назіраць за ім.

«Хто смешны?» – спытаўся мой сябар. Я адказаў: «Ну той мужчына, што гайдаецца пасярод дарогі».





Пакуль я гэта гаварыў, чалавек знік. Я не ведаю, ці зайшоў ён у адзін з дамоў альбо завулкаў, ці яго праглынуў мітуслівы натоўп, што поўз уздоўж будынкаў, ці ён проста згінуў у нікуды, спапялёны паўднёвымі промнямі. "Дзе, дзе?"– пытаўся мой сябар, і я адказаў: "Ён быў там, але зараз знік".

Потым мы селі ў машыну і паехалі катацца, нягледзячы на тое, што было толькі дзве гадзіны папаўдні і стаяла гарачыня. Неспакой прайшоў, і мы з лёгкасцю смяяліся з кожнай дробязі, пакуль не дасягнулі ўскраіны каларытнага мясцовага паселішча, дзе канчаліся пыльныя фаланстэры, пачынаўся пясок і супраціўляліся сонцу некалькі брудных баракаў. З-за жалю я спадзяваўся, што ніхто ў іх не жыў, аднак, прыгледзеўшыся лепей, заўважыў, як амаль нябачная сярод яркіх успышак сонца стужка дыму ўздымалася ўгору ад адной з хацін і з цяжкасцю прабівалася ў неба. Значыць, там унутры жылі людзі, падумаў я з папрокам сумнення, круцячы саломінку з рукава маёй белай вопраткі.

Так я стаяў з напоўненай турысцкай філантропіяй душою, калі раптам у мяне заняло дух. «Што за людзі! – сказаў я сябру. – Паглядзі, напрыклад, на таго хлапчука з глінянай місай у руцэ, няўжо ён спадзяецца..." Я не скончыў, бо мой позірк (якому з-за святла не ўдавалася затрымацца ні на адным прадмеце, і ён неспакойна блукаў) спыніўся на апранутым у белы халат мужчыне, які адыходзіў, пагойдваючыся, паміж пяскоў за хаціны, да берага лагуны.

"Як смешна,– сказаў я на поўны голас, каб супакоіцца. – Мы праездзілі паўгадзіны і зноў трапілі на тое ж месца! Паглядзі на таго тыпа, гэта той самы, пра якога я казаў!" Сапраўды, гэта быў несумненна ён, з той самай хісткаю хадою, быццам ён нешта шукаў ці вагаўся, ці, можа, быў крыху безуважны. І зараз ён таксама павярнуўся спінаю і павольна пакрочыў удалячынь, замыкаючы сабою – так мне здавалася – цярплівую і ўпартую фатальнасць.

Гэта быў ён; і з новай моцаю ўзняўся неспакой, бо я добра ведаў, што мы не на ранейшым месцы, і што аўтамабіль, нават калі і вырабіў складаныя кругі, усё ж такі праехаў некалькі кіламетраў, чаго не змог бы зрабіць чалавек пешкі. Аднак загадкавы араб быў тут, крочыў да краю лагуны, і я не разумеў, што ён мог там шукаць. Не, ён не шукаў нічога, я ведаў гэта выдатна. Міраж альбо істота з крыві і плоці, ён з'явіўся дзеля мяне, цудоўным чынам перамясціўся з аднаго канца горада на другі, каб мяне знайсці, і я ўсведамляў (дзякуючы голасу, што размаўляў са мной аднекуль з глыбіні) цёмнае хаўрусніцтва, якое звязвала мяне з гэтаю істотай.

«Які тып? – бестурботна запытаўся мой таварыш. – Той хлапчук з місай?»

«Ды не! – раздражнёна буркнуў я. – Хіба ты не бачыш яго там далей? Там толькі ён, той, што...што...»

Магчыма, з-за гульні святла альбо з-за банальнай ілюзіі зроку чалавек зноў растаў у нікуды, як прывід. Словы засядалі ў мяне ў горле. Я лапатаў, разгублены, фіксуючы погляд на пустых пясках. «Табе нядобра,– сказаў мой сябар.– Вернемся на карабель». Тады я паспрабаваў засмяяцца і сказаў: «Ты што, не разумееш, што я жартую?»

Вечарам мы адплылі, карабель спусціўся па канале ў Чырвонае мора і ўзяў курс на тропікі. І ўначы вобраз араба не пакідаў маёй душы, у той час як я безвынікова спрабаваў думаць пра штодзённыя рэчы. Наадварот, мне здавалася, што нейкім цёмным чынам я падпарадкоўваўся чужой волі, мне нават прыходзіла на розум, што мужчына з Порт-Саіда меў да гэтага пэўнае дачыненне, што ў яго было жаданне паказаць мне шляхі Поўдня, што яго ваганне, яго мядзведжае пакалыхванне было наіўнай спакусай, як у некаторых ведзьмароў.

Карабель адышоў, і пакрысе я запэўніў сябе, што памыліўся: усе арабы апранаюцца прыкладна аднолькава, напэўна, я пераблытаў; гэтаму спрыяла і насцярожанасць ўяўлення. Аднак калі раніцай мы прычалілі ў Масаўя, я адчуў, як паступова вярталася рэха няўтульнасці. У той дзень я пайшоў самымі гарачымі гадзінамі паблукаць на адзіноце, спыняючыся на скрыжаваннях і азіраючыся па баках. Мне здавалася, што я праходжу праз нейкае выпрабаванне, быццам перасякаю масток, каб паглядзець, ці вытрымае ён мяне. Можа, той тып з Порт-Саіда з'явіцца зноў, хто б ён ні быў: чалавек ці прывід.

Я пракружыў паўтары гадзіны, і сонца мне не перашкаджала (Славутае сонца Масаўя!), бо зыход выпрабавання адпавядаў маім надзеям. Я рушыў пешкі ў бок Таўлуда, потым спыніўся, каб разгледзець плаціну, убачыў там арабаў, эрытрэйцаў, суданцаў, іх адкрытыя мярзотныя твары, але Яго не знайшоў. Узрадаваны, я падстаўляў цела пякельнай гарачыні, быццам вызваляўся ад нейкага пераследу

Потым надышоў вечар, і мы адправіліся на поўдзень. Мае спадарожнікі сышлі на бераг, карабель апусцеў, і я адчуваў сябе самотным чужаніцаю, староннім у свеце іншых людзей. Швартовы былі ўжо аддадзены, карабель пачаў павольна адыходзіць ад пустэльнага прычала – ніхто не прыйшоў развітацца з намі – і раптам у мяне мільганула думка, што, па сутнасці, той прывід з Порт-Саіда ў нейкай ступені мною цікавіўся, няхай нават каб мяне засмуціць, гэта лепей, чым абыякавасць. Так, ён напалохаў мяне сваімі магічнымі знікненнямі, аднак у той жа час у мяне была прычына ганарыцца. Ён сапраўды з'явіўся дзеля мяне (сябар, з якім мы былі на прагулцы, яго нават не заўважыў). З цягам часу гэтая істота бачылася мне як увасабленне сакрэту самой Афрыкі. Такім чынам, паміж мною і гэтай зямлёй усталявалася сувязь раней, чым я гэта западозрыў. Да мяне прыйшоў пасланец з казачных царстваў Поўдня, каб указаць мне туды дарогу

Карабель ужо знаходзіўся за дзвесце метраў ад прычала, як маленькая белая фігура зноў пачала рухацца па краі мола. Такі самотны на шэрай стужцы цэменту, ён павольна адыходзіў і, мне падалося, нахіляўся, быццам нешта шукаў альбо вагаўся ў нерашучасці, ці, можа, быў крыху безуважны. Сэрца маё загрукала мацней. Гэта быў ён, я быў упэўнены, невядома – чалавек або прывід, хутчэй за ўсё (але я не мог адрозніваць з-за адлегласці) ён павярнуўся да мяне спінай і адыходзіў у бок Поўдня, дзівосны пасол нейкага свету, які мог бы стаць і маім таксама.

І сёння ў Харарэ я нарэшце зноў яго сустрэў. Я пішу гэта тут, у даволі адасобленай хаце аднаго майго знаёмца, гул машыны затлуміў мне галаву, думкі накочваюцца і адыходзяць, быццам хвалі, магчыма, ад стомы, магчыма, з-за паветра, якім я надыхаўся ў машыне. Не, страху, як побач з лагунай Порт-Саіда, больш няма, ёсць адчуванне слабасці і падуладнасці таму, што нас чакае.

Я ўбачыў яго сёння зноў, калі асвойваў лабірынты некранутага цывілізацыяй мясцовага горада. Прайшло з паўгадзіны, як я хадзіў па гэтых вузенькіх вулках, аднолькавых і адрозных, у неверагодна прыгожым пасля навальніцы святле. Мне было весела кідаць позіркі на рэдкія шчыльныя праёмы, у якіх адкрываліся казачныя дворыкі, быццам замкнёныя ў мініяцюрных фортах паміж чырвоных муроў з каменя і гліны. Завулкі былі даволі пустэльныя, дамы (калі іх так можна назваць) – маўклівыя, іншым разам прыходзіла думка, што горад – мёртвы, вынішчаны чумою і што няма ніякага выйсця; што ноч насцігне нас за пакутлівымі пошукамі вызвалення

Я быў заняты гэтымі думкамі, калі з'явіўся ён. Выпадкова крутая вулка, па якой я спускаўся, была не звілістая, як іншыя, а даволі роўная, такім чынам, можна было бачыць на восемдзесят метраў наперад. Ён ішоў сярод каменняў, гайдаючыся, як ніколі раней, быццам мядзведзь, і, павярнуўшыся спінаю, аддаляўся, напоўнены глыбокім сэнсам: не сказаць каб трагічным, але і не гратэскавым (не ведаю нават, як вызначыць яго сутнасць). Гэта быў ён, той самы чалавек з Порт-Саіда, пасланец казачных царстваў, які болей не зможа мяне пакінуць.

Са спрытам, на які толькі быў здатны, я пабег уніз сярод крутога камення. На гэты раз, нарэшце, ён не ўцячэ, дзве чырвоныя суцэльныя сцяны агароджвалі вулку і ў іх не было дзвярэй. Я бег да таго месца, дзе вулка рабіла пятлю, і чакаў, што ўбачу гэтага мужчыну на павароце за тры метры ад мяне. Аднак яго не было. Як і іншыя разы, ён знік у нікуды.

Пазней я пабачыў яго, заўсёды аднолькавага, ізноў; ён аддаляўся па адной з вузкіх вулак не ў бок мора, а кудысьці ў глыбіню горада. Я ўжо не пабег следам за ім, а спыніўся і назіраў з няпэўным смуткам, пакуль ён не знік у нейкім завулку. Чаго ён ад мяне хацеў? Куды хацеў мяне павесці? Я не ведаю, хто ты – чалавек, фантом ці прывід, але баюся, што ты памыліўся. Я не той, каго ты шукаеш. Я не зусім упэўнены, але здаецца, ты хочаш павесці мяне некуды далей, з кожным разам усё далей, углыб, да самай мяжы твайго невядомага царства.

Я думаю, гэта было б здорава. Ты цярплівы, ты чакаеш мяне на бязлюдных скрыжаваннях, каб растлумачыць мне дарогу, ты сапраўды тактоўны, ты з тыпова ўсходняй дыпламатыяй нават робіш выгляд, што ўцякаеш ад мяне, і не асмельваешся паказаць свой твар. Ты хочаш толькі даць мне зразумець – так мне здаецца, – што твой манарх чакае мяне пасярод пустэльні ў белым цудоўным палацы пад аховай ільвоў, дзе спяваюць зачараваныя фантаны. Гэта было б захапляльна, я ведаю, я б вельмі гэтага хацеў. Але мая душа да прыкрасці нерашучая, дарэмна я яе папракаю, яе крылле дрыжыць, яе зубкі пачынаюць пастукваць, як толькі яна трапляе на парог вялікіх прыгод. На жаль, такі я ёсць і, сапраўды, баюся, што твой цар дарэмна траціць час, чакаючы мяне ў белым палацы пасярод пустэльні, дзе я, магчыма, быў бы шчаслівы.

Не-не, у імя Бога. Будзь што будзе, о пасланец, нясі вестку, што я іду, няма нават патрэбы, каб ты мне з'явіўся яшчэ раз. Сёння вечарам я адчуваю сябе па-сапраўднаму добра, хоць мае думкі крыху калыхаюцца, і я прыняў рашэнне ехаць. (Але ці здолею? Ці не заўпарціцца мая душа ў вырашальны момант, ці не пачне дрыжаць, хаваць галаву пад крылле і прасіць мяне не ісці далей?..)

**З італьянскай мовы пераклала**
**Аксана ДАНІЛЬЧЫК.**

*Замест пасляслоўя*

## Падарожжа ў вечнасць

**Ужо шмат стагоддзяў чалавек ідзе па зямлі, пакідаючы за спінаю мясціны і пачуцці, сузіраючы хуткаплыннасць часу, у пошуках будучыні, якая працінае яго, пазначае сэрца і потым пакідае. Рух – гэта сэнс чалавечага жыцця. І не столькі ў фізічным сэнсе, колькі ў духоўным. А пісьменнік? Непрыкметны сярод людзей, ён фіксуе прыбыццё і адпраўленне і найбольш важныя прыпынкі гэтага руху ў вечным спадзяванні знайсці канчатковую станцыю. Амаль усе творы Дзіна Буццаці прысвечаны пошукам сэнсу і вывучэнню формаў простага і неспасцігальнага падарожжа, імя якому – жыццё. У "Татарскай пустэльні" героі з позіркамі, скіраванымі за далягляд, чакаюць ворага, які не з'явіцца ніколі. Іх целы зачынены ў крэпасці, але іх душы падарожнічаюць паміж радасцю і адчаем. У "Сямі паверхах" цела рухаецца зверху ўніз, усё бліжэй да зямлі, але душа? І вось, нарэшце, "Сем ганцоў". Думка, адпраўленая людзям з далёкага свету спакою і адзіноты ад чалавека, які спадзяецца дайсці, знайсці... Важна не спыняцца. Смерць... што такое смерць? Усяго толькі перамяшчэнне, бо, як гаворыць Буццаці, "мяжа не існуе, па меншай меры, у тым сэнсе, у якім мы прызвычаіліся думаць. Няма ні раздзяляльных муроў, ні размежавальных далін, ні гор, якія б закрывалі праход". Няма такой сілы, якая б здолела спыніць падарожжа, спыніць рух. Ад жыцця бачнага душа пераходзіць у жыццё нябачнае, але не спыняецца. Душа не можа спыніцца, бо не існуе мяжы сусвету, а значыць, матэрыі, і не існуе мяжы часу. Ёсць вечнасць. Дзіна Буццаці спалучае ўсе гэтыя элементы ў "Сямі ганцах", якія з'яўляюцца не чым іншым, як пасланцамі чалавечага вопыту, выкладзенага ў словах, пасланцамі вечнасці, якая заўсёды гатова нас прыняць.**

**Дзіна Буццаці (Белуна, 1906 – Мілан, 1972) быў рэдактарам і карэспандэнтам міланскай газеты "Corriere della sera". Сярод шматлікіх празаічных твораў пісьменніка прыгадаем раманы "Барнабо з гор" (1933), "Таямніца старога лесу" (1935), "Татарская пустэльня" (1940), "Каханне" (1963); зборнікі апавяданняў "Сем ганцоў" (1942), "Спалох у Ла Скала" (1949), "Цяжкія ночы" (1971). Дзіна Буццаці з'яўляецца на сённяшні дзень адным з самых папулярных аўтараў, цікавасць да яго кніг з цягам часу толькі павялічваецца. У яго творах дзіўным чынам спалучаюцца рэальнасць і магія, фантазія і штодзённасць быцця. Выдавецтва "Rizzoli" называе апавяданні Дзіна Буццаці ў ліку лепшых класічных апавяданняў разам з творамі Гофмана, Чэхава, Эдгара По, Хемінгуэя і інш.**

**Аксана ДАНІЛЬЧЫК**

**КРЫНІЦА № 12**

**1998**

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1988 ГОДА

Заснавальнікі:
СП Беларусі, калектыў рэдакцыі

Рэгістрацыйны нумар 630 ад 31 ліпеня 1996 года



Выдаецца на беларускай мове

Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца

Пішыце:
220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва, 11

Званіце:
366-071, 366-142

Падпісана да друку з арыгінала-макета 21. 12. 98. Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера друкарская № 2. Ум.друк.арк. 13,02. Ум.фарба-адб. 14,35.
Ул.-выд.арк. 14,52.
Тыраж 1300 экз.
Кошт дагаворны. Зак. 2867.

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў друкарні выдавецтва
«Беларускі Дом друку», 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.